


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (1011)

СТУДЗЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2014

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

# НА ЎРОКУ МУЖНАСЦІ




Дарагі Алесь Ануфрыевіч!

Гэты студзень, прымераўшы шапку вашай сівізны, схіляе галаву перад патрыярхам айчыннай літаратуры: вам — 90!

Хлапчук старажытнага Полацка, вы ўзышлі на курганы гісторыі крокам генетычнай памяці, каб не толькі спасцігнуць усю яе сутнасць, аднак і адстойваць Айчыну ў званні Партызана і Салдата. Гэта з вашай вайны, як востры асколак, упіўся і ў маё сэрца аповед пра мужнага пехацінца Сямёна Рыгоравіча Летава, чыё імя было не страчана ў суровай прошласці — вярнулася прабітым варожаю куляй медалём «За адвагу», які і сягоння можна пабачыць у прыглушанай цішыні музея Вялікай Айчыннай. З вашай вайны набатна даносяцца сурова-сцішаныя радкі баявой характарыстыкі на камандзіра дыверсійнай групы партызанскага атрада «Бальшавік» брыгады імя Варашылава таварыша Савіцкага Аляксандра Ануфрыевіча: «У ліпені 1943 года арганізоў-

ваецца новы атрад гэтай жа брыгады — «Бальшавік». Таварыш Савіцкі А. А., які мае вялікі практычны вопыт па дыверсійнай дзейнасці, з першых жа дзён стварэння атрада прызначаецца камандзірам дыверсійнай групы ў колькасці 5 чалавек. За нядоўгі час, гэта значыць за 4 месяцы, таварыш Савіцкі стварыў групу ў 18 чалавек.

За час існавання партызанскага атрада «Бальшавік», гэта значыць да дня злучэння з Чырвонай Арміяй, дыверсійная група пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Савіцкага А. А. нанесла праціўніку наступны ўрон: спушчана пад адхон 5 чыгуначных эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, на лініі Полацк — Маладзечна падарвана на супрацьтанкавых мінах на шашэйных дарогах Полацк — Маладзечна, Полацк — Дзісна 6 варожых аўтамашын з жывой сілай і 3 павозкі праціўніка з прадуктамі харчавання, падарвана чыгуначных мастоў на лініі чыгункі Полацк — Маладзечна і спалена 3 шашэйныя масты. Асабіста таварышам Савіцкім А. А. толавымі шашкамі пры правядзенні «рэйкавай вайны» на чыгуначным палатне Полацк — Маладзечна ўзарвана 65 чыгуначных рэек, 42 тэлефонна-тэлеграфныя слупы і каля 8 кіламетраў выразана тэлефоннай сувязі паміж нямецкімі гарнізонамі Загацце — Празарокі. Дыверсійная група таварыша Савіцкага пры яго непасрэдным кіраўніцтве ў кастрычніку 1943 года на ўчастку паміж Полацкам і Баравухай здзейсніла смелы налёт на нямецкіх канваіраў, якія канваіравалі рускіх ваеннапалонных, што працавалі на лесанарыхтоўках, у выніку гэтага налёту было знішчана 9 нямецкіх салдат і адзін унтэр-афіцэр, вызвалена пры гэтым 9 рускіх ваеннапалонных, якія разам з нямецкімі трафеямі былі дастаўлены ў партызанскі атрад. Акрамя таго, групай таварыша Савіцкага былі вызвалены з нямецкай няволі ваеннапалонныя ўкраінцы ў колькасці 7 чалавек з нямецкіх гарнізонаў Загацце — Празарокі. Асабіста таварышам Савіцкім А. А. за час знаходжання яго ў партызанскім атрадзе «Бальшавік» знішчана 67 нямецкіх салдат і афіцэраў. Пры ўсёй гэтай дзейнасці група страціла трое забітымі і 5 чалавек раненымі, сам таварыш Савіцкі падчас партызанскай барацьбы два разы ранены».

І гэта таксама з вашай вайны — горычны прыпамін пра трагічны лёс партызанскага пабраціма-паплечніка Колі Паўлава, які не вярнуўся з баявога задання ў атрад «Бальшавік»: «Напярэдадні мы сходзілі на чарговую аперацыю, узарвалі мост, паспяхова вярнуліся ў атрад. Але была такая адліга, што мае валёнкі прамоклі наскрозь, і калі сталі падсыхаць, то насы загнуліся, як у тых турэцкіх пантоплях. І камандзір гаспадарчага ўзвода, убачыўшы мае валёнкі, загадаў іх тут жа скінуць і забраў у рамонт. Паабяцаў падшыць на падэшвы кавалкі гумы ад аўтамабільнай пакрышкі, і тады ім будзе не страшная ніякая адліга. І я застаўся ў гэтую ноч у атрадзе. А мае хлопцы пайшлі на чыгунку пад станцыю Загацце. Іх павёў Коля Паўлаў…» Вы і сягоння, праз далечыню год азіраючы незабыўна-помнае, журліва пагаджаецеся з лёсавым наканаваннем: куля, якая абарвала жыццё юнага маскоўскага хлопца, была прымеркаванай для вас, і што ў той дзень, цераз нейкую бытавую драбязу, не вы павялі на чарговае заданне групу падрыўнікоў. І гэта — ваш пажыццёвы боль.

У мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі вы праводзіце ўрокі мужнасці — свае літаратурныя сустрэчы з вучнямі сталічных школ. У сцішаным акружэнні партрэтаў былых партызан і франтавікоў, нашых вядомых пісьменнікаў, многім з якіх не давялося вярнуцца з самай кровапралітнай вайны, расказваеце наступнікам пра нашу айчынную літаратуру, пра самую мужную і трагічную яе старонку — ваенную, гаворачы і пра ўласную творчасць,

і пра асабісты салдацкі лёс. Заўсёды лавіў сябе на думцы: як вы пачуваецеся тут, у зале, дзе праходзяць самыя важныя мерапрыемствы нашага літаратурнага жыцця — у тым ліку і пасяджэнні прэзідыума Саюза пісьменнікаў? Па-генеральску строга выступае заўсёды наш старшыня Мікалай Іванавіч Чаргінец. Клопатна гаворыць пра нашу літаратуру, якая служыць Радзіме, умее быць таленавітай і натхнёнай, застаючыся запатрабаванай грамадствам. Мы разумеем, як няпроста сягоння адстойваюцца прыярытэты духоўнасці ў грамадскім жыцці. У свеце ідзе інтэлектуальны рэзрух. Многія «таленты» сталі адданымі ідэі самазнішчэння, жаданню брыдка расплавіцца ў варыве найніжэйшых пачуццяў, забыўшыся, што сапраўднае мастацтва (і літаратура найперш) — гэта не кволае самавыяўленне пачварных патуг аглухлай да ўсяго святога чалавечай істоты, а тая духоўная вышыня і прастора, у якой і лунаюць самыя жыццядайныя чалавечыя сілы як крылы юнацтва.

Гаворачы з маладымі суайчыннікамі моваю самай чуйнае памяці, вы расказваеце пра страчаныя лёсы і абарваныя жыцці сваіх аднагодкаў, іхніх сягоняшніх равеснікаў. На ўроках мужнасці нетаропка перагортваюцца старонкі напісанага крывёю сэрца рамана «Обаль», гучаць па-юнацку ўзгарачэлыя паведамленні пра лёсы герояў твора, як бы праектуюцца на сэрцы і душы кожнага з прысутных. «Мы выходзім з гэтай залы зусім іншымі людзьмі» — такія словы сказалі вам пасля ўрока мужнасці вучні гімназіі № 25 горада Мінска імя Рымы Шаршнёвай. Памятаю, як яны шчыльна абступілі вас у той зімовы дзень, багата чым цікавіліся яшчэ пазаўрочным, грэліся ля кастра вялікай чалавечай душы.

А менавіта якімі яны выходзяць з гэтае мемарыяльнае залы? — падумалася мне тады. Магчыма, упершыню задумаліся над тым, што іх сонечнае, светлае, пагоднае юнацтва аплачана неймавернай цаной: жыццямі колішніх іх пагодкаў — салдат вайны. Або, глянуўшы ў блакітнае мінскае неба, упершыню схамянуліся пад ім — яго ж магло і не быць над іхнімі галовамі, каб не героі Обалі і тысячы ім падобных, бо і саміх іхніх галоў пад небам гэтым магло б не быць… Адно дакладна вядома: жыццё ў іх юным успрыманні значна пасур'ёзнела, адкрылася сваім коштам сапраўдным.

Гэта судакранулася юнацтва вашага пакалення з іхнім юнацтвам. А ваша юнацтва — гэта вайна. Тая суровая стыхія жыцця і выжывання, калі чалавечая годнасць набывае знакавы ўзлёт. Некалі ў пераможны майскі вечар мы стаялі з вамі на бетонным казырку дота каля знакамітай пісьменніцкай Лысай гары — на Лініі Сталіна — і разважалі аб крохкасці быцця зямнога.

І ззяблага вечара выступіць пот,
Асядзе на клейкае лісце бяроз,
І стане пад намі астуджаны дот
Хрыпата сіпець і злавацца ўсур'ёз.
Калішняй граніцы нямы вартавы,
Ён рэўнасна сочыць, як воін сівы
Без стрэлу ўзышоў на тугі казырок,
Расклаўшы сігнальныя лёсу агні,
Ўзіраецца пільна у вечара змрок
І слухае згукі лясной цішыні.
Нікольк не верыць, што чорнае зло
Далёка ад гэтых байніц адпаўзло.
За край свой трывога не знае граніц,
І здрайцам сумленне ўзвядзе эшафот.
У вочы зірне, як вачамі байніц
У ноч пазірае астуджаны дот.

Вы, салдат Вялікай вайны, казалі наступнае: «Я прайшоў вайну дзеля таго, каб байніцы гэтага дота маўчалі…» І глянулі сурова мне ў вочы, жадалі пэўна, каб пачуў кожнае слова. Сягоння я адказваю вам поўнаю згодай: жадаю, каб ніводнае кулі з гэтых байніц — ва ўсе бакі свету — аніколі не вылецела. Каб, вобразна кажучы, дот нашай беларускае абароны аніколі не страляў па захопніках, якім аніколі не парупіцца з агнём і мячом прыйсці на нашу не разператвораную ў суцэльнае папялішча зямлю. Каб палі нашы заўсёды пад мірным сонцам красавалі жытам, сінелі ад лёну, жаўцелі ад рапсу. Каб нават самыя хмурыя хмары не палохалі дзяцей, а воды нашых рэк і азёр спаталялі лагодай працоўную стому. Каб нашы гарады і вёскі ў асмужжы позняга вечара засыналі з мірам і з надыходам ціхмянае раніцы з мірам і прачыналіся. Каб у пракаветных баравінах тапталіся не партызанскія сцежкі, а толькі азартна-грыбныя.

Усяго з адным я не пагаджуся: гэты дот павінен усё-такі і сягоння страляць снарадамі памяці. Няхай яе скрушныя выбухі чуйна адгукаюцца ў сэрцах і душах сягоннnetwork і заўтрашніх маладых грамадзян Беларусі. Няхай аніколі на нашай зямлі не змаўкаюць гэтыя артналёты памяці. Сумленне і памяць зямлі маўчаць не павінны. І я зноў бачу, як у мемарыяльную залу ўваходзіце вы, чалавек з вайны, і як яна, зала мемарыяльнай памяці, ажывае. Партрэты, што на яе сценах, становяцца рухома-значнымі, жывымі, і позіркі людзей — франтавікоў і партызан — сустракаюцца з вашым позіркам. У гэты момант мне болей упэўнена верыцца: наша Перамога — вечная, бо побач яны, вечна жывыя творцы эпохі, якія засведчылі сваю спалучанасць з Перамогай, якія і сягоння, дзякуючы крылам памяці, сярод нас, людзей новага стагоддзя і тысячагоддзя.

Зусім нядаўна ў рэдакцыйна-выдавецкай установе «Выдавецкі дом «Звязда» пабачыў свет ваш раман «Обаль» у новым мастацкім абліччы. Ён рушыў насустрач сталым і маладым чытачам, каб у гэтым ужо стагоддзі паведаць суайчыннікам пра спраўджаны вашым пакаленнем доўг перад Айчынай. Адбудуцца новыя сустрэчы вучняў Мінска і рэспублікі з аўтарам гэтага рамана і шэрагу іншых не менш вядомых твораў у мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі.

***Дарагі Алесь Ануфрыевіч!***

***Ад імя рэдакцыйнай калегіі, рэдакцыі і чытачоў часопіса «Полымя» сардэчна віншую вас, прызнанага майстра слова, патрыярха айчыннай літаратуры, Партызана і Салдата Вялікай Айчыннай вайны, з 90-годдзем.***

***Ваша літаратурная і грамадская дзейнасць — яскравы доказ жыццястойкасці сапраўдных чалавечых каштоўнасцей. Здароўя вам і новага творчага плёну!***

***З глыбокай чалавечай павагай***
***Мікола МЯТЛІЦКІ***

**(Усім, хто жадае шырэй пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам нашага юбіляра, нагадваем, што ў часопісе «Полымя» за мінулы год (нумары 5 і 6) была змешчана гутарка Зіновія Прыгодзіча з Алесем Ануфрыевічам Савіцкім.)**



Мікалай ЧАРГІНЕЦ

# АПЕРАЦЫЯ «КРОЎ»

*Раман*

## Раздзел 1

Розе было ўсяго пяць гадоў, а яе брату і сястры значна больш, калі пачалася вайна. Дзве яўрэйскія сям'і жылі ў невялікім цагляным доме па вуліцы Старажоўскай. У сям'і Левіных, акрамя Розы, было яшчэ двое дзяцей — дзевяцігадовы Ісак і дванаццацігадовая Сара. Бацькі імкнуліся выхоўваць дзяцей так, каб яны раслі дружнымі і працавітымі. Бацька Міхаіл Ісакавіч працаваў майстрам па рамонце абутку, а маці Эма Самуілаўна — аптэкарам. Жылі не багата і не бедна. У доме было што паесці і што апрануць. У суседзяў, Рабіновічаў — чацвёра дзяцей. Малодшая, Сонечка, нарадзілася ў ліпені 1941 года. Астатнім — Абраму і Ларысе — адпаведна — 12 і 10 гадоў, і Эле — паўтара. Галава сям'і Айзік Аронавіч працаваў прарабам, а маці Марыя Сямёнаўна — медсястрой. Суседзі жылі дружна, вечарамі збіраліся ў невялікім дворыку. Яны мелі яшчэ і сяброў, якія жылі ў суседняй хаце.

---

*__Чаргінец Мікалай Іванавіч__ нарадзіўся 17 кастрычніка 1937 года ў горадзе Мінску. Скончыў Вышэйшую школу трэнераў Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры (1963) і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Пісьменнік, дзяржаўны дзеяч Беларусі. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2000). Заслужаны работнік Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1977). З 1964 года — у органах унутраных спраў, у 1981—84 гг. — начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі, з 1987 г. — Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі. З 1993 г. — старшыня Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінуўшых пры Савеце Міністраў Беларусі, з 1997 г. — Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, з 1998 г. — Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі па знешняй палітыцы. З 1984-га па 1987 год знаходзіўся ў Афганістане, непасрэдна прымаў удзел у многіх баявых аперацыях. Цяпер — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.*

*Піша па-руску. Аўтар кніг «Четвертый след» (1973), «Тревожная служба» (1975), «Следствие продолжается» (1977), «Финал Краба» (1979), «Прыказ № 1» (1985), раманаў «Вам — задание» (1982), «За секунду до выстрела» (1983), што склалі дылогію «За секунду до выстрела», «Тайна Черных гор» (1987), «Сыновья» (1989), «Тайна Овального кабинета» (2001), «Смертник» (2002), «Последний герой» (2003), «Третья звезда» (2005) і многіх іншых. Усяго ім напісана больш як 40 мастацкіх твораў. М. Чаргінец аўтар некалькіх сцэнарыяў і спектакляў. За рознабаковыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.*

У сям'і Статкевічаў было шасцёра дзяцей. Галава сям'і, Платонавіч, гэтаксама, як і Рабіновіч, працаваў прарабам на будоўлі, а яго жонка Алена Пятроўна — хатняй гаспадыняй. Вельмі ж неспакойная дзятва ў іх. Самай старэйшай, Жэні, калі прыйшлі немцы, было 15 гадоў, малодшым сёстрам, Зіне і Марыне, 14 і 13. Затым ішлі чаргой трое братоў: Васіль — 10 гадоў, Косця — 4 гады і Валера — 2 гады. Сям'я Статкевічаў таксама жыла дружна паміж сабой і з суседзямі. Маленькі дворык, куды мелі выхад усе тры дамы, суседзі так і звалі — дваром сяброўства. Упрыгожвалі яго кветкамі, збудавалі арэлі, якія часам былі яблыкам разладу паміж дзецьмі. Але бацькі не зважалі на енкі дзяцей і скаргі бацькам адзін на аднаго. Звычайна хто-небудзь з бацькоў ці мацярок патрабаваў ад дзяцей спыніць істэрыку і не сварыцца, не крычаць, а сябраваць. І тады такая «калатніна» за права першым катацца на арэлях заканчвалася прымірэннем, дзеці працягвалі адзін аднаму рукі, хапаліся за мезенцы і дружна гучна паўтаралі: «Мір, мір — назаўжды!» Але наступаў чарговы пагодлівы вечар, і ўсё ў дворыку пачыналася спачатку.

З прыходам немцаў было ўжо не да весялосці, прытворных плаксівых крыкаў. Бацькі заклапочана, з трывогай у голасе пра штосьці перагаворваліся, думалі, як жыць далей. Івану Платонавічу і Айзіку Аронавічу на пачатак вайны было па сорак аднаму году. Іх становішча было больш небяспечным, чым у пяцідзесяцігадовага Міхаіла Ісакавіча. Па горадзе ўжо распаўсюдзіліся чуткі, што працаздольных людзей адпраўляюць у Германію на прымусовыя работы ці загадваюць уступаць у паліцыю. Мужчыны ўсё больш разумелі, што трэба прабірацца на ўсход. Але зводкі з нямецкіх лістовак, развешаныя на сценах дамоў і платах, «вяшчалі», што ўжо захоплены Віцебск, Смаленск, Бранск. Сыпаліся абяцанні хуткага захопу Ленінграда і Масквы. У горадзе пачаліся аблавы на камуністаў, яўрэяў і цыган, ішлі павальныя вобыскі і арышты. Лістоўкі заклікалі насельніцтва выдаваць камуністаў, кіраўнікоў усіх рангаў і ўступаць у шэрагі «Беларускай народнай узаемадапамогі» і «Беларускага корпуса самаабароны». Было абвешчана: усе мужчыны ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў павінны з'явіцца ў створаныя ўправы для рэгістрацыі. Многія, не бачачы ў гэтым нічога дрэннага, пайшлі на рэгістрацыю і апынуліся хто ў канцлагеры, створаным у раёне Трасцянца ля ракі, ці ў чыгуначных вагонах і накіраваны ў Германію. Былі і такія, каго прымусілі ісці на службу ў паліцыю. Рабіновіч, як і іншыя яўрэі, апынуўся ў канцлагеры. Аднойчы ўначы сышоў з хаты Іван Платонавіч. У сям'і доўга думалі і вырашылі, што яму трэба сыходзіць на ўсход, прабірацца да сваіх, да Чырвонага войска, ці хоць бы да партызан.

Прайшло яшчэ тры дні, у хаты суседзяў наляцелі гестапа і літоўскія паліцаі. Перакапалі ўсё дагары нагамі, забраўшы тое, што ўяўляла каштоўнасць. Доўга дапытваліся ў Алены Пятроўны і яе дзяцей, дзе галава сям'і. Жанчына і загадзя праінструктаваныя дзеці ў адзін голас паўтаралі: Іван Платонавіч разам з суседам пайшоў на рэгістрацыю і дахаты не вярнуўся. Сям'я Статкевічаў іх больш не цікавіла, а вось з сем'ямі Левіных і Рабіновічаў здарылася страшнае: іх адвезлі ў гета. Пачаўся крывавы тэрор. Пакутавалі ўсе, але больш за ўсіх яўрэі і цыгане. Загад з Берліна быў катэгарычным: яўрэйскае і цыганскае насельніцтва павінна быць знішчана, рэйху хопіць 25 працэнтаў беларусаў, астатнія 75 працэнтаў гэтай нацыі — расходны матэрыял.

...Неяк бліжэй да вечара Алена Пятроўна, узяўшы з сабой старэйшую дачку Яўгенію, адправілася на пошукі суседзяў. Пайшлі ва ўправу, размешчаную ў двухпавярховым цагляным будынку па Лагойскім тракце. Нямецкі вартавы на іх пытанне, дзе можна даведацца, куды павезлі суседзяў, адмоўна пахітаў галавой: ніх ферштэйн. Жэня вучыла ў школе нямецкую мову і лёгка пераклала: кажа, што не разумее. Алена Пятроўна, з асцярогай пазіраючы на

вартавога, рушыла да дзвярэй. Убачыўшы, што немец не пратэстуе, звярнулася да Жэні:

— Дачушка, па-мойму, мы можам увайсці ўнутр.

Яны падняліся на ганак. Усярэдзіне было змрочна, ля сцен стаялі панурыя людзі, па калідоры хадзілі незнаёмцы, хто ў форме, хто ў цывільным.

Алена Пятроўна ў нерашучасці спынілася і, трымаючы дачку за руку, спрабавала высветліць, да каго звярнуцца.

— Лена, што ты хочаш? — пачуўся нягучны жаночы голас.

Алена Пятроўна павярнулася паглядзець, хто гэта гаворыць. Жэня ціха сказала:

— Мама, гэта ж цётка Маша, наша суседка з сорак чацвёртага дома.

Цяпер ужо і Алена Пятроўна пазнала суседку. Яны ўдзвюх падышлі да яе.

— Дабрыдзень, Маша!

— Дабрыдзень! Хоць якога д’ябла «добры». Віцю майго забралі, а куды, не ведаю.

Алена Пятроўна і Жэня ведалі, што Віця — яе муж.

— А ты чаго тут, Лена?

— Я хачу высветліць, куды нашых суседзяў Рабіновічаў і Левіных павезлі проста з дому.

Пажылы мужчына, які стаяў непадалёку, ціха сказаў:

— Куды ж іх забяруць? Вядома, у гета.

— А што гэта?

— Як што? Ачапілі калючкай цэлы раён, выгналі з дамоў яўрэяў, і вашых суседзяў туды загналі. Зараз па чарзе і без чаргі будуць забіваць.

— Што вы глупства мелеце! — усклікнула Алена Пятроўна. — За што гэта проста так забіваць людзей будуць?

— А вось так, проста паставяць ля ямы, і — агонь! Так што не ведаю, як там, у гэтым гета, людзі жыць будуць, калі дзень і ноч смерць кружыць побач.

— А дзе гэта гета?

— А ў кварталах вуліц Танкавай, Шорнай, Астроўскага і Рэспубліканскай.

— Ой, я ведаю, дзе гэта! — усклікнула Жэня. — Мы там з дзецьмі праходзілі. Там усё калючым дротам абгароджана.

Не развітваючыся, нібы ў сне, Алена Пятроўна накіравалася да выхаду. Яна была як быццам у прастрацыі, не магла зразумець, як можна ні ў чым не вінаватых людзей, як скаціну, выганяць з хаты і заганяць за калючы дрот...

## Раздзел 2

17 ліпеня 1941 года загадам Гітлера генеральным камісарам акругі Беларусь быў прызначаны гаўляйтар Вільгельм Кубэ. Пад канец жніўня Кубэ рыхтаваўся да выезду ў Мінск. Ведаючы, што Кубэ любіць паказаць сябе мяккім, культурным, уважлівым да людзей кіраўніком, яго выклікаў Герынг.

Без усякіх прадмоў, запрасіўшы прысаджвацца, Герынг сказаў:

— Вы едзеце ў Беларусь, куды мы выслалі і працягваем высылаць туды яўрэяў з Германіі, Польшчы, Чэхіі, Аўстрыі. У Беларусі, па нашых дадзеных, мясцовых яўрэяў не меней як мільён. Фюрар загадаў усіх яўрэяў і цыган знішчыць, 75 працэнтаў беларусаў Германіі таксама не патрэбныя. Таму, гаўляйтар, вас пасылаюць туды не для таго, каб працаваць у імя дабрабыту дару-

чаных вам народаў, а для таго, каб выкачаць усё магчымае для патрэб Германіі і яе народа. Менавіта гэтага мы чакаем ад вас... Не крыўдуйце на мае словы, але вы павінны быць, як лягавы сабака. Там, дзе яшчэ сёе-тое ёсць, у чым мае патрэбу нямецкі народ, усё павінна быць вокамгненна забрана са складоў і дастаўлена сюды. Не забудзьцеся на распараджэнне Розенберга ад 5 жніўня бягучага года пра тое, што жыхары акупаваных раёнаў павінны прыцягвацца да працоўнай павіннасці. Тых, хто ўхіляецца ад работы, без усякай сентыментальнасці кідаць у турмы, а яшчэ лепш адпраўляць на шыбеніцу.

Герынг устаў, даючы зразумець, што гутарка скончана. Кубэ ўскінуў руку ў традыцыйным прывітанні: «Хайль Гітлер!» і выйшаў на вуліцу. Ён адпусціў машыну, вырашыўшы прайсціся на развітанне па Берліне. Здавалася, горад жыве звычайным жыццём. Адчынены крамы, кафэ, прагульваюцца людзі, па праезнай частцы вуліцы праходзяць строем вайскоўцы. «Што мяне чакае ў Беларусі? — разважаў Кубэ. — Калі нашы войскі захопяць Маскву, тады можна казаць пра перамогу. А гэта азначае, што ў Мінску можна нядрэнна пажыць. Такім чынам, гаўляйтар Беларусі, наперад без страху і сумненняў!»

Надвор’е напачатку верасня ў Мінску было выдатным, яшчэ прыгравала сонца. На пероне вакзала новага начальніка сустракала вялікая група людзей — генералы, кіраўнікі мясцовай СС, гестапа, паліцыі, Беларускай рады даверу, розных цывільных структур. Слухаючы іх, Кубэ са здзіўленнем падумаў: «Здаецца, нашым акупацыйным уладам удалося сабраць беларускую калабарацыю. Ну што ж, паглядзім».

## Раздзел 3

У дрымучым лесе размясціўся лагер партызан. Літаральна за некалькі чэрвеньскіх дзён сюды паспелі даставіць сёе-тое з прадуктаў, трохі зброі — больш за ўсё паляўнічай, будаўнічых прылад — сякер, піл, — адзежы, пяць коней, шэсць вазоў, металічныя бочкі з газай, некалькі дзясяткаў драўляных кадак і вёдзер.

Атрад імкліва пашыраўся. Штодня байцы аховы прыводзілі людзей, якія блукалі па лесе. Гэта былі і цывільныя, і камандзіры, і чырвонаармейцы, якія выходзілі з акружэння. У многіх была і баявая зброя. Былы старшыня райвыканкама Сяргей Іосіфавіч Грынёў, маючы пэўны, дваццацігадовай даўнасці, вопыт вайны, тэрмінова падбіраў людзей для каманднага саставу. Яму адразу ж спадабаўся паранены камандзір Чырвонай Арміі Пазнякоў. Ён і яшчэ двое, чырвонаармеец і лейтэнант, калі на іх невялікую групу акружэнцаў з засады напалі немцы, адстрэльваючыся, змаглі адысці ў лес. Дакументы ў іх і ў Пазнякова былі ў парадку, сам ён са Смалявіцкага раёна, дзе да вайны жылі яго бацькі. Пазнякоў не хаваў, што імкнуўся дамоў, каб загаіць кулявое раненне ў правай назе, а затым рушыць далей на ўсход, прабірацца да сваіх.

Грынёў яму прапанаваў:

— Заставайся, браток, у атрадзе. Пакуль нагу вылечыш, немцы яшчэ далей, падобна, на ўсход пойдуць. Адчуваецца, нашы яшчэ толькі ў сябе пачынаюць прыходзіць. Мы тут свой фронт адкрыем і будзем біць ворагаў, узрываць машыны, цягнікі... Я ўпэўнены, наш народ не змірыцца з акупантамі, будзе супраціўляцца. Атрад папаўняецца штодня, гэта значыць, што дасведчаныя ў ваеннай справе людзі патрэбныя да зарэзу. Я прызначаю цябе начальнікам штаба. Перамяшчацца пакуль нікуды не будзем, можа, і нага твая зажыве.

Падумаўшы, Пазнякоў пагадзіўся:

— Мабыць, твая праўда. Ворага можна біць у любым месцы. Я ўжо цяпер бачу, што трэба неадкладна прыступаць да падрыхтоўкі новых баз, дастаўляць туды запасы, будаваць жыллё, хутчэй за ўсё — зямлянкі. Трэба і структуру атрада ствараць, людзей навучаць.

— Ну вось і добра, — з палёгкай уздыхнуў камандзір атрада, — і мне лягчэй будзе. Людзі ідуць, больш за ўсё вяскоўцаў.

— Гэта натуральна, — з разуменнем прамовіў Пазнякоў.— Людзі цягнуцца да кіраўніка, якога ведаюць і давяраюць. Не да немцаў жа ім...

— Не магу не пагадзіцца, — перабіў яго камандзір атрада,— але немцы таксама не спяць. У райцэнтры стварылі гарнізон, новая ўлада пачала лютаваць. Ураджай у калгаснікаў, скаціну адбіраюць, усіх, у каго ёсць матацыклы, — ушчэнт абабралі. Таму твая задача, Павел Міхайлавіч, — гэта стварэнне кадравай вертыкалі, падрыхтоўка атрада да баявых дзеянняў. Я займуся рашэннем пытанняў уладкавання. Правільна мяркуеш: ужо гэтулькі людзей ведае пра месцазнаходжанне атрада, што, таго і глядзі, фашысты наляцяць. А ў нас зброі камарыная жменя. Так што мы пакуль не атрад, а калгас, дзе няма жылля, парадку, правіянту. Так што падбірай людзей, лейтэнант, як я бачу, камандзір прыйшоў. Хоць і малады, але пораху ўжо, як той казаў, панюхаў, а раз лейтэнант, то нечаму і навучаны.

— Добра, Сяргей Іосіфавіч. Дапамажы мне — патрэбныя пісары, наогул пісьменныя людзі. Пачну з таго, што зробім перапіс усіх, хто знаходзіцца ў атрадзе.

Праз гадзіну ля вялікага будана з яловых лапак сабралася разам з начальнікам штаба дванаццаць чалавек. Пазнаёміліся — бухгалтар, лейтэнант Чырвонай Арміі, начальнік крымінальнага вышуку, начальнік сектара кадраў калгаса, тры чырвонаармейцы, два леснікі, дырэктар раённага Дома культуры.

Пазнякоў, не губляючы часу, прыступіў да справы:

— Таварышы, нам з вамі даручана ператварыць наш атрад у баявую адзінку. Пачнём з асноў...

Ён даручыў бухгалтару падабраць двух-трох чалавек і арганізаваць перапіс людзей, якія знаходзяцца ў атрадзе, пры гэтым вылучыць сярод іх тых, хто мае ваенныя навыкі, падабраць пісара, паклапаціцца пра паперу і пішучую машынку, падумаць пра друк.

Прыбыўшага ў атрад разам з ім лейтэнанта Разіна Пазнякоў зрабіў сваім намеснікам. Даведаўшыся, што трыццаціпяцігадовы Мароз быў начальнікам крымінальнага вышуку раённага аддзялення, Пазнякоў прызначыў яго начальнікам разведкі.

— Вам, Іван Пятровіч, — звярнуўся начальнік штаба да Мароза, — трэба арганізаваць абыход бліжэйшых населеных пунктаў, высветліць абстаноўку, падабраць, пажадана ў кожнай вёсцы, людзей, з якімі мы зможам працаваць ва ўмовах акупацыі. Абавязкова шукайце зброю, боепрыпасы і людзей, якіх можна прыцягнуць у атрад. Самі разумееце, нам да зарэзу патрэбны тыя, хто ўмее ваяваць, хто мае навык арганізацыйнай работы.

Чырвонаармейцу Камышу, з якім разам выбіраліся з акружэння, Пазнякоў даручыў разам з двума чырвонаармейцамі падабраць людзей і арганізаваць кругласутачную ахову атрада.

— Не забудзьцеся, таварышы, — інструктаваў Пазнякоў,— пра далёкія подступы да атрада, своечасовым апавяшчэннем камандавання пра магчымыя пагрозы.

Начальнік штаба ветла ўсміхнуўся двум леснікам, якія сядзелі побач на паваленым бервяне:

— Вы нават не ўяўляеце, якія вы каштоўныя кадры. Неадкладна падбярыце надзейных людзей, гэтак чатырох-пяць чалавек. Арганізуйце тут узвядзенне некалькіх зямлянак, буданоў — самі бачыце, ужо восень. Трэба людзей уладкоўваць, ну, а з надзейнымі людзьмі адпраўляйцеся ў лес. Ваша самая важная задача: падабраць тры-чатыры месцы для базы, дзе размесціцца атрад. Тут мы заставацца не будзем, максімум да зімы сыдзем на базу.

Праз гадзіну камандзір атрада сабраў своеасаблівы актыў раёна. Работнікі выканкама і райкамаў партыі і камсамола, тры старшыні калгасаў, брыгадзіры, настаўнікі, гаспадарчыя кіраўнікі — гэтая група павінна была вырашаць першачарговыя задачы. Атраду трэба было назапасіцца харчам, мукой, збожжам, фуражом для коней. Неабходна было высветліць, дзе захоўваецца тое, што ў спешцы хавалі перад прыходам немцаў. Патрэбны былі дадаткова коні, калёсы, санкі для зімы, цёплая адзежа, газа. Начальнік раённага ДТСААФ, пажылы маёр, паабяцаў дастаць рацыю, некалькі дробнакаліберных вінтовак з патронамі, дзясяткі два камплектаў абмундзіравання. Улічваючы, што сакратар райкама партыі пры выйсці з варожага кола з групай байцоў загінуў, камандзір атрада даручыў аднаму з тых, хто кіраваў аддзеламі райкама правесці адпаведную арганізацыйную працу і прызначыў яго камісарам атрада. Старшыні калгасаў павінны былі знайсці ў вёсках калгасную маёмасць і ўсё неабходнае для забеспячэння дзейнасці атрада. Аднаму з калгасных кіраўнікоў было даручана арганізаваць улік усёй маёмасці ў атрадзе.

### Раздзел 4

Пачаўся суровы, марозны 1942 год. Сем’і Рабіновічаў і Левіных жылі разам. Іх размясцілі ў двух маленькіх пакоях невялікага цаглянага дома, у гэтым жа доме праз сцяну жылі яшчэ дзве яўрэйскія сем’і. Людзі ўжо прывыклі да страшнай цеснаты, недахопу ежы, пастаяннага страху за сваё жыццё. Праз два-тры дні вобыскі, пагромы, патрабаванні аддаць каштоўнасці, футра, адзежу, абутак, пагрозы расстрэлаў. Гэта былі не проста пагрозы. Кожны дзень у гета чуліся стрэлы, па пяць-шэсць разоў на дзень машыны-душагубкі адвозілі дзясяткі людзей.

На сямейным савеце абмяркоўваліся розныя варыянты, як жыць далей. Міхаіл Ісакавіч меў магчымасць без лішніх праблем хадзіць па тэрыторыі гета. Яму як шавецкаму майстру дазволілі адкрыць пункт рамонту абутку. Гэтым пунктам служыў даваенны газетны кіёск. Трэба сказаць, паслугамі шаўца карысталіся многія. Пагромшчыкі імкнуліся адабраць у насельнікаў гета ўсё, што ўяўляла хоць якую-небудзь каштоўнасць. Людзі неслі да шаўца стары, зношаны абутак — каму латку на дзірку накласці, каму падэшву прымацаваць. Жылі дрэнна, ежы амаль ніякай не было, і калі хто-небудзь дзякаваў Міхаілу Ісакавічу кавалачкам хлеба ці жменькай круп, ён быў шчыра рады. Зараз ён адказваў не толькі за сваю сям’ю, але і за сям’ю суседа Айзіка Аронавіча, а там адных дзяцей — сямёра. Натуральна, Міхаіл Ісакавіч атрымліваў і сякую-такую інфармацыю, пачутую ад людзей. Часам да Левіна зазіралі і паліцэйскія, і нават немцы — то камусьці трэба набойку набіць, то металічную дужку на падэшву армейскіх чаравікаў ці ботаў прымацаваць. Вядома, за сваю работу Левін амаль нічога не атрымліваў. Але каштоўным было іншае. Адзін з паліцаяў, які ўжо тройчы звяртаўся да яго, насцярожана азіраючыся, мог паведаміць: «Скажы сваім, каб заўтра сядзелі як мышы, шмон будзе. Каштоўнасці будуць шукаць, шмоткі лепей схавайце».

Неяк увечары Левін прыйшоў дахаты вельмі ўсхваляваны. Дарослыя сабраліся асобна, і ён, хутаючыся ў старэнькае, не па памеры паліто, сказаў:

— Мне сёння адзін з паліцаяў паведаміў, што хутка разам з немцамі ахову гета будуць несці літоўскія і латышскія паліцэйскія. Прышлыя — злыя як ваўкі. Яны з задавальненнем выконваюць загад пра поўнае знішчэнне яўрэяў. Будуць усё адбіраць, не саромеюцца дзяўчынак гвалтаваць на вачах іх бацькоў.

Раптам да старэйшых прыбегла Сара:

— Немцы на машыне прыехалі!

— Да нас? — спытала Марыя Сямёнаўна.

— Не ведаю, іх там шмат.

Дарослыя кінуліся да акна. Група немцаў з вялікімі бляхамі на грудзях і некалькі паліцэйскіх накіраваліся да суседзяў. Марыя Сямёнаўна і Эма Самуілаўна загадалі дзецям:

— Хутка здымайце кофтачкі! Ты, Сара, схавай паліто, яно ж яшчэ цэлае!

Тым часам з-за сцяны пачуліся тупыя ўдары, жаночыя крыкі. Левін з акна бачыў, як немец і паліцэйскі выцягнулі ў двор суседскую дачку, ёй было шаснаццаць, за імі выскачылі маці і бацька, які моцна кульгаў на правую нагу. Яны пачалі аб чымсьці прасіць, звяртаючыся да нямецкага афіцэра, які таксама выйшаў з дома. Паліцаі з бела-чырвона-белымі павязкамі на рукавах удвух неслі важкі вузел. Пагромшчыкі загарнулі ў коўдру нейкія рэчы. Дачка суседзяў, нягледзячы на худнечу, была даволі сімпатычнай і, напэўна, спадабалася пагромшчыкам. Яе пацягнулі да грузавіка, крытага брызентам. Тут жа Левін убачыў, як з суседняга дома два нямецкія салдаты за рукі і валасы цягнуць дзяўчыну, якой таксама было не больш як шаснаццаць. Кульгавы сусед і яго жонка кінуліся на дапамогу дачцэ. Маці ўчапілася ў дзяўчыну, бацька таксама спрабаваў неяк яе абараніць. Афіцэр штосьці крыкнуў салдату, які стаяў ля машыны, той зняў з пляча вінтоўку, пстрыкнуў затворам і стаў цэліцца. Цяжка было сказаць, у каго менавіта ён цэліўся.

«Палохае,— падумаў Левін,— не будзе ж ён страляць у бацькоў!» Але грымнуў стрэл, і бацька непрытомны зваліўся на снег. Маці нема закрычала, адной рукой яна трымалася за дачку, а другую працягнула ў бок мужа. Той, што страляў, узяў вінтоўку за ствол і стукнуў па галаве жанчыны прыкладам. Жанчына змякла і апусцілася на снег.

Другі немец накіраваў вінтоўку ў бок бацькоў другой дзяўчынкі.

— Хальт! — гучна крыкнуў ён.

Бацькі спыніліся. Тым часам немцы і паліцаі хутка ўвалаклі дзяўчат у кузаў. Афіцэр стаў на падножку машыны і загадаў сваім залазіць. Перш, чым сесці ў кабіну, ён аддаў камусьці яшчэ адзін загад, сэнс якога стаў ясным праз некалькі секунд: проста з кузава пачуўся яшчэ адзін стрэл, і бацька дзяўчынкі з суседняй хаты з залітым крывёй тварам зваліўся на снег. Пунсовая кроў імгненна афарбавала снег ля яго галавы. Грузавік, смуродзячы дымам, аддаліўся...

## Раздзел 5

Прайшло зусім няшмат часу, і гаўляйтар Кубэ, дэталёва разабраўшыся з сістэмай бяспекі — пяць канвойных дывізій, магутныя апараты гестапа, СС, тайная палявая паліцыя, актыўна працуючыя камендатуры, цэлая сетка разведвальных і карных органаў, — прыйшоў да высновы, што задача, якую паставіў перад ім фюрар, цалкам выканальная.

Кубэ абышоў тэрыторыю гета — месцы знішчэння яўрэяў, цыган і асоб, якія спачуваюць савецкай уладзе. Асабіста агледзеў машыны-душагубкі,

печы крэматорыяў і склаў своеасаблівы план дзеянняў. 4 лістапада 41-га Кубэ выклікаў да сябе кіраўнікоў ахоўных падраздзяленняў, СС і гестапа. У вузкім коле, у прысутнасці чатырох чалавек, сказаў:

— Берлін чакае ад нас пэўных цвёрдых мер па барацьбе з яўрэямі. Прашу вас, панове, — усміхнуўся ён, — у гонар Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 7 і 8 лістапада правесці спецыяльную акцыю ў мінскім гета. Неабходна арганізаваць пагромы, вобыскі, канфіскаваць усе каштоўнасці і знішчыць не меней як дзесяць тысяч яўрэяў. Спадзяюся, 9 лістапада я змагу далажыць імперскаму міністру па справах акупаваных усходніх абласцей Розенбергу пра вынікі гэтай акцыі. Упэўнены, адразу ж пра гэта будзе дакладзена нашаму фюрару.

Калі ўсе выйшлі, Кубэ па ўнутраным тэлефоне выклікаў свайго спецыяльнага памочніка па справах асветы і прапаганды. Увайшоў маёр Гелен, маладжавы, стройны, апрануты ў цёмны касцюм, мужчына.

— Ганс, вам заданні. Па-першае, максімум 11—12 лістапада арганізуйце ў Беларускім тэатры якое-небудзь святочнае мерапрыемства. Запрасіце туды дзеячаў культуры і іншую інтэлігенцыю. Па завяршэнні трэба зрабіць лёгкі фуршэт і кожнаму ўручыць невялікі набор ласункаў.

Па-другое, трэба арганізаваць сустрэчу з дзецьмі. Гэта мерапрыемства правядзіце 20—21 лістапада. Неабходна сабраць чалавек дзвесце— дзвесце пяцьдзясят з ліку дзяцей мясцовага насельніцтва, натуральна, лаяльных нам актывістаў. Дзецям абавязкова выдаць цукеркі. Загадзя складзіце спісы дзяцей з указаннем памеру адзежы. Мы выдадзім ім падарункі — адзежу, якая абавязкова павінна быць замежнай.

— Так, пан гаўляйтар,— адказаў памочнік, — але дзе мы возьмем такую колькасць дзіцячай адзежы?

— Правільнае пытанне,— ухмыльнуўся Кубэ, адзежа можа быць і не новай, галоўнае, каб яна была памытай, падрамантаванай, адпрасаванай і па памеры кожнаму нашаму маленькаму госцю. Прыцягніце любую колькасць людзей. На мерапрыемствах у тэатры і з дзецьмі абавязкова павінна прысутнічаць прэса, неабходна арганізаваць кіназдымку.

Памагаты, сказаўшы «Хайль Гітлер!», хутка выйшаў. Гаўляйтар націснуў кнопку сакратара. Увайшла мілавідная маладая жанчына.

— Фрау Грэта, у першых чыслах снежня да мяне прыедзе жонка. Падумайце і распарадзіцеся пра ўладкаванне і іншыя пытанні гэтага мерапрыемства. Майце на ўвазе, жонка любіць музыку і камфорт.

— Зразумела, гер...

Але Кубэ не даў ёй дагаварыць:

— Я выклікаў маёра,— Кубэ зірнуў на ліст паперы,— капітана СС Вільгельма Мойрына.

— Ён у прыёмнай.

— Хай увойдзе.

У кабінет увайшоў стройны, трохі вышэйшы сярэдняга росту капітан.

— Хайль Гітлер!

— Дабрыдзень, капітан. Прысаджвайцеся. Гаўляйтар узяў у рукі спісаны ліст паперы:

— Вы бліскуча выканалі загад Берліна, даставіўшы ў Беларусь з Гамбурга і Польшчы больш як шэсць тысяч яўрэяў.

— Так, сапраўды,— пацвердзіў капітан і дадаў: — Амаль сем тысяч я даставіў таксама з Кёнігсберга і больш як дзесяць тысяч з Аўстрыі.

— Так-так, ведаю, — узмахнуў рукой Кубэ, — таксама мне вядома пра вашу выдатную працу па дастаўцы сямі тысяч яўрэяў з Чэхіі. За вашу самаад-

даную службу вялікай Германіі і фюрару вы прадстаўлены да чарговага звання «маёр» датэрмінова.

Мойрын ускочыў з крэсла, але гаўляйтар знакам рукі спыніў яго:

— Думаю, што ў хуткім часе вы будзеце прымаць віншаванні, але цяпер не да сентыментальнасцей. Вам неабходна сумесна з літоўскім батальёнам паліцыі, службай СС і батальёнам ахоўнай дывізіі, натуральна, пры падтрымцы жандармерыі, на працягу трох, максімум чатырох дзён знішчыць не меней як чатыры тысячы перамешчаных сюды з іншых краін яўрэяў. У дзяцей адабраць усё лепшае з адзежы. Нам неабходна не меней як дзвесце пяцьдзясят камплектаў даволі прыстойнай адзежы несавецкай вытворчасці. Дзіцячую адзежу неабходна вымыць, адпрасаваць, прывесці ў добры выгляд. Дзейнічайце ў кантакце з маім памочнікам Геленам...

## Раздзел 6

Канец красавіка выдаўся цёплым. У маі заквітнеў бэз. На Старажоўскай вуліцы, забудаванай галоўным чынам аднапавярховымі дамамі, лунаў водар бэзу. Але гэта было невялікім суцяшэннем для змучаных голадам і страхам жыхароў Мінска. Людзі пакутавалі з-за страт родных і блізкіх.

Алена Пятроўна ўся змарнавалася, яна літаральна была на грані неабдуманага, самага рызыкоўнага ўчынку. Што яна магла зрабіць з шасцю дзецьмі? Усю зіму і вясну яна кідалася паміж домам і рынкам. Галоўнае — хоць чым-небудзь пакарміць увесь час галодных, схуднелых дзяцей. Яны з надзеяй чакалі прыходу мамы з рынку. Перыядычна яна разам са старэйшымі дочкамі абыходзіла двары разбураных дамоў, дзе падбірала любую анучу ці рэч, неабходную ў гаспадарцы. Усё гэта адмывалася, чысцілася, прыстасоўвалася да магчымага абмену на Камароўскім рынку, куды прыязджалі сяляне. У іх можна было выменяць за якую-небудзь рэч пяць — дзесяць яек ці кавалачак сала, масла, пару кілаграмаў бульбы. Калі гэта ўдавалася, усёй сям’ёй размяркоўвалі прадукты мінімум на тыдзень. Акупацыйныя ўлады ўстанавілі для насельніцтва нормы харчавання на аднаго чалавека: 250 грамаў хлеба і 200 грамаў тлушчу ці мяса на тыдзень. Для яўрэйскага насельніцтва гэтыя нормы былі яшчэ ніжэйшыя: 200 грамаў хлеба і да 100 грамаў мяса ці тлушчу. На самай справе яўрэі атрымлівалі ў два-тры разы менш прадуктаў, чым казалі немцы. Калі надаралася здабыць бульбачку ці жменьку круп, то кавалачак мяса не рэзалі, а расціралі ў вадкую масу, дадавалі крышку круп і некалькі бульбін. Маці ніткай дзяліла частку тыднёвай нормы строга на сем частак, і ў сям’і пачыналася свята жывата. Кожны з’ядаў невялікую талерку супу з хлебам. Праўда, хлеб немцы пяклі з сумесі аўса, ячменю і жыта і абавязкова дадавалі трохі драўнянага пілавіння. З наступленнем цяпла дзеці з раніцы накіроўваліся да платоў, дзе расла трава з пухіркамі. Відавочна, гэтыя пухіркі стваралі ілюзію, што страўнік напаўняецца ежай...

У сям’і не ведалі, што з іх бацькам, ды і даўнія добрыя суседзі Рабіновічы і Левіны не выходзілі з галавы. Маці часта плакала, стараючыся, каб дзеці гэтага не бачылі. Яе палохала невядомасць. Дзеці неяк заўважылі, што яна прыйшла з рынка з невялікай авоськай, дзе былі бульбачка, паўкіло сметанковага масла і дзясятак яек. Яны цешыліся, што іх пакормяць сапраўднай ежай, тым больш што алюмініевая кружка ў кухні толькі напалову была запоўнена пярловай крупой. Маці з сумам акідвала позіркам мэблю, сваю і дзіцячую апратку. У гэты дзень проста на рынку яна зняла з сябе апошнюю цёплую рэч, кофту, і абмяняла на прадукты. «Што далей? Як карміць дзяцей?!» Яна ўспомніла пра сям’ю, якая

пражывала недалёка. У адчаі маці чацвярых малалетніх дзяцей, пасля смерці ад знясілення малодшага, не знайшла выйсця і павесілася. Улады забралі дзяцей, абвясціўшы, што іх накіроўваюць у дзіцячы дом, а сярод суседзяў папаўзлі чуткі, што траіх дзетак адправілі ў нейкі інтэрнат тыпу канцлагера, адкуль адна дарога — смерць.

Старэйшая Жэня не пакідала спробы даведацца пра лёс суседзяў і настойліва хадзіла ў раёны, дзе ўтрымліваліся яўрэі. Нягледзячы на тое, што да канцлагера Трасцянец было не меней як пятнаццаць кіламетраў, яна ўзяла з сабой Косціка і ранкам, як толькі скончыўся час дзеяння каменданцкай гадзіны, накіравалася туды. Трэба было за дзень пераадолець велізарную адлегласць і вярнуцца дахаты да наступлення каменданцкай гадзіны. За парушэнне рэжыму было толькі адно пакаранне — расстрэл.

Ішлі хутка. Неўзабаве вуліца Даўгабродская ўперлася ў лясны масіў, праз яго і выйшлі да Магілёўскай шашы. Да абеду заставалася гадзіны паўтары.

Жэня дастала з кішэні кофты кавалачак хлеба:

— Давай падмацуемся і прыступім да справы.

— А што мы павінны рабіць?

— Бачыш калючы дрот?

— Гэта дзе немцы з вінтоўкамі і нават з сабакам ходзяць? — з асцярогай удакладніў Косцік.

— Ну, сабак тут у іх, як блох. Мы з табой будзем рабіць выгляд, што быццам шукаем што-небудзь паесці, таму падыдзем бліжэй. Бачыш, за дротам людзі стаяць?

— Бачу, а хто яны?

— Гэта нашы салдаты. Іх немцы захапілі ў палон і тут мучаць.

— А чаму яны не нападуць на немцаў і не ўцякуць?

— А ты прыгледзься, колькі тут немцаў, у кожнага зброя, а на вышках куляметы стаяць, не забудзься пра сабак і браневікі, бачыш, якая сілачка. А нашы салдаты стомленыя, зусім без сіл і без зброі.

— А чаму без вінтовак? — упарта дапытваўся Косцік. Жэня не вытрымала допыту:

— Добра, хопіць. Даядай і пайшлі!

— Я ўжо даеў.

— А чаго тады чакаеш?

— А вось паглядзі, колькі травы... Чыстая, не такая, як у нас на вуліцы, уся ў пыле.

Жэня ўжо ведала, як наблізіцца да лагераў і гета, якія ахоўваюць немцы. Яны пайшлі па зусім адкрытай прасторы, каб іх бачыла ахова, прычым рухаліся не прама да драцянога плота, а як бы наўскасяк, паступова скарачаючы адлегласць.

— Слухай, Косцік, толькі не перабівай, мы займаемся вельмі небяспечнай справай. Калі мы падыдзем бліжэй, я буду гучна пытаць у нашых людзей, ці няма там нашых суседзяў, — звярнулася дзяўчынка да брата.

— Ісака, Сары, Ларысы?

— Так-так. Толькі не чамучкай, а слухай. Ты застанешся там, дзе я скажу, а я пайду далей, бліжэй да агароджы, і буду гучна звяртацца да нашых. За гэта мяне немцы могуць застрэліць, таму мы з табой прыменім ваенную хітрасць. Зробім выгляд, што ты знаходзішся далёка ад мяне, і таму мы гучна з табой перагаворваемся. Ты павінен што-небудзь падняць з зямлі, гучна крыкнуць: «Знайшоў», «Паглядзі, што я знайшоў». Калі ўбачыш якую-небудзь жалязяку, слоік і таму падобнае, адразу ж крычы, а я, як быццам адказваючы табе, буду звяртацца да нашых салдат.

— А мне несці тое, што я знайду?

— Не, неўзаметку можаш выкінуць і шукаць іншую рэч. Толькі не вельмі набліжайся да мяне.

— А мяне што, застрэляць?

— Не думай пра гэта, усё будзе добра.

Але Косця ўсё ж думаў пра дрэннае і, калі яны сталі разыходзіцца, гучна спытаў:

— А калі яны каго-небудзь з нас застрэляць, як мне дахаты дайсці?

Жэня не вытрымала і засмяялася:

— Бач, хітруга! Не хвалюйся, усё будзе добра.

Не паспела Жэня і сотню крокаў адысці, як Косцік пачаў крычаць:

— Жэня, паглядзі, што я знайшоў!

— Добра, шукай яшчэ, — гучна адказала яна.

Вось і агароджа. Двое немцаў стаялі адзін ад аднаго метрах у пяцідзесяці, пазіралі на дзяўчынку, якая гойсала па траве, штосьці шукала, часам нахілялася ці прысядала, нешта разглядаючы.

Жэня, гледзячы ў бок Косці, гучна крыкнула:

— Дзядзькі, у вас няма сем’яў Левіных ці Рабіновічаў?

Хтосьці адказаў:

— Не, тут адны ваеннапалонныя.

Жэня пайшла далей, зноў гучна паўтараючы пытанне. Нарэшце хтосьці з ваеннапалонных сказаў:

— Дзяўчынка, тут ты іх не шукай. Яўрэяў сюды прывозяць толькі мёртвымі і спальваюць у печах. Ты лепш сыходзь, мілая, адгэтуль, а то гэтыя звяры не паглядзяць, што ты дзіця, заб’юць ці яшчэ што-небудзь з табой зробяць. — Чырвонаармеец не хацеў палохаць дзяўчынку-падлетка тлумачэннем, што ён меў на ўвазе пад словамі «што-небудзь з табой зробяць».

Нарэшце пераканаўшыся, што суседзяў у гэтым канцлагеры няма, Жэня накіравалася да брата, які так увайшоў у сваю ролю, што, бачачы старэйшую сястру, якая прыходзіла сюды, працягваў крычаць.

Узяўшы брата за руку, Жэня сказала:

— Ну што, Косцік, гайда дахаты. Ісці далёка, а часу мала.

— Вось бачыш, нас і не застрэлілі... Я ж казаў...

— Добра, добра, — усміхнулася Жэня, — праўду кажаш, а я так баялася.

— Я таксама, — прызнаўся Косця і нечакана дадаў: — Я пісяць хачу.

— А мы ўжо да лесу падышлі, бяжы да кустоў.

Дахаты яны прыйшлі своечасова — праз пятнаццаць хвілін ужо пачыналася камендантцкая гадзіна. Маці ведала, што настырная Жэня шукае суседзяў, і не вельмі бурчэла, толькі папярэджвала: «Глядзі мне, не лезь на ражон!»

Жэня, расціраючы ногі, уладкавалася на прыступках, якія вялі ў дом.

Маці роспачна сказала:

— Сюды ні Рабіновічы, ні Левіны не вернуцца.

— Чаму ты так вырашыла? — спытала Жэня.

— У дом заехала сям’я. Увесь дзень перагародкі ламалі. Значыць, зоймуць увесь дом.

— Напэўна, сям’я вялікая?

— Не ведаю. Я бачыла толькі мужчыну, жанчыну і хлопчыка, напэўна іх сын.— Алена Пятроўна, нібы разважаючы ўслых, трывожна дадала: — Мужчына ў скураным паліто.

— Ну і што? — не зразумела Жэня.

— А ў каго цяпер цёплыя рэчы?

— А я ж казаў, — умяшаўся ў гаворку Вася, — давайце паглядзім у іх у кватэрах. Можа, што-небудзь возьмем, а калі прыедуць, — аддамо.

Маці, цяжка ўздыхнуўшы, сказала:

— Добра. Пайшлі ў хату. Каменданцкая гадзіна наступіла. Малодшы Валерка заныў:

— Мама, а можна яшчэ трохі пабыць у двары?

— Усім у дом! — патрабавальна адказала маці і дадала: — Патрулі пайшлі ўжо, яшчэ хто-небудзь смальне...

Ноч прайшла як звычайна. У горадзе чуліся стрэлы, па вуліцы пранесліся «чорныя крумкачы». Гестапа і эсэсаўцы схапілі двух чалавек, лёс якіх няцяжка было прадбачыць.

Наступіла раніца. Маці стала збірацца на рынак, сказаўшы Зіне, што тая пойдзе з ёй. Яны склалі вымытыя напярэдадні і выпрасаваныя квадратныя і прамавугольныя анучкі, маточак тоўстых каляровых нітак. Гэтыя ніткі самая малодшая дачка захоўвала сярод сваіх цацак. У дзень, калі Жэня і Косця хадзілі ў Трасцянец, Маша працягнула маме маточак нітак:

— Мама, глядзі, а можа, гэта можна прадаць за хлеб?

— Малайчына, дачушка! Вядома, спатрэбіцца! Вяскоўцы, якія прыехалі на рынак, каб прадаць ці абмяняць што-небудзь з прадуктаў на патрэбную рэч, часам бралі старанна вымытыя анучкі не толькі для нованароджаных, але і для гаспадарчых патрэб, у якасці ручніка, для падрыхтоўкі з малака сыру, захоўвання сметанковага масла ці нават для накідкі на падушку замест навалачкі.

Алена Пятроўна не вельмі спяшалася. Па вопыце яна ведала, што сяляне з раніцы хочуць прадаць ці абмяняць прадукты на больш патрэбную рэч. І толькі пасля абеду, калі трэба было вяртацца, у горадзе ж дзейнічала каменданцкая гадзіна, яны пачыналі цікавіцца меней каштоўнымі рэчамі.

Назіральны Вася, гледзячы ў акно, усклікнуў:

— Ой, да нас хтосьці прыехаў! На кані!

Маці, паглядзеўшы ў акно, убачыла калёсы з запрэжаным гнядым канём, войкнула і затэпала да дзвярэй. Яна адразу ж пазнала жонку роднага брата, якія жылі ў вёсцы ў васямнаццаці — дваццаці кіламетрах ад горада ў бок Лагойска. Алена Пятроўна ў летні час ездзіла да брата, каб пабыць на прыродзе, папаіць дзяцей свежым малаком... Цяпер яна выскачыла ў двор і, падыходзячы да варот, крыкнула:

— Ліза, якім чынам ты тут?

Яны абняліся, расцалаваліся, у абедзвюх на вачах з'явіліся слёзы.

— Як там Іосіф? — пацікавілася Алена Пятроўна.

Ліза, паглядзеўшы па баках, адказала:

— Усё раскажу. Ты вось вароты адкрый, трэба ў двор заехаць

Алена Пятроўна павярнулася да варот, а з двара ўжо беглі дзеці, адзін Валерка ў хаце застаўся. Дзеці добра памяталі цётку Лізу, успаміналі смачнае малако, вараную бульбачку, якую можна было есці з маслам, смятанай ці кіслым малаком. Жэня і Зіна хуценька адчынілі вароты, і вознік, пажылы мужчына, узяўшы каня за аброць, павярнуўся назад, і неўзабаве воз стаяў ля ганка.

Алена Пятроўна заплакала:

— Ліза, ты выбач, але няма чым цябе пачаставаць, ні цукерак, ні пячэння, ні цукру няма.

— Я разумею, Леначка, чулі мы пра ваша жыццё.

— А гэта хто? — ціха спытала Алена Пятроўна, паказваючы на старога.

— А гэта замест твайго брацікa,— засмяялася Ліза.— І дадала: — Цяпер усё табе растлумачу. Лепш скажы дзецям, хай дапамогуць дзеду Міхасю. Мы

небудзь сям’я магла не больш як адзін раз у дзень. Праўда, у летні час можна было штосьці зварыць з лебяды і шчаўя, а калі ўдавалася здабыць на рынку кавалачак кастлявага мяса — гэта ўжо звалася святочным абедам. Маці вельмі берагла машынку. Спробы дзяўчатак ёю пакарыстацца жорстка спыняліся.

— Няўжо вы не разумееце, што машынка — наша карміцелька?! — абуралася маці.— Крый божа, сапсуецца, зубы будзем сушыць на стале!

Неяк Алена Пятроўна, працуючы на швейнай машынцы, спрабавала зрабіць з кавалка парашутнага шоўку дзіцячую кашульку і не пачула, як у дом увайшоў сусед, які жыў праз двор. Маці і дзеці даўно заўважылі, што сусед падазрона сябе паводзіць, яго жонка ў двары нават не паказвалася. Дзеці казалі, што нібы бачылі хлопчыка.

Сусед быў сама ветласць:

— Дабрыдзень, гаспадыня! Мы з вамі жывём побач, нават агульны двор маем, хутка паўгода ўжо, а так і не пазнаёміліся. Вядома, зразумела, — сумна ўздыхнуў ён, — вайна, гэтыя немцы, як звяры, кажуць, што яшчэ горш гестапа літоўскія і латышскія паліцаі. Мая жонка баіцца нават на хвіліну з дому выйсці. Выбачыце, я не назваўся. Мяне завуць Станіслаў Андрэевіч Лапін, маю жонку — Люба. Да вас зайшоў, каб пазнаёміцца ды заадно і просьбу выказаць. У вас, кажуць, ёсць швейная машынка. Вось, паглядзіце, макінтош, ён мне ад брата дастаўся. Яму ўдалося з Чырвонай Арміяй сысці, а я не змог. Літаральна за дзень да захопу Мінска маёй жонцы зрабілі аперацыю, апендыкс выдалілі. Я яе ледзь паспеў з 2-й бальніцы забраць, а назаўтра гэтыя госці.

Госць выдаў сябе, сказаўшы: «У вас, кажуць, ёсць швейная машынка». Адкуль жа ён гэта ведаў? Атрымліваецца, што не хлусіў малодшанькі Валерык, які па-дзіцячы лапатаў, што дзядзька да іх дамоў прыходзіў, штосьці пытаў пра чужых людзей. Падумалі, дзіцячая фантазія. Хоць бывалі моманты, што акрамя Валеркі нікога дома не заставалася. «Атрымліваецца, сусед пабываў ужо ў нашым доме, — падумала Алена Пятроўна, — знайсці штосьці падазронага ён не мог. Правільна, што я Жэню паслухала і схованку зрабіла».

— А дзе вы да вайны жылі? — спытала яна.

— Я ж казаў — у Мінску, на Танкавай вуліцы. Немцы ж там гета зрабілі і яўрэяў пасялілі. Вось нам і дастаўся гэты дом. Самі разумееце, што не да знаёмстваў сёння. Не буду ўтойваць, прыглядаўся да вас і, разабраўшыся, што вы добрыя людзі, вырашыў прыйсці і пазнаёміцца ды заадно і спытаць — ці нельга гэты макінтош падкараціць? Брат мой вышэйшы за мяне, і макінтош мне даўгаваты.

Алена Пятроўна ўзяла макінтош і агледзела. Практычна зусім новы. Прыгледзеўшыся больш уважліва, убачыла, што ніз быў прыхоплены ніткай.

— Я разумею, што там, дзе нітка, трэба і падшыць.

— Так, так, менавіта там.

— Лішняе адразаць ці падшыць з запасам?

— Давайце пакінем запас, хто ведае,— усміхнуўся сусед,— можа, падрасту.— Ён агледзеў пакой і з прытворнай спагадай прамовіў: — Так, жывецца вам несалодка, адразу відаць. І як жа вам удаецца з чарадой дзяцей выжыць? Вам хоць хто-небудзь дапамагае?

— Самой круціцца даводзіцца. Дзякуй богу, жонка брата вось машынку прывезла. Я ўлетку сорак першага з дзецьмі ў яе ў вёсцы два тыдні гасцявала, сваю шантрапу малачком адпойвала — у яе ж карова ёсць. Швейную машынку туды завезла, трэба ж было абшываць падшыванцаў.

— Карову, напэўна, немцы адабралі?

— Не. Мой брат, яе муж, у паліцыю падаўся, таму карову не адабралі.

— Алена Пятроўна, а дзе ваш муж? Напэўна, пашанцавала, паспеў сысці са сваімі?

— Куды там! Ён жа будаўнік, вінтоўкі ў руках трымаць не ўмеў. Калі немцы занялі Мінск, ён пайшоў рэгістравацца і знік.

— І што, ні слыху ні прослыху?

— Летась заходзілі двое будаўнікоў, яны з мужам разам на будоўлі працавалі. Яны сказалі, што чулі — муж у лагеры для палонных у Драздах знаходзіцца. Я панеслася туды, але яго там не аказалася. Абышла ўсе вядомыя лагеры, але нічога не даведалася. Вось і жыву надзеяй, што жывы ён, Бога малю...

Алена Пятроўна старанна разыгрывала ролю прасцячкі, хоць разумела, што сусед — вораг. Хутчэй за ўсё стукач.

— Ну вось, гатова,— сказала Алена Пятроўна і, працягваючы суседу макінтош, дадала: — Насіце на здароўе. Калі што, заходзьце, паспрабую дапамагчы.

Лапін падзякаваў і, паклікаўшы малодшага, Валерку, працягнуў яму адразу тры цукеркі:

— Частуйся. Любіш цукеркі?

А Валерка, імгненна засунуўшы ўсе тры цукеркі ў рот, змог толькі буркнуць:

— Угу.

— Вось і добра. Як толькі з'явяцца яшчэ такія ласункі, я з табой падзялюся.

Сусед пагладзіў Валерку па галаве, развітаўся і сышоў. Алена Пятроўна нібы скамянела. Сядзела на зэдлічку, склаўшы рукі, з трывогай думала, як быць. З'явілася Яўгенія:

— Мам, я з дзяўчынкамі прагуляюся...

— Толькі да паліцаяў не набліжайся. Зразумей, Жэнечка, ты ў мяне ўжо вялікая, сама ведаеш, немцы такіх ужо ў Германію хапаюць. Ну а паліцаі — таксама звяры, могуць схапіць, згвалціць... забіць...

— Не хвалюйся, мама, я ўжо не маленькая, усё разумею.

Цмокнуўшы маці ў шчаку, паспрабавала хутчэй сысці. Жэня стала скрываць ад маці, што яна з дзвюма сяброўкамі выкарыстоўвае любую магчымасць, каб працягваць пошукі сем'яў Рабіновічаў і Левіных. Яна выскачыла на вуліцу і накіравалася ў бок Старажоўскай. Жэня не звярнула ўвагі на мужчыну, які па іншым боку вуліцы рухаўся за ёй. Калі б яна азірнулася, напэўна пазнала б суседа.

Света, пакружыўшы, чакала Жэню ля сваіх варот. Яна паведаміла:

— Танька не зможа. У яе ў сям'і паўстала нейкая праблема.

— Дык што, пойдзем удзвюх? — спытала Жэня.

— Вядома. Хутка вечар, іх будуць весці з работы.

Дзяўчынкі па драўляным мастку перайшлі Свіслач і накіраваліся ў раён вуліцы Танкавай, дзе меліся вароты, праз якія вязняў калонай пад узмоцненай аховай кожны дзень выводзілі на работу. Вось і гета. Дзяўчынкі рухаліся ўздоўж драцяной агароджы, імкнучыся не набліжацца да плота. То тут, то там стаялі гараджане ці прыезджыя сяляне. У руках яны трымалі невялікія скруткі. Гэта былі мянялы, якія за бутэльку ці нават кавалак хлеба, сала, парачку-другую звараных яек спрабавалі выменяць якую-небудзь карысную рэч. Усе ведалі, што ў мінскіх яўрэяў практычна нічога не засталося, а яўрэі з Германіі, Чэхіі, Польшчы з сабой сёе-тое прывезлі. Ім жа нацысты абяцалі, што вязуць часова, да пераможнага канца вайны. З боку гета таксама маячылі ахвотнікі зрабіць «бізнес» за гадзіннікі, курткі, нават залатыя каронкі, знятыя з зубоў.

Усе ўважліва сачылі за ахоўнікамі, гучна перагаворваючыся з «гандлярамі», што на што можна памяняць, і, выкарыстаўшы хвілінку, вязні і «гандляры» кідаліся адзін да аднаго, да калючага дроту. Часта ахова стрэламі ўгару перарывала і гэтыя спробы, адбірала прадметы абмену, былі выпадкі, калі ахоўнікі стралялі проста ў людзей. Падумаеш, адным-двума жыццямі стане менш. Асабліва тут, у гета, дзе начальства патрабуе забіваць яўрэяў як мага больш. Што да тых, хто прыйшоў да драцяной агароджы звонку, таксама не праблема. На плоце былі размешчаны таблічкі з надпісамі: «Стой, страляюць!»

Нарэшце наблізіліся да варот гета і адразу ж убачылі, як з боку Нямігі набліжаецца калона людзей — вярталіся пасля работы вязні. З некаторымі крочылі і дзеці. Бацькі баяліся іх пакідаць адных: часта пагромы, вобыскі ў адсутнасці бацькоў заканчваліся забойствамі ці выкраданнем дзяцей.

Жэня і Света літаральна ўпіліся вачамі ў людзей, якія праходзілі міма. Раптам з калоны раздаўся жаночы крык:

—Жэнечка, мілая!

Жэня ўбачыла, як адна з жанчын поклічна махала рукой. Яна з цяжкасцю пазнала цётку Марыю. Жанчына нагадвала шкілет: уцягнутыя шчокі, худыя, як пугі, рукі, сукенка ў лахманах.

— Цётка Марыя, — закрычала Жэня, — як вы?

— Дрэнна, мілая, дрэнна! Соня памерла, Ларысу забілі. Мы жывём разам з Левінымі. У іх Розачку кудысьці павезлі, Сарачка памерла з голаду.

Пачуліся гучныя каманды спыніць размовы. Але Марыя Сямёнаўна, гледзячы перад сабой, як быццам звяртаючыся да тых, хто ішоў наперадзе, крыкнула:

— Заўтра раніцай прыходзь да Заходняга моста. Можа, зможаш Элачку забраць. Малю, выратуйце яе. Нас хутка заб’юць!..

Жэня і Света, заліваючыся слязьмі, вярталіся дадому.

— Фашысты — звяры! Завошта яны так?! — усхліпваючы, выклікнула Жэня.— Чаму яны ненавідзяць і забіваюць людзей?!

— Што мы ім дрэннага зрабілі? — плакала Света. — Мой тата ўсё адно ім адпомсціць.

Жэня ведала, што тата Светы — камандзір Чырвонай Арміі. Ён ваюе з немцамі.

Нібы пацвярджаючы словы сяброўкі, дадала:

— І мой тата адпомсціць ім. Хутчэй бы яны перамаглі фашыстаў.

Калі яны падыходзілі да хаты Светы, тая раптам гучна ўскрыкнула і літаральна прысела.

— Што з табой?

— Нага... Нагу параніла!

Света апусцілася на зямлю. Жэня ўбачыла, што да падэшвы тапачак, зробленых з матэрыі, як бы прыляпілася маленькая дошчачка. Пацягнула за яе, Света ўскрыкнула:

— Балюча!

Жэня ўжо трымала ў руцэ дошчачку, з якой тырчаў іржавы, мокры ад крыві цвік.

— Перавязаць трэба, — са спагадай сказала яна.

— Не, Жэня, вось жа мая хата, дапамажы мне. Мама перавяжа.

Маці, бурчачы і вохкаючы, наліла ў тазік вады, кінула марганцоўку і апусціла туды Свеціну нагу, затым агледзела ранку і перавязала яе доўгім вузкім кавалкам матэрыі.

— Будзем спадзявацца, што ўсё скончыцца добра, — прамовіла яна, устаючы.— Вы б, дзяўчынкі, паменш швэндаліся. Самі ведаеце, што дзеецца.—

І раптам нібы схамянулася: — Жэня, бягом дамоў! Вось-вось каменданцкая гадзіна наступіць!

Жэня стрымгалоў кінулася дахаты. Моўчкі выслухала маміны нараканні, з'ела пакінуты ёй кавалак сухара, запіла вадой і пайшла ў пакой, дзе маці тулілася разам з дочкамі. Яна цвёрда вырашыла: заўтра пойдзе да Заходняга моста і паспрабуе выратаваць Элу. Праўда, калі забіралі сям'ю Рабіновічаў, дзяўчынцы было ўсяго паўтара года.

«Цяпер Эле тры гады. Змагу я яе пазнаць?» — падумала Жэня, перш чым заснуць.

Раніцай было ўсё як звычайна — паснедалі, кожнаму дастаўся сухарык з чэрствага хлеба і «чай». Гэта мама заварыла нейкую траву, ды яшчэ падсаладзіла цукрам.

Кожны заняўся сваёй справай. «Мужчыны», як маці звала сваіх хлапчукоў, пад кіраўніцтвам Васіля наводзілі парадак у двары. Марыя ўзялася вымыць ганак, а Алена Пятроўна адправілася на кірмаш. Яна ўзяла з сабой Зіну, бо баялася лішні раз вадзіць з сабой Жэню, асабліва туды, дзе было шмат немцаў і паліцаяў, найперш літоўскіх і латышскіх, а на кірмашы іх было процьма.

Заходнім мостам зваўся чыгуначны мост у заходняй частцы горада, які праходзіў над вуліцай Маскоўскай. Ісці да яго ад Старажоўскай кіламетраў пяць-шэсць.

Роўна ў сем, адразу ж, як заканчвалася каменданцкая гадзіна, Жэня накіравалася да сяброўкі. Света, памятаючы пра дамову, таксама рана ўстала, але зразумела, што ісці не зможа. Ступня распухла, нельга было зрабіць і кроку. Жэня ўсё зразумела:

— Нічога, Светачка, я пайду сама. — І бачачы, што ў сяброўкі на вачах з'явіліся слёзы, абняла яе. — Не нервуйся, я адна спраўлюся. Не хвалюйся, усё будзе добра, вечарам забягу.

Яўгенія накіравалася ў заходнюю частку горада.

Чым бліжэй яна набліжалася да Заходняга моста, тым больш яе ахоплівала трывога. Удзвюх, вядома, было б лепш. А тут адна...

Нарэшце яна прыйшла на месца. На здзіўленне, там сабраўся даволі вялікі натоўп. Пакуль таўхалася сярод людзей, спадзявалася ўбачыць сваіх знаёмых. Некаторыя спрабавалі ім перадаць што-небудзь з ежы, абмяняцца навінамі. Справа ў тым, што мост, завісаючы над вуліцай, узмоцнена ахоўваўся. Абапал, а таксама пад мостам стаялі аўтаматчыкі, вуліца звужалася, таму тут вялікая колькасць вязняў адначасова не змяшчалася, кожны, хто праходзіў, павінен быць навідавоку, каб ні ў каго не было магчымасці падкласці штосьці пад апоры моста, з-за гэтага рух калоны затрымліваўся. Вязні ішлі па шэсць чалавек у рад, прапускалі па трое, таму можна было перакінуцца некалькімі словамі са знаёмымі. Сёй-той кідаў у калону кавалкі хлеба ці яблыкі, нават сырую бульбачку. Вязні таўхаліся паміж сабой, імкнучыся перахапіць такую «перадачу». Жэня таксама даведалася, што ў гэтым месцы з калоны выскоквалі дзеці і хаваліся ў натоўпе. Аказваецца, што маці, баючыся пакідаць дзяцей адных у гета, бралі іх з сабой. У гэтым месцы дзеці выбягалі з калоны і цэлы дзень былі прадастаўлены самім сабе, сноўдаліся па звалках, выпрошваючы штосьці паесці ў сталоўках ці проста ў прахожых, спрабавалі выпрошваць і ў жыхароў. Немцы на такія ўцёкі амаль не рэагавалі. Яны ведалі, калі вязні будуць вяртацца з работы, дзеці такім жа чынам далучацца да сваіх бацькоў. Але канвойныя строга сачылі, каб з калоны не выбягалі дзеці маладзейшыя за шэсць гадоў. Такіх дзяцей бацькі, прадбачачы страшны канец, імкнуліся перадаць любому чалавеку.

Калі падышла калона, Жэня пераканалася: тое, пра што расказвалі дасведчаныя людзі, адпавядала рэчаіснасці. Дзеці па восем, дзевяць і старэй гадоў, выбіраючы момант, калі ахоўнікі страчвалі пільнасць, выскоквалі з калоны і імгненна раствараліся ў натоўпе. А вось дзяцей меншых на вачах Жэні ахоўнікі, калі тыя спрабавалі пакінуць калону, перахоплівалі і груба, як шчанят, шпурлялі назад, не цікавячыся, дзе і ў якім радзе знаходзяцца іх бацькі. Дзеткі ва ўзросце дзвюх-трох гадоў, нічога не разумеючы, не хацелі расставацца з бацькамі. Яны гучна плакалі і чапляліся за маці. Калі хто-небудзь з тых, хто стаяў па баках, не баяўся працягнуць рукі, каб схапіць дзіця, тады ахоўнікі, не цырымонячыся, білі людзей прыкладамі, часам стралялі ўгару.

Жанчына, якая стаяла побач з Жэняй, усклікнула:

— Мінулы раз нізавошта чалавека застрэлілі, іроды!

Жэня ўважліва слухала. Сачыла за кожнай шарэнгай, якія праходзілі міма людзей. Ох, як яна баялася празяваць, не ўбачыць цётку Марыю, хвалявалася, каб пазнаць Элу. Раптам яна пачула голас цёткі Марыі:

— Жэнечка, мы падыходзім ужо да цябе. Падрыхтуйся, я выштурхну да цябе Элачку, падхапі яе і схавайся за людзьмі.

Жэня ўбачыла цётку Марыю. Яна набліжалася, ішла другой ад краю ў калоне, паказваючы на руках дзяўчынку. Жэня, вядома ж, не пазнала ў худзенькай, у парванай сукеначцы дзяўчынцы тую пухленькую Элачку, якой яна была паўтара года таму. Марыя Сямёнаўна — усё бліжэй. Наперадзе яе, справа, рухаўся адзін з ахоўнікаў. Наступны, таксама ўзброены вінтоўкай, знаходзіўся метрах у васьмі-дзесяці ад шарэнгі, у якой ішла Рабіновіч. Жэня заўважыла, што метрах у дзесяці ад яе стаялі двое паліцэйскіх з вінтоўкамі на плячах. Яны абыякава глядзелі на калону, пра нешта перагаворваючыся. Жэня яшчэ больш захвалявалася. Яна малілася: «Божа, зрабі так, каб Эла не закрычала!» Яна ледзь высунулася наперад. Прайшоў першы ахоўнік, ён не павінен бачыць, як Жэня схопіць дзяўчынку. Цяпер Жэня адначасова сачыла за паліцэйскімі і другім немцам. Цётка Марыя, цалуючы дачку, штосьці ёй казала. Элачка пакуль не плакала, абняўшы мамку за шыю. Яшчэ тры крокі, і Марыя Сямёнаўна з сілай адарвала ад сябе дзяўчынку і літаральна шпурнула Жэні на рукі. Жэня ледзь не ўпала, падхапіўшы яе, і, абняўшы дзяўчынку рукамі, кінулася ў натоўп. Адной рукой яна адштурхоўвала людзей і спалохана прасіла:

— Прапусціце! Прапусціце!

Людзі і самі ўсе разумелі, расступаліся і тут жа станавіліся адзін да аднаго шчыльней, нібы абараняючы сваімі целамі адважную дзяўчыну і яе жывую ношу.

Жэня, вядома ж, не бачыла, як да яе, праз натоўп кінуўся адзін з паліцаяў. Людзі на яго шляху таксама расступаліся, прапускаючы «прадстаўніка ўлады». Яны не ведалі, у чым справа. У Жэні ўжо мільганула думка, што ўсё абышлося добра, як раптам убачыла перад сабой паліцэйскага. Ён груба схапіў Жэню за плячо:

— А ну, стой! Куды яе нясеш?!

«Усё, папалася!» — падумала Жэня і адчула, што сілы яе пакідаюць. Яна зірнула на паліцая і ад нечаканасці ўскрыкнула:

— Лёнька, гэты ты?!

Паліцай сумеўся. Ён таксама пазнаў Жэню. Яны вучыліся ў адной школе. Ён быў старэйшы за  Жэню на тры гады, але з-за ляноты і шкадлівага характару, двойчы быў другагоднікам.

—Лёнька,— ізноў ускрыкнула Жэня,— ты што, не чалавек?! Адвалі! Я ж дзіця ратую ад смерці!!!

Лёнька, разгубіўшыся, агледзеўся па баках. Людзі малілі, прасілі яго:

— Адпусці яе! Ты ж бачыш, што дзяўчынка ніякай шкоды не чыніць! Яна дзіця ратуе! Пашкадуй яе!

Лёнька нечакана нават для сябе апусціў руку і нягучна сказаў:

— Ідзі за мной, я праводжу.

Ён накіраваўся ў процілеглы ад вуліцы бок. Жэня, у збянтэжанасці, яшчэ не верачы свайму шчасцю, рушыла ўслед. Яны выйшлі з натоўпу і накіраваліся ў бок Дома ўрада.

Лёнька прапанаваў:

— Пойдзем лявей, затым абыдзем гета. Ты вазьмі дзяўчынку за руку, хай ідзе ножкамі.

Жэня спытала:

— Элачка, ты зможаш пайсці ножкамі?

Дзяўчынка, на здзіўленне, была спакойнай, сама ўстала на ножкі, спытаўшы:

— Мы да мамы пойдзем?

— Так, толькі пройдземся трошкі. Добра?

— Ага! А ў цябе хлеба няма?

Пачуўшы гэтыя словы, Лёнька спыніўся, сунуў руку ў кішэнь і выцягнуў два сухары.

— Гэта будзеш есці?

— Ура! Сухары!!! — ускрыкнула Эла і літаральна ўчапілася ручкамі адразу ў два сухары.

Некаторы час ішлі моўчкі.

Жэня нарэшце задала пытанне, якое яе мучыла:

— Лёнька, а чаму ты пайшоў у паліцыю?

Памаўчаўшы, хлопец сумна прызнаўся:

— А куды мне? Быў выбар адправіцца ў Германію, дзе парабкаваць, ці ў паліцыю. А ў мяне ж маці хварэла, бацька памёр у саракавым годзе. Акрамя мяне ў сям'і яшчэ трое, я старэйшы. Ты не думай, Жэнька, што я людзей катую. Я яшчэ ні разу нават угару не стрэліў. Вядома, цяпер мне ўжо ніхто не верыць, суседзі адварочваюцца, нават на «дзеньдобры» не адказваюць, сыходзяць у свой двор, калі бачаць мяне. Самому цяжка.

— Ты там жа жывеш, на Беламорскай?

— Вядома, там жа наша хата.

— А Ліпковіча не ведаеш?

— Як не ведаю, ён жа недалёка жыве.

— Па-мойму, ён з немцамі выдатна знюхаўся, аўсвайсы мае, без апазнавальных яўрэйскіх нашывак ходзіць. Але ён жа заўсёды набрыддзю быў, стукаў у НКУС на суседзяў, а зараз вось перакваліфікаўваўся.

— Слухай, Жэня, ты не кажы сваёй маме, што я служу ў паліцыі.

— Гэта чаму ж?

— Мне няёмка, да мяне яна добра ставілася. Памятаеш, калі мы з дзецьмі прыйшлі да вас...

— А, памятаю,— засмяялася Яўгенія.— Ты тады сапраўды ёй спадабаўся. Дзіва што! Гэтулькі дроў адзін перацягаў, пакуль мы лясы тачылі.

— Ты ведаеш, мяне так рэдка хвалілі, што яе хвала засталася ў памяці.

Раптам Эла спынілася і прысела на кукішкі.

— Што здарылася, Элачка? — спытала Жэня.

— У мяне ножкі баляць, я да мамы хачу.

— Ну вось, пачынаецца, — прамармытаў Леанід.

Жэня схілілася над дзяўчынкай:

— Элачка, ты ж не хочаш, каб цябе дзядзькі білі?..

— Я ведаю, што фашысты хочуць мяне забіць...

Пры гэтых словах Лёнька літаральна схамянуўся. Дзіва што, міма праходзіў нямецкі афіцэр. Ён прыпыніўся, уважліва паглядзеў на Элу і спытаў:

— Кіндэрюдэн?

— Яволь! — пстрыкнуў абцасамі Лёнька.— Вас валензі?

— Гестапа? — паказаўшы на Элу, спытаў афіцэр.

— Яволь! — пацвердзіў Леанід.

— Алес гут! — Кіўнуў галавой афіцэр і пайшоў далей сваім шляхам.

— Ух ты, здаецца, пранесла! — Хлопец строга зірнуў на Элу.— А ты раскудахталася: «фашысты», «забіць».

— Вось бачыш, — усміхнулася Жэня, — спатрэбілася нямецкая мова. Ты ж у школе казырыўся: «Не хачу вучыць фашысцкую мову!»

— Ды ціха ты! — агрызнуўся Леанід.— Навошта паўтараеш словы, за якія любы фрыц можа ўсім траім па кулі ўсадзіць?!

Жэня павярнулася да дзяўчынкі:

— Давай я цябе на ручках панясу. Ідзі да мяне.

Элачка паслухмяна працягнула да яе худзенькія ручкі і абняла за шыю.

Ішлі некаторы час моўчкі, але Яўгенія, як заўсёды, не магла доўга маўчаць:

— Хоць дзяўчынка праўду сказала. Іх усіх там, за калючкай, чакае адзін канец...

— Я разумею, Жэня, — прамовіў Леанід.— Але што я магу зрабіць?

— Як быццам ты не ведаеш, што робяць мужчыны... сумленныя мужчыны: яны ці на фронце, ці ў лесе ...

— Жэнька, не раздзірай душу! У мяне ж вельмі хворая маці, ды і ўся сям’я залежыць ад мяне. Варта мне зрабіць няправільны крок, як усім — канец. У мяне ж тры малодшыя сястры.

— Лёнь, а ты не думаеш, што з табой будзе, калі нашы прыйдуць? Ты ж ужо дарослы чалавек і павінен выдатна разумець, што з табой будзе і як зганьбіш усю сваю сям’ю. Вакол такое дзеецца! Азірніся, усюды — на тваёй вуліцы, на Цнянскай і Старажоўскай — ні ў чым не вінаватыя людзі — на шыбеніцах! А што зрабілі яўрэі?! Іх жа, як скаціну, утрымліваюць і кожны дзень сотнямі забіваюць, у печах спальваюць! Лёнька, мне таксама страшна: і за сябе, і за маму, за братоў маіх і сясцёр, але, лічу, што кожны з нас павінен штосьці рабіць, каб хутчэй прайшоў увесь гэты жах. Бачыш, я ж таксама рызыкую. Гэта добра, што ты трапіўся, мой школьны таварыш. А калі б іншы? Мы выдатна разумеем, што са мной было б.

Пасля пакутлівай паўзы Лёнька сказаў:

— Акрамя гестапа, эсэсаўцаў не менш трэба баяцца латышскіх і літоўскіх паліцаяў. Яны горш за звяроў, у параўнанні з імі нават зласлівыя сабакі самыя рахманыя і мілыя жывёлы. Ён раптам спытаў: — Жэня, а што вы будзеце рабіць з дзяўчынкай? Яны ж хутка даведаюцца, што яна ў вас. Нашы хлопцы казалі, што ваш сусед — стукач. Ён да вайны служыў нейкім службоўцам, нават на аўто ездзіў. Ты маме скажы пра гэта, папярэдзь...

Яўгенія бачыла, як палохаўся Леанід, калі ім насустрач ішоў немец, асабліва афіцэр. Яна не стрымалася:

— Лёнька, а чаго ты баішся? Ты ж вядзеш дзвюх яўрэек у паліцыю. Паглядзі, хіба я не падобная на адну з іх?

— Не, Жэнька, ты не падобная. Але запомні мае словы. Беражыцеся! Яны нікога не шкадуюць, ні дарослых, ні дзяцей, ні хворых ...

— Добра, Лёня! Дзякуй за папярэджанне,— з нейкай цеплынёй у голасе адказала Жэня.— Ты таксама падумай. Калі будзе што-небудзь цікавае для тых, каго мы чакаем, знаходзь мяне. А цяпер давай развітвацца. Бачыш, мы ўжо амаль прыйшлі, і не трэба, каб наш сусед бачыў цябе...

— Як цябе знайсці, калі спатрэбіцца?

— Вядома, лепш, калі ты прышлеш каго-небудзь з тых, каго я ведаю. Дзякуй табе! Пакуль!

Жэня хутка накіравалася ў бок дома. Худзенькая, лёгкая, як пярынка, дзяўчынка ўжо літаральна абрывала ёй рукі.

Маці сустрэла дачку, у яе вачах было здзіўленне. Прыгледзелася да дзяўчынкі і няўпэўнена спытала:

— Няўжо Рабіновічаў?

— Адгадала.

— А як яна ў цябе апынулася?

— Ой, мама, доўга расказваць. Галоўнае, што я іх знайшла.

— Дык вось дзе ты знікала,— здагадалася Алена Пятроўна і спытала: — Як яны?

— Вельмі дрэнна, мама. У Рабіновічаў Ларысу і Соню забілі, у Левіных Сару забілі, а Розу кудысьці павезлі. Цётка Марыя маліла выратаваць хоць самую маленькую. Іх ганяюць кожны дзень на работу, у гета ўвесь час пагромы, рабуюць, забіваюць і вялізнымі групамі вывозяць бедалаг на расстрэл! Я сёння ля Заходняга моста дачакалася іх калону, і цётка Марыя шпурнула мне Элачку. Прасіла... — Жэня не змагла дагаварыць і расплакалася.

Маці таксама са слязамі на вачах падышла да Элачкі, узяла яе на рукі і, несучы да ложка, усклікнула:

— Госпадзі, пярынка ты мая! Прыляж, адпачні.

— Я есці хачу, — нечакана сказала дзяўчынка.

— Добра, добра. Якраз сёння я на кірмашы выменяла цэлы клінковы сыр.— Яна хутка адламала кавалачак і дала дзяўчынцы.

Бачачы, як дрыготкімі ручкамі дзяўчынка засоўвала ў роцік мяккі сыр і, не жуючы, праглынала, маці гучна расплакалася і, закрыўшы твар рукамі, выскачыла ў кухню.

Паступова Алена Пятроўна авалодала сабой і стала думаць, што рабіць далей, але рашэнне было адно: трэба пакідаць дзіця ў сям'і. Галоўнае, каб ніхто пра гэта не даведаўся.

Увечары яна, дзелячы на кавалачкі сыр і хлеб, старанна інструктавала дзяцей, каб нідзе і нікому яны не казалі пра Элачку.

## Раздзел 12

Генерал-палкоўнік Яфрэмаў уважліва слухаў, пра што яму дакладваў генерал-маёр:

— Ёсць інфармацыя, што ў вёсцы Сёмкава Мінскай вобласці фашысты пад покрывам строгай сакрэтнасці стварылі пад назвай «Дзіцячы інтэрнат» цэнтр збору донарскай крыві. У цэнтры ўтрымліваецца пяцьсот — шэсцьсот дзяцей ва ўзросце ад шасці да дванаццаці гадоў, якія і з'яўляюцца донарамі. Кроў адбіраюць у дзяцей бязлітасна. Многія дзеці паміраюць, на іх месца пастаўляюць іншых.

— Чым апраўдана для немцаў знаходжанне цэнтра менавіта ў Сёмкаве?

— Цэнтр размешчаны ў старадаўнім комплексе XVII—XVIII стагоддзяў, які калісьці належаў магутнаму сямейству Хмараў. Гэты род быў вядомы ва ўсёй Еўропе. Сюды прыязджалі многія знакамітыя людзі. Часта тут гасцяваў кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пазней, у 1905—1906 гадах, тут на мясцовым бровары працаваў Янка Купала, а пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1922—1923 гадах, у вопытнай гаспадарцы, створанай на месцы маёнтка, працаваў бухгалтарам Якуб Колас.

— Вы не адказалі на пытанне, чаму нямецкае камандаванне абрала менавіта гэтае месца?

— Хутчэй за ўсё яно кіравалася тым, што Сёмкава, хоць і недалёка ад Мінска, але глухое, закінутае месца. Мясцовае насельніцтва нешматлікае, але сялян дастаткова, каб месцы чорнарабочых, прачак, дворнікаў і качагараў былі запоўнены. Медперсанал нямецкі.

— Як ахоўваецца цэнтр?

— У самым комплексе знаходзіцца крыху больш як узвод, які нясе ахову па перыметры непасрэдна галоўных будынкаў, абнесеных калючым дротам, па кутах перыметра — кулямётныя кропкі, усталяваны наглядальныя вышкі.

— Ці не мала?

— Мінск у дзесяці—дванаццаці кіламетрах, трэба мець на ўвазе, што на досыць блізкай адлегласці размешчаны нямецкія гарнізоны, якія могуць хутка аказаць дапамогу ахове цэнтра. Трэба адзначыць, што размяшчэнне цэнтра ў глухім месцы спрыяе захаванню ў тайне прызначэнне аб’екта.

— Сігнал сур’ёзны... Гаворка ідзе пра нашых дзяцей. Прадумайце аперацыю па дэталёвай праверцы інфармацыі. Выкарыстоўвайце магчымасці партызан і падпольшчыкаў у Мінску. Лепш за ўсё накіраваць свайго прадстаўніка ў партызанскую брыгаду, байцы якой і здабылі гэту інфармацыю.

Генерал-маёр працягнуў начальніку тоненькую папачку:

— Гэта ўрывак з невядомага твора. Ён дазваляе ўявіць, што было ў палацы ў тыя далёкія гады...

— Добра, пакіньце, я прачытаю, — задуменна сказаў Яфрэмаў.

Генерал-маёр выйшаў.

Яфрэмаў, задумаўшыся, паспрабаваў уявіць сябе ў XVIII стагоддзі... Раскрыўшы папку, пачаў чытаць: «Уздоўж нешырокай дарогі, па абочынах абсаджанай дрэвамі, групкамі і паасобку, стаяць сяляне. Апрануты бедна, як правіла, худыя, некаторыя выглядаюць знясілена.

Іх выгналі да гасцінца, каб вітаць высокага госця.

Радавод госця сяляне не ведалі, яго імя ім нічога не сказала б, што ён выхадзец з арыстакратычнага роду Панятоўскіх. Станіслаў Аўгуст быў шостым дзіцем у сям’і мазавецкага ваяводы Станіслава Панятоўскага і Канстанцыі Чартарыйскай. У дваццацігадовым узросце Станіславаў Аўгуст атрымаў месца дэпутата Польскага сойма, дзе адразу ж стаў карыстацца вялікім аўтарытэтам. Неўзабаве ён стаў дыпламатам і жыў раскошным жыццём французскага двара. Затым бацькі Чартарыйскай — маці Станіслава Аўгуста — дамагліся яго накіравання ў Пецярбург — паслом у Расію. Ён здолеў завязаць любоўныя адносіны з вялікай княгіняй Кацярынай Аляксееўнай, будучай расійскай імператрыцай Кацярынай Другой. Менавіта гэтая сувязь спрацавала, калі ў 1763 годзе памёр кароль Аўгуст III. 7 верасня 1764 года сойм абвясціў Панятоўскага каралём Рэчы Паспалітай.

Усё гэта было нецікава сялянам. Ім было сказана выйсці на гасцінец і кланяцца высокаму госцю і, вядома ж, свайму гаспадару — вяльможнаму Адаму Міхалку Хмару.

Апошнія паўтара гады Польшча перажывала вялікія ўзрушэнні. Трон пад Станіславам Аўгустам відавочна хістаўся... Хмара гэта ведаў, але калі ў маёнтак прыбыў ганец караля, які прасіў магутнага гаспадара Сёмкава згоды на свой кароткачасовы прыпынак па дарозе ў Пецярбург, Хмара з вялікай радасцю сказаў высокаму сябру пра тое, што будзе шчаслівы прыняць яго ў сваім маёнтку і паведаміў, што сустрэне яго ў Мінску, куды Станіслаў Аўгуст вырашыў заехаць па дарозе.

Для сустрэчы караля польскага і вялікага князя літоўскага Адам Хмара апрануў парадную адзежу, на якой ярка блішчэлі ордэны Белага арла і Святога Станіслава.

У Мінску адбылася цёплая сустрэча. Гаспадар і госць паехалі ў адной карэце, запрэжанай шасцёркай белых коней. За імі ехалі яшчэ некалькі шыкоўных карэт, крытыя фаэтоны з аховай і слугамі караля. Надвор’е стаяла выдатнае, тэнт быў адкінуты, і госць з цікавасцю сузіраў наваколле. Гледзячы на хаты, амаль па вокны ўрослыя ў зямлю, з саламянымі дахамі, ён раптам спытаў:

— Мой дарагі сябар, у вас сяляне жывуць яшчэ горш, чым на заходніх тэрыторыях: апрануты бедна, напэўна, жыццё несалодкае. Я разумею — клімат тут больш суровы, маразы моцныя, не тое, што ў Кракаве ці Варшаве. Скажыце, а чым зацягнуты вокны гэтых хат?

— Так, жывецца нашым халопам не вельмі... Вокны яны змушаны зацягваць чым папала, у тым ліку і бычынымі пухірамі, якія прапускаюць святло. Праўда, харчуюцца яны нядрэнна, ураджаі добрыя.

— Колькі гадоў селішчу Сёмкава?

— Дзякуй богу, трыста з лішнім ужо мінула. Першым уладальнікам гэтых месцаў у XV стагоддзі быў паплечнік літоўскага гаспадара Жыгімонта Кейстутавіча віленскі кастэлян Сенька Гедыгольдавіч. Ён тады валодаў мястэчкам Мір, дзе праз пяцьдзясят гадоў паўстаў магутны Мірскі замак. У сярэдзіне XV стагоддзя князь Сенька заснаваў у суседніх Радашковічах першы ў гэтых краях касцёл і паселішча Сёмкава. Пазней Сёмкава стала цэнтрам вялікага маёнтка роду князёў Саламарэцкіх. А ўжо да 1640 года Сёмкава належала выхадцу з Мсціслаўшчыны Багдану Статкевічу, які выкупіў маёнтак у жонкі з роду Саламарэцкіх. У выніку «дамавых войн», характэрных для Рэчы Паспалітай, мясціны гэтыя патрапілі ў рукі Сапегаў, вядомага роду, якія сталі гаспадарамі ўсяго Сёмкава — Гарадзецкай гміны. У 1775 годзе літоўскі падканцлер Міхаіл Сапега перадаў мне Сёмкава ў «вечны дарунак». Чуе маё сэрца, што я — апошні мінскі ваявода Рэчы Паспалітай. Ці я памыляюся, вяльможны пане? — і, не чакаючы адказу, дадаў: — Я вельмі рады, што на працягу васьмі гадоў змог пабудаваць свой пышны палацавы ансамбль. Збудаванняў такога маштабу ў гэтым краі яшчэ не было.

— Так, так, я чуў пра гэта. Нават узгадваю, што вы, мой сябар, праект заказвалі ў Карла Спампані. Ці не так?

— Так.

— Вы ж змаглі замовіць на Налібоцкай гуце ў Радзівілаў ванну з блакітнага шкла, ці не так?

— Так, так! Да многіх спецыялістаў давялося звяртацца. Я ганаруся гэтым тварэннем. Нават пад падмуркам заклаў вялікую мармуровую пліту з пасланнем да нашчадкаў.

— Ваша вялікасць,— нечакана змяніў тэму гаворкі Хмара, — а чаму вы паехалі праз Мінск? З Варшавы можна было больш кароткім шляхам да Пецярбурга дабрацца.

— Прычына гэтага ў тым, што я ў якасці караля, думаю, здзяйсняю такую паездку апошні раз,— сумна адказаў госць і зрабіў вітальны жэст рукой групе сялян, якія, зняўшы галаўныя ўборы, нізка кланяліся госцю і свайму гаспадару. — Станіслаў Аўгуст зрабіў невялікую паўзу і працягваў: — Вы, вядома ж, ведаеце, што пасля прыняцця 3 мая 1791 года канстытуцыі, па просьбе канфедэратаў у 1792 годзе пачалася руска-польская вайна, а пазалетась наступіў другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй і Расіяй. Сёлета мяне пад канвоем ста дваццаці расійскіх драгунаў прывезлі ў Гародню пад апеку і нагляд расійскага намесніка. Я маю намер прасіць у імператрыцы згоды на тое, каб адрачыся ад прастолу. Мне дазволена здзейсніць гэта падарожжа. Таму я і заехаў да вас, мой дарагі сябар. Думаю, 25 лістапада, у дзень імянін расійскай імператрыцы, я здзейсню гэты акт.

— Але ў вас асаблівыя адносіны з імператрыцай. Я не думаю, што вас чакаюць цяжкія дні.

— Я таксама спадзяюся на гэта. Праўда, асаблівыя адносіны, як вы зрабілі ласку выказацца, перараслі ў добрыя, не больш... Думаю, гэтыя акалічнасці дазволяць мне атрымаць дазвол пераехаць жыць у Пецярбург.

І кароль чарговы раз велічным жэстам павітаў чэрнь, якая стаяла яшчэ вялікімі натоўпамі. Карэта заязджала на тэрыторыю выдатнага палацавага ансамбля «Сёмкава»...

Яфрэмаў перавярнуў старонку — ці няма працягу. На жаль, больш нічога не было, і ён, адкінуўшыся на спінку крэсла, падумаў: «Цікава напісана, але хто ж аўтар? Можа, у суседзяў пацікавіцца? А раптам у іх поўнае апавяданне дзе-небудзь у архіве пыліцца? — Пад «суседзямі» ўсе супрацоўнікі ГРУ мелі на ўвазе НКУС. — А што, можа, і аўтар у іх адшукаўся б?..» Ён, вядома, добра разумеў, што цікавіцца пра аўтара не варта. Падняўся з крэсла і падышоў да карты, тоўстым чырвоным алоўкам абвёў слова «Сёмкава» і падумаў: «У тыя часы хтосьці быў багатым і шчаслівым, а большасць — нешчаслівымі і беднымі. І тады, і цяпер у свеце ўсё так і ўладкавана. У гэтым па-версальску прыгожым месцы фашысты пачуваюцца шчаслівымі, як на курорце, а дзеці не ў жыццё ўступаюць, а чакаюць смерці...»

## Раздзел 13

Камандзір брыгады Грынёў, камісар Сенгін і начальнік разведкі Мароз гутарылі з мужчынам у цывільнай адзежы. Мяркуючы па тоне размовы, адчувалася асаблівая ўвага і павага, з якой яны ставіліся да госця. Госць — палкоўнік Сігаеў, прадстаўнік штаба партызанскага руху з Масквы. Прыляцеўшы спецсамалётам, ён паведаміў ужо камандаванню брыгады пра мэту свайго прыбыцця. Цяпер ішла гаворка пра тое, як хутка і паспяхова выканаць загад. Сігаеў спытаў:

— Раскажыце падрабязна, што гэта за сядзіба, дзе размясціўся гэты цэнтр?

Грынёў задуменна адказаў:

— Сказаць шчыра, я і сам не ведаў, што ў нас у Беларусі ёсць такое знакамітае месца. Як толькі мы атрымалі гэту інфармацыю, адразу ж паведамілі ў цэнтр.

— Сяргей Іосіфавіч, чаго-чаго, а такіх месцаў у рэспубліцы ого-ого колькі, вазьмі Мірскі ці Нясвіжскі замкі, — ціха прамовіў Сенгін.

— Ну, вось пра іх я чуў, — перапыніў камісара камбрыг, — а пра маёнтак Сёмкава, уладальніка Хмару... Ну, дык добра.

Грынёў падкрэсліў слова «Сёмкава» на карце і сказаў:

— Трэба пасылаць туды свайго чалавека. Трэба ўсё пераправерыць, усё высветліць...

— Вось таму я і прыбыў да вас, — уступіў у гаворку палкоўнік. — Чалавека мы падбяром. Ваша задача, таварышы, як мага эфектыўней і хутчэй сабраць інфармацыю пра гэты цэнтр, пра людзей, якія там працуюць, паспрабаваць падабраць памагатых і проста надзейных людзей, якіх можна прыцягнуць да аперацыі. Трэба паспрабаваць здабыць ці скласці план інтэрната. Захоп гэтага аб’екта неабходна правесці без страт сярод дзяцей. Задача заключаецца ў тым, дзе іх размясціць. Увогуле, давайце будзем думаць.

— І добра думаць, — кіўнуў камбрыг. — Трэба яшчэ абследаваць месцы размяшчэння нямецкіх гарнізонаў, разабрацца, што мы маем з ліку агентуры, падпольшчыкаў.

— Трэба не забываць і пра паліцэйскія ўчасткі. Дзе-нідзе, скажам, у Астрашыцкім Гарадку штат немаленькі, — дадаў Мароз.— Дарэчы, сярод гэтай браціі ёсць нямала тых, хто пастаўляе інфармацыю.

— Правільна, — пагадзіўся Грынёў. — Не забудзьцеся, таварышы, і пра арганізацыю работы, у тым ліку агентурна-разведвальнай, у населеных пунктах, дзе можна размясціць людзей. Дзе неабходна, з мэтай больш поўнага вывучэння становішча, можна пасяліць у такіх вёсках нашых разведчыкаў, якія пад выглядам вяскоўцаў змогуць сабраць больш поўную інфармацыю. І яшчэ. Ніякія гутаркі пра Сёмкава не павінны весціся сярод асабовага складу...

## Раздзел 14

Кабінет маёра Мойрына — начальніка інтэрната. Маёр, седзячы за сталом, разглядае нейкія паперы.

Уваходзіць афіцэр. Стаўшы па стойцы «смірна», ускінуў правую руку:

— Хайль Гітлер! Пан маёр, прыбыла новая партыя матэрыялу.

— Колькі?

— Дваццаць два. Цяпер яны ў ізалятары.

— Праз пяць хвілін я прыйду. Пастройце іх.

— Ёсць, пан маёр.

Вялікі пакой. У ім літарай «Г» пастроена шарэнга дзяцей. Стаяць маленькія, пяці-шасці гадоў, але ёсць і старэйшыя — адзінаццаці-дванаццацігадовыя. Апрануты дрэнна, худыя, бледныя тварыкі.

Маёр павольна праходзіць уздоўж строю. Ён уважліва ўзіраецца ў кожнае дзіця. Спыніўся каля дзяўчынкі:

— Як завуць?

— Аня.

— Колькі гадоў?

— Дзесяць.

— Дзе твае бацькі?

Дзяўчынка апусціла галаву і ціха адказала:

— Не ведаю.

Маёр звярнуў увагу на хлопчыка і дзяўчынку. Яны трымаліся за рукі і адкрыта, без страху глядзелі на незнаёмца.

— Як цябе завуць? — звярнуўся маёр да хлопчыка.

— Мішка.

— Колькі табе гадоў?
— Дзевяць.
— А каго гэты ты за руку трымаеш? Напэўна, нявеста твая?
— Гэта мая сястра Валя. Яна яшчэ маленькая...
— Колькі ж ёй гадоў?
— Шэсць.
— О, ужо вялікая. А дзе твае бацькі?
— Маму немцы забілі...
— А за што?
— Яна нас абараняла...
— А хто ж на вас напаў?
— Немцы. Яны сказалі, што мама партызанка.
— Вось бачыш, значыць, гэта твая мама на немцаў напала. Ці не так?
— Не, наша мама добрая. Яна любіла нас, гуляла з дзецьмі...
— Добра. А бацька ў вас ёсць?
— Наш тата з фрыцамі ваюе, — адказаў з гонарам хлапчук і дадаў: — Ён хутка прыедзе да нас і забярэ адгэтуль.
— А табе што, не падабаецца тут? Паглядзі, якія вы худыя, елі дрэнна, а тут вас будуць добра карміць, не будуць прымушаць працаваць.
— А біць не будуць? — спытаў хлапчук, які стаяў недалёка ў шарэнзе.
— А што, цябе білі?
— Ага, пугай.
— А што гэта — пуга? — спытаў Мойрын.
— Гэта бізун, пан маёр,— паслужліва растлумачыў дырэктар інтэрната.
Маёр усміхнуўся хлапчуку:
— Ты, напэўна, дрэнна сябе паводзіў, вось цябе трохі і пашлёпалі па попе.
— Не, — рашуча пахітаў галавой хлапчук, — я нічога не зрабіў, проста не змог хутка залезці ў машыну.
Хлопчык, гадоў дзевяці, які стаяў побач, заявіў:
— І мяне білі, а я нічога не зрабіў.
— І мяне, і мяне... — пачуліся галасы іншых дзяцей.
— Добра, не турбуйцеся, — падняў руку маёр. — Тут вас біць не будуць. — І, усміхнуўшыся, дадаў: — Тут вас будуць добра карміць і лячыць. Вы ж не баіцеся ўколаў? Вам смачныя лекі будуць уводзіць.
Адна дзяўчынка захныкала:
— Я баюся ўколаў. А можна, мне не трэба...
— Супакойся, — усміхнуўся маёр, — разбяромся, — і пайшоў далей.
Маёр загадаў дырэктару інтэрната хутка размясіць дзяцей па палатах.
Больш ён не спыняўся, толькі на хаду кінуў урачу:
— Матэрыял слабаваты... Што з іх возьмеш? — Строга зірнуў на ўрача: — Запомніце, Залігер: нашым салдатам для найхутчэйшага акрыяння патрэбна кроў. Гэта для нас — галоўнае, і тут не да сентыментальнасці! Спадзяюся, вам ясна?!
— Так точна, пан маёр.
— Я хачу агледзець пакоі, дзе жывуць салдаты, а затым паглядзець, як уладкаваны дзеці.

Каб абысці казарму, спатрэбілася не меней чым гадзіна, а затым Мойрын у суправаджэнні ўрача і дырэктара інтэрната перайшоў у корпус, дзе знаходзіліся дзеці.

У адным з пакояў на двухпавярховых жалезных і драўляных, падобных на нары ложках, прыкрытых коўдрамі, рзмясціліся дзевяць дзяўчынак і хлопчыкаў.

Да іх за некалькі хвілін далучылі Мішу і яго сястру Валю. Дзеці разглядаюць праз акно, як у двары разгружаюць грузавік. Трое салдат і чацвёра рабочых сцягваюць з кузава нейкія скрыні і па двое заносяць у дзверы будынка, размешчанага насупраць.

Дзяўчынка гадоў васьмі звяртаецца да Валі:

— Табе колькі гадоў?

— Ужо хутка шэсць.

— А што ты ўмееш рабіць?

Валя, збянтэжыўшыся, ціха адказала:

— Гуляць, — і тут жа спытала: — А цябе як завуць?

— Лена. Мне ўжо дзевяць гадоў і тры месяцы. А ты пісаць умееш?

— Не яшчэ.

Брат Валі адарваўся ад акна і растлумачыў:

— Яе мама вучыла пісаць, а яна не хацела.

— Я ўжо магу напісаць «мама», «тата», «месяц»,— задзірыста адказала Валя і дадала: — А яшчэ я ўмею маляваць. — Яна паглядзела на Лену і спытала: — А ты ўмееш пісаць і маляваць?

— Вядома. Я кожны дзень гэта раблю. Вось толькі аловак стаў маленькім і паперы няма. Калі вас прывезлі сюды, я ў двары знайшла два кавалачкі кардону і скамечаную паперку. Трэба яшчэ пашукаць.

— А чаму не папросіш?

— Ды ты што! — умяшаўся ў гаворку адзін з хлапчукоў. Ён выглядаў старэй. — Нават не прасі! Адразу ж па шыі надаюць і абшукаюць усіх: раптам у каго ёсць папера ці аловак.

— А ў мяне дома шмат сшыткаў было, фарбаў для малявання. Вось колькі,— ручкай правяла па шыі.

— А дзе ты жывеш? — звяртаючыся да Лены, спытаў Міша.

— У Мінску, на вуліцы Танкавай, у вялікім доме. У нас вялікая кватэра — два велізарныя пакоі. — Раптам Лена заплакала і накіравалася ў кут, дзе стаяў яе ложачак, ціха спытаўшы: — Дзе мае мама і тата? Калі яны прыедуць па мяне?

Дзеці заціхлі. Напэўна, кожны думаў пра гэта.

Лена села на ложак, дастала з-пад падушкі некалькі кардонак, узяла змяты, але чысты лісток і паспрабавала як мага старанней яго разгладзіць, затым яна паслюнявіла невялікі кавалак алоўка і пачала старанна выводзіць літары:

«Мама, тата! Дзе вы? Я так люблю вас. Я хачу есці. Тут мне дрэнна. Сёння зноў узялі ў мяне кроў. Шмат. Мне было вельмі балюча, потым закружылася галава, і мяне адна цётка прынесла ў наш пакой. Цётка плакала...»

У гэты момант нечакана адчыніліся дзверы і ў пакой увайшлі маёр Мойрын, урач-немец і дырэктар інтэрната Вайтовіч, які лісліва тупаў наперадзе маёра:

— Вось бачыце, пан маёр, усё чыста. Падлога вымыта, пасцелі свежыя, адзежа на дзецях вымыта.

— Блех, вошь ёсць? — на ламанай мове спытаў маёр.

— Не, не! Мы за гэтым сочым. Маёр звярнуў увагу на Мішу:

— О, таварыш Міша! Ну як справы? Цябе не білі?

— Не, не білі. Але было балюча, калі ўкол рабілі і кроў высмоктвалі...

Вайтовіч паправіў хлопчыка:

— Не высмоктвалі, а адбіралі. Гэта таму, што ў цябе шмат дрэннай крыві. Цябе ж за гэта ад пуза кормяць!

— Мала.

— Што мала?

— Я ўсё адно есці хачу, і мая сястра таксама.

— Я таксама есці хачу, — заявіў хлапчук гадоў дванаццаці. — Сёння і ўчора казалі, што малако дадуць...

— Так, — умяшалася ў гутарку дзяўчынка, — абяцалі і па шакаладцы даць...

— Маўчаць! — раўнуў Вайтовіч. — Вы, калі трэба, усё атрымаеце. — Ён спалохана паглядзеў на маёра, але той захапіўся тым, што ўбачыў штосьці ў акне.

Вайтовіч супакоіўся. Ён быў упэўнены, што маёр амаль не ведае рускай мовы, а ўрач, які трохі разумее па-руску, не стане перакладаць шэфу, што шакалад Вайтовіч дзеліць з ім.

## Раздзел 15

Атрад Грынёва, стаўшы брыгадай, змяніў і назву. Цяпер брыгада стала звацца «Штурмавая» і дзейнічала ў лясных масівах Плешчаніцкага, Лагойскага, Смалявіцкага і Мінскага раёнаў. Да другой паловы восені 1943 года становішча рэзка абвастрылася. Акупанты відавочна рыхтаваліся да абароны з мэтай адбіць стратэгічныя наступальныя аперацыі Чырвонай Арміі. Партызаны сталі грознай сілай. Гэта адчувалася не толькі па моцных ударах па нямецкіх гарнізонах і па іх нападах на жыццёва важныя для акупантаў транспартныя артэрыі, што прыносіла ворагу велізарную шкоду. Нямецкія генералы здзіўляліся ідэальнай тактыцы лясных байцоў, дакладным узаемадзеяннем атрадаў, злучаных паміж сабой. Нягледзячы на складанае становішча на фронце, нямецкае камандаванне выдзеліла тры франтавыя дывізіі, якія далучыліся да пяці, што ўжо дзейнічалі ў Беларусі, і загадала пакончыць з партызанскім рухам. Камандаванне вермахта выдзеліла велізарную колькасць самалётаў і спецыяльных падраздзяленняў. Аперацыя была буйнамаштабнай. Немцы паставілі перад сабой задачу заблакіраваць у вызначаных раёнах самыя буйныя партызанскія сілы, не даць ім узаемадзейнічаць, дапамагаць адзін аднаму і нават перадыслацыравацца ў іншыя лясныя масівы, выматаць блакадай, пастаяннымі бамбёжкамі і планамерным сцісканнем кола, пазбавіць харчу і боепрыпасаў і, урэшце, расправіцца з імі. Немцы ўжо добра разумелі: не зробяць яны гэта цяпер, значыць, практычна пазбавяць сябе шанцаў на поспех на Усходнім фронце.

Партызаны сапраўды былі ўжо не такімі, як тады, калі яны толькі пачыналі барацьбу. Атрады адрозніваліся і больш высокім узроўнем дысцыпліны, былі добра ўзброены і нядрэнна забяспечаны ўсім неабходным. Кожныя суткі дзясяткі самалётаў з Вялікай зямлі дастаўлялі партызанам вялікую колькасць самага неабходнага. Лясныя аэрадромы не толькі прымалі самалёты, але і адпраўлялі на ўсход сотні дзяцей, параненых байцоў, а таксама дастаўлялі ў Маскву найбольш важных палонных нямецкага войска і іншых краін, якія ваявалі на баку Гітлера. Партызанскае камандаванне выдатна разумела, якую небяспеку ўяўлялі планаваныя дзеянні акупантаў, таму, вядома, вялася праца па здабыванні звестак пра праціўніка. Паспяхова дзейнічала разведвальная сетка на чыгуначных вузлах. Падпольшчыкі ў буйных гарадах увесь час рабілі дыверсіі, нападзенні на важныя аб’екты акупантаў, а таксама на гестапаўскія і паліцэйскія кіраўнічыя цэнтры, здабывалі каштоўныя звесткі, сакрэтныя дакументы.

Камбрыг Грынёў сабраў на нараду камандзіраў атрадаў. Пасля стараннага абмеркавання становішча, якое склалася, прыйшлі да высновы, што неабходна некалькі атрадаў вывесці з кола блакады, каб працягваць дыверсійныя дзеянні на чыгуначных і аўтамабільных магістралях і паступова нарошчваць сілы, падрыхтаваўшы некалькі ўдараў па дэблакіраванні варожага кола. Гэта дазваляла праводзіць адначасовыя ўдары па акупантах з вонкавага і ўнутранага бакоў. Востра стаяла пытанне пра сем'і партызан, якія знаходзіліся ў атрадзе. Асабліва цяжкім было становішча ў атрадах у лагойска-плешчаніцкім рэгіёне. Авіяцыя праціўніка, далёкая артылерыя, выявіўшы месцы, дзе знаходзяцца тылы партызан, і разумеючы, што там жа і іх сем'і, літаральна раўнялі з зямлёй гэтыя ўчасткі. Фашысцкае камандаванне разумела, што пастаянныя бамбёжкі і артылерыйскія абстрэлы наносяць вялікую шкоду сем'ям і тылавым базам партызан. Немцы разлічвалі, што гэта павінна адбіцца на маральным стане байцоў. Акупанты былі недалёкія ад праўды. Партызаны цяжка пераносілі гібель сваіх родных. Каб адпомсціць ворагу за блізкіх, многія былі гатовыя на любы адчайны ўчынак: ахвотна ішлі ў засады, каб максімальна да сябе падпусціць ворага і знішчыць яго. Пачасціліся выпадкі, калі байцы адмаўляліся браць у палон немцаў, знішчаючы іх на месцы, нягледзячы на патрабаванні Масквы: палонных дапытваць, а найбольш каштоўных накіроўваць на Вялікую зямлю. На нарадзе камандзір атрада «Вымпел» Яшын далажыў:

— Сем'і байцоў нашага атрада знаходзяцца ў самым цяжкім становішчы. Праціўніку ўдалося адсекчы наш тыл ад асноўных сіл атрада, і зараз тылавую базу, дзе знаходзяцца сем'і, абараняюць не больш за трыццаць байцоў, прычым гэтыя людзі, як правіла, пажылыя ці ненавучаныя вядзенню баявых дзеянняў. Крыху ратуюць становішча мінныя палі, якія стрымліваюць немцаў, і балоты, на астраўках якіх і хаваюцца нашы блізкія. Штодня вядзецца артылерыйскі абстрэл і рэгулярна бамбяць.

Грынёў схіліўся над картай:

— Дзе цяпер асноўныя сілы атрада і дзе тылавыя часці з сем'ямі?

Камандзір атрада паказаў.

Грынёў зразумеў, што атрад і яго тылавыя службы сапраўды ў вельмі цяжкай сітуацыі.

— Так, становішча складанае, — пагадзіўся Грынёў. — Вы знаходзіцеся бліжэй усіх да Мінска, там развітая сетка дарог, танка-мінныя месцы, не кажучы ўжо пра пяхоту.

— Ды і плошча балот невялікая, — дадаў начальнік штаба, — прычым да кожнага з балот можа ўшчыльную наблізіцца тэхніка.

Грынёў зірнуў на Яшына:

— Іван Пятровіч, а якія ў вас прапановы?

— Шчыра кажучы, Сяргей Іосіфавіч, я ў роспачы, там і мая сям'я, двое маленькіх дзяцей. Усяго дваццаць дзве жанчыны і дваццаць сем дзяцей...

— Мы абавязаны знайсці нейкае выйсце, — сказаў камандзір брыгады, — фашысты іх знішчаць.

— Глядзі, не накаркай, Сяргей Іосіфавіч,— трывожна сказаў Пазнякоў.

Грынёў ізноў звярнуўся да камандзіра атрада:

— Ты ж у пастаянным пошуку выйсця, Іван Пятровіч, што прапануеш?

Яшын схіліўся над картай:

— Ёсць адна мыслішка. Глядзіце, таварышы, якім шчыльным блокам немцы адсеклі атрад ад яго тылавой часткі, нават танкі і браневікі падагналі. Раздзяўбаць іх сіламі атрада практычна немагчыма.

— Тым больш што і атрад твой моцна заблакіраваны з нашага боку, — кіўнуў на карту камбрыг.— У нас у гэтым накірунку няма сіл, каб прабіць пралом у коле ягонага акружэння. Дык якая мыслішка ў цябе ёсць, Іван Пятровіч?

— Глядзіце, з боку Мінска сіл у праціўніка нашмат менш. Там знаходзяцца два батальёны славакаў і два батальёны румынскіх войскаў, батальён літоўскай паліцыі. Па-мойму, ёсць маленькая шчыліна на стыку славацкіх і румынскіх батальёнаў. Калі б атрад «Звязда», які знаходзіцца паўднёвей Мінска, змог скаваць агнём румын, мы маглі б паспрабаваць вывесці жанчын і дзяцей у вёску Пятроўшчына. Там нямала пражывае тых, у каго блізкія ў партызанах. У вёсцы сорак тры двары. З улікам таго, што ўсе жыхары практычна звязаны з партызанамі, здрада малаверагодна. Рызыка, вядома, ёсць...

— І велізарная рызыка, — нягучна сказаў камбрыг. Ён агледзеў прысутных: — У каго ёсць яшчэ меркаванні?

Усё маўчалі, разумеючы сур’ёзнасць сітуацыі.

— Што да атрада «Звязда», то з дапамогай цэнтра мы можам узгадніць узаемадзеянне. — Грынёў паглядзеў на Яшына. — Калі можна пачаць аперацыю?

— Заўтра, Сяргей Іосіфавіч, — сумна ўсміхнуўся Яшын і дадаў: — Максімум паслязаўтра. Вядома, лепш было б раней.

— Давайце так, Іван Пятровіч, заўтра ж пачынайце дэманстраваць праціўніку, што спрабуеце прарвацца да тылоў.

Камбрыг звярнуўся да начальніка штаба:

— Таварыш Пазнякоў, вылучце з рэзерву роту для ўзмацнення атрада Яшына. Неабходна ўзмацніць роту процітанкавымі ружжамі. Дайце ім яшчэ тры адзінкі і пабольш боепрыпасаў. Падрыхтуйце план вываду атрада з акружэння. А вы, таварыш Яшын, — Грынёў паглядзеў на камандзіра атрада, — падрыхтуйце цэлі для ўдару па праціўніку нашай авіяцыяй. Я звяжуся з Масквой, папрашу выдзеліць авіяцыю. Думаю, што добры ўдар у начны час ацвярэзіць праціўніка. Магчыма, заўтра днём авіяцыя ўдарыць яшчэ раз. Наколькі нам вядома, акупанты ў гэтым рэгіёне не маюць магутнай проціпаветранай абароны. Часы змяніліся, зараз і радзіма можа дапамагчы нам авіяцыяй. Запрасім штаб партызанскага руху, я перамоўлюся асабіста з таварышам Панамарэнкам, каб у той момант, калі сем’і будуць пераходзіць у вёску Пятроўшчына, у ноч на паслязаўтра авіяцыя патурбавала немцаў яшчэ разок, ды заадно і румынскія часці.

Пасля нарады начальнік разведкі пачакаў, пакуль усе пакінуць бліндаж, і звярнуўся да камбрыга:

— Сяргей Іосіфавіч, ёсць інфармацыя ад Арлова. Лічу яе вельмі важнай. З Берліна прыйшоў загад. Гаўляйтар ужо прадубляваў яго сваім загадам. Карнікам пастаўлена задача: цалкам знішчыць яўрэйскае насельніцтва на працягу паўтара месяцаў. Машына смерці запрацуе на ўсю катушку. Акрамя таго, па інфармацыі, якая паступіла нам з гестапа, нашаму памочніку Арлову і яго сям’і пагражае смяротная небяспека. Аказваецца, побач пражывае агент гестапа, ён з ліку мясцовых. Сям’і не мае. Для прыкрыцця гестапаўцы далі яму жанчыну з дзіцем. Гэты гад пранюхаў, што ў сям’і Арлова з’явілася маленькая дзяўчынка з яўрэйскай сям’і, якая знаходзіцца ў гета.

Камбрыг і начальнік разведкі ўжо даўно называлі Алену Пятроўну Статкевіч падпольным псеўданімам Арлоў. Грынёў стомлена апусціўся на табурэтку.

— Гэтага яшчэ не хапала! У яе ж шасцёра дзяцей. Што прапануеш, Іван Мікалаевіч?

— Знішчыць здрадніка!

— Гэта не адаб’ецца на іншай аперацыі? Я маю на ўвазе Сёмкава. Вы запытаеце згоду Масквы на акцыю сёння ўначы.

— Так, паўгадзіны назад па рацыі атрымалі шыфроўку, што наш чалавек пранёс у рэзідэнцыю гаўляйтара міну і гатовы ўначы падкласці яе яму ў пасцель.

— Добра, пакліч шыфравальшчыка, запытаем Маскву. Што да першай праблемы, дзейнічай. Гэта трэба зрабіць без прамаруджання. Не забудзься давесці да ведама Арлову. Напэўна, будуць вобыскі, допыты і, крый божа, арышты. І яшчэ. Трэба тэрмінова папярэдзіць усе падпольныя арганізацыі Мінска пра план фашыстаў у адносінах да яўрэяў. Цалкам магчыма, што знішчэнне гаўляйтара затармозіць масавыя забойствы.

У бліндаж увайшоў усхваляваны начальнік штаба:

— Ёсць прыемная навіна, Сяргей Іосіфавіч! Атрад Шпакава, як ты загадваў, падзяліўся на дробныя групы, вырваўся з акружэння і сёння раніцай падарваў эшалон з гаручым і пяццю «тыграмі». А две гадзіны назад нашы хлопцы змаглі літаральна на вачах у немцаў замініраваць мост праз Бярэзіну і падарваць яго ў той момант, калі праходзіў у бок фронту састаў з жывой сілай, артылерыйскімі ўстаноўкамі, пяццю бронетранспарцёрамі і двума танкамі, а таксама з пяццю цыстэрнамі гаручага. Рухнулі ў раку і пад адхон амаль усе вагоны саставу. Агністае пекла працягваецца і цяпер.

— Страты?

— Нуль. Удары былі зусім нечаканымі для карнікаў, якія лічылі, што ўсе партызанскія сілы ў надзейным коле акружэння.

— Усё?

— Не,— усміхнуўся начштаба,— атрад Кірылава ўмела выцягнуў цэлую роту праціўніка і нечаканым ударам знішчыў танк і два браневіка, а таксама не меней як палову роты праціўніка.

Пазнякоў падышоў да стала, дзе ляжала карта.

— Гэта адбылося вось тут. Праціўнік прыпыніў рух у глыб нашай зоны. Кірылаў прапануе частку атрада вывесці праз пралом, што ўтварыўся, з кола акружэння, а большую частку адвесці вось на гэту мяжу. Паглядзі, з флангаў яго не абысці — велізарныя балоты і лес, а подступы да абарончай лініі замініраваць, размясціць шэсць кропак процітанкавых ружжаў, на флангах і ў цэнтры — кулямёты. У Кірылава тры мінамётныя разлікі. Ён прапануе размясціць іх на сялібе, — паказаў на карце, — тут, тут і тут. Немцам будзе цяжка вызначыць іх месцазнаходжанне.

— Правільна! Галава наш Кірылаў. Падрыхтуй шыфроўку ў Маскву. І яшчэ, Павел Міхайлавіч, з Масквы прыйшоў загад разбіць брыгады на батальёны, роты, узводы і аддзяленні.

— Па армейскім прынцыпе? Правільна. Усе нашы сілы пры падыходзе Чырвонай Арміі можна далучыць да яе...

## Раздзел 16

Пасля знішчэння партызанамі гаўляйтара Кубэ ў верасні 1943 года да выканання яго абавязкаў прыступіў генерал-лейтэнант паліцыі, групенфюрар СС фон Готберг. Вопытны паліцэйскі выдатна разумеў, што процідзеянне мясцовага насельніцтва на фоне поспехаў Чырвонай Арміі будзе нарастаць. Генерал да ўказання рэйхсфюрара СС, начальніка паліцыі Гімлера па паліцэйскім забеспячэнні акупаваных тэрыторый аддаў свой загад пра тое, каб

усе камісарыяты камплектаваліся амаль выключна нямецкімі службоўцамі. Готберг вырашыў яшчэ раз паспрабаваць прыцягнуць да барацьбы з супраціўленнем асобных людзей з мясцовага насельніцтва. Забаранялася прымаць у склад мясцовай паліцыі былых камуністаў, камсамольцаў і актывістаў савецкай улады, затое ахвотна прымаць у мясцовую паліцыю асоб, пакрыўджаных савецкай уладай, у тым ліку і асуджаных,— хай нават за цяжкія злачынствы: забойствы, рабаванні, згвалтаванні. Паліцэйскія атрады, якія выконвалі функцыі дапаможнай паліцыі, былі перайменаваны ў службу парадку. Гэта служба павінна была падтрымліваць грамадскі парадак, займацца патруляваннем, ахоўнай дзейнасцю, кантролем за рухам на дарогах. Службы нярэдка фарміраваліся з разліку — адзін паліцэйскі на трыста гараджан. Аасаблівую ўвагу генерал Готберг надаваў органам мясцовага самакіравання — управам. Такім чынам Готберг імкнуўся стварыць бачнасць, што народ сам кіруе сваім жыццём. Але дасведчаны і хітры генерал выдатна разумеў, што пераважная частка насельніцтва ненавідзіць не толькі акупантаў, але і створаныя імі структуры, большасць з якіх складалася з адшчапенцаў грамадства. Ды і ў самога Готберга асаблівага даверу да мясцовай паліцыі не было. Дэзерцірства, дапамога ворагам Германіі пацвярджалі яго асцярогі. Готберг дамогся ад Берліна дазволу перадыслацыраваць у Беларусь, у першую чаргу ў Мінск, для барацьбы з падполлем і, галоўнае, для знішчэння яўрэйскага насельніцтва дадатковыя фарміраванні літоўскіх і латышскіх паліцэйскіх. Готберг не хаваў свайго захаплення дзейнасцю 12-га літоўскага ахоўнага батальёна, які дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі з 1941 года. Такога ж высокага меркавання генерал-лейтэнант быў і пра 11-ты літоўскі батальён і падраздзяленні латышскай паліцыі.

Становішча ў гета пагаршалася з кожным днём. Здавалася, што жыццё стала проста бессэнсоўным. Штодня не меней як дзясятак грузавікоў вывозілі жывых людзей ці трупы загінуўшых у Трасцянец, дзе іх спальвалі. Генерал-лейтэнант паліцыі фон Готберг сваім загадам дазволіў ахове гета рабіць з вязнямі ўсё, што жадаюць. Падчас пагромаў нікога не шкадавалі, хапалі дзяцей ва ўзросце ад шасці да дванаццаці гадоў і кудысьці везлі...

Неяк у сярэдзіне дня ў кватэру, дзе жылі сем'і Рабіновічаў і Левіных, нечакана ўвайшла маладая жанчына. Растрапаныя па твары валасы, парваная вопратка, нават тапкі розныя: адзін — белы, другі — чорны. Госця сказала «дзень добры» і закінула валасы назад. Усе ахнулі:

— Жэня!

Марыя Сямёнаўна ад разгубленасці прысела на перавернутае дагары вядро.

— Жэня! Ты як тут апынулася?! Што з Элачкай? Можа, здарылася што?!

— Усё нармальна, цётка Марыя. Не турбуйцеся за яе. Цяпер у маёй мамы стала сямёра дзяцей. Я ў гета разам з трыма хлапчукамі праз могілкі прабралася. Там сёння падыходы да дрота ахоўваюць паліцаі, а ў мяне сярод іх адзін мой знаёмы, разам у школе вучыліся. Ён падказаў мне зручнае месца, каб я патрапіла сюды. А вось як назад, не ведаю... — Жэня пачала выкладваць на стол буханку хлеба, кавалачак сала, загорнутыя ў тканіну крупы — не меней як кілаграм. — Вось што мы змаглі дастаць, а гэта, — Жэня дастала два гадзіннікі, мужчынскі і жаночы — татаў і мамін. Можа, спатрэбяцца на што абмяняць. Ну, расказвайце, як вы тут?

— Ой, Жэнечка, усе мы тут нябожчыкі! Дзякуй табе за тое, што Элачку выратавала. Застанецца на зямлі наш род,— заплакала Марыя Сямёнаўна.

— Слухайце, а калі Ісаку і Абраму са мной сысці? Вы ж самі бачыце, што немцы не так строга ахоўваюць...

— У тым і справа, што за ўцёк нават аднаго дзіцяці расстрэльваюць адразу трыццаць чалавек: усю сям'ю і суседзяў. Такім чынам яны стварылі сістэму калектыўнай адказнасці. Кантроль усклалі на гамбургскіх і брэменскіх яўрэяў. Акупацыйныя ўлады паабяцалі гэтым яўрэям, што калі яны будуць супрацоўнічаць з імі, то пасля вайны ўсім дазволяць вярнуцца ў Германію. Вось тыя і стараюцца. І людзей хапаць дапамагаюць, і памерлых хаваюць. І нават вызначаюць, каму з мясцовых яўрэяў садзіцца ў душагубку. Людзі так змарнаваліся, што пакорліва садзяцца ў душагубку ці ў грузавік, ведаючы, што іх расстраляюць.

— Тым больш, што тыя, хто з'яжджае, спадзяюцца, што хоць хто-небудзь з родных выжыве, таму і не супраціўляюцца, — падтрымала гутарку Эма Самуілаўна.

— А я, калі ўваходзіла да вас, у двары бачыла жанчыну, яна так рыдала. Хто гэта?

Міхаіл Ісакавіч, які не падтрымліваў гаворку, растлумачыў:

— Гэта з суседняга дома. Там туляцца ў двух пакоях чатыры сям'і. У іх учора ўвечары быў пагром. Немцы і латышскія паліцаі наляцелі, а ўсе жыхары ў маліне схаваліся.

— А што такое маліна?

— Гэта схованка, якую робяць у дамах. Бандыты абшнырваюць дом. Яны забіраюць усё, што ім спадабаецца. Калі ж хтосьці ёсць у кватэры, таго забіваюць. Дзяўчынак, якім дзесяць—дванаццаць гадоў, на вачах бацькоў гвалтуюць і забіваюць, таму ў тых, хто хаваецца ў маліне, закон суровы — што б ні адбывалася ў хаце, сябе не выдаваць ніводным гукам. Звычайна, калі карнікі знаходзяць схованку, усіх, хто там знаходзіцца, забіваюць. А ў гэтай суседкі дзяўчынцы гадок. Яна, калі ўсе знаходзіліся ў схованцы, іх там чалавек дваццаць пяць было, раптам заплакала. Маці змушана была дзеля ратавання іншых людзей, задушыць яе. Вось і даймае цяпер сябе.

— Яна, напэўна, з глузду з'ехала, — выказаў здагадку Абрам і нечакана дадаў: — У нас учора Ісака разам з іншымі дзецьмі немцы і паліцаі павезлі. Два крытыя грузавікі цалкам напакавалі дзецьмі і павезлі.

— Куды павезлі?

— Сказалі, што ў інтэрнат. Усіх іх асабіста адбіраў Ліпковіч. Ён тут лютуе не горш за немцаў.

— Гэта не чалавек, — сумна заўважыла Марыя Сямёнаўна, — ён горш за звера. Смяецца, цешыцца, выслужваючыся перад немцамі, страляе ў адзінакроўных. Я спадзяюся, а раптам Ісака пакінуць у жывых. Усё-такі ў інтэрнат нейкі павезлі.

— Не казалі, што за інтэрнат? Дзе ён знаходзіцца?

— Не, не казалі...

Жэня вызірнула ў акно і схамянулася:

— Ой, мне, здаецца, пара ісці, хутка будуць мяняць варту і мой знаёмы сыдзе.

— Так, так, Жэнечка, ідзі, — амаль хорам падтрымалі яе. Жэня развіталася, прывяла сябе ў ранейшы выгляд, каб, крый божа, ніхто з гэтых звярыных самцоў не звярнуў на яе ўвагі, і выслізнула за дзверы. Яна не бачыла, як усе пасля таго, як пайшла, адразу ж прыняліся за ежу. Дакладней, размеркавалі прадукты на чатыры порцыі. Гэта азначала: усё, што прынесла Жэня, есці будуць чатыры дні запар. Толькі паспелі рассунуць гэта багацце па розных месцах, як у двары грукнуў стрэл. Дарослыя кінуліся да акна. Пасярод двара ляжала суседка, пра якую яны нядаўна расказвалі Жэні. З раны на яе гала-

ве, пульсуючы, проста на зямлю цякла кроў. Побач з забітай стаялі трое: два немцы і Ліпковіч. Яны весела пра штосьці перагаворваліся. Ліпковіч нечакана паглядзеў на акно, ля якога тоўпіліся яго былыя знаёмыя, нешта сказаў немцам і, паправіўшы на плячы вінтоўку, накіраваўся да дома.

— Няўжо да нас? — жахнулася Эма Самуілаўна. — Абрам, хавайся!

Цяжкі тупат падкаваных ботаў пачуўся каля дзвярэй, і неўзабаве ў кватэру ўвайшоў Ліпковіч.

— Ну, і як тут пажывае маё знаёмае жыдаўё? — з нахабна-драпежнай усмешкай гучна спытаў ён. Акінуў поглядам мэблю, сцены з падранымі шпалерамі і падышоў да дзвярэй наступнага пакоя. — Так, шмат вас яшчэ, ох як шмат. Трэба вас рассяляць, каб прасторней было.

— А вы не скажаце, — раптам падаў голас Абрам, выходзячы з далёкага кута, дзе вісела некалькі старых, заношаных паліто, — вы не скажаце, дзе Ісак? Ён хутка прыйдзе дахаты?

— А дзе твая хата? — не адказваючы на пытанне, спытаў Ліпковіч.

— Тут, мы ж жывём тут...

— Ха, хіба табе ніхто не тлумачыў, што тут вакзал, адкуль усе вы адпраўляецеся далёка-далёка, прычым з білетам у адзін канец.

— Гэта вы забілі цётку ў двары?

— Яна дрэнная мама. Яна ж забіла сёння ўначы сваю маленькую дачку. Нябось, ты чуў пра гэта? Вось я і пакараў яе. Як думаеш, я правільна паступіў?

— Не, няправільна! — гучна адказаў Абрам. Ён з нянавісцю глядзеў на паліцая.

— А ну, хопіць! — усклікнуў Міхаіл Ісакавіч. — Спыніся!

— Не замінай, хай кудахча, — абыякава махнуў рукой Ліпковіч. — Ты б лепш сказаў, што новага? У каго з'явілася золатка? Хто жыве не па сродках?

Левін збянтэжыўся, мітусліва правёў рукамі па грудзях:

— Не, нічога мы не ведаем, пан Ліпковіч. Ніхто цяпер, калі нават і засталася якая-небудзь дробязь, нікому не раскажа. Час такі, кожны хоча жыць.

— Кажуць, што тыя, хто прыехаў з іншай краіны, багацейшыя за нас, — умяшалася ў гутарку Марыя Сямёнаўна.

— Э, кінь. Гэта ты таму, што яны нам дапамагаюць, на іх клеплеш. Не забывай, яны ж на іншай мове размаўляюць, як іх зразумееш? Увогуле, так, панове добрыя, дрэнныя і ўсякія там тыпы, даю ўсім вам тры дні тэрміну. Калі за гэты час нічога не выкладзеце мне, усіх на шпацыр вывезу. Спадзяюся, разумееце, што я маю на ўвазе? — Ліпковіч кіўнуў у бок Абрама і паўтарыў: — А гэтага ў інтэрнат.

— А што яны там робяць? — выйшла са здранцвення Эма Самуілаўна. — Туды ж Ісака адправілі...

— Што робяць, пытаеш, адказваю. Служаць Германіі, дакладна служаць, нават не шкадуюць сябе. Спадзяюся, зразумелі мяне? Праз трое сутак зайду, як той казаў, на чаёк. — І ён выйшаў.

Жанчыны гучна расплакаліся, заплакалі і дочкі. Раптам Марыя Сямёнаўна нібы схамянулася:

— Пачакайце, пачакайце! У нас жа ёсць сёе-тое з золата. — Яна ледзь не бягом наблізілася да печкі, адкрыла дзверцы паддзімала і дастала маленькі скрутак.— Вось глядзіце, гэтым мы можам адкупіцца ад Ліпковіча. Хоць бы на кароткі час...

— А далей што? — сумна спытаў Міхаіл Ісакавіч.— Ён жа, як п'яўка, пакуль нашу кроў усю не вып'е, не адстане...

— Ой! — раптам ціха ўсклікнула Марыя Сямёнаўна.

— Што з табой? — наблізілася да яе Эма Самуілаўна.

— Не ведаю. Я раптам захвалявалася, ці не здарылася што з Жэняй? Нейкае нядобрае ў мяне прадчуванне.

...Жэня разам з двума хлапчукамі перапаўзала пад калючым дротам у бок могілак. Яна бачыла сяброўку Свету, якая стаяла сярод помнікаў. У Светы яшчэ не загаілася рана на назе, і яе разам з адным хлопчыкам пакінулі на шухеры. Дзяўчынка імкнулася як мага мацней прыціскацца да зямлі. Калючы дрот не ўсюды шчыльна прылягаў да травы, і дзеці павінны былі падпаўзці пад дрот, не закрануўшы яго. Ахоўнікі гета павесілі на дрот пустыя бляшанкі з-пад кансерваў. Дастаткова было закрануць дрот, як бляшанкі, стукаючыся адна аб адну, грукаталі. Днём ахоўнікаў было менш і пракрасціся на тэрыторыю гета было прасцей, зараз жа набліжаўся вечар, ахова ў такі час заўсёды ўзмацнялася, тым больш гэта ўжо была іншая змена. Жэня паўзла ад хлапчукоў, якія, як і яна, наведвалі сваіх даваенных сяброў. Раптам справа ад Жэні бразнулі бляшанкі. Яна прапаўзала пад дротам і адразу ж замерла на месцы. Адзін з хлапчукоў, які ўжо прапоўз праз перашкоду, не вытрымаў, ускочыў на ногі і кінуўся да могілак. Адразу ж грымнуў стрэл — і хлопчык паваліўся на зямлю. Яго сябар, бачачы, што могілкі блізка, дзе, вядома ж, лёгка схавацца, таксама кінуўся на ўцёкі. Ізноў пачуўся вінтовачны стрэл. Неяк Леанід сказаў Жэні, што гэты бок гета сёння ў вячэрні час будуць ахоўваць латышскія ці літоўскія паліцэйскія.

«Заўважылі, засеклі, — зразумела Жэня. — Рухацца нельга, замры!» — Але ж... Яна ўбачыла нечыя ногі ў ботах.

— А вось яшчэ адзін дзічына! — пачуўся мужчынскі голас. — Давай вылазь і кленчы, шчанюк!

Па тым, як гучалі гэтыя словы з ужо знаёмым дзяўчынцы прыбалтыйскім акцэнтам, падумала: «Не ашукаў Лёнька. Сапраўды, латышы ці літоўцы». Рабіць было няма чаго, яна прасунулася наперад і ўжо за дротам устала на калені.

— Ого! Дзеўка! — пачула яна нечы вокліч.

Павярнуўшы галаву, Жэня ўбачыла, што з таго боку, дзе чуліся стрэлы, падышоў другі паліцай. Як і першы, ён быў апрануты ў форму латышскага паліцэйскага.

— Што з тымі, хто яны?

— Шкеты, але, па-мойму, не жыды. Хоць якая ўжо розніца, стрэлы былі дакладнымі: абодва — напавал.

— Ты хто? — спытаў адзін з паліцаяў.

— Жэня.

— Ты чаго тут лазіш?

— Мы хацелі з хлапчукамі ўбачыць знаёмых дзяцей.

— Ну што, убачылі?

— Я не знайшла.

— А яны?

— Не ведаю.

— Дык што ж ты жыццём рызыкуеш? Тутака ж усюды таблічкі вісяць, што за пранікненне на тэрыторыю — расстрэл.

Жэня ўжо не магла адэкватна рэагаваць на пытанні паліцая. Яна не магла паверыць, што Лёша і Віця, з якімі яна вучылася ў адной школе і жыла недалёка, — забітыя! Яшчэ раніцай яны прыйшлі да Жэні і прапанавалі схадзіць у гета, дзе таксама знаходзіліся іх сябры. Дзеці здзяйснялі такія ж вылазкі не

аднойчы. Вядома ж, Жэня скарысталася выпадкам. Добра, што Света не палезла праз агароджу і цяпер, напэўна, назірае за ёй. Паліцаі размаўлялі паміж сабой на іх роднай мове. Жэня ўлавіла толькі словы «паліцыя» і «гета».

Нарэшце адзін з іх ужо па-руску груба загадаў:

— Уставай, а то сцёгны застудзіш!

— Каму яна патрэбна, — заўважыў другі,— брудная, худая.

— Хай мясцовая паліцыя займаецца, заадно і трупамі зоймецца, — прамовіў другі і загадаў: — А ну, здыхлік, пайшлі! І не ўздумай бегчы, ад кулі не ўцячэш. Зразумела?

— Так, — кіўнула галавой Жэня і раптам спытала: — Дзядзечкі, а як мама мая даведаецца?

— Гэта там, у паліцыі, спытаеш.

— А можна я сяброўцы крыкну, каб яна не чакала мяне і сыходзіла.

— А дзе яна?

— Дзесьці тут хаваецца. Яна не захацела з намі лезці праз дрот.

— І правільна зрабіла, — прамовіў першы і дадаў: — Добра, кліч. Паглядзім, як яна.

Жэнька гучна крыкнула:

— Света, скажы Леаніду, а цяпер сыходзь!

Паліцай груба пхнуў яе прыкладам у спіну:

— А ну, заткніся! Табе было сказана паклікаць яе, а ты, сучка, папярэджваеш, каб яна сыходзіла.

— Ой, дзядзька, вы ж не ведаеце яе, яна такая палахліўка, што, можа, ужо даўно ўцякла, пачуўшы стрэлы. Бачыце, яна нават не адказала.

Жэня была ўпэўнена, што Света нікуды не ўцякла і, вядома ж, чула яе і зразумела, якога Леаніда яна мела на ўвазе. Пра Леаніда яны не аднойчы размаўлялі паміж сабой, лаялі, нават здраднікам яго звалі. А пасля таго, як ён дапамог Жэні правесці па горадзе Элачку, яны яго нават пахвалілі.

Цяпер Жэня ішла за адным паліцаем, а другі з вінтоўкай напагатове рухаўся ў яе за спінай. «Што са мной будзе? — думала Жэня. — Расстраляюць? Павесяць? А можа, у Германію адправяць? Матуля, родненькая, прабач мяне, непаслухмяную».

## Раздзел 17

Палкоўнік Сігаеў і камбрыг інструктавалі сімпатычную жанчыну гадоў сарака. Напярэдадні яе спецсамалётам даставілі з Масквы. Ганна Мікалаеўна, так, прынамсі, яна прадставілася, цудоўна валодала нямецкай мовай.

— Разумееце, Ганна Мікалаеўна, — гаварыў камбрыг, — план, які прапануе Масква, безумоўна, добры, але на яго ажыццяўленне патрэбна шмат часу. У інтэрнаце штодня паміраюць дзеці, дакладней, іх забіваюць. Інфармацыю пра тое, што дзетак хочуць перадыслацыраваць у Трасцянец, дзе дзень і ноч гараць печы, пацвярджаецца цэлым шэрагам крыніц. Нам трэба прапанаваць начальству кароткатэрміновы план. Час не чакае. Праз нашых людзей мы запыталі для вас дакументы для прыкрыцця, легенды практычна гатовыя. Некалькі хвілін назад я атрымаў з Масквы адказ: нам дазволена дзейнічаць па абстаноўцы. Так што вы, шаноўная Ганна Мікалаеўна, не жонка загінуўшага палкоўніка вермахта, а прамая спадчынніца багатага сямейства Хмараў і іх нашчадкаў, чыю нерухомасць «праклятыя» бальшавікі нацыяналізавалі.

Усе неабходныя дакументы, у тым ліку пра ваш радавод і біяграфіі, прыйдуць з Масквы. У бліжэйшыя дні самалёт даставіць патрэбныя даведкавыя

матэрыялы пра маёнтак Сёмкава і пра вашых продкаў. Вам прыйдзецца засесці за вучобу.

— О, Госпадзі, — дзелавіта развяла рукамі госця, — вы ведаеце, колькі разоў мне прыйшлося вучыцца...

— Вось, вось, — усміхнуўся Сігаеў, — трэба заўсёды памятаць выслоўе Леніна: «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца!»

— Так, так, — усміхнулася ў адказ Ганна Мікалаеўна. — Ужо які раз я «яшчэ раз» саджуся за вучобу...

## Раздзел 18

Зіма ў Беларусі выдалася суровая. Нават днём мароз быў амаль такі ж, як ноччу. Снег засыпаў дарогі, і, каб дабрацца да Сёмкава, даводзілася зганяць з суседніх вёсак сялян, якія вялікімі самаробнымі драўлянымі лапатамі рэгулярна два разы ў тры дні чысцілі дарогу. Мала хто з вяскоўцаў карыстаўся жалезнай лапатай. Нярэдка паліцаі, а часам нават немцы адбіралі ў іх лапаты для ўласных патрэб. Нягледзячы на гэта, бывалі дні, калі з Мінска ці з суседніх гарнізонаў у Заслаўі ці Красным у Сёмкава не маглі даставіць гаручае для мясцовага дызеля. Тады маёнтак ахутвала цемра. Салдатам было загадана не карыстацца без пільнай патрэбы ручнымі ліхтарыкамі і асвятленне пастоў абмяжоўвалася вогнішчамі, якімі і абагравалася ахова.

Аднойчы, калі час набліжаўся да раніцы, перапынілася тэлефонная сувязь. І Мінск, і Заслаўе маўчалі. Дзяжурны афіцэр далажыў начальніку — маёру Мойрыну — пра ўзніклую праблему. Той загадаў узмацніць кантроль за ахоўай, выставіць на ўсіх чатырох вышках дадаткова яшчэ па адным салдаце і заявіў:

— Калі да раніцы сувязь не будзе адноўлена, то прымем меры, — і пайшоў дагледзець сон.

Кладучыся ў яшчэ не астылую пасцель, ён прамармытаў:

— Тут вакол гэтулькі гарнізонаў натыкана, што нават мыш не праскочыць.

Але прайшло паўтары гадзіны, і ў дзверы зноў пастукалі. Нацягнуўшы на плечы шынель і ўсунуўшы ногі ў валёнкі — гэта рускае вынаходства,— Мойрын адкінуў дзвярны кручок. У дзвярах стаялі ўрач Паўль Залігер і дырэктар дзіцячага дома Вайтовіч.

— Пан маёр, у нас за няпоўную ноч сканала адразу восем чалавек.

Маёр падумаў, што нават урач пазбягае казаць, што сканалі дзеці. Ён разумеў — тут адбываецца тое, што супярэчыць усім правілам міжнароднага права. Але хто будзе зважаць на ўсе гэтыя ўмоўнасці ў той час, калі ідзе кровапралітная вайна і вермахту патрэбна кроў. Страты на Усходнім фронце велізарныя, параненых шмат, іх трэба ратаваць.

Пасля нядоўгіх разважанняў маёр незадаволеным тонам прамармытаў:

— Вы што, не ведаеце, што рабіць? Закапайце іх дзе-небудзь, а пакуль тэрмінова прыбярыце трупы. Няма чаго палохаць дзяцей і хваляваць іх па начах.

Наведвальнікі пайшлі. Маёр зірнуў на гадзінік: пяць пяцьдзясят раніцы. Спаць ужо не хацелася, і ён заняўся туалетам.

Маёр Мойрын прывык снедаць у сябе ў кватэры. Яна складалася з двух пакояў, кухні, ваннай і туалета. Становішча было даволі камфортнае: у спальні ложак, шафа, трумо, пуфік і крэсла. У другім, большым пакоі, стаяў старадаўні

гарнітур, які прынеслі з адной з палацавых залаў. Зручнае крэсла-качалка, камін, радыёпрыёмнік і дываны ў абодвух пакоях — тут прыемна адпачываць і працаваць. Маёр любіў вырашаць службовыя пытанні ля запаленага каміна, асабліва ўзімку. Ён не любіў бачыць у акне кабінета дзяцей, якіх выводзілі на прагулку. З вокнаў кватэры двор не быў бачны.

Пасля сняданку Мойрын нацягнуў паверх мундзіра вялікі паўкажушок з аўчыны. Нядаўна людзі яго забралі ў сялянскай сям'і, якую падазравалі ў сувязях з партызанамі. Паўкажушак быў амаль новым, грэблівы маёр, не вагаючыся, прыняў яго з рук свайго афіцэра. Мойрын выйшаў у двор, з задавальненнем удыхнуў свежае марознае паветра і хуткім крокам накіраваўся ў спальны корпус.

Пакуль дзеці на прагулцы вентылююць лёгкія, ён вырашыў агледзець гэты корпус. Маёр баяўся аднаго: каб у дзяцей кроў не стала заражанай якой-небудзь хваробай, асабліва сухотамі ці тыфам. Такія хваробы ў гэтых месцах выяўляліся вельмі часта. Каля ўваходу ў корпус маёра сустрэлі ўрач і дырэктар, у якога ўвесь час быў чырвоны нос. Мойрын неяк заўважыў: «У вас, Вайтовіч, думаю, нос счырванеў не толькі ад нянавісці да бальшавікоў».

Убачыўшы маёра, Вайтовіч сцягнуў з галавы шапку і пакланіўся. Яго ліслівыя вочкі, якія бегаюць, гаварылі пра многае. Ды і маёр добра ведаў, што дырэктар інтэрната хвацкі злодзей. Ён краў прадукты і прадаваў насельніцтву, нават у Мінск рэгулярна ездзіў, каб абмяняць кавалак мяса ці шакаладкі на якую-небудзь рэч.

Менавіта гэта акалічнасць не дазваляла маёру выгнаць яго ў шыю ці загадаць расстраляць. «Раз цягне рэчы ў дом, значыць, не ўцячэ да партызан», — слушна думаў Мойрын.

— Ідзіце, Вайтовіч, да дзяцей, глядзіце, каб не пераахаладзіліся. Нам не патрэбны хворыя, — загадаў ён.

У суправаджэнні ўрача маёр пачаў абход пакояў. Першыя тры пакоі яму спадабаліся, і ён задаволена сказаў:

— Чыста. Гэта прыемна. Хто прыбірае?

— Санітарка Вольга.

— Заахвоцьце яе чым-небудзь.

Тым часам Вольга сядзела на ложку Лены і, заліваючыся слязамі, чытала дзіцячы ліст. Дзяўчынка, выгнаная на прагулку, відавочна не паспела яго схаваць. Трымаючы невялікі, спісаны алоўкам кавалачак паперы, Вольга чытала:

«Матуля, мне страшна. У мяне ўжо засталося зусім мала крыві. Учора, калі нас выпусцілі ў двор, я зноў павалілася. Калі я прачнулася, мяне цётка Оля несла на руках у наш пакой і плакала. Мне дзеці кажуць, што мне холадна, таму што ў мяне мала крыві. А дзядзька доктар і дырэктар дзіцячага дома кажуць, што ў мяне яшчэ шмат дрэннай крыві, якую трэба забраць у мяне. Матуля, забяры хутчэй мяне».

У гэта ж час маёр, выйшаўшы з чарговага пакоя, спытаў:

— У нас досыць лекаў ад магчымых хвароб?

— Так, пан маёр! Вось толькі гематагена замала. Дзеці не паспяваюць аднаўляцца.

— Нічога страшнага. Гематаген больш да нас не будзе паступаць. Хутка прыбудзе наступная партыя. Галоўнае — каб не хварэлі, асабліва заразнай хваробай.

— Так, так, я разумею. Але ў нас працуе каля сарака мясцовых жыхароў, не хацелася б, каб яны думалі...

— Кіньце, Паўль, няма ў свеце ката, якога б турбавала, што пра яго думаюць мышы! Мы маем справу з дзецьмі ворагаў, а нашым доблесным салдатам, параненым гэтымі ворагамі, патрэбна, прычым тэрмінова патрэбна, кроў, таму нам не да сантыментаў. Заўважце, Паўль, дзеля гэтага нас трымаюць тут, у глыбокім тыле, у даволі камфортных умовах, а не ў акопах.

— Так, пан маёр, я гэта разумею.

Санітарка, яна ж няня, яна ж прыбіральшчыца, яшчэ толькі паспела выцерці вочы ад слёз, як дзверы адчыніліся, Вольга нават не паспела схаваць ліст.

Маёр рэзка спытаў, а доктар на ламанай рускай мове пераклаў:

— Што ў вас за паперка ў руках? Гэта што, дзеці лісты пішуць?! Вольга ведала, што доктар не ўмее чытаць па-руску, і, падышоўшы да яго, растлумачыла:

— Не, гэта не ліст. Нейкая дзяўчынка выкінула гэту паперку. Яна піша, што тут смачна кормяць, даюць нават малако і шакалад.

Урач не жадаў прызнацца начальніку, што ён можа толькі размаўляць па-руску, ды і то кепска, таму паспешна пераклаў гэтыя словы шэфу і, каб хутчэй перавесці гутарку на іншую тэму, прадставіў Вольгу:

— Вось гэта і ёсць тая санітарка, якая так добра сочыць за чысцінёй у спальным корпусе.

— Колькі вас прыбірае корпус? — спытаў маёр.

— Шэсць чалавек. Але мы не толькі прыбіраем, але і дапамагаем на кухні, двор ад снегу чысцім...

Доктар, ледзь улоўліваючы сэнс, перакладаў.

— Добра. Мне падабаецца ваша праца, — Мойрын паглядзеў на доктара, — Скажыце Вайтовічу, хай выдасць гэтай санітарцы, а можа, яшчэ каму-небудзь па якой-небудзь штучцы. У нас жа на складзе ляжаць нейкія сукенкі, кофты і абутак. Памятаеце, нейкая частка канфіскаванай маёмасці партызан і іх памагатых пасля карнай акцыі летась?..

Маёр і ўрач выйшлі. Вольга зняможана села на ложак, перавяла дых, потым накіравалася да ложка Леначкі, паклала ліст пад матрац, дзе яго выпадкова знайшла. Накіроўваючыся да дзвярэй ледзь чутна, сказала:

— Госпадзі! Што было б з дзяўчынкай, калі б гэты ірад даведаўся, што там напісана.

Сама Вольга, жанчына гадоў сарака пяці, жыла з трыма дзецьмі ў суседняй вёсцы. Муж пайшоў у партызаны, і мінуў ужо амаль год, а ад яго не было ні вестачкі. Трохі супакойвала навіна, пачутая ад сялян пра тое, што атрад, у якім былі іх блізкія, перабазіраваўся ў Віцебскую вобласць.

## Раздзел 19

У невялікай зямлянцы гарэлі дзве газавыя лямпы, падвешаныя пад нізкай столлю. Прама пад імі стаяў стол, збіты з даволі тоўстых жэрдак. Яго паверхня была зроблена з паловы дашчаных дзвярэй і пакрыта льняным абрусам.

У куце стаяў таксама збіты з жэрдак і дошак ложак, дакладней — нары. Замест пярыны выкарыстоўваўся даволі тоўсты матрац, набіты сенам, падушка была відавочна не з пуху. Зверху ляжала тоўстая ваўняная коўдра, з-пад якой тырчалі краі сапраўднай белай прасціны.

За сталом на зэдліку, зробленым з такога ж дапаможнага матэрыялу, уладкавалася Ганна Мікалаеўна. Яна паглыбілася ў нейкія паперы і нягучным манатонным голасам чытала. Калі б хтосьці выпадкова зайшоў у зямлянку, яго ўразіла б, што незнаёмая жанчына чытае і часам як бы вядзе з кімсьці дыя-

лог на чыстай нямецкай мове, але ніхто са староннiх не мог нават зазірнуць сюды. Каля ўвахода ў зямлянку стаяў вартавы. Ён быў узброены аўтаматам, апрануты так, як трэба апранацца, калі моцны мароз, у кажух, на нагах у яго былі валёнкі, а на галаве — шапка-вушанка.

— Я добра памятаю, што ў паўночнай частцы палаца ў нас быў вельмі прыгожы ванны пакой, абліцаваны шэрым мармурам, у сцены былі ўмураваны люстэркі. Так, так, у нас сама ванна была з блакітнага шкла. Гэта зрабіў у далёкія гады ваявода Адам Хмара. А вось у гаспадарскай частцы палаца размяшчаўся кабінет майго таты. Там жа знаходзіліся салонная зала і сталовая на сто персон. Мне тата расказваў, што да 1914-га ці 1915 года ў сталовай вісеў велізарны партрэт мінскага ваяводы ў натуральную велічыню, напісаны, калі мне не змяняе памяць, у 1800 годзе. І наогул, у пакоях палаца знаходзіліся сямейныя партрэты, абразы, бібліятэка і архіў, нумізматычная і зброевая калекцыі, якія аглядалі высокія госці.

Ганна Мікалаеўна адарвалася ад тэксту і схілілася над схемай палаца. Адшукала, дзе знаходзілася сталовая, бібліятэка і іншыя памяшканні, пра якія толькі што прачытала. Паспрабавала ўявіць, што ходзіць па палацы.

Раптам ля ўвахода ў зямлянку яна пачула нейкі шум, і праз секунду пачуўся голас:

— Тук-тук. Можна ўвайсці ў ваш палац, Ганна Мікалаеўна?

Іванова адразу ж пазнала голас палкоўніка Сігаева. Ён, канечне ж, добра ведаў яе сапраўдныя прозвішча, імя і імя па бацьку, але ў атрадзе капітан Сяргеева з’явілася пад прозвішчам Іванова.

— Уваходзьце, уваходзьце, Міхаіл Міхайлавіч,— і, жартам, дадала: — Было б нядрэнна, калі б вы яшчэ і добрую навіну прынеслі.

Яна ведала, што Сігаеў — псеўданім палкоўніка. Як-ніяк у адным глаўку служылі. Але канспірацыя, нават у сваіх, тут, у брыгадзе, — жалезны закон для разведчыкаў.

Палкоўнік зняў са сваёй дужай постаці паўкажушок і разам з шапкай павесіў яго на вешалку, якую замянялі чатыры вялікія цвікі, убітыя ў бярвенне. Набліжаючыся да стала, ён дастаў з кішэні невялікі пакет і, усаджваючыся на свабодную табурэтку, растлумачыў:

— А вось хто вы з сённяшняга дня, мы цяпер разам даведаемся.

— Што, прыйшлі дакументы?

Палкоўнік павольна разгарнуў пакет і, расклаўшы на стале дакументы, адказаў:

— Так, фрау Ганна Фішар. Я даставіў вам вашы выпадкова згубленыя дакументы. Вось ваш пашпарт.— Палкоўнік паклаў перад капітанам пашпарт. — Ганна Фішар нарадзілася 1 лютага 1906 года. — Ён узяў у рукі нейкую даведку.— А вось сведчанне, што вашымі бацькам і маці былі Рамуальд і Марыя Хялкоўскія. — Узяўшы іншыя паперы з пакета, сказаў: — А вось дакументы, якія пацвярджаюць ваша права на спадчыну. Паглядзіце на фота: вашы бацькі і вы ў 1910 годзе, а тут — у 1912 годзе. Як бачыце, фатаграфіі зроблены ў розных пакоях вашага палаца. Праўда, у тыя гады вы былі вельмі няўрымслівым, рухомым дзіцём, таму не глядзелі прама ў аб’ектыў, а захапіліся чымсьці іншым і сачылі за ім. Вось дакументы, якія сведчаць пра тое, што ў 1902 годзе ваш татачка, Рамуальд Хялкоўскі, пабудаваў бровар. Так што вы, фрау Ганна, яшчэ і ўладальніца завода і, напэўна, вінных запасаў, якія, магчыма, яшчэ захаваліся ў патаемным месцы вашай нерухомасці.— Палкоўнік узяў некалькі наступных аркушаў.— А вось дакументы, якія сведчаць пра тое, што ваша сям’я, адразу ж пасля рэвалюцыі, спешна ўцякала ў Германію, а затым

пераехала ў Кёнігсберг, дзе ў вас была нерухомая і рухомая маёмасць. А гэта пра вас асабіста, як члена нашай роднай нацыянал-сацыялістычнай партыі, білет нумар 1200. Як, уражвае? Гэты нумар сведчыць пра вашы вялікія заслугі перад партыяй і рэйхам.

— Ой, і не кажыце, пан палкоўнік, вы нават не ўяўляеце, з якім захапленнем я гляджу на сябе. Толькі адкажыце мне, калі ласка, у Берліне маюцца дакументы ўліку нашай слаўнай партыі?

— Можаце не працягваць, фрау Ганна. На любы запыт пра вас Берлін пацвердзіць вашу інфармацыю і вашы заслугі.

Дарэчы, вось яшчэ адзін дакумент — сведчанні нямецкага палкоўніка Гюнтара, які перад вайной пад выглядам пакупніка збожжа быў у Беларусі і наведваў Сёмкава. У 1941—1943 гадах ён таксама бываў тут. Менавіта ён, прадбачачы неабходнасць здабывання крыві сваім параненым салдатам, рэкамендаваў ваш палац, дзе да вайны быў дзіцячы дом, выкарыстоўваць як дах для стварэння цэнтра па адабранні крыві ў дзяцей. А вось ліст, які ён даслаў вам. Тут ён расказвае пра сваё наведванне Сёмкава, захапляецца архітэктурай палацавага ансамбля і раіць скарыстацца тым, што Сёмкава знаходзіцца ў акупацыйнай зоне, прад’явіць свае правы на гэту нерухомасць. Абяцае пасля вайны прыехаць у госці. Праўда, наш герой не ведаў, што вашы бацькі ўжо даўно сышлі ў свет іншы. Але паглядзіце, як ён пераконвае іх падумаць пра яго прапанову і прыводзіць наступныя дадзеныя: за першае паўгоддзе ў Літву прыбыло 16 300 нямецкіх каланістаў. У 1942 годзе ў акупіраваныя савецкія сельскагаспадарчыя раёны было даслана больш як трыццаць тысяч членаў арганізацыі Гітлер-Югенд для праходжання практыкі ў якасці будучых каланістаў. Вось вы і кінуліся за гэтымі першапраходцамі ратаваць сваю спадчыну. А ліст бравага высокапастаўленага палкоўніка Гюнтара паставіў у вашых ваганнях тоўстую кропку.

— А што я ведаю пра палкоўніка Гюнтара?

— А вам і не трэба ведаць. Бо ні вашы бацькі, ні асабіста вы, фрау Ганна, не сустракаліся з ім і нічога не ведалі пра яго. У лісце ён паведамляе, што служыць у рэйхскамісарыяце «Остланд».

— А гэта што?

— Тэрыторыю БССР нямецка-фашысцкія акупанты падзялілі на шэсць тэрытарыяльных адзінак: тылавы раён групы войск «Цэнтр», генеральная акруга Беларусь, акруга Беласток, рэйхскамісарыят «Украіна», генеральная акруга Літва і, нарэшце, рэйхскамісарыят «Остланд» з адміністрацыйным цэнтрам у Рызе. Вось у гэтую акругу і ўвайшлі генеральныя акругі Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія. Звярніце ўвагу, што ліст палкоўніка Гюнтара напісаны на адрас вашай сям’і 17 лістапада 1943 года. Справа ў тым, што яго камандаванне лічыць, што доблесны будучы генерал загінуў падчас камандзіроўкі ў Мінск. Ён патрапіў пад удар савецкай авіяцыі і напады партызан на станцыі Маладзечна. На самай справе палкоўнік у нашых руках і пад нашу дыктоўку напісаў вам гэты ліст. Зараз апошняе. У інтэрнаце працуе санітаркай мясцовая жыхарка Вольга Іосіфаўна Сялькевіч. Яна старэйшая за вас на дзесяць гадоў. Нарадзілася ў 1896 годзе. З 1914-га па 1917 год працавала ў маёнтку. Добра памятае сям’ю Хялкоўскіх і іх маленькую дачушку. Вядома ж, калі прайшло амаль трыццаць гадоў, яна магла б і не пазнаць ужо дарослую Ганну.— Палкоўнік пляснуў па паперах. — Вось такія справы, дарагая Ганна Мікалаеўна. Пачынайце ўваходзіць у вобраз. Легенда перад вамі. Прывітанне вам ад самага высокага начальства. Яно жадае вам поспеху. Трэба тэрмінова ратаваць дзяцей. Загад з Берліна — калі становішча на фронце для немцаў пагоршыцца,

яны паспрабуюць забіць дзяцей у «душагубках» і газавых печах у Трасцянцы. Так што, рыхтуйцеся. А зараз пайду да камандавання брыгады, трэба яго праінфармаваць. Яму трэба будзе тэрмінова ўсё высветліць пра Вольгу Сялькевіч.

Палкоўнік выйшаў, а «фрау Фішар» дадала святла ў газавых лямпах і прадоўжыла работу.

**Раздзел 20**

Стаялі па-ранейшаму моцныя маразы, было шмат снегу.

Вільгельм Мойрын быў злы, як сабака. Раніцай яму патэлефанавалі з рэйхскамісарыята «Остланд», які размяшчаўся ў Рызе, і папярэдзілі, што ў Сёмкава ў суправаджэнні афіцэра рэйхскамісарыята прыбудзе фрау Ганна Фішар. Яна мае спецыяльныя паўнамоцтвы. Загадалі прасачыць яе бяспеку, але ў той жа час не замінаць яе дзейнасці. Намякнулі на асаблівае становішча гэтай фрау і ў нацыянал-сацыялістычнай партыі, пра што і сведчыць яе партбілет пад нумарам 1200. Палкоўнік, які патэлефанаваў Мойрыну, удакладніў, што яна ў курсе таго, чым займаецца падраздзяленне маёра, і, што яе цікавіць архітэктурны комплекс, бо яна з’яўляецца спадчынніцай і правапераемніцай апошняга ўладальніка Сёмкава. Палкоўнік сказаў, што пра дату, калі прыбудзе госця, і месца, дзе трэба будзе сустрэць, Мойрыну паведамяць дадаткова. Пры гэтым той, хто тэлефанаваў, строга папярэдзіў, што аб тым, што прыбывае фрау ніхто не павінен ведаць, нават у генеральным камісарыяце ў Мінску. Генерал-лейтэнант паліцыі обер-групенфюрар СС фон Готберг толькі аднойчы дазволіў сабе кароткую гутарку з Мойрыным.

Таму, першае, што здзівіла маёра, — тое, што яму зрабілі ласку гаварыць з рэйхскамісарыятам, што напрамую падпарадкаваны імперскаму міністэрству акупаваных усходніх абласцей, які ўзначальваецца рэйхсміністрам Розенбергам. Што гэта? Добры знак? Мойрын жа, выконваючы такую важную і звышсакрэтную задачу, ужо відавочна заседзеўся ў маёрах.

Другое, што прымусіла яго задумацца: «А ці не едзе ў Сёмкава гэтая фрау з праверкай маёй работы? Дзіўна, упершыню ў гутарцы са мной начальства не стала папракаць, што мала забрана крыві, не патрабавала павялічыць колькасць...»

Пачуўся стук, і не паспеў Мойрын аддазвацца, як у кабінет адзін за адным увайшлі ўрач і дырэктар інтэрната.

— Хайль Гітлер! — у адзін голас усклікнулі яны.

— Пан маёр, за ноч памерла шасцёра. Баюся, што, здаючы кроў, яшчэ некалькі памрэ, — сказаў урач.

Маёра раз’юшвала тое, што ўрач пазбягаў казаць «дзеці», а імкнуўся выказвацца інакш.

— Не магу зразумець, Паўль, чаму вы заклапочаны пра здароўе нашых ворагаў? Вы што, забылі ўстаноўку фюрара пра тое, што германізацыі падлягаюць толькі дваццаць пяць працэнтаў рускіх і дваццаць працэнтаў палякаў? Я хачу вам нагадаць пра гэта. І не забывайцеся, што татальнаму знішчэнню падлягаюць усе яўрэі і цыгане. Вы лепш бы патэлефанавалі кіраўніцтву ў Мінску і запатрабавалі больш тавара. Нам патрэбныя новыя партыі дзяцей. Учора мне тэлефанаваў генерал Готберг, а вы ведаеце, ён рэдка размаўляе са мной асабіста, і патрабаваў рэзка павялічыць колькасць крыві, якая здабываецца. Мне не зусім падабаецца, што тых, хто падлягае знішчэнню, накіроўва-

юць у Трасцянец ці іншы канцлагер. Я ўнёс прапанову пра тое, каб найбольш здаровых прапускалі праз донарскія цэнтры, а затым адпраўлялі ў газавыя камеры і печы. Дарэчы, Паўль, у Беларусі да вайны пражывала не меней як мільён яўрэяў. Толькі невялікая частка змагла сысці на ўсход. Астатнія тут, прычым велізарная колькасць знаходзіцца ў гета. Я ўнёс на гэты конт свае прапановы. Зараз вы, Паўль, па сваёй лініі правядзіце гэту работу. Становішча на фронце складанае. Там цяжэй і небяспечней, чым тут, у гэтым ціхім мірным кутку. Ці не так? Ці вы аддаяце перавагу перавязваць параненых на полі бою? Не турбуйцеся, што хтосьці з гэтых дзяцей памрэ. Урэшце, гэта страты ворага. Перакладзіце гэтай шэльме, — маёр кіўнуў, на дырэктара, які стаяў з шапкай у руках,— хай закапае дзе-небудзь памерлых. Так, скажыце яму, што раней трэба выкапаць ямы, а затым, лепш уначы, прынесці і скінуць туды трупы. Няма чаго з-за дробязі распаўсюджваць розныя чуткі.

Дачакаўшыся, пакуль Залігер скончыць перакладаць, Мойрын спытаў:

— Ясна?

— Так точна, пан маёр!

— Ну, тады за работу. Яшчэ скажыце дырэктару, хай менш крадзе шакалад і гематаген, тым больш што ён ужо на зыходзе і больш яго пастаўляць не будуць. Калі будзе ўсё адмаўляць, скажыце яму: мне добра вядома, за што гэты шэльма набыў сабе ўчора на Камароўскім рынку ў Мінску акардэон і патэфон. Скажыце, што калі ён не астыне ў сваіх грахах, то, магчыма, нам спатрэбіцца яго кроў,— і маёр засмяяўся свайму, як яму здалося, удаламу жарту.

Калі Залігер і Вайтовіч выйшлі, маёр выпіў кубак кавы і накіраваўся ў корпус, дзе ў дзяцей забіралі «чорную кроў».

У даволі вялікім калідоры ўздоўж сцяны стаялі хлопчыкі і дзяўчынкі. Іх было чалавек дваццаць.

Дзяжурны афіцэр, які суправаджаў начальніка, растлумачыў таму:

— Сёння апрацоўку пройдуць семдзесят пяць дзяцей. Гэтыя чакаюць сваёй чаргі.

Мойрын павольна прайшоўся перад дзецьмі. Убачыўшы ўжо знаёмых яму брата і сястру, усміхнуўся:

— А, Мішка! Ну як, ты са сваёй сястрой хутка пазбавіцеся ад чорнай крыві? Вам давалі ўчора гематаген?

— Так, маленькі кавалачак на дваіх,— хмурна адказаў хлопчык.

— Ну і як, смачна?

— Мала.

— О так! Ласункаў заўсёды мала.

— А мне не далі, — сказала дзяўчынка, якая стаяла недалёка ад Мішы.— Я не хачу, каб у мяне забіралі кроў. У мяне галава кружыцца, я рук і ног не адчуваю.

Афіцэр-перакладчык, прапанаваў:

— Пан маёр, можа, яе адправіць да заўтра назад?

— Спытайце, колькі ёй гадоў і як яе завуць.

Дзяўчынка адказала:

— Мне восем гадоў. Завуць мяне Роза.

— Ты яўрэйка?

— Так. Я хачу да мамы і таты...

— Добра, — маёр узяў яе за руку і павёў за сабой, павёў у працэдурную,— вось цяпер ты здасі трошкі сваёй дрэннай крыві, а потым пойдзеш у сваю палату гуляць з дзецьмі.

Дзяўчынка паспрабавала ўпірацца, заплакала:

— Я не хачу! Я баюся! Мама!!!

У працэдурнай працавалі пяцёра, усе немцы. Белыя халаты ў некаторых былі ў плямах крыві. Маёр хутка сказаў:

— У гэтай яўрэйкі назапасілася шмат крыві, і яна плача ад жадання аддаць яе да канца.

Адзін з санітараў падцягнуў Розу, якая ўпіралася, і з дапамогай другога санітара паклаў яе на высокі стол.

— Адпусціце мяне! Я баюся! Я не хачу! Я ж памру! — галасіла малая.

Да яе падышлі яшчэ двое і ўжо ўчатырох сталі ўтрымліваць дзяўчынку на стале. Пяты правёў па вене ваткай са спіртам і ўсадзіў у яе іголку. Кроў выцякала вельмі павольна, і санітар пачаў пляскаць па руцэ, пагладжваць ад пляча да далоні, як бы выціскаючы з Розы кроў. Прайшло каля пяці хвілін, Роза раптам перастала крычаць і супраціўляцца і нечакана ўсміхнулася. Кроў перастала нават капаць у мензурку, і немец, які браў кроў, выняў з вены дзяўчынкі іголку і дзелавіта прамовіў:

— Усё. Яна пустая, — памацаў пульс на шыі і выпрастаўся, — яе трэба хаваць.

Маёр кіўнуў галавой і выйшаў з працэдурнай. Накіроўваючыся ў свой кабінет, падумаў: «Трэба тэрмінова прасіць папаўнення кантынгенту, а то мруць, як мухі».

Тым часам, прайшоўшы чарговую працэдуру, Лена сядзела на сваім ложачку ў куце пакоя і, імкнучыся не прыцягваць увагі дзяцей, штохвілінна аглядаючыся на дзверы, ціха плакала. Слёзы падалі ёй на нос, шчокі і на абрывак паперы, які ляжаў на дзвюх, падкладзеных пад яе кардонках.

«Матуля! Дзе ж ты? Хутчэй забяры мяне адгэтуль. Мне дрэнна. Сёння раніцай мяне зноў калолі, маю кроў забіралі ў шкляную бутэльку. Я стала плакаць, а на мяне дырэктар нашага дзіцячага дома дзядзька Павел і нямецкі ўрач сталі крычаць. Яны сказалі, што ў мяне забіраюць дрэнную кроў. А калі днём нам дазволілі пагуляць у двары, я знепрытомнела і павалілася ў снег. Матуля, я люблю цябе. Хутчэй прыязджайце з татам, забярыце мяне, я ж ваша дачушка!»

Раптам Леначка пачула, як рыпнулі, адчыняючыся дзверы і паспешна сунула ліст пад падушку...

## Раздзел 21

Генерал-палкоўнік Яфрэмаў прымаў начальніка аднаго з упраўленняў — генерал-маёра Сляпцова. Кіўнуўшы на крэсла, якое стаяла ля прыстаўнога стала, стомлена прамовіў:

— Прысаджвайцеся, Андрэй Андрэевіч. Як у нас ідуць справы па Сёмкаве?

— Пакуль усё ідзе па плане. Для распрацоўкі легенды капітана Сяргеевай давялося перагалапаціць велізарную колькасць матэрыялу. — Генерал зрабіў невялікую паўзу і ўсміхнуўся. — Мне здаецца, калі б я задумаў напісаць дысертацыю па гісторыі Сёмкава, то з ведамі, якія набыў, зрабіў бы гэта лёгка.

— Ну-ну, падзяліцеся і са мной сваімі глыбокімі пазнаннямі,— усміхнуўся Яфрэмаў і па-сяброўску спытаў: — Што вам удалося высветліць пра ўладальнікаў маёнтка Сёмкава?

— Пасля смерці Хмары маёнткам стаў валодаць яго брат Іяхім, мінскі ваявода. Затым маёнтак перайшоў да сына Іяхіма — Гілярыя — мінскага мар-

шалка, а крыху пазней да яго брата Адама. Дакладны год уступлення Адама ў валоданне маёнткам устанавіць не ўдалося. Але даказана, што гэта адбылося да 1889 года.

— Для нас важна ведаць, хто быў апошнім уладальнікам гэтага маёнтка.

— Для таго, каб гэта высветліць, нашай разведцы прыйшлося прыкласці асаблівыя намаганні. Былі падключаны наша агентура ў Мінску, Вільнюсе, Рызе, рэзідэнты ў Берліне, Вене. Вядома, мы рызыкавалі, падключыўшы такія сілы да гэтай работы. Не змаглі высветліць, ці знаходзіцца архіў у самым маёнтку. Сёння мы сапраўды можам сказаць, што апошнім уладальнікам Сёмкава быў Рамуальд Хялкоўскі. Ён пабудаваў у 1902 годзе ў маёнтку бровар. Нам прыйшлося апытаць мясцовае насельніцтва, у першую чаргу старажылаў. З поўнай упэўненасцю можна сказаць, што сваякоў-спадчыннікаў Рамуальда Хялкоўскага ў Сёмкаве і побач размешчаных паселішчах няма.

— Гэта ўжо штосьці, — задаволена сказаў генерал-палкоўнік. — Але ёсць небяспека, што сваяк Хялкоўскага можа апынуцца ў Мінску, Вільнюсе ці ў іншым месцы.

— Вось таму ў аперацыю падключана Рыга, а не Мінск, гэта гарантуе, што ў сталіцы Беларусі не будзе вядома пра з’яўленне ў Сёмкаве «спадчынніцы» Хялкоўскага. Дарэчы, Віктар Іванавіч, калі памятаеце, я ўжо дакладваў на гэту тэму, мы ўстанавілі цікавую дэталь: увосень 1905 года ў Сёмкава прыязджаў вядомы беларускі паэт Янка Купала. Ён паступіў на працу ў якасці практыканта да вінакура Сарнецкага на бровар абшарніка Хялкоўскага. Звольніўся Купала ў сярэдзіне 1906 года. Кажуць, што ён успамінаў пра гэты перыяд як пра «Пекла цяжкай працы».

— Гэта цікавая дэталь можа спатрэбіцца для ўдакладнення навукоўцамі біяграфіі Янкі Купалы.

— Так, вядома, — пагадзіўся Сляпцоў і працягнуў: — Але гэта яшчэ не ўсё, Віктар Іванавіч. Справа ў тым, што ў Сёмкаве ў 1922—1923 гадах працаваў і адпачываў з сям’ёй Якуб Колас.

— І кім жа ён працаваў?

— Бухгалтарам вопытнай гаспадаркі.

— Цікава. Складзіце пра гэтых паэтаў даведку і перадайце Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку. Магчыма, яму спатрэбіцца.

— Ёсць, таварыш генерал-палкоўнік.

— І яшчэ. Пачынайце падрыхтоўку дакументаў — старыя даведкі, лісты, магчыма, фота Хялкоўскага, яго сваякоў, акружэння, а таксама новыя матэрыялы, якія пацвярджаюць паўнамоцтвы і правы Сяргеевай. Хай спецыялісты будуць уважлівыя з бланкамі, пячаткамі, штампамі і самой паперай.

— Разумею, Віктар Іванавіч. Праявім максімум асцярожнасці.

— І яшчэ, Андрэй Андрэевіч, неабходна ўзмацніць работу па высвятленні месцаў знаходжання канцлагераў, месцаў забойстваў нашых грамадзян, асабліва ўстаноў, падобных інтэрнату ў Сёмкаве. Яшчэ раз дайце разам з галоўным штабам партызанскага руху дакладную ўстаноўку: усім партызанскім атрадам і падпольшчыкам актыўна працаваць па гэтых накірунках. Не так ужо далёка той час, калі фрыцам будзе прад’яўлены рахунак.

Яфрэмаў, застаўшыся адзін, яшчэ раз прачытаў даведку з новай інфармацыяй пра інтэрнат...

***Пераклад з рускай Алеся МАРЦІНОВІЧА.***

***Працяг будзе.***



## Юрка ГОЛУБ

### ВЫНІК

Злавеснае слова «было»,
Як здзекі над лёсам?
Стаіць над таемным білом.
Пілося-лілося…

Спяшаліся прагна любіць.
Памылкі вяршылі.
Здаваўся пагорак любы
Скаронай вяршыняй.

Збягаліся час вырашаць
Задыхана ў зборні.
Яго ж вырашае варштат
І сонца за борам.

Ірваўся юначы хаўрус
Гісторыю здзейсніць.
На плечы накладвалі груз,
Каб несці — не дзесьці.

Выхоўвалі веры наконт:
Да костак даймала.
Дзікунства шпурляла на кон.
Жыццё абдымала.

Падумаеш: гарам гары
З анапестам дольнік.
Дурэе маланка ўгары...
Зайздросная доля.

### ФАНТАСМАГОРЫЯ СТАРОГА ГОРАДА

Уздымае плечуком квартал
Да паддашку змрочныя карнізы.
І раяля чорны футарал
Зачыняе музыкі харызму.

Змоўк вялебны поначы арган.
Вежа стрэлкі ўверсе запыніла.
І дыміцца рыцарскі саган.
Бацька не адхіліць шаблю сына.

Тут Давыд над грывай паўставаў:
Загрудкі хапаліся за Нёман.

---

*__Голуб Юрый Уладзіміравіч__ нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджам» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (2000).*

Попел вельмі доўга астываў,
Ці астыў — дагэтуль невядома.

Нечысць хіжа лезла на муры.
Рабавала…
Драла…
Дратавала…
Горад, ты заўчасна стаў старым,
Хоць цябе і неба ратавала.

Дзе гарматы сцерагуць музей,
Ядры засяроджаны на змесце.
Ты сябе трымаеш на слязе,
А сляза не рухаецца з месца.

## АПОВЕСЦЬ ПРА БУКВАР

**1**

Зноў пачаць з буквара…
Паўтараешся, мусіць!
Наступіла пара:
Падштурхоўвае муза.

Паваенны этап:
Радасць.
Горыч.
І рэзрух.
Не адкінеш, што там
Цені шныраць з абрэзам.

Кніжкі гэтакі лёс:
Дрэвы хутар захутаў,
Кніжку з стрэльбай прынёс
Дужы дзядзька на хутар.

Ён, ляснік і штукар,
Штось з-за пазухі выняў:
Так адбыўся буквар,
Скіраваны на вынік.

Без акладу буквар,
Носьбіт наскае мовы.
Ды буквар быў за дар,
З той прычыны — не ўмоўны.

**2**

Ён — усё-такі — быль!
(Сантыментаў не шкода.)
І прадвеснікам быў
Пачатковае школы.

Там на партах зімой
Замярзала чарніла.
Як скарбонка замоў,
Печка з кафлі дыміла.

Ды найперш з буквара
Адгукалася мама.
Мела казку ствараць
Ёю мытая рама.

Са старонак наскрозь
Працінала, як спевам,
Духам красак і кроз,
Пахам лесу саспелым.

Хто мог думаць тады,
Што адчыняцца сілы —
Адчыняць гарады,
Зачыняць небасхілы.

Вір нябёсаў спасціг.
Дол разгледзеў на сажань.
Ды не вернецца міг
З букваром недасяжным.

## СЛЫХАВОЕ АКНО

Побач лёсы ставілі на кон:
Заплываюць травамі акопы.
На гарышчы слыхавым акном
Заапекавалася эпоха.

Стуль адходзіў пешкі краявід.
Далеч набліжалася крылата.
І палёт уласны не скрывіў
У нябёсах ястрабок рылаты.

Трактар абувалі хлопцы ў трак,
І крактаў балесны над улоннем.

…У гарышча шмат было адзнак:
Вось, напрыклад, серп і апалонік.

Залічыла б следства за пралік,
Што акенца затаілі ў схове.
Трапіць у прыстойны пералік
Не змагло б акенца слыхавое.

…У царкву святочна йшлі жанкі.
(Там цябе хрысцілі «на Пакрову».)
Пастухі глядзелі з-пад рукі
На сукенкі даўняга пакрою.

Па гасцінцы везлі штось на продаж.
Узлятаў лістотаю лясок,
Пэўна, з ашалелаю лісой,
Што брахала ўчора на калодзеж.

Дробязь. Але чуеш з-за акна:
Конікі кавадла асачылі.
І забіты з-за вуха вухналь,
Не іначай, як адвагі чыннік.

Часам засцілала белы свет
Хмары навальнічнае навала.
Лета грэбла з-пад таполі снег,
А зімой чаромха расцвітала!

Расцвіце й касмічны васілёк.
Вабнае.
Крынічнае.
Гагарын.
Выраі вярталіся здалёк,
І буслы любіліся папарна.

Распіраў прастору дзюбай грак.
Там Зальвянка паглынала жэрліц.
І махаў рукой табе вятрак,
Як анёлак, па-над вёскай Жэрна.

## БАЛАДА ВОСЕНІ

Восень абарвала ўсе канцы
У пралогу медналістай драмы.
Вунь яе вятрыстыя ганцы
Грукаюць у вулічную браму,

Вастрыём пажарнай каланчы
Перахрысцяць, як на здраду, флюгер.
І прычынай на злавесны чын
Зарыпяць і фугі, і фрамугі.

Парк у мех драпежны заграбуць,
Як падатак года на маёмасць.
Жарабцы пад бронзаю храпуць —
Ім умоўнасць зроду невядома.

І каб звесці белы свет на скрут,
Залічыць жаданае за подзвіг,
Дык запаляць пад усходам трут,
А пажар сустрэнуць на заходзе.

Ім — што свіснуць — горад абакраць,
Зачыніць на засаўку калодзеж!
Мусібыць, зачыняць небакрай
І крыж-накрыж вокны закалоцяць.

## ВІР

Яшчэ ў Адэльску жыў вятрак
І рыбы мелася навалам,
Ляцелі лодкі на вятрах,
А млынам неба кіравала.

Апала сонца булава.
Патужыў рыбачок папружку.
І вецер хвалі габляваў
І гнаў сябе паперад стружку.

На плёсы плюхала вада,
А плёскат бавіўся ў зарэччы.
Ды чаек плач па невадах
Заўсёды вуху недарэчны.

Мянушка выспы «Сахалін».
Туды зацята пяўся човен.
Вось так імкнуцца да былін,
Назад вяртаюцца — ні слова…

Закруціць жорны белы вір —
Млынар мясцовых звад і баек,
І ходзіць з шапкай набакір,
Пра лёс тутэйшы ані дбае.

## ПАД ЛЁДАМ

Над прошчай чорны мост завіс.
Над ім сузор'яў сны кішэлі,
Ды ў іх кароткі жыццяпіс
У неба цёмнага кішэнях.

Мароз муры загартаваў,
І камянелі сцены нанач.
А крыгі вецер згуртаваў
І захаваў пад імі Нарач.

Збылася мара ездака,
Бо надакучыла прастойваць.
І ў сані кінула рука
Сянца пахучага ад стога.

Дзе след рыбацкі загавеў,
А чайкі трызнілі палётам,
Над лёдам свішча снегавей,
Ды цёпла возеру пад лёдам.

## ПАЭМА

Узгоркі. Паддашак нябёс.
Стукоча няспынна гадзіннік.
Ды помніцца жыта найбольш,
Куды нас валошка вадзіла.

## СВІТАЕ

Стаіць асенні Нёман:
Стамілі сенакосы.
Ты тут, як незнаёмец,
Або сваяк ускосны.

Яго стаяць глыбіні:
Згубілі плёскат вёслаў.
Ды не! Хлапцы згубілі,
Адчайныя на вёснах.

Світае склюд наранку,
Знячэўлены начамі.
І Нёману фіранка
Акенца адчыняе.



**Георгій МАРЧУК**

# СВЯТЫ ГРЭШНІК

*Камедыя-фарс у 9 карцінах*

**Дзеючыя асобы:**

**Пётр Пятровіч Самасейка** — 40 гадоў. Сціплы і ўпарты.

**Алена Нічыпараўна** — яго грамадзянская жонка, 38 гадоў. Актыўная.

**Лера Міхайлаўна** — яго былая жонка, 38 гадоў. Хітрая.

**Ларыса Іванаўна Чмель** — прадаўшчыца праязных дакументаў тралейбуснага парка, 35 гадоў. — Незлаславая.

**Фёдар Рустамавіч** — яе муж, кантралёр тралейбуснага парка, 43 гады. Нецярпімы да чужой думкі.

**Вацлаў Янавіч Скараход** — уладальнік прыватнай друкарні, 60 гадоў. Заклапочаны.

**Міхаіл Кірылавіч** — памочнік мэра, пазней намеснік мэра, 40 гадоў. Зух-кар'ерыст.

**Святлана** — прэс-сакратарка мэрыі, 27 гадоў. Ні тое, ні сёе.

**Маргарыта Карлаўна** — суседка Пятра Пятровіча, 55 гадоў. Гаваркая.

**Падмануты ўкладчык** — 45 гадоў. Свой хлопец.

**Агітатар** — 25 гадоў. Шукае сябе і грошы.

*Месца дзеяння — вялікі горад, дзесьці паблізу.*
*Час дзеяння — вясна капіталізму.*

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і інш., шэрагу п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

## Карціна першая

Аднапакаёўка Пятра Пятровіча.

Ён з жонкай марыць трапіць у сярэдні клас, але пакуль што знаходзіцца бліжэй да галечы, чым да заможнасці. Перад адкрыццём заслоны чуецца надакучлівы званок будзільніка. Вось ужо і заслона, а будзільнік не змаўкае. Пётр трасе яго, накрывае капелюшом, падкідвае ўверх, ловіць — безвынікова.

Уваходзіць жонка Алена, кідае мужу падушку.

**Алена.** Заткні яму горла.

*Пётр накрывае будзільнік падушкай. Цішыня. Паўза.*

**Пётр.** Фу-у… Вось так і жыццё наша, не зведаеш пакуты — не зазнаеш радасці цішыні, шчасця.

**Алена.** А ўсё ж праз нашу галечу. Не можам назбіраць на новы будзільнік. Харчы ды камунальныя паслугі ўсё з’ядаюць. Дзе твой заробак?

**Пётр.** Шэф затрымлівае. Абяцаў выдаць за два месяцы адразу.

**Алена.** Пракляты капіталізм. Вось табе адно яйка, бутэрброд з лівернай каўбасой і пакецік чаю на абед.

**Пётр.** І ўсё?

**Алена.** І каб пакецік назад дамоў прынёс. Скарыстаеш увечары. Якія прыбыткі, такія і выдаткі. Няўжо табе не сорамна, што твая жонка атрымлівае больш за цябе?

**Пётр.** Сорамна. Сорам упрыгожвае чалавека.

**Алена.** Упрыгожваюць чалавека грошы.

**Пётр.** Шэф сказаў, заказы пойдуць, азалацімся.

**Алена.** Не смяшы. Спазніліся. Усе залатыя месцы алігархі падзялілі, хто ж нас да карыта дапусціць?

**Пётр.** Возьмем сваё. А грошы на талон?

**Алена.** Як? Ты ж заўчора радаваўся, што купляў талон на тралейбус, і прадаўшчыца ў шапіку замест аднаго дала табе два талоны. Дзе ён?

**Пётр** *(не адразу).* Яго няма.

**Алена.** Ты яго з’еў, ці што?

**Пётр.** Не.

**Алена**. Дык дзе дзеў?

**Пётр** *(не адразу).* Вось. *(Працягвае ёй газету.)* Чытай.

**Алена** *(чытае).* Высакародны ўчынак супрацоўніка друкарні Пятра Пятровіча Самасейкі. Гэта ты на фотцы?

**Пётр.** А то.

**Алена.** Чаго ты смяешся? Вось на такіх як ты ваду возяць капіталісты. Дон Кіхот знайшоўся. Навошта на наступны дзень талон вярнуў назад? Гэта той шапік, што ля рынку?

**Пётр.** Так.

**Алена.** Яна нішто сабе. Што ў цябе з ёю?

**Пётр.** Ды нічога.

**Алена.** Да талона?

**Пётр.** Нічога.

**Алена.** Пасля талона?

**Пётр.** Нічога.

**Алена.** Марнатраўца! Ці ж з табой трапіш у Маямі? Усе звар’яцелі. Мітусяцца, паўсюдна шукаюць дадатковы долар, эканомяць соль… дзяўбуць табе пра крызіс… зацягніце пасы... а ён дармавым талонам раскідаецца.

**Пётр.** Ён жа мне руку паліў. Я ўначы спаць не мог. Гэта ж злачынства.

**Алена.** Усе крадуць. У нас грамадзянская вайна. Не абдурыш ты, дык цябе ашукаюць, не змухлюеш ты, дык у цябе ўкрадуць. Сумленна яшчэ ніхто вялікіх грошай не зарабіў.

**Пётр.** У мяне свабоду, сумленне, радасць жыцця ніхто не скрадзе. Хіба ж гэта не шчасце?

**Алена.** У хуткім часе і тваю свабоду купяць. Не прымушай мяне злавацца, а то бутэрброд адбяру. Можа, хоць голад навучыць цябе круціцца.

Званок.

Чакай. Я адкрыю. Мне сорамна цябе людзям паказваць.

Пётр кіруецца на кухню. Алена ідзе ў пярэдні пакой і вяртаецца з суседкай Маргарытай Карлаўнай.

**Маргарыта Карлаўна** *(працягвае газету).* Чыталі?

**Алена.** Што і казаць… Ганьба.

**Маргарыта Карлаўна.** Увесь раён хвалюецца, увесь горад на вушах. Мне затэлефанавала пляменніца, яна ў мэрыі робіць… Кожную хвіліну трэба чакаць дэпутацыі ад мэра. Гэта ж імідж грамадства, высокакультурны, еўрапейскі пасыл інвестарам… не бойцеся ўкладваць мільёны, паказаць прадпрыемствы, іх ніхто не скрадзе. Пётр сімвал і гарант. Віншую.

**Алена.** А нам што, карысць якая?

**Маргарыта Карлаўна.** Трэба вучыцца рабіць грошы з паветра.

**Алена.** А на яго не будуць глядзець, як на вар’ята? У газеце пішуць, што такога выпадку, паводле слоў кіяскёркі, ніколі не было, а яна восем гадоў працуе.

**Маргарыта Карлаўна.** А нават калі і так. Лаві момант. Падтаквай тым, хто лічыць яго вар’ятам, падтаквай тым, хто лічыць яго высакародным.

**Алена.** Баюся, карысці ніякай не будзе. У нас усё надта ж хутка забываюць.

**Маргарыта Карлаўна.** Людзі змяніліся. Долар зрабіў сваю справу. Я нават змясціла сваю фотку ў інтэрнэце на сайце знаёмстваў, можа, спакусіцца які адстаўны канадзец ці сыты бюргер. Я ж пацукоў завяла на продаж… а хочацца ж жыць яшчэ і не дзеля пацукоў.

Званок дамафона.

А вось і госці. Алена ідзе сустракаць гасцей.

Уваходзяць Міхаіл Кірылавіч, сучасны франт, і Святлана.

**Міхаіл Кірылавіч.** Дзень добры ўсім. А дзе ж наш герой?

**Алена.** Тут ён. Пётр Пятровіч!

Уваходзіць Пётр.

**Міхаіл Кірылавіч.** Дзень добры, Пётр Пятровіч. Давайце знаёміцца, памочнік мэра горада Міхаіл Кірылавіч, прэс-сакратар Святлана.

**Пётр.** Вельмі прыемна.

**Міхаіл Кірылавіч.** Дарагі Пётр Пятровіч, ад імя і па даручэнні мэра горада дазвольце перадаць вам падзяку нашага кіраўніка, уручыць гэты сціплы падарунак — тэфлонавую патэльню, букет кветак і запрашэнне на прыём з нагоды свята горада.

**Алена.** Мама… трымайце мяне… павалюся.

**Міхаіл Кірылавіч.** Кіраўніцтва горада ганарыцца вашым высакародным, бескарыслівым, высокадухоўным учынкам, які паслужыць прыкладам для моладзі. Складзіце спіс вашых бытавых праблем, паспрабуем вырашыць… льготныя крэдыты, рамонт і іншае.

**Маргарыта Карлаўна.** Ён у нас вельмі абазнаны. Энцыклапедыст.

**Міхаіл Кірылавіч.** Наш прэс-сакратар напіша пра вас кнігу.

**Святлана.** Гэта трэба пакінуць для нашчадкаў.

**Міхаіл Кірылавіч.** На злосць і на зайздрасць ворагам вы даказалі, што ёсць яшчэ порах у парахаўніцах, і наша палітыка — усё дзеля чалавека, усё дзеля яго духоўнага развіцця — слушная.

**Алена.** Мы стараліся. Я яму ўвечары замежжа па тэлебачанні глядзець не дазваляла.

**Міхаіл Кірылавіч.** Увесь свет **заблытаўся** ў карупцыі, агрэсіі, распусце… гэта праўда.

**Алена.** Ён і на суботніку заўсёды першы.

**Міхаіл Кірылавіч.** Кампрамату няма. Гэта добра. Ёсць перспектыва балатавацца ў Дзяржаўную Думу, Парламент. Я перадам мэру. Мы маем на мэце Фонд заснаваць… Шукаем надзейнага чалавека. Абаперціся няма на каго… ці апазіцыянеры, ці з двайным дном. Падумайце. А-а, ледзь не забыўся. *(Дастае з сумкі.)* Асабісты падарунак ад мэра… ваза *(варыянт — лыжы).*

**Маргарыта Карлаўна.** Кітайская?

**Святлана.** Па ліцэнзіі.

**Міхаіл Кірылавіч.** Яшчэ раз ад усёй душы. Дзякуй. *(Абдымае Пятра Пятровіча.)*

**Святлана.** Пётр Пятровіч, калі мы пачынаем працаваць над кнігай?

**Пётр.** Ды хоць сёння. Прыходзьце ў друкарню на адрас 3-ці завулак Першага Прэзідэнта 2-й Рэспублікі Францыі.

**Алена.** Няма куды спяшацца. Тут будзеце пісаць.

**Святлана.** Вось мая візітная картка.

Пётр узяў картку, але Алена адразу ж забрала яе сабе.

**Алена.** Мы патэлефануем.

**Святлана.** Да пабачэння.

**Пётр.** Да пабачэння.

Святлана ідзе.

**Алена.** Бач ты фіфа… На гатовае.

**Маргарыта Карлаўна.** Зараз модна да чужой славы прымазацца.

**Алена.** Хай для мужчынскага часопіса аголенай здымецца… тады і будзе слава. А тут пакуль што я гаспадыня.

**Пётр.** Прыемная жанчына.

**Алена.** Ты яшчэ пагавары ў мяне. Аднак жа, Маргарыта Карлаўна, не ўсіх жа запрашаюць на прыём. Там жа і паслы з жонкамі будуць… Пазыч на новую сукенку.

**Маргарыта Карлаўна.** А я да цябе ішла пазыку прасіць. Трэцюю частку пенсіі пацукі з'ядаюць.

**Алена.** Добра. Калі так… Трымай дзесяць доларaў. Але каб доларамі і вярнула.

**Маргарыта Карлаўна.** Пра што гаворка. Без доларaў ты ўжо і не чалавек.

**Пётр.** Ты мне на талон усё ж такі выдаткуй.

**Алена.** Добра. Трымай туды і назад. Не трэба сёння пешшу вяртацца. Убачу цябе з гэтай шылахвосткай… Адкручу… вуха.

Пётр ідзе.

**Маргарыта Карлаўна.** Пашанцавала табе, суседачка, зайздрошчу. Там жа і асятрынка, і сёмга, ікорка, турэцкія ласункі…

**Алена.** Баюся, каб ад гэтага шчасця бяды не нарабілася.

**Маргарыта Карлаўна.** І добра. Цяпер без піяру і сантэхніка не запрасіць.

**Алена.** Я пра іншае. Ён жа з першай жонкай не развёўся.

**Маргарыта Карлаўна.** Ты што!

**Алена.** Угу. Мы гэтыя пяць гадоў у грамадзянскім шлюбе. Яна дагэтуль у кватэры прапісаная. Калі прачытае ў газеце…

**Маргарыта Карлаўна.** Цяпер ніхто нічога не чытае. Ну, можа, яшчэ адсочвае курсы валют ды пра раманы зорак чытае.

**Алена.** Яна спрактыкаваная. Вой, неспакойна на душы, вой-вой…

**Маргарыта Карлаўна.** Таму і хапай сваё. У нас жа як: сёння ты герой, а заўтра цябе і ва ўпор не бачаць...

**Алена.** Твая праўда. Такі шанец рэдка надараецца. Толькі б яго мымра не ўведала.

***Зацямненне.***

## Карціна другая

Аднапакаёўка Фёдара і яго жонкі Ларысы.
З галечы выбіліся, заможнасці не дамагліся.
Ларыса сядзіць пры стале. Яна разглядае газету.
Фёдар у навушніках. Ён вывучае англійскую мову. Фёдар шпацыруе вакол стала, раптам зрывае навушнікі і кідае іх на стол.

**Ларыса** *(палохаецца).* Што здарылася?

**Фёдар.** Не, не… не. Пасля сарака гадоў вывучаць замежную мову супрацьпаказана. Не атрымліваецца.

**Ларыса** *(гартае падручнік*). Паспрабуем па-ранейшаму. *(Фёдар сядае да стала.)*

**Фёдар.** Майн нейм Фёдар.

**Ларыса.** Майн нейм із Фёдар. Добра. Як твае справы?

**Фёдар.** Гаў дую ду.

**Ларыса.** Не гаў… а хаў ду юду.

**Фёдар.** Хаў ду юду.

**Ларыса.** Мая жонка Ларыса.

**Фёдар.** Шы із май вайф Ларыса.

**Ларыса.** Выдатна. І вымаўленне пераймаеш. Цяпер больш складанае. Гадавое абарачэнне нашага тралейбуснага парка складае восем мільёнаў долараў.

**Фёдар** *(задумліва).* Бізнэс ау тралейбус парк із… цьху… Не буду ламаць галаву. Стаміўся. Як будзе «мільён»?

**Ларыса.** Так і будзе.

**Фёдар.** Галава ідзе кругам, клёпак не хапае... ціск скача.

**Ларыса.** Дык навошта табе гэта англійская?

**Фёдар.** Жанчына жыве адным днём. Глядзі ў корань. Усё прыватызуецца. Патаемна. Простыя людзі часцей за ўсё нават і не ведаюць, хто ў іх гаспадар. Не за гарамі прыватызацыя і нашага тралейбуснага парка. Трэба ведаць мову сваіх будучых гаспадароў. А то як сабаку ў беспрацоўныя і цю-цю.

**Ларыса.** Калі яшчэ тое свята будзе.

**Фёдар.** І вокам міргнуць не паспеем. Зноў у Амерыцы індэкс Доў Джонса знізіўся.

**Ларыса** *(не зразумела).* А колькі гадоў гэтаму Джонсу?

**Фёдар.** А чорт іх ведае. Гадоў восемдзесят.

**Ларыса.** І чаго ты хочаш ад старога? Маладыя зараз імпатэнты.

**Фёдар.** А ты адкуль ведаеш?

**Ларыса.** Дык у газетах жа пішуць.

**Фёдар.** І то праўда, я ж чытаў.

**Ларыса.** Я табе на фотцы падабаюся? Праўда, добра атрымалася? Я ж сабе цану ведаю, нос бульбай і вочкі маленькія… А тут прынцэса.

**Федор.** Не пра тое гаворыш.

**Ларыса.** Не зразумела.

**Фёдар.** Мужчынскі розум здольны абагульняць. Не ведаю, як мы тваё падзенне і тваю ганьбу пережывём.

**Ларыса.** Бог з табой, якое падзенне?

**Фёдар.** Абагульняць трэба, аналізаваць. Увесь тралейбусны парк ты з гэтым ідыётам падставіла. Паглядзі на мае рукі — яны ў мазалях. З шасці раніцы і да дзевяці вечара ў тралейбусе. Лаўлю зайцоў. Шэф абяцаў перавесці ў галоўныя механікі. А тут сюрпрыз. Учора гаворка была. Прафсаюзы надзьмуліся. Каго, кажуць, выхавалі?

**Ларыса.** Ды я парку верай і праўдай, у спёку і ў маразы ў гэтым шапіку, на сухамятцы.

**Фёдар.** Гэта ацанілі. Але… адзін няправільны ўчынак і жанчына можа нізка ўпасці. Вам на ўсё напляваць... а спытаюць… каму трэба, хто за ўсім сочыць… Лайдацтва на працоўным месцы, няўважлівасць… кідаецца гэтымі талонамі, як сваімі. Дабрадзейка.

**Ларыса.** Я выпадкова. Ён спяшаўся. Проста аўтаматычна… Усю ноч не спала, ты памятаеш, зуб балеў.

**Фёдар.** Ну, гэта ўжо лепей. Так і будзем адказваць. Што ў цябе з ім?

**Ларыса.** З кім?

**Фёдар.** З гэтым цельпухом? Ён хто? Былы палюбоўнік? Бомж? Каго ты пашкадавала, усунула два талоны, калі чалавек адзін прасіў?

**Ларыса.** Ды які ён мне палюбоўнік? Знаёмы твар. Штодзень купляе.

**Фёдар.** Я, ты ж ведаеш, раўнівы. Сам Бог патрабуе, калі розніца ва ўзросце 10 гадоў. І памятай — мой прапрадзед — турак.

**Ларыса.** Я спадзяюся, ты не Рыгор Мелехаў, ходзіш без шаблі?

**Фёдар.** Пакуль так. Наточваюць. Дык хто ён?

**Ларыса.** Ён вучыўся ў нашай школе… на тры гады старэйшы.

**Фёдар.** Калі ласка, ужо з адной школы.

**Ларыса.** І ўсё. І чамусьці купляе заўсёды адзін талон.

**Фёдар.** Вярні яму талон. Скажы, што ён памыліўся… У цябе ў справаздачы ўсё ў парадку. Цяпер чапляюцца за кожную дробязь. Хап… і не працягнуць кантракт.

**Ларыса.** Я і не падумала пра гэта.

**Фёдар.** Абагульняй, аналізуй… думай пра будучае, кожная дробязь мае свой сэнс. Так усім і кажы, маўляў, дзіўны чалавек, вар'ят нейкі, лох.

**Ларыса.** Грэх нагаворваць на чалавека.

**Фёдар.** Ён не святы. Сёння святых няма**.** Цяпер замест Дон Кіхотаў рахунак у банку, а замест ветракоў — атамныя электрастанцыі. Гэта ў нашых інтарэсах. Паднімуся па службовай лесвіцы, забяру цябе ва ўпраўленне. Дзе талон?

**Ларыса.** У мяне.

**Фёдар.** Знайдзі гэтага штукара і вярні яму талон.

**Ларыса.** Вой… Нейк… Далібог…

**Фёдар.** Дзеля нашай будучыні.

**Ларыса.** Добра. Паспрабую. А газеты? У навінах тэлебачанне паказвала.

**Фёдар.** А што газеты? Яны сілы не маюць. З раніцы прачыталі, паўздыхалі, павохкалі, а да вечара забыліся**.** Трымайся каля моцных гэтага свету, багатых ды высокіх чыноўнікаў… ад іх залежым. Абагульняй, аналізуй.

**Ларыса.** Вой… о часы, о норавы. *(Тэлефонны званок. Ларыса бярэ мабільнік.)* Дзень добры, Святлана Леанідаўна.

**Фёдар.** Хто гэта?

**Ларыса.** Прэс-сакратар мэра. Піша пра Пятра Пятровіча кнігу.

**Фёдар.** Спрытнюгі. Чаго яна хоча?

**Ларыса.** Сустрэцца са мной, пагутарыць. Ты выключыў дамафон, яна ля пад’езда.

**Фёдар.** Трэба быць асцярожным. Хай уваходзіць, я адчыню.

**Ларыса.** Прабачце, мы ўключаем дамафон. Кватэра 173, шосты паверх.

Званок дамафона.
Фёдар уваходзіць разам са Святланай.

**Святлана.** Добрай раніцы.

**Ларыса.** Добрай раніцы.

**Святлана.** Даруйце, святочны дзень… але літаральна некалькі хвілін. Акрамя кнігі, дзве газеты заказалі артыкулы пра Пятра Пятровіча. Незвычайны поспех. Мэр горада зарэгістраваў Фонд «Справядлівасці і маралі» і даручыў узначаліць яго Пятру Пятровічу. Такім чынам ён цяпер медыйная персона.

**Фёдар.** Ды вы сядайце да стала. Кава, чай?

**Святлана.** Кава, калі можна.

**Фёдар.** Для дарагой госці.

Фёдар ідзе на кухню.

**Святлана.** Ды вы не хвалюйцеся. Я ўключу магнітафон, і мы будзем гаварыць пра жыццё, Пятра Пятровіча, працу, не чапаючы прафкам, палітыку, уладу, Міжнародны валютны фонд, бамбардзіроўкі Паўночнай Афрыкі, алігархаў Расіі, сексуальныя меншасці, разводы артыстаў, гастарбайтараў, русафобію, патрыятызм, сцяну на мяжы Ізраіля… Пагаворым толькі пра сутнасць чалавечай душы, пра вашы ўражанні. Які ён — гэты супергерой нашага супярэчлівага часу.

Фёдар з-за Святланінай спіны паказвае жонцы жэстамі, маўляў, асцярожна, больш маўчы.

**Ларыса.** Дык так адразу і не ўзгадаю ўсяго. У школе быў непрыгожы. Апошнія пяць гадоў ён амаль штораніцы купляе ў нас талон. Апрануты прыстойна. *(Фёдар робіць знакі.)* Значыць, бедна. Нейкі знерваваны ўвесь. Любіць прыстрашыць… а чаму, кажа, у вас у шапіку піва не прадаюць.

**Святлана.** Нават так. Ён быў грубым, некультурным, як усе, і раптам душа прачнулася. Ён звяртаў на вас увагу, запрашаў на спатканні?

**Фёдар** *(не вытрымаў).* Ды заляцаўся ён. Нахабнік. Маньяк нейкі. Праходу не даваў. Яна план не выконвала. Ідзі, кажа, прынясі мне піва, калі ў шапіку не трымаеш.

**Святлана.** Гэта новыя дэталі.

**Ларыса** *(ёй няёмка).* Ну, не зусім так… Але штосьці дзіўнае ў гэтым сапраўды ёсць.

**Фёдар.** А я пра што.

**Ларыса.** Кажу, купляйце праязны. Не, адказвае, мне, кажа, прыемна штодзень купляць талон.

**Фёдар.** Псіхічнае захворванне. Манія велічы, гіпертрафіраванае пачуццё ўласнай годнасці. Кожны заляцаецца да баб як умее. Гэты прыдумаў праз талон.

**Ларыса.** Аднойчы спытаў… Кажа, а вы не ведаеце, на Маямі ёсць талоны?

**Фёдар.** Што ты на гэта скажаш? Шызік. Яму да псіхіятра трэба, а не фонд узначальваць.

**Святлана.** Вы прачнуліся знакамітай. Не абцяжарвае слава?

**Ларыса.** Ды як бы і не. Хоць… абцяжарвае. А можа, не.

**Фёдар.** Мы людзі звычайныя, законапаслухмяныя. Валютных укладаў у банку не маем. Жывём ад заробку да заробку.

**Святлана.** Ларыса Іванаўна, бачу ў вас сёння няма настрою. Вас штосьці спалохала, вы гаварыць не хочаце. Прапаную працягнуць размову заўтра. Прабачце. Не ідзе гаворка. Загадкавы гэты тып Пётр Пятровіч. Дзякуй за каву. Прабачце. Да пабачэння.

Фёдар праводзіць Святлану. Паўза. Фёдар вяртаецца.

**Фёдар.** З гэтымі пісакамі трэба вуха трымаць востра. Панапісваюць такога, што ад сораму на вуліцу не выйдзеш. Апазіцыйнай прэсе ні гу-гу… тым толькі дай магчымасць прычапіцца. Вярні яму талон. І памятай, аналізуй, абагульняй, шукай схаваны сэнс. Каму выгадна, калі ты рот раскрываеш, і каму выгадна, калі ты маўчыш. А я пайду з прафсаюзным босам у лазню твой грэх замольваць.

**Ларыса.** Замольваюць грахі ў царкве…

**Фёдар.** І праўда. Аналізуеш. Пайду твой грэх змываць. Памятай, мой прапрадзед…

**Ларыса.** Памятаю. А мой прапрадзед запарожскі казак. Турак ты пракляты. Надакучыў ужо сваёй рэўнасцю.

***Зацямненне.***

## Карціна трэцяя

Кватэра Пятра Пятровіча. На стале стос канвертаў. Пётр стаміўся, схіліўся над сталом і спіць. Цішыня. Толькі гучна цікае будзільнік, што стаіць на стале ля галавы Пятра. Асцярожна ўваходзіць Лера. Апранута яна эфектна.

**Лера.** Ау-у… хто тут жыве? *(Пакідае ля ўвахода чамадан на калёсіках, падыходзіць да Пятра.)* Спіць, мой небарака… і нічога не падазрае *(танчыць па кватэры пад гукі духавога аркестра, які грае вальс «Осенние листья»).* Ну, вось я ў роднай краіне, у родным доме. Нічога не змянілася, акрамя паху таннай парфумы. Мы тут адновім еўрапейскую дэмакратыю. *(Лашчыць па галаве Пятра.)* Пятруча мой… сівы.

Раптам пачуўся гук будзільніка. Пётр спахапіўся, закрывае гадзіннік рукой, папкай, канвертамі. Лера бярэ гадзіннік у рукі — і званок перарываецца.

**Лера.** Нават будзільнік чакаў маёй рукі і толькі маёй.

**Пётр** *(здзіўлена)*. Хто ты?

**Лера.** Як табе не сорамна… Лера, твая адзіная, законная жонка.

**Пётр.** Адкуль?

**Лера.** З Рыма. У інтэрнэце натрапіла на тваё раскручанае імя… спадар дырэктар фонду… і вось шызакрылая галубка прыляцела да свайго Патрыка.

**Пётр.** А як жа… твой Джузепе?

**Лера.** Усё скончана. Я заставалася вернай табе, нават тады, калі паехала з ім. Дзе гарачыня, там усе лайдакі. Ён імпатэнт. На ягоную пенсію мы нават прыслугу не трымалі. Я, каб зарабіць на білет, даглядала цяжкахворых. Жах, кашмар. Усё гэта глупства праз маладосць. Як толькі абвясцілі пра перамогу капіталізму, усе мае сяброўкі падаліся на Захад, думалі, там рай. Але як высветлілася, і ў раі трэба еўра, многа еўра… Жыла ўспамінамі. (*Запрашае яго на танец.*) Памятаеш наш выпускны ў паліграфічным вучылішчы. (*Спявае.*) «Сильнее разлук тепло твоих рук, мой верный и преданный друг». Матка Свента, ты захаваў маё медзведзяня. *(Бярэ аксамітавага мядзведзя, цалуе.)* Памятаеш, усё памятаеш? Танцавальная пляцоўка. Мы адны. І наш любімы раманс (*напявае*) «Наш уголок еще совсем не тесен. Еще нальем в бокалы мы вина. Не уходи, еще не спето столько песен, еще звучит в гитаре каждая струна».

**Пётр.** Памятаю, але мінулае ўжо не хвалюе.

**Лера** *(нібыта не чуе яго слоў*). Ах, любы, нават замкі ў дзвярах не памяняў. Верыў, што я вярнуся! Жанчыне часам трэба дараваць дробныя грахі, тады яна робіцца лепшай. Ты зрабіўся такім вядомым чалавекам у горадзе… Я так трагічна памылілася, каюся. Думала, ты са свайго падвала ў друкарні, дзе наразаеш паперу, ніколі не вылезеш на сонца. *(Бярэ са стала тэлеграмы.)* Свенты Езус…. Тэлеграмы... з усяго свету... Нават нейкі адзін гуру з Індыі, знакаміты вандроўнік, які зараз у акіяне. На маю думку, у акіяне талоны непатрэбныя. Родная школа… Запрашэнне на прыём… з жонкай. Як я своечасова прыехала!

Уваходзіць Алена з торбамі.

**Алена.** Здурнеў. Дзверы адчынены. Што ты сабе думаеш? Хто гэта?

**Пётр.** Лера з Італіі… мая першая жонка.

**Алена.** Па-моему, жонка я, а гэта чужы чалавек.

**Лера.** Даражэнькая, вы памыляецеся… Я адзіная жонка. Бо разводу не было і штамп у пашпарце захаваўся, і прапісана, дарэчы, у гэтай кватэры…

**Алена** *(выцягвае канверты)*. Вось… вось два вашыя лісты з Італіі… ён нават не ўскрываў канвертаў.

**Лера.** Ён чытае на прасвет.

**Алена.** І вось што… хто пяць гадоў не жыве ў кватэры, губляе на яе права.

**Лера.** Гэта сацыялістычныя казкі. Такіх законаў няма. Ваш грамадзянскі шлюб увогуле незаконны.

**Алена.** Я з яго чалавека зрабіла. Ён быў беспрацоўным год і два дні.

**Лера.** Смешна. Я яго ўзяла, калі ён азбукі да канца не ведаў. Не слухай яе, мой козлік

**Алена.** Гэта яе не слухай, маё ягня.

**Лера.** Прачніся. Не слухай яе, маё цяля.

**Алена.** Яна на гатовае прыехала… не слухай яе *(не ведае, як назваць)*, мой парсючок.

**Лера.** Ты чуў, так? Ты ўсё чуў? Яна назвала цябе свіннёй!

**Алена.** Ды свіння разумнейшая за цябе.

**Пётр.** Стоп. Хвіліну. Вы тут пагаварыце… А ў мяне дзелавая сустрэча.

Пётр выходзіць.

**Алена.** Гадаўка, ты чаго прыцягнулася? Чаго табе там не хапіла? Апельсіны, бікіні, мандарыны, папа на балконе.

**Лера.** Пазнаю радзіму. Ніякага еўрапейскага такту, правоў чалавека.

**Алена.** Я пытаю, дзе ты была, калі мы пакутавалі з гэтымі перабудовамі, перазагрузкамі, стагнацыяй, дэвальвацыяй, інфляцыяй, прастытуцыяй… Ён у мяне толькі яек шэсць тысяч штук з'еў і кіло сто ліվернай каўбасы.

**Лера.** Мне было сорамна прызнацца, што я трапіла ў суцэльную залежнасць ад Джузепе.

**Алена.** Дачакалася б смерці і атрымала б спадчыну.

**Лера.** У яго плойма дзяцей: ад Неапаля да Калугі. Чакаю, чакаю, а ён усё не памірае.

**Алена.** Дык ты прыехала давесці да смерці першага мужа?

**Лера.** Усе правы на яго ў мяне.

**Алена.** Ёсць яшчэ адно права — каханне.

**Лера.** Даражэнькая, якое каханне ў сорак гадоў. Усе жывуць толькі сексам і грашыма.

**Алена.** Ён асаблівы. Кажуць, нейкая новая духоўная субстанцыя.

**Лера.** Створым секту новага святога Патрыка. Многія абалванены, а дзяржаву можна паспрабаваць і падаіць, яна добра доіць.

**Алена.** А стары Патрык дзе? Ты кажаш — новы.

**Лера.** Цемра. Стары ў Ірландыі. Ён у іх святы, а наш у нас, ірландцаў падаіць можна…

**Алена.** Хопіць яму і фонду. І без таго ад скаргаў задыхнемся. То семінары, то сімпозіумы, то на радыё, то ў турму, то ў міліцыю, то ў Саюз пісьменнікаў.

**Лера.** Слава — шлях да прыбытку. Дарэчы, запрашэнне на прыём з жонкай, а законная жонка — гэта я… цябе не пусцяць.

**Алена.** Я сукенку новую… я грошы аддала. Аддай білет! *(Пачынае сілком адбіраць білет. Ходзяць кругом стала. Нарэшце, ухапіла Леру за валасы.)* Гадаўка… не ламай маё жыццё. Аддай!

Уваходзіць Маргарыта Карлаўна і бачыць бойку, дзівіцца, палохаецца і пачынае крычаць.

**Маргарыта Карлаўна.** Дапамажыце! Дапамажыце! Людцы! Злодзеі! Забіваюць! Ратуйце!

Лера і Алена спыняюцца.

**Алена.** Цішэй. Не палохай суседзяў.

**Маргарыта Карлаўна.** Лера? *(Здзіўлена.)* Лера, ты?

**Лера**. Я, Маргарыта Карлаўна. *(Абдымаюцца і цалуюцца.)* Усе. Усе тут мяне чакалі.

**Маргарыта Карлаўна.** Назаўсёды?

**Лера.** Назаўсёды.

**Маргарыта Карлаўна.** Чаго бойку распачалі? Пятра не падзялілі?

**Лера.** Ага.

**Маргарыта Карлаўна.** Дарэмна. Вам лепей аб’яднацца… так бы мовіць, дзве партыі ў адну, адзіную.

**Алена.** Я беспартыйная. І гэту гадаўку ў дом не пушчу ўсё роўна.

**Лера.** Каб табе крэдыт ніколі не выплаціць.

**Алена.** А каб табе крэдыт ніколі не далі.

**Лера.** Каб ты ўлетку ватнай коўдрай накрывалася.

**Алена.** Шоб ты ўзімку ў адной сукенцы хадзіла.

**Лера.** Каб у цябе вада ва ўнітазе не злівалася.

**Алена.** Шоб у цябе ўнітаза ўвогуле не было.

**Маргарыта Карлаўна.** Дзякуючы эгаізму жанчына квітнее, але часам ён яе можа згубіць. У парку за столікам у кавярні пад гукі духавога аркестра ваш Пётр Пятровіч міла размаўляе, з кім бы вы думалі?..

**Алена.** З журналісткай?

**Маргарыта Карлаўна.** З прадаўшчыцай шапіка, якой ён аддаў білет.

**Алена.** Як? Хто дазволіў?

**Маргарыта Карлаўна.** Яна можа скрасці яго ў вас абедзвюх, як падказвае мне маё параненае мужчынамі сэрца.

**Алена.** Трэба нешта рабіць.

**Лера.** Прыватны дэтэктыў дорага возьме. *(Выцягвае невялікую відэакамеру.)* Пакуль трэба засняць на відэа. Кампрамат ніколі не пашкодзіць.

**Алена.** Вы так думаеце?

**Лера.** Усе яны лавеласы. Бессаромнік… ён жа і мне прызначаў спатканні ў гэтым парку, у гэтай кавярні. *(Грае духавы аркестр.)*

**Алена.** І я прыходзіла туды.

**Маргарыта Карлаўна.** Ягоныя густы не мяняюцца… Нават усе паненкі ў яго на Л — Лена, Лера і апошняя Ларыса. Замірыцеся. Я так люблю, калі вакол спакой і гармонія. Першы муж быў алкаголікам. Здаралася, адчыніць акно і крычыць: «Адарвіце Барысу дзетародны орган, ён разбурыў Саюз». Ганьба.

**Лера.** А суседзі? Трывалі, маўчалі?

**Маргарыта Карлаўна.** Усе пляскалі ў ладкі.

**Лера.** Цяпер пра свае беды праз вокны не крычаць. У інтэрнэт усё зліваюць.

**Алена.** Пасадзіць могуць. Трэба дазвол на мітынг браць.

**Маргарыта Карлаўна.** Замірыцеся. Пацалуйцеся і дзейнічайце разам. (*Алена і Лера неахвотна, але цалуюцца.*) І дзякуй богу. Фонд нікому не аддавайце. Мяне да сябе вазьміце, хоць вахцёрам, хоць прыбіральшчыцай… пайду.

**Лера.** Я не супраць. Ах, Казанова.

**Алена.** Хто?

**Лера.** Патрык наш.

**Алена.** А хто гэта Казанова?

**Лера.** Ды ў Італіі бабнік такі быў калісьці, скакаў з ложка ў ложак.

**Алена.** І шо бабы… не кастрыравалі яго?

**Маргарыта Карлаўна.** Хо. За гэта не кастрыруюць.

**Алена.** Усе мы нічога не вартыя. Але я сваё вазьму.

**Лера.** Ды і я сваё не згублю. Час — грошы. Трэба ўсё паспець, пакуль крызіс не прыціснуў.

***Зацямненне.***

## Карціна чацвёртая

Веранда кавярні ў парку. Два столікі. За адным сталом сядзяць Пётр Пятровіч і Ларыса, за другім — уладальнік друкарні Скараход і Падмануты ўкладчык.
Скараход п’е з бакала піва.

**Падмануты ўкладчык.** Вось. *(Выцягвае з партфеля папкі.)* І яшчэ вось. Доказы. Хіба ж гэтага мала? Дапамажы мне. Ты незалежны ад бюджэту, ад дзяржавы — прыватны ўласнік. Родная для мяне душа. Першая запаведзь павінна быць такой: накармі галодных, дапамажы слабым.

**Скараход.** Не табе, а тваёй жонцы… далёкі сваяк.

**Падмануты ўкладчык.** Чаму простага чалавека ніхто не хоча падтрымаць? Зразумець таямніцу чалавека, яго прагу подласці.

**Скараход.** Людзі разумнейшыя за цябе і тыя раней адмовіліся ад гэтай задумы. Дваццаць хвілін ты мне не даеш спакойна папіць піва. У мяне ў самога праблем поўна… Што трэба канкрэтна? Я не пракурор, не мэр. Што?

**Падмануты ўкладчык.** Надрукуй у сваёй друкарні ўлётку. Ускрый язву. Я сам разнясу па ўсім горадзе… Трэба ўзнімаць народ. Балбатня вакол.

**Скараход.** Гэта справа палітычная… Я палітыкай не займаюся. Праўда, не дае спакойна піўка папіць. (*Бярэ куфаль з півам і ідзе.)*

**Падмануты ўкладчык.** Цьфу… пячкур капіталізму.

Ларыса нюхае букецік канвалій.

**Ларыса.** Дзякуй, Пётр Пятровіч, даўно ніхто не дарыў канвалій. Я тое-сёе з сабой узяла.

**Пётр.** Што?

**Ларыса.** Здагадайцеся.

**Пётр.** Можа, фота нашай школы?

У гэты час да століка, за якім сядзіць Падмануты ўкладчык, падыходзіць Фёдар Рустамавіч і сядае спінай да століка, за якім сядзяць Ларыса і Пётр.

**Ларыса.** Не.

**Пётр.** Можа, ваша фота на фоне Эйфелевай вежы?

**Ларыса.** Не. Я прынесла ваш талон, які так нечакана паяднаў нас. *(Дастае з сумкі талон.)* Можа, ён вам трэба?

**Пётр.** Ды не. Я ўспомніў. Вы мелі ў сёмым класе рудую шыкоўную касу.

**Ларыса.** Гэта праўда. Я вас запомніла на выпускным. Усе хлопчыкі былі пры гальштуках, а ў вас чырвоная «бабачка».

**Пётр.** Яна і цяпер са мною.

**Ларыса.** Прышпіліце.

**Пётр.** Неяк недарэчы.

**Ларыса.** Вельмі прашу. *(Пётр Пяровіч прышпільвае чырвоную «бабачку».)* Брава. Вы амаль не змяніліся.

**Пётр.** Вы думаеце?

Ларыса бярэ свой сотавы тэлефон (мелодыя песні «Ландыши»).

**Фёдар.** Аддай яму талон, не балбачы лішняга… не люблю.

**Ларыса.** Добра, дарагая, я перазваню.

Уваходзіць малады чалавек, на грудзях і на спіне ў якога партрэты кандыдата на пасаду мэра.

**Агітатар.** Падпісвайцеся за кандыдатуру дэмакратычнага кандыдата. Падтрымаем змену ўлады ў горадзе. *(Падыходзіць да Пятра і Ларысы.)* Рабіцеся смялейшымі, не бойцеся нікога, падтрымайце нас, пастаўце подпіс.

**Пётр.** Няма пытанняў. Давайце.

**Агітатар.** Вось. Адрас тут. А вы, жанчына?

**Ларыса.** Не ведаю. У нас муж усё вырашае.

**Агітатар.** Пры нашым мэры горш не будзе.

**Ларыса.** Давайце. *(Ставіць свой подпіс.)*

Агітатар ідзе да стала Фёдара і Падманутага ўкладчыка.

**Агітатар.** А вы падпішыцеся?

**Фёдар.** Ён мне нічога благога не зрабіў.

**Падмануты ўкладчык.** Хадзі сюды, давай. Я падпішу. Мяняць усіх і ўсё мяняць. Усё. Не народ для ўлады, а ўлада для народа.

Падмануты ўкладчык падпісвае. Агітатар ідзе.

**Падмануты ўкладчык.** Вось паглядзіце. Бачу, вы чалавек дзелавы, смелы. Вось перапіска. Я двойчы падмануты ўкладчык. Адзін раз, другі… народны кантроль, падатковая… усё дарэмна, адпіскі. Яны ўсе павязаны. Кругавая парука, а хто ніжэй, той баіцца страціць пасаду. Мяне кінулі. Маю кватэру двойчы прадалі. Я без кватэры, разумееце? Хто кінуў? Падрадчык. А хто падрадчык? Родны брат мэра.

Уваходзіць Агітатар. На яго грудзях і плячах партрэт ужо іншага кандыдата.

**Агітатар.** Збіраем подпісы за кандыдата ад левых сіл.

**Пётр.** Мы аднойчы падпісвалі ўжо.

**Агітатар.** Гэты абяцае больш… усё нарабаванае вярнуць.

**Пётр.** Падпішу і за гэтага. *(Падпісвае.)*

**Агітатар.** Далоў прызначэнцаў.

**Пётр.** Чакайце. Колькі вам плацяць за адзін подпіс?

**Агітатар.** Левыя — долар, а лібералы — тры. Хіба ж гэта грошы?

**Пётр.** Праўда. *(Агітатар ідзе.)* Ларыса Іванаўна, мне здаецца, што мужчына за суседнім столікам надта ж пільна назірае за вамі.

**Ларыса.** Не думаю. Можа, хай усё-такі талон будзе ў вас?

**Пётр.** Лепш у вас. Хадзем. Я люблю духавыя аркестры.

**Ларыса.** І я. А можа, няёмка? Адны?

**Пётр.** Трэба рабіць тое, што хочацца. І ўсё-ткі, ён нас падслухоўвае.

Устаюць з-за століка і пачынаюць танчыць...

**Падмануты ўкладчык.** Я іх выведу на чыстую ваду. Я ў Страсбург, у Гаагу напішу. Я архітэктар, праектую сіласныя ямы. У мяне двое дзяцей і жонка на дзвюх работах. Яны думаюць, простага чалавека можна беспакарана прыніжаць, калі сувязей няма. Ды без маіх сіласных ям вы застанецеся без малака. Усю зіму без малака — я вам гарантую.

**Фёдар.** Я вас разумею, але дапамагчы нічым не магу.

**Падмануты ўкладчык.** Пратэстуйце. Чаму ў нас адмянілі страйкі? Хай жыве Першага мая! Скончыўся пралетарый, і скончылася салідарнасць.

**Фёдар.** Я вас разумею.

**Падмануты ўкладчык.** Вас запалохалі, але не мяне.

**Фёдар.** Звярніцеся да ўплывовага чалавека, калі ёсць такі.

**Падмануты ўкладчык.** Ёсць. Але ён не прыме. Ён заняты.

**Фёдар.** Бачыце вунь таго чалавека, які танчыць з дамай?

**Падмануты ўкладчык.** Так.

**Фёдар.** Гэта той, хто вам патрэбен. Старшыня Фонду «Справядлівасці і маралі». Знакаміты Пётр Пятровіч Самасейка.

**Падмануты ўкладчык.** Штосьці я такое чуў. Дык гэта ён?

**Фёдар.** Так. І ён дапаможа вам.

**Падмануты ўкладчык.** Дык я проста цяпер і падыду.

Набліжаецца, штосьці кажа Пятру Пятровічу.
Музыка змаўкае.

**Пётр.** Прабачце, Ларыса Іванаўна, я перагавару з чалавекам.

Пётр Пятровіч і Падмануты ўкладчык ідуць да століка, сядаюць.

**Ларыса.** Я разумею.

**Фёдар** *(падыходзіць да яе).* Не марудзь.

**Ларыса.** Ён не бярэ талон.

**Фёдар.** Добра. Дома пагаворым. Расквітнела ўся, хоць ты пад вянец вядзі. Балерына.

Фёдар ідзе. Ларыса сядае за суседні столік.

**Падмануты ўкладчык** *(з паперамі).* Вось тут усё пазбірана. Усе разумнікі. Калі вы шчыры абаронца народа… яго сумленне, паўстаньце… справядлівасць павінна жыць!

**Пётр.** Абавязана.

**Падмануты ўкладчык.** Можа, гэта смешны пафас… але… з мяне робяць вар'ята, сабралі кампрамат. Гэта ж трэба… уведалі, што на мяне ў пятым класе звалілася навагодняя ёлка, пашкодзіла, маўляў, мазгі…

**Пётр.** Цалкам згодны. Падрыхтуйце копіі дакументаў і прынясіце да нас у офіс фонду, вось вам мая візітка.

**Падмануты ўкладчык.** На вас апошняя надзея. Спыніце дэградацыю народа, які з'язджае з глузду.

**Пётр**. Мяняюцца часы, грамадства мяняецца, прырода чалавека.

**Падмануты ўкладчык**. Але сонца на месцы, месяц, зоркі, зіма-лета — пастаянныя. Так і сумленне пастаяннае ў кожным грамадстве.

**Пётр.** Цалкам згодны. Прыходзьце.

Падмануты ўкладчык ідзе.

**Ларыса.** Неспакойная ў вас пасада. Вас пазнаюць ужо… і кожны са сваім болем.

**Пётр.** Такі мой крыж. Пагуляйма?

**Ларыса.** З задавальненнем.

Уваходзіць Святлана.

**Святлана.** Пётр Пятровіч, нарэшце я знайшла вас. Дзень добры, Ларыса Іванаўна. Усё справы ды справы, а ў мэрыі прыспешваюць, пытаюць, дзе кніга. Прадмову піша сам мэр. Як добра, што вы разам. Размаўляйце пра што заўгодна, вольна, незалежна… Я побач з магнітафонам… Натуральнасць і нязмушанасць упрыгожаць старонкі будучай кнігі. Мэр выдаткаваў добры

грант. Загадаў кінуць рэкламу ў інтэрнэт. Усе чакаюць. Вы не супраць, калі мы пагуляем разам? Час бяжыць.

**Пётр.** Калі ласка…

**Святлана.** Дзякуй. Вы заўсёды джэнтльмен.

Грае духавы аркестр.
Ларыса, Святлана і Пётр Пятровіч заглыбляюцца ў парк.
Уваходзяць Лера і Алена.

**Алена.** Не заўважыў, думаеш?

**Лера.** Ды не. На яе глядзіць.

**Алена.** Сфатаграфавала?

**Лера.** Так. Хай будуць візуальныя доказы. На каго прамяняў. На каго…

**Алена.** Я зірнула на яе… дык на мяне ікаўка напала.

***Зацямненне.***

## Карціна пятая

Офіс Фонду «Справядлівасці і маралі».

Перад тым, як адкрыецца заслона, гучыць туш у выкананні духавога аркестра. Заслона адхінулася. Алена і Лера трымаюць за канцы чырвоную стужку. Святлана падае Міхаілу Кірылавічу нажніцы. Ля стужкі Пётр Пятровіч, Маргарыта Карлаўна, Скараход.

Намеснік мэра, цяпер ён ужо не памочнік, пераразае разам з Пятром Пятровічам чырвоную стужку.

Усе пляскаюць у ладкі.

**Міхаіл Кірылавіч.** Дарагі Пётр Пятровіч, уручаю вам ключы ад вашага офіса. Мы спадзяёмся, што ён зробіцца тым апірышчам духоўнасці, высакароднасці, школай абароны справядлівасці, правоў чалавека, якія ніколі не бываюць залішнімі ў грамадстве кожнай краіны. Хвалі агрэсіі, зайздрасці, чалавеканенавісніцтва, хцівасці, прагнасці не ведаюць межаў. Яны на парозе нашага грамадства. Прыміце віншаванні ад мэра. Як кажуць, у добры шлях. Цяпер гэты будынак належыць вам. Хто падтрымлівае ўладу, таго і ўлада падтрымлівае. Наперадзе новыя далягляды!

**Пётр.** Дзякуй. Усім шампанскага.

Маргарыта Карлаўна нясе на падносе бакалы з віном.

**Міхаіл Кірылавіч.** Паказвайце апартаменты. Як уладкаваліся?

Пётр Пятровіч, Святлана, Міхаіл Кірылавіч,
Маргарыта Карлаўна ідуць аглядаць офіс.

**Скараход.** І хто б мог падумаць? Крута, вельмі крута. Пакуль усе шукаюць шчасце, ён ужо ўсіх апярэдзіў. Фартуна.

**Лера.** Цяпер адна нацыянальная ідэя для ўсіх: узбагачайцеся.

**Скараход.** І я распесціўся, хацеў узняцца на кнігавыданні. Знайшоў аднаго мадэрніста маладога, надта ж назва яго рамана крыклівая, прываблівасць стопрацэнтная была. «Двое ў туалеце без унітаза».

**Алена.** Надта ж смела. І што?

**Скараход.** Не пайшла аднак…. Праляцеў.

**Лера.** Кан’юнктуру рынку не вывучыў. Быў такі фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі».

**Скараход.** Вось-вось…

**Лера.** Ну і…

**Скараход**. Што ну і?

**Лера.**Трэба было раману гэтага шызіка даць назву «Трое ў туалеце, не лічачы ўнітаза». Улоўліваеш асацыяцыі? Хапануў бы бабла.

**Алена.** Пра што вы хацелі пагаварыць, Вацлаў Янавіч?

**Скараход.** Ідэйка ёсць. Я падрыхтаваў усе дакументы. Угаварыце Пятра Пятровіча набыць маю друкарню. Заціскаюць падаткі, а ў вас ільготы, без НДС і іншае.

**Лера.** Гэта добрая ідэя.

**Алена.** Кошт?

**Скараход.** Дамовімся. З рахунку фонду перагоніце мне і як з казла малака.

**Лера.** Мне джып.

**Алена.** А «Бэнтлі» не хочаш, губу раскатала.

**Лера.** Без джыпа я не супакоюся.

**Скараход.** Лавіце момант. На яго, вашу друкарню будуць сыпацца заказы мэрыі… вы зможаце азалаціцца… я ўжо змогся, сіл не маю, у шэсцьдзясят трэба кідаць бізнес і займацца развядзеннем страусаў — гэта мая мара. Вам панясуць бланкі, рэкламу, абвесткі МНС, МУС, праз паўгода кватэра на Кіпры.

**Лера.** А што, праўду кажа.

**Скараход.** Вазьміце купчую. Патрэбны ягоны подпіс і подпіс вашага бухгалтара.

**Алена.** Не падстава. Ты два месяцы круціў, яму заробак не выдаваў.

**Скараход.** Падкопы. Вінаваты. Хто ж ведаў, што ён гэтак узвысіцца.

**Лера.** Давай паперы. Мы ўсё зробім.

Вяртаюцца Міхаіл Кірылавіч, Святлана, Пётр Пятровіч і Маргарыта Карлаўна.

**Міхаіл Кірылавіч.** Добра, вельмі добра.

**Святлана.** І з густам.

**Пётр.** Лера парупілася… У італьянскім стылі.

**Міхаіл Кірылавіч.** Малайчына.

**Лера.** Дзякуй.

**Міхаіл Кірылавіч.** Адчуваецца Еўропа.

**Маргарыта Карлаўна.** Кажуць, у Еўропе зноў паўсюль беспрацоўе? Вы не чулі?

**Міхаіл Кірылавіч.** Шчыра кажучы, не.

**Скараход.** Есці захочацца, знойдуць працу.

**Маргарыта Карлаўна.** Як жыць? Як жыць? Сёння голад, заўтра бомбы, паслязаўтра голад.

**Лера.** А чаго вам смуткаваць, гэта іхні клопат.

**Міхаіл Кірылавіч.** Святлана, вось што. Тэлебачанне сюды і на ўсе каналы. Яшчэ раз зычу поспеху. Прабачце, справы, справы…

**Алена.** Заходзьце, рады вас бачыць.

**Міхаіл Кірылавіч.** А мы туды, дзе нам не радыя, не ходзім.

**Лера.** Дасціпна *(пляскае ў ладкі).*

**Міхаіл Кірылавіч** *(кліча Пятра Пятровіча ўбок).* На хвілінку.

**Пётр.** Слухаю.

**Міхаіл Кірылавіч.** Такая, дарагі Пётр Пятровіч, справа. Прыйшла на адрас мэра ананімка… я перахапіў. Хтосьці паведамляе, што вы нахабна разбіваеце сям’ю прадаўшчыцы талонаў. Прашу, надалей будзьце абачлівым і асцярожным… у вас іншы статус, вы публічная асоба… Асабліва пільным будзьце з жоўтай прэсай… мэр яе не выносіць.

**Пётр.** Зразумеў. У нас з ёю сяброўскія адносіны.

**Міхаіл Кірылавіч.** Мужчына жанчыне сябар да першага пацалунку...

**Пётр.** Не сумняваюся, што гэта яе раўнівы муж і сачыніў.

**Міхаіл Кірылавіч.** Асцярожнага Бог беражэ.

**Пётр.** Зразумеў. Я апраўдаю.

**Міхаіл Кірылавіч.** Веру. Трэба гасіць у грамадстве незадаволенасць, агрэсію, зайздрасць і рабіць гэта ўсімі магчымымі сродкамі і заўсёды.

Перадае Пятру Пятровічу канверт.

**Пётр.** Праўду кажаце. Я заўважыў, што ўсе разумеюць неабходнасць справядлівасці і праўды, калі гэта тычыцца іх асабіста… А калі не… Трава не расці…

**Міхаіл Кірылавіч.** Навучыце.

Міхаіл Кірылавіч і Святлана выходзяць.

**Лера.** На маю думку, з «бабачкай» наш Пётр Пятровіч больш самавіты.

**Алена.** Яму яшчэ гальштук пасуе.

**Лера.** З «бабачкай» еўрапейскі стандарт.

**Скараход.** Маргарыта Карлаўна, калі ласка, яшчэ бакал шампанскага.

**Маргарыта Карлаўна.** Трымайце.

**Алена.** З гальштукам ён мае больш важны выгляд.

**Лера.** Каб ты што разумела.

**Алена.** Ад такой самай чую.

**Пётр.** Усіх запрашаю на другі паверх, на фуршэт.

**Лера.** У італьянскім стылі. Паста, рызота, мацарэла і фларэнтыйская адбіўная.

**Скараход.** Брава.

Лера, Пётр Пятровіч, Алена выходзяць.

**Скараход.** А вы, Маргарыта Карлаўна?

**Маргарыта Карлаўна.** Мне супрацьпаказана.

**Скараход.** Язва?

**Маргарыта Карлаўна.** Не.

**Скараход.** Што тады, калі не сакрэт?

**Маргарыта Карлаўна.** У мяне талія больш за 80 см.

**Скараход.** І што?

**Маргарыта Карлаўна.** Паводле еўрапейскіх стандартаў гэта лічыцца атлусценнем.

**Скараход.** Лера задурыла ўсім галаву. Ваша пульхнасць надта ж пікантная. На подыуме неўзабаве з’явяцца пульхныя кабеты замест хударлявых.

**Маргарыта Карлаўна.** Вы так думаеце?

**Скараход.** Так.

**Маргарыта Карлаўна.** Як жыць? Як жыць? Адна амерыканская зорка купіла свайму сабачку дом за тры мільёны долараў.

**Скараход.** Калі многа, дык куды іх падзець, гэтыя долары. Кожны дурэе па-свойму.

**Маргарыта Карлаўна.** А я вось два гады не магу дыск купіць любімага Кубанскага народнага казачага хору. Мой прадзед калісьці там спяваў.

**Скараход.** Знойдзем.

**Маргарыта Карлаўна.** Дык вы гаворыце, там рызота, рыгалета, палігло-та, Чэлентана…

**Скараход.** І вустрыцы з лімонным сокам. Наперад, казачка.

Скараход і Маргарыта Карлаўна выходзяць.
Асцярожна ўваходзіць Пётр Пятровіч. Набірае нумар тэлефона.

**Пётр.** Ларыса, гэта я. Трэба пагаварыць. Гэта тычыцца твайго мужа, і нас у пэўным сэнсе. Давайце ў 18.00. у парку на старым месцы. Буду чакаць.

**Лера.** Дарагі, дзе ты? Нам сумна.

**Алена.** Яна назаказвала ў рэстаране на роту салдат… Мы так з торбамі пойдзем. Абжыралаўка нейкая. На халяву, блін.

**Лера.** Не разменьвайся на дробязі. Патрэбен шык!

**Алена.** Каб не выйшаў пшык.

**Пётр.** Не сварыцеся. Іду.

Гучыць італьянская песня.

***Зацямненне.***

## Карціна шостая

Веранда кафэ. Бязлюдна. Дзесьці далёка грае духавы аркестр.

З'яўляецца Фёдар у плашчы. Зладзеявата азіраецца, пераконваецца, што яго ніхто не бачыць, хуценька здымае плашч. Ён у жаночай вопратцы.

Выцягвае з сумкі капялюшык з вуаллю, плашч хавае ў сумку, выцягвае чаравічкі-шпількі і здымае свае чаравікі.

Паўза.

Да століка, за якім сядзіць пераапрануты Фёдар, падыходзіць з бакалам піва Падмануты ўкладчык.

**Падмануты ўкладчык.** Вы не супраць, прыгажуня? *(Фёдар на знак згоды ківае галавой)*. Зусім нахабнымі зрабіліся чыноўнікі пры ўладзе… Зусім нахабнымі. Прыходжу да аднаго на прыём. Выслухайце, я ж па ўзросце ваш бацька. Хлапчук сядзіць. Кажу, Чэхаў у маім узросце памёр ужо. А ён мне: «Дык чаго ж вы хочаце… ідзіце следам за ім. Цудоўны вечар, хіба не так?» *(Фёдар на знак згоды ківае галавой.)* А настрой дрэнны. Вы не супраць, калі я закуру? *(Фёдар на знак згоды ківае галавой.)* Ды ты глуханямая, ці што?

**Фёдар** *(жаночым голасам).* Так.

**Падмануты ўкладчык.** Во, хоць загаварыла. Жывой душы вакол няма. Падзяліліся на класы і па завуголлях паразбягаліся… Мне і дома няма з кім пагаварыць. Жонка выгнала. Кажа, пакуль кватэру не адсудзіш, не прыходзь. Адпачывай, прыгажуня. У камандзіроўцы? Я здагадаўся. Усяго палохаешся. У нас горад яшчэ ціхі, быў адзін маньяк, дык яго адна баба выдала, не спадабаўся. Даўно гэта было, пры сацыялізме яшчэ. Можа, па сто грам? Пры сабе маю. *(Паказвае пляшку гарэлкі.)*

**Фёдар.** Так.

Падмануты ўкладчык вымае дзве шклянкі.

Да суседняга століка падыходзяць з кубачкамі кавы ў руках Пётр Пятровіч і Ларыса.

**Падмануты ўкладчык.** За што вып'ем?

**Фёдар** *(заўважыў Пятра і Ларысу).* Так.

**Падмануты ўкладчык.** Чужаземка, ці што? Усё так ды так заладзіла. Іншых слоў не ведаеш?

**Фёдар.** Так.

**Падмануты ўкладчык.** Гарэлка. Руская гарэлка. Яна перакладу не патрабуе. Ідзе на ўра. За мір і дружбу і стабільны курс долара. Ты з Малдовы? Украіны? Кіргізіі?

**Фёдар.** Так.

**Падмануты ўкладчык.** У мяне ў Кіеве брат жыве. Сантэхнік. Зваліўся з шостага паверха і нішто сабе. А чаму? Таму штоываліўся са сваёй кватэры. Шкада сваю пакідаць. Ну, на всэ добрэ. *(П'юць.)* Аднак, як жа вы па-заліхвацку кульнулі. Я падмануты ўкладчык. Грошы прыватныя ўнёс, а кватэру прадалі іншым. Ты хоць разуееш, прастытутка інтэрнацыянальная, пра што я гавару?

**Фёдар** *(на падпітку).* А што такое прастытутка?

**Падмануты ўкладчык.** Загаварыла. Зачапіла за жывое. Гэта калі з Украіны ў Малдову, а з Малдовы ў Кіргізію, а з Кіргізіі ва Украіну на адной і той жа машыне, а кіроўцы розныя. Я прагну помсты. Партыю сваю ствараю: падманутых укладчыкаў і падманутых удзельнікаў. Мы прыйдзем да ўлады. Давай яшчэ па адной. Ты ўмееш слухаць… Гэта плюс кожнай бабе… мая не ўмее, адразу крычыць: «Канчай базар, ідзі грошы зарабляй». (*Выпілі яшчэ.)* Ты ўступіш у маю партыю?

**Фёдар.** Я ўжо знаходжуся ў адной. Не перашкаджай… А ну, ідзі адсюль.

**Падмануты ўкладчык.** Не, ты скажы ў якой ты партыі?

Фёдар здымае капялюш і адказвае грубым мужчынскім барытонам.

**Фёдар.** Каб я цябе праз секунду не бачыў. Я ў партыі геяў знаходжуся. Прастытутка ты… ідзі да жонкі, не чапляйся да чужых баб.

**Падмануты ўкладчык.** Зразумеў, шаноўны. Іду. Маньяка ловіце… Усё. Нічога не бачыў, нічога не чуў, нічога нікому не скажу. Іду.

Падмануты ўкладчык выходзіць.

**Пётр.** Я, сапраўды, Ларыса Іванаўна, не ведаю… як усё спыніць. Не хачу, каб у вас былі непрыемнасці. Можа, нам больш не сустракацца?

**Ларыса.** Што здарылася?

**Пётр.** У мэрыю прыйшла ананімка… пра мае нібыта амаральныя паводзіны. Там узгадваецца і ваша імя.

**Ларыса.** Вы бачылі яе?

**Пётр.** Канверт у мяне. Надзейны чалавек перадаў.

**Ларыса.** Дайце мне.

Пётр перадае ёй канверт, Ларыса чытае ананімку.

**Ларыса** *(уздыхаючы).* Гэта почырк майго мужа. Мяне папярэджвалі сяброўкі. Ён і сваю першую жонку рэўнасцю давёў да язвы. Прабачце. Ён нягоднік. Мне не пашанцавала. Першы быў алкаголікам, а гэты вар'ят.

**Пётр.** Можа, ён так моцна кахае?

**Ларыса.** Гэта ўжо не каханне, а хвароба. Прабачце. Я бог ведае чаго нагаварыла пісьменніцы. Агаварыла вас. Вы зусім іншы. Надзейны.

**Пётр.** Я не святы. Вы лепшая за мяне.

**Ларыса.** Можа, мне забраць гэты ліст?

**Пётр.** Калі хочаце. Баюся, у вас могуць быць непрыемнасці.

**Ларыса.** Я ўсяго нацярпелася. Загартаваная.

Ларыса хавае ліст у станік.
Фёдар усё гэта бачыць, не вытрымлівае і бяжыць да іх.

**Фёдар.** Дай мне тое, што ён табе перадаў. Разлічыўся? Грошы бярэш?
**Ларыса.** Фёдар? Ты?
**Пётр.** Супакойцеся. Не чапайце яе.
**Фёдар.** Распуснік. Ты яшчэ рот адкрываеш. Колькі ты ёй плаціш за гадзіну?
**Пётр.** Вы забываецеся.
**Фёдар.** Зараз ты ў мяне на ўсё забудзешся, мудак!

Адводзіць Пятра ўбок і б'е яго па твары.

**Ларыса.** Дапамажыце! Міліцыя!
**Фёдар** *(бярэ жонку за руку).* Не гарлапань. Маўчы. Дома пагаворым.

Амаль гвалтам цягне жонку прэч.
На крык прыбягае Падмануты ўкладчык.

**Падмануты ўкладчык** *(побач з Пятром Пятровічам).* Пётр Пятровіч, гэта вы? Чаму яна вас… не ён… не яна… Мы не супраць іхняй незалежнасці, за што біла?
**Пётр.** Не ведаю. Ад рэўнасці.
**Падмануты ўкладчык.** Не звязвайцеся. Гэта трансвестыт. Партыя такая. Я вам дапаму.
**Пётр.** Не трэба. Дзякуй.
**Падмануты ўкладчык.** Што мне рабіць, Пётр Пятровіч?
**Пётр.** Мы пераможам… інакш навошта Бог усё гэта пад сонцам папрыдумляў.
**Падмануты ўкладчык.** Я вам веру. Можа, сто грам?
**Пётр.** Толькі пасля работы.
**Падмануты ўкладчык.** Калі будзеце судзіцца… я сведка. Ён першы пачаў. Во яшчэ Валуеў мне знайшоўся…
**Пётр.** Дзякуй.
**Падмануты ўкладчык.** Ёсць яшчэ факты. Адзін міністр узяў на катэдж 500 тысяч долараў, пакінуў пасаду і ўцёк у суседнюю краіну, а хто будзе крэдыт выплачваць? Мы, падаткаплацельшчыкі. Аднаму падкінулі наркотык… Калі прыйсці?
**Пётр.** Заўтра і прыходзьце. Зацягваць не варта.
**Падмануты ўкладчык.** Я вас запрашу ў хросныя бацькі. Праўда, праўда…

***Зацямненне.***

## Карціна сёмая

Офіс фонду Пятра Самасейкі.
Пётр спіць у крэсле. Лера прыносіць маленькую падушачку, падпіхвае яму пад галаву.

**Лера.** Стаміўся, гаротнічак.
**Алена** *(стаіць з лыжачкай у руках і бутэлечкай мікстуры).* Столькі выступаць, чытаць, даказваць… слон не вытрымаў бы. Хай адпачывае, не будзі.
**Лера.** Не вучы… не люблю.
**Алена.** Што мне цябе вучыць. Не навучылі ў школе, пасля дарэмна.

**Лера.** Надта ж ты вучоная. У школе гумкай гандляваць.

**Алена.** Гуляць у Італію не збегла.

**Лера.** Не пачынай. Мы дамовіліся: джып, я выпісваюся з кватэры, даю развод. Частку грошай перакінь на маю фірму.

**Алена.** Ты паспела ўжо і сваю справу пачаць.

**Лера.** Пачаць не праблема, але ці дазволяць багатыя справамі займацца.

**Алена.** Адна купіла — прыватызавала мясцовую падстанцыю. І цяпер усе землякі ёй за электрычнасць плацяць. Варушыць мазгамі, хоць сама і з простых.

**Лера.** Выкрутная. Табе ж друкарня… на тваё імя. Захад грант падкіне. На рахунку грошы ёсць?

**Алена**. Утойвае… Як звязаўся з гэтай Ларысай, усё ўтойваць пачаў.

**Лера.** Грошы любяць тайну. Дурні гэтыя мужчыны… з-за бабы іх б'юць па мордзе… хіба ж баб мала.

**Алена.** На маладзенькую паквапіўся.

**Лера.** Мы абедзве пацярпелі.

**Алена.** Я б ёй валасы павыдзірала.

**Лера.** Навошта. Грашыма забівай. Узбагачайся, хай ад зайздрасці лопне. Што гэта?

**Алена.** Сардэчнік. А што на Захадзе даюць?

**Лера.** Я свайго італьянца віаграй частавала… не дапамагае. Амаль не дапамагае.

**Алена.** Нашаму, думаю, віагру, зарана.

**Лера.** Не пашкодзіць. Не магу супакоіцца. Каб мяне, прыгажуню, прамяняць!

**Алена.** Ты хочаш сказаць, што прыгажэйшая за мяне?

**Лера.** У сэнсе?

**Алена.** Не ведаю, як ён з табою жыў… толькі на абутак якія выдаткі… у цябе ж саракавы размер абутку.

**Лера.** Затое постаць клас. А ў цябе груша.

**Алена.** Як гэта?

**Лера.** Плечы шахматыста, а зад барца сумо.

**Алена.** Вой, рассмяшыла. А ў цябе, морква — плечы фехтавальшчыка, а зад штангіста.

Уваходзіць усхваляваная Маргарыта Карлаўна.

**Маргарыта Карлаўна.** Жывы?

**Алена.** Цішэй. Адпачывае.

**Лера.** Жывы. Гематома пад вокам.

**Маргарыта Карлаўна.** Увесь горад ужо кіпіць. Інтэрнэт кіпіць. Чаго толькі не пішуць, як толькі яго, небараку, не называюць.

**Алена.** Ад зайздрасці. Адны славе зайздросцяць, іншыя — грашам.

**Маргарыта Карлаўна.** Яму з усіх бакоў цяжка. Як жыць? Еўра падвысіўся, долар панізіўся, усюды бегаюць, шукаюць ксяндзоў-педафілаў, вулканы прачынаюцца, там пажар, там паводка, усе шукаюць вінаватых, Афрыку бамбяць, жонка Прэзідэнта Амерыкі і тая спалохалася крызісу ды сусветнага голаду, салату ды моркву з пятрушкай у сябе ў Белым доме вырошчвае. Як жыць?

**Лера.** Трэба цішком падзяліць грошы і сцішыцца.

**Алена.** Запозна. Следам за ім паяцы неадступна ходзяць.

**Лера.** Не паяцы, а папарацы. Трэба ведаць італьянскую.

**Алена.** Не злуй мяне. Джып не атрымаеш.

**Лера.** Усё, добра. Маўчу. Прачнулася наша сонейка.

**Алена** *(убок).* Я б яму за распусту сонечнае зацьменне наладзіла, ды інтарэсы бізнесу не дазваляюць. Бабуін ненажэрны. Каток мой, глыні заспакаяльных кропель.

Пётр глытае кроплі.

**Маргарыта Карлаўна.** Гуз добры, што і казаць.

**Лера.** Я сфоткала на мабільнік. На ўсякі выпадак.

**Пётр.** Толькі не выклікайце сюды міліцыю.

**Алена.** Разумнічак. Непатрэбны шум. Падпішы мне паперы ад натарыуса… даручэнні ў банк. Друкарня наша… цяпер Скараход будзе табе падпарадкоўвацца. Улада — яна заўсёды хісткая.

**Пётр.** Ён паперу рэзаць не ўмее.

**Алена** *(убок).* Талон разрэжа, калі я папрашу.

**Лера.** Няўжо гаспадар друкарні возьмецца разразаць паперу.

**Пётр.** Трэба будзе — паразразаю… Я без фанабэрыі.

**Маргарыта Карлаўна.** Можа, на ёй даўгі.

**Алена.** Я не правярала.

**Маргарыта Карлаўна.** Вось і кепска.

**Алена.** Ды там станкоў толькі на трыста тысяч долараў. Капітал.

**Маргарыта Карлаўна.** Ну, вы лепей ведаеце, я ў гэтым капіталізме не разбіраюся. Узялі на працу і дзякуй. Чулі? Кажуць, самалёты НАТА бамбяць піраміду Хеопса.

**Алена.** Божа мой.

**Лера.** З Амерыкі загадалі павярнуць самалёты назад.

**Маргарыта Карлаўна.** Як жыць? Як жыць?

Уваходзіць Падмануты ўкладчык.

**Падмануты ўкладчык.** Можна да Пятра Пятровіча?

**Пётр.** Я тут. Заходзьце.

Падмануты ўкладчык у касаваротцы, з кійком у руках і торбай за плячыма, у кірзавых ботах.

**Пётр.** Вас і не пазнаць.

**Лера.** У масоўцы, відаць, здымаецца.

**Маргарыта Карлаўна.** На карнавал у Рыа-дэ-Жанейра.

**Падмануты ўкладчык.** Не, браток. Сабраўся быў, як мой прапрадзед-народнік склікаць народ на новую рэвалюцыю супраць алігархаў ды чыноўнікаў. А тут радасць! Не змарнаваныя вашы намаганні. Вярнулі мне грошы за кватэру… Мы новую набылі. Калі газеты напісалі пра махлярствы мэравага брата, адразу ж вярнулі. Нізка вам кланяюся, святая душа Пётр Пятровіч. Ёсць яшчэ сілы багатырскія, ёсць каму за прыніжаных і зняважаных заступіцца!

Кланяецца.

**Пётр.** Віншую. А нашы газеты?

**Падмануты ўкладчык.** Незалежныя. Больш кпяць апазіцыйныя.

**Лера** *(абдымае Пятра).* Віншую. Першая буйная перамога.

**Алена.** І я віншую. Далібог, усё абыдзецца…

**Пётр.** Так што мы з вамі, Маргарыта Карлаўна, яшчэ паслухаем у кампаніі ваш Кубанскі казачы хор.

**Маргарыта Карлаўна.** А то. Жыць хочацца!

**Лера** *(падманутаму ўкладчыку).* Каву, чай?

**Падмануты ўкладчык.** Дзякуй. Я мушу быць цвярозым. Жонка папярэдзіла, што з 15 да 16 будзе нараджаць трэцяга.

**Лера.** І тут шчасце. Benisimo!

**Алена.** Віншуем.

**Падмануты ўкладчык.** Зарана. Гадзіна засталася. *(Звоніць сотавы, з яго гучыць музыка з к/ф «Джентльмены удачи». Падмануты ўкладчык бярэ тэлефон.)* Слухаю цябе, мая кветачка. Як ужо? Не зразумеў. Раней пачала? Не магла мяне пачакаць? Я ж грошы заплаціў, каб асабіста прысутнічаць пры родах. Як ты магла? *(Крычыць у трубку.)* Непарадак! Спыніся! Мы ж дамовіліся! Не смей!

**Алена** *(падносіць яму лыжку з кроплямі).* Выпіце.

**Лера.** Не хвалюйцеся.

**Маргарыта Карлаўна.** Гэта ж радасць. *(Выходзіць.)*

**Падмануты ўкладчык.** Яны ж садралі ажно трыста долараў… Цяпер гэта модна, прапаноўвалі роды ў вадзе, у басейне… але я не ўмею плаваць… Хочацца не адстаць ад гламуру, вы разумееце.

**Пётр.** Махляроў паразводзілася… жах.

Тэлефонны званок (мелодыя з к/ф «Джентльмены удачи»).

**Лера.** Усіх не пераробіш.

**Падмануты ўкладчык** *(бярэ свой мабільны).* Гавары, пакуль я яшчэ добры… Што? Няўжо? Зразумеў! Зараз бягу, бягу.

**Лера.** Што здарылася?

**Падмануты ўкладчык.** Ёсць справядлівасць на свеце. Другі на белы свет просіцца. Жонка патэлефанавала… У нас двойня. Прасіла паспяшацца, каб паспець.

Музыка з к/ф «Джентльмены удачи». Падмануты ўкладчык усіх цалуе, з радасці танчыць пад музыку і бяжыць.

**Пётр.** Божа мой… Якое гэта шчасце… дзіцятка… новы чалавечак…

Уваходзіць Маргарыта Карлаўна з газетамі.

**Маргарыта Карлаўна.** Я паскупляла ўсе. Як жыць, як жыць? Чалавецтва нізка пала. І чаго толькі, Пётр Пятровіч, пра вас не пішуць. Для адных герой, для другіх распуснік, хуліган, злодзей… і фотка з фінгалам.

**Пётр.** Як? Нас ніхто не здымаў.

**Лера.** Я скінула ў інтэрнэт з сотавага. Так робіць уся Еўропа і Азія, і Амерыка.

**Алена.** Дурніца. Навошта?

Пётр Пятровіч бярэ газеты і хуценька іх праглядае. Сядае ў крэсла. Ён блага пачуваецца.

**Маргарыта Карлаўна.** Вады!

**Лера.** Лекаў!

**Алена.** Што даваць?

**Лера.** Ну, не віагру ж… Дай яму кропель сардэчніку. Трэба схавацца на дно, перачакаць… А раптам праміне.

Пётр Пятровіч п’е кроплі. Ён мае змучаны выгляд, у яго зусім кепскі настрой.

**Алена.** Пракляты талон. Лепей бы я яго з’ела. Табе лепш? Ты не памірай, а то я буду ў турме.

**Пётр.** Лепш, лепш.

**Лера.** На дно і перачакаць.

***Зацямненне.***

## Карціна восьмая

Офіс фонду. Пры стале Лера і Алена. Аднекуль здалёк чуецца музыка духавога аркестра. Гучыць вальс Б. Макравусава «Осенние листья». На стале пляшка віна. Два бакалы.

**Лера.** Давай, сяброўка, яшчэ трошачкі. Люблю чырвоненькае. Наша бабская доля горкая: і з мужыком кепска, а без яго яшчэ горш. Мой стары італьянец закідаў тэлеграмамі: вяртайся, усё дарую. Мне і шкада яго зрабілася. Адзін у полі не воін.

**Алена.** Ты ж казала, што акрамя сябе нікога ніколі не любіла і не любіш?

**Лера.** Грошы люблю. Без іх цяперака — горш, як на катарзе. Калі іх многа — жыццё спакойнае. Ты даруй, можа, я цябе прыніжала дарэмна. Я гадаўка. Які ў цябе нумар абутку?

**Алена.** Саракавы.

**Лера.** Амаль як у мяне — 39,5.

**Алена.** І ты даруй *(з усмешкай),* пані морква.

**Лера** *(пасміхаецца).* Дарую, пані груша.

Уваходзіць Скараход.

**Скараход.** Вы ў адзіноце?

**Лера.** Як бачыш.

**Скараход.** А Пётр?

**Алена.** Поркаецца ў дакументах. Падатковая нечакана з’явілася, а да гэтага народны кантроль быў… праверка на праверцы.

**Скараход.** Хай займаецца. Вось вам кожнай шакаладка і канверцік.

**Алена.** А што ў канверціку?

**Скараход.** Адкат. Грошы за друкарню на рахунку, я іх ужо перагнаў у афшор. Ваш працэнт.

**Алена.** Хабар?

**Лера.** Табе сказалі адкат, які хабар? *(Забірае свой канверт.)* Закон бізнесу. Забудзьце на розныя ідэі «і ўзбагачайцеся». Дзякуй. Чакаю вас з Аленай у сябе ў Італіі. (*Спявае.*) «Вернись в Сорренто, любовь моя».

**Алена** *(забірае свой канверт).* Ты ўсё ж такі вырашыла паехаць?

**Лера.** Даражэнькая, на джыпе праз усю Еўропу! Пачуваешся белым чалавекам.

**Скараход.** Мудра. Калі запрашаеце, можа, і сапраўды махнём, Алена?

**Алена.** Не да таго. Дай перажыць гэты стрэс.

**Скараход** *(да Алены).* Дык я буду тэлефанаваць?

**Алена.** Тэлефануй.

**Скараход.** Не буду перашкаджаць сардэчнай гаворцы.

**Алена.** Пачакай, Вацлаў Янавіч. З табой нейк спакайней. Днямі сон вусцішны сасніла. Жах. Нібыта ў нас ферма трусоў. Аж раптам аднекуль з'явіўся слон. Заляцаецца да трусіхі. Тая спалохалася, яе зразумець можна, бяжыць з усіх ног, і ў кош ад паветранага шара скок… І так узнімаецца над намі. Зірнула ўніз і з пярэпалаху небараку панесла. Прабачце, ляціць зверху дзярмо і на нас многа дзярма, на Пятры, на мне, на табе, Лера. З галавы да ног.

**Лера.** А на мне чаму?

**Алена.** Сны не заказваюць. Што б гэта магло азначаць?

**Скараход.** Рэальна тлумачаць так, калі ў сне бачыш сябе скрозь у дзярме… дык на самай справе ў цябе неўзабаве будуць грошы.

**Алена.** Я прымхлівая. Гэта праўда?

**Скараход.** І чым болей дзярма, тым болей бабла.

**Лера.** Наіўных нямала. І ў сне на халяву хоча хапнуць.

**Алена.** А ты паспрабуй на адным бюджэце і на яхту, і на шыкоўную машыну, і на катэдж, і на Мальдзівы зарабіць… гадоў дзвесці трэба, калі кілу да пяцідзесяці не надарвеш. Вацлаў Янавіч, прыміце на захаванне гэту скрынку.

**Скараход.** Што ў ёй?

**Алена.** Некалькі залатых пярсцёнкаў і залатое калье. Я толькі вам у гэтым горадзе і давяраю. *(Аддае яму скрынку.)*

**Скараход.** Калі давяраеце, абяцаю захаваць. І не хвалюйцеся вы гэтак. Вы ажно з твару змяніліся.

**Алена.** Дзякуй.

Скараход ідзе.

**Лера.** Думаю, ён заляцаецца да цябе.

**Алена.** Як быў на падпітку дык, памятаю, аднойчы ў друкарні лапаў.

**Лера.** Усе яны адным лыкам шытыя. Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну. Аднак жа не асуджаю. Жыццё кароткае. Пакуль нас кахаюць, мы маладыя.

Уваходзяць Міхаіл Кірылавіч і Святлана.

**Міхаіл Кірылавіч.** Чаго гэта ў вас усё насцеж і пакоі ў офісе без дзвярэй?

**Лера.** Дык адкрытае ж грамадства. Ідэя Пятра Пятровіча, навошта дзверы.

**Міхаіл Кірылавіч.** Было адкрытае. Зараз закрытае. Дзе дырэктар?

**Алена** *(палохаючыся).* Зараз. Хвіліначку.

*Ідзе.*

**Лера.** У нас тут дэгустацыя адбываецца. Купілі для фуршэтаў у Італіі.

Паўза.
Уваходзяць Алена і Пётр Пятровіч.

**Пётр.** Дзень добры, Міхаіл Кірылавіч. Я да вашых паслуг.

**Міхаіл Кірылавіч.** Вось і добра, грамадзянін Самасейка. І абавязаны, і павязаны. Пакіньце нас сам-насам. Святлана, фіксуйце размову. *(Алена і Лера выходзяць.)* Як можна было напляваць у калодзеж, з якога бярэш ваду? І браў жа ж не адзін… І сваякоў не крыўдзілі.

**Пётр.** Не разумею.

**Міхаіл Кірылавіч.** Газеты чытаць трэба, у інтэрнэт зазіраць. Цябе мы ацанілі, узнеслі на адпаведную вышыню… Купайся ў славе, рабі дабро.

**Пётр.** Дык я ж і рабіў яго.

**Міхаіл Кірылавіч.** Іранізуеш. У Статутны фонд табе мэр добрую суму перагнаў… Можна было толькі на балбатні, выступленнях добра жыць гадоў пяць… А ты яго роднага брата падставіў… і такім чынам мэр атрымаў смяротную рану. Я ж папярэджваў.

**Пётр.** Дык я і дапамагаю сумленню.

**Міхаіл Кірылавіч.** Сумленне паняцце абстрактнае. Пра яго любяць пагаварыць, а калі тычыцца асабістых інтарэсаў, на яго забываюцца.

**Пётр.** Нядрэнна і напамінаць часцей, дзеля справядлівасці. Злодзей павінен сядзець у турме…

**Міхаіл Кірылавіч.** Але гэта яшчэ не даказана… А вось табе будзе нялёгка. Ваш рахунак арыштаваны. У друкарні вялікія даўгі. Параспускаў сродкі фонду на жонак і палюбоўніц. У джыпах катаецеся. Мы ў курсе. Адпаведныя органы правялі закрытую праверку. На гэтай падставе Упраўленне юстыцыі адклікала ліцэнзію на рэгістрацыю. Фонд закрыты.

**Пётр.** Гэта помста? Скажы шчыра?

**Міхаіл Кірылавіч.** Не ўпаўнаважаны. Ты быў дапушчаны да размеркавання і сам сябе загубіў. Зганьбіўся праз пазашлюбную сувязь, мардабойства. Заўтра офіс апячатаем, мэблю вывезем.

**Пётр.** Нам паверылі. Людзі стаміліся ад хлусні і абяцанняў. Мы атрымоўваем сотні лістоў. Столькі гора, слёз, несправядлівасці.

**Міхаіл Кірылавіч**. Позна. Ключы ад сейфа на стол. Будзе іншы фонд. Чалавек сам каваль свайго шчасця. Не шукай абароны… Губернатар надта занепакоены. Часам з мэтай асабістай бяспекі варта адмовіцца ад прынцыпаў.

**Пётр.** Гэта як пaглядзець.

Міхаіл Кірылавіч ідзе.

**Святлана** (*дастае з партфеля рукапіс).* Пётр Пятровіч, прабачце… мэр адклікаў грант… выдаць кнігу пра вас няма магчымасці. Тут усяго толькі дваццаць старонак… забярыце іх.

**Пётр.** Разумею.

**Святлана.** Я чалавек нявольны… Паміж молатам і кавадлам. Не ведаю, каму дагаджаць. Можа, чытачу?

**Пётр.** Дагаджайце, Святлана, Богу і справядлівасці.

**Святлана.** Міхаіл Кірылавіч кажа, што ў кожнага свая справядлівасць.

**Пётр.** Гэта не чаравікі. Справядлівасць адна на ўсіх. Я на вас не крыўдую.

**Святлана.** Дзякуй за разуменне. *(Пакідае рукапіс на стале.)* Да пабачэння.

**Пётр.** Усяго вам найлепшага.

Налівае віна. Выпівае. Асцярожна ўваходзяць Лера і Алена.

**Алена.** Чаго ён такі ўзбуджаны прыбег?

**Пётр.** Мы пераможам.

**Лера.** Я падслухала. Яны ж фонд ліквідуюць. Як мы можам перамагчы?

**Пётр.** Перамаглі ўжо.

**Алена.** Ты быў занадта самаўпэўнены. Яны любяць, калі ім у рот глядзяць і падтакваюць.

**Лера.** Яны ўсе павязаныя. Мафія.

**Пётр.** Мэр мерыўся ў губернатары. Ён ім не будзе.

**Алена.** Ты скажы… Фонд збіраюцца ліквідаваць ці ўжо зліквідавалі?

**Пётр.** Зліквідавалі.

**Лера і Алена** (*разам*). Як???

***Зацямненне.***

## Карціна дзявятая.

Офіс фонду. Алена відавочна хвалюецца і ходзіць вакол стала, курыць.
Уваходзіць Лера.
Цягне той самы чамадан на колцах, з якім і прыехала.

**Лера.** Ну, здаецца, сабрала ўсё. Мыла сваё пакінула экспрапрыятарам-фіскалам. Ды супакойся ты ўжо.

**Алена.** Дзве гадзіны яго няма. Можа, дапытваюць там, у следчага.

**Лера.** Во яшчэ скажаш. Хто ж без адваката дапытваць будзе? Прыстрашаць, каб не выступаў болей. Якая табе справа да салдацкіх маці, хай армія разбіраецца.

**Алена.** Ты больш вопытная. У Італіі, кажуць, многа мафіёзі… Мы чыстыя? Нам нічога не пагражае? Я ж па бухгалтэрыі… Нуль. Вацлаў Янавіч, добрая душа, усё пераправерыў.

**Лера.** Бюджэтных грошай не было, а ўласныя ад спонсараў і іншых мы маглі выдаткоўваць куды заўгодна і як заўгодна. Тваю рыбную краму ад цябе ніхто не адбярэ. Нафтавыя свідравіны, заводы, рыбалавецкія караблі таксама ніхто ж нідзе не нацыяналізуе. Цягнік бяжыць у адным накірунку.

**Алена.** Для стабілізацыі хоць які сярэдні клас патрэбны. Растлумач мне, што гэта такое?

**Лера.** Калі спажываеш мяса тры разы на дзень — гэта сярэдні клас, а калі адзін раз на тры дні — галеча.

**Алена.** А калі вегетарыянец?

**Лера.** Лагічна. Тады… калі два разы на год можаш адпачываць на востраве Балі — сярэдні, а калі два разы на дзень жывот марш іграе — галеча. Твой Скараход вегетарыянец?

**Алена.** Чаму гэта мой?

**Лера.** Да слова.

**Алена.** Акуратны. Грашыма не раскідваецца. Паклаў у банк, пад працэнты, кажа, жыць буду. Баіцца ў абарачэнне пускаць.

Уваходзіць Скараход.

**Лера.** Лёгкі на ўспамін.

**Скараход** *(перадае Леры)*. Трымай ключы ад машыны. Паўнюткі бак заправіў і яшчэ дзве каністры. Да Вены хопіць.

**Лера.** Грацыё. (*Цалуе Скарахода.)*

**Скараход.** Дзе Пётр?

**Алена.** Усё яшчэ ў следчага. Я сабе месца не знаходжу.

**Скараход.** Выпусцяць. Няма крадзяжу дзяржаўнай маёмасці.

**Лера.** Я яму спачуваю. Непадрыхтаваныя людзі да адкрытага грамадства, да грамадзянскіх ініцыятыў.

**Скараход.** Усё добра, што з выгодаю завяршаецца. Ты атрымала джып, Алена кватэру, краму, Патрык развод, свабоду ад жаночых кайданоў. Ды і мяне не пакрыўдзілі. *(Гартае рукапіс.)* Гэта справаздача?

**Алена.** Пісьменніца штосьці пакінула.

**Скараход** *(чытае).* «Шчаслівы дзень Пятра Самасейкі. Кніга лёсу».

**Лера.** Вельмі пафасна.

**Скараход.** Пра яго кніга. Цікава. Паслухайце, што ён успамінае пра сваё першае каханне.

**Лера.** Прайдзісвет… мне гудзеў, што я яго першае каханне.

**Алена.** І мне ў першы месяц даводзіў, што я па-сапраўднаму яго першае каханне.

**Лера.** Казанова мясцовага гатунку.

**Скараход** *(чытае).* «У 14 гадоў я закахаўся, калі застаўся сіратой і гадаваўся ў бабулі з дзядулем у раённым цэнтры. Каханне было без адказу. І я вырашыў помсціць. Пераследаваў яе, даганяў каля весніц і біў па галаве, руках, плячах, кажучы: "Не хадзі з Колькам, не хадзі, заб'ю!" Яна трывала мой гвалт і не скардзілася бацькам. Пасля школы мы развіталіся назаўсёды. Я яе дваццаць пяць гадоў не бачыў. Даведаўся, што яна развялася».

**Лера.** Усходні шэйх, пяцёра жонак хоча мець.

**Скараход.** «Развялася і яе апанавала працяглая дэпрэсія… лечыцца ў клініцы… Можа, у яе хваробе і я вінаваты. Палохаў яе па вечарах, біў без дай прычыны. Хачу паехаць у яе горад і прасіць прабачэння за сваю жорсткасць у юнацтве. Пакаяцца хачу… можа, грашыма дапамагчы трэба».

**Лера.** Гэта ж трэба ўсё памятаць? Як ён мяне там піярыць?

**Скараход** *(шукае старонку).* А вось… «Лера. Хітраванка. Ненадзейная. Запозна зразумеў».

**Лера.** І ўсё?

**Скараход.** Ага.

**Лера.** А пра густ, секс, розум ніводнага слова?

**Скараход.** Нічога.

**Лера.** Хам.

**Алена.** І пра мяне нешта ёсць?

**Скараход.** Зусім мала.

**Лера.** Чытай.

**Скараход.** «Сквапная. Позна зразумеў».

**Алена.** Гэта я? Год карміла лайдака. Не, трэба было яму на абед толькі палову яйка даваць.

**Лера.** А пра Ларысу? Цікава, што ён паведамляе?

**Скараход.** Ларыса… Ларыса… І шматкроп'е. Адно слова.

**Лера.** Шматкроп'е заўсёды мае глыбокі сэнс. Гэта я вам як былы карэктар гавару.

**Скараход.** Кнігу не дапісалі. Усяго дваццаць старонак.

**Лера.** Яе ніколі не дапішуць. Ён вываліўся з гнязда.

**Алена** *(не можа супакоіцца).* Гэта я сквапная! Ну, напісаў бы хоць беражлівая. Ганьба.

**Скараход** *(выдзірае старонку).* Знішчым візуальныя доказы. Няма старонкі, няма чалавека.

**Лера.** Лагічна.

**Алена.** Лера, навучы мяне сварыцца па-італьянску.
**Лера.** Па-рознаму можна. Ну, памятай хоць гэта слова: стронцый.
**Алена.** Памятаю. А што гэта значыць?
**Лера.** Засранец.
**Скараход.** Жартаўнікі гэтыя італьянцы.

Уваходзіць Пётр Пятровіч. Ён сумны.

**Алена.** Нарэшце. Мы тут абжэрліся валяр’янкай… Ну, кажы, стронцый.
**Пётр.** Прычапіцца няма да чаго. Палохалі, каб ведаў сваё месца.
**Лера.** Я ж казала. Прафілактыка. Усё. Пара. *(Аркестр недзе далёка грае вальс.)* Бывайце, Алена, зла не трымаю, бывайце, Вацлаў Янавіч, вы яшчэ ў самы раз, не сумуй, Патрык, і на цябе зла не трымаю…. Развітваемся з мірам. *(Цалуе Пятра Пятровіча.)* Арэвідэрчы, міа аморэ.
**Алена.** Гэта таксама лаянка?
**Лера.** Не. Гэта да пабачэння, маё каханне. Дон Кіхота замяніў рахунак у банку, а ягоныя ветракі замянілі атамныя электрастанцыі. Ляціць зонд да Юпітэра, можа, там што новае, а я лячу ў Сарэнта. (*Тэлефонны званок. Лера бярэ мабільнік.*) Пронта Джузепе, ты мяне чуеш, дарагі? Лячу на крылах, ты памятаеш, вечар, мы адны, Рыміні, пляж імя Феліні і наш любімы раманс. (*Спявае.*) «Наш уголок еще совсем не тесен. Еще нальем в бокалы мы вина. Не уходи, еще не спето столько песен, еще звучит в гитаре каждая струна». Цалую!
**Скараход.** Я правяду.
**Алена.** І я з вамі. *(Да Пятра.)* Прабач… я доўга думала, трывала, добрыя гэтыя грамадзянскія шлюбы, яны даюць магчымасць праверыць пачуцці… я гатовая была дараваць тую інтрыжку з кіяскёркай… але бунтуе душа, буду жыць як усе, пакуль не падрыхтаваная да вышыні свайго сумлення, справядлівасці, праўды… Не гатовая. Даруй… Я з імі. Кепска будзе з фінансамі, патэлефануй, я заўсёды яйка і бутэрброд з ліверкай знайду.
**Пётр.** Дзякуй за шчырасць. Казаў, не гатовая жыць, а вось праўду сказала, і нам абодвум лёгка, вольна. Бывай.

Алена ідзе. Пётр Пятровіч збірае рукапіс, складае ў папку. Дастае з партфеля дыск і кладзе яго на стол.
Уваходзіць Агітатар.

**Агітатар.** Прабачце, дзе тут знайсці Пятра Пятровіча Самасейку?
**Пётр.** Я Пётр Пятровіч, слухаю.
**Агітатар.** Я да вас па даручэнні Старшыні аддзялення Правай партыі. Запрашаем вас уступіць у нашы шэрагі, з вельмі добрай перспектывай, ажно на самыя высокія пасады.
**Пётр.** Вось як. І што ў вас запісана ў праграме?
**Агітатар.** Шмат чаго.
**Пётр.** Але ты галоўнае скажы.
**Агітатар.** Ну, гэта… барацьба з галечай і карупцыяй.
**Пётр.** Дык пра гэта і на Захадзе кожная партыя не стамляецца гаварыць.
**Агітатар.** Ну, гэта… Усё дзеля інтарэсаў народа.
**Пётр**. Якога народа? У нас многа нацыянальнасцей… Дзеля інтарэсаў якога народа?
**Агітатар.** Не ведаю. Старшыня ведае. Калі не жадаеце ў правую, я ўпаўнаважаны запрасіць вас у левую.

**Пётр.** Долар там, долар тут?

**Агітатар.** На стыпендыю, зубы на паліцу.

**Пётр.** А тут якая праграма? Таксама барацьба з галечай і карупцыяй і ўсё ў інтарэсах народа, але пад кантролем партыі. І таксама галоўнае хаваюць, і таксама ў інтарэсах народа.

**Агітатар.** Не ведаю.

**Пётр.** Вось уведай усё добра. Не рабіся рабом чужой волі і прыходзь.

**Агітатар.** Зразумеў. Прабачце.

Агітатар ідзе. Тэлефонны званок. У тэлефоне песня «Песняроў» у выкананні У. Мулявіна «Очень ранимые наши любимые».

Пётр Пятровіч не адразу бярэ сотавы тэлефон, доўга слухае.

**Пётр.** Так. Гэта я. Добры дзень. А дзе вы? Каля офіса? Госпадзі, ды не бойцеся вы нікога, уваходзьце.

Паўза. Працягваецца песня.

Асцярожна ўваходзіць Ларыса з чамаданам у руцэ.

**Ларыса.** Яшчэ раз добры дзень.

**Пётр.** Ад'язджаеце?

**Ларыса.** І так, і не…

**Пётр.** Ды вы сядайце. Сядайце да стала.

**Ларыса.** Я сышла з дому… хачу прасіцца да вас на працу.

**Пётр.** Не зусім разумею. Раскажыце па парадку.

**Ларыса.** Вы чыталі Шэкспіра?

**Пётр** *(здзіўлены).* У вучылішчы палову «Гамлета».

**Ларыса.** А «Атэла»?

**Пётр.** Штосьці цьмяна памятаю.

**Ларыса.** Атэла прыдушыў сваю Дэздэмону за хустачку, а мой можа прыдушыць за адзін талон. Сіл больш няма, яго падазрэнні, правакацыі, рэўнасць трываць. Вазьміце на службу.

**Пётр.** І рады бы быў… ад усёй душы… Толькі і я беспрацоўны. Фонд закрылі… затое вольны ад абедзвюх жонак.

**Ларыса.** Прабачце, я не своечасова. Як жа так…

**Пётр.** Якраз у самы час.

**Ларыса.** Вам няма дзе жыць?

**Пётр.** Пакуль няма дзе. Яна абяцала прадаць аднапакаёўку і купіць мне пакойчык.

Паўза.

**Ларыса.** Ёсць прапанова. Не палічыце… Мне родная цётка дом пакінула ў спадчыну, не вельмі, праўда, шыкоўны, не катэдж, але дзякуй богу, газ ёсць і буслы на даху. У вёсцы. Маглі б… пакуль часова… там… калі вам… там…

**Пётр.** А чаму б і не. Калі любіш жыццё, дык жыць усюды цікава. А калі яшчэ з табою побач чалавек, які цябе цэніць, разумее — тады жыццё ўдвая цікавейшае.

**Ларыса.** Вы такі разумны, добры… Я для вас буду гатаваць свае фірменныя галубцы.

**Пётр.** А што гэта такое?

**Ларыса** *(здзіўлена).* Гэта адваранае мяса, загорнутае ў лісты капусты.

**Пётр.** Штосьці прыгадваю. У сталоўцы нашага вучылішча такое давалі.

**Ларыса.** Вам падабаецца?

**Пётр.** Хачу. Толькі каб хоць у першыя месяцы на стале не было вараных яек і лівернай каўбасы.

**Ларыса.** Як загадаеце.

**Пётр.** Не было шчасця, дык няшчасце паспрыяла. Паехалі.

**Ларыса.** Вы забыліся білет на століку і дыск. *(Пётр бярэ білет.)* Што там?

**Пётр.** Запрашэнне на прыём у Пасольства адной краіны далёкага замежжа з нагоды дня Незалежнасці. З жонкай.

**Ларыса.** Ууу… Не пойдзеце?

**Пётр.** Якраз наадварот. Там будзе многа знаёмых. Абавязкова пойдзем. Я цяпер іншым зрабіўся. Трэба ісці сваёй дарогай і дабро бараніць.

**Ларыса.** Я не па модзе апранута.

**Пётр.** Дарагая мая. Купі новую сукенку. Яны думаюць, я зламаўся. Не дачакаецеся. Пойдзем з высока ўзнятай галавой. Мы на сваёй зямлі… не госці, не найміты, а гаспадары. Я зразумеў канчаткова: дабро трэба бараніць.

Бярэ яе за руку, у другую бярэ чамадан, і яны ідуць.

Дождж. Моцны дождж. Аднекуль зверху падае жоўтае лісце.

З глыбіні сцэны ідзе Маргарыта Карлаўна са швабрай і вядром. У кішэні ў яе газета. Дзесьці далёка грае духавы аркестр, вальс «Осенние листья».

**Маргарыта Карлаўна.** Божа, як час бяжыць. Здаецца, зусім нядаўна тут фонд быў, а ўжо казіно.

Уваходзіць Фёдар. У яго шыкоўныя чорныя вусы.

**Фёдар.** Бабуля, дзе тут знайсці дырэктара фонду Самасейку?

**Маргарыта Карлаўна.** Якая я табе бабуля? Я яшчэ нарадзіць магу… Вунь, у нейкай замежнай краіне нейкая кабета ў шэсцьдзясят чатыры нарадзіла.

**Фёдар.** Марыць не шкодна. І мураш марыць за жонку сланіху ўзяць. Дык дзе ж ён, дырэктар ваш?

**Маргарыта Карлаўна.** Няма яго. І фонду няма.

**Фёдар.** Як гэта? А дзе ж?

**Маргарыта Карлаўна.** Паехаў.

**Фёдар.** Не адзін, безумоўна, ты хацела сказаць паехалі, але не сказала. Ён з Ларысай паехаў? Не цягні, гавары.

**Маргарыта Карлаўна.** Можа, і з ёю.

**Фёдар.** Даўно?

**Маргарыта Карлаўна.** Ды месяцы тры, чатыры…

**Фёдар.** Спазніўся. *(Вынімае скрынку.)* Вось… брошку для яе набыў, 80 долараў выдаткаваў, а 81 долар разам з ювелірам прапілі… так мне брошка спадабалася. Ён мяне навучыў. Кажа, занадта раўнаваць небяспечна… яны не любяць. Іх, кажа, ласкаю, грашыма, падарункамі ўлагоджвай. Вось… Прыгажосць. Усё натуральнае. Серабро, аблямоўка і брыльянцік… Ты мне толькі адрасок іхні… калі ласка… Я ж без яе таксама пакутую, можа быць.

**Маргарыта Карлаўна.** Ды хто ж іх ведае. Куды яны паехалі. Аналізуй, абагульняй.

**Фёдар** (*здзіўлены)*. Мы з вамі ў адной філасофскай праграме? Прыемна. Абклаўся кніжкамі па філасофіі… не магу зразумець сэнс жыцця, космасу, жанчыны.

**Маргарыта Карлаўна.** Можа, злы? Злым сэнсы не адкрываюцца.

**Фёдар.** Можа. Дык куды паехалі? Ведаеш, па вачах бачу. Ты з імі разам. Я спазніўся, страціў яе, так?

**Маргарыта Карлаўна.** Можа, і страціў, хто ж яго ведае.

**Фёдар.** Страціў. Вазьмі сабе брошку.

**Маргарыта Карлаўна.** Адкуль у мяне такія грошы.

**Фёдар.** Бясплатна. Гэта падарунак. *(Паўза.)* На ўспамін. *(Пакідае скрыначку на стале. Адклейвае вусы.)* Спазніўся. *(Ідзе.)*

Звоніць будзільнік.

**Маргарыта Карлаўна** *(выключае яго, кладзе ў кішэню).* Божа, няўжо ўжо залатая восень. Куды, хто хавае гэты час, чаму ён так ляціць? Спыніся, імгненне, ты цудоўнае… сказаў паэт. Не спыняецца. *(Яна кідае швабру і вядро, выцягвае з кішэні халата газету.)* Як жыць? У Італіі на пляжы забаранілі масаж… Як яна там будзе грошы зарабляць? Вох, як высвятляецца, у артыста Шварцнегера таксама ёсць пабочны сын… і можа, не адзін… Як жыць? Трэба ўзаконіць па ўсёй зямлі мнагажэнства, каб усе бабнікі супакоіліся. Божа, проса было пяцьдзясят цэнтаў, а сёння ўжо тры долары. Рэклама, рэклама. Уводжу ў запой, выводжу з запою. Напускаю сурокі, здымаю сурокі… Хоць новая рубрыка. Дзіўнае і неверагоднае. Забаўны выпадак адбыўся ў вёсцы Сакольнікі. Жыхар Самасейка Пётр Пятровіч вярнуў свайму суседу яблык з яго яблыні, які зваліўся з дрэва ў гарод Самасейкіных. Сусед быў прыемна здзіўлены і падараваў Самасейку ровар. Вось дык Пётр Пятровіч, і там не супакойваецца. Дзівак чалавек. Хочацца жыць. А можа, на такіх дзіваках і свет стаіць. Відаць, яно так. Дай напішу яму ліст. Хай вяртаецца. Сумна тут без яго. Дзіка. Напішу…. А гэта што? Божа, стрымаў такі слова. Мой любімы Кубанскі казачы хор. І дзе ён толькі гэты дыск знайшоў? *(Уключае плэер. Магутна гучыць казацкая песня «Бурку бери, бери, шашку бери, бери».)*

***Заслона.***

# САДЫ ВЕЧНАСЦІ

*(З сучаснай сербскай паэзіі)*

**Васка ПОПА**

## НАСЕННЕ

Хтосьці пасее кагосьці
Пасее яго ў сваёй галаве
Зямлю як след утопча

Чакае: вось прарасце

А пасеў яму спустошыць галаву
Ператворыць яе ў мышыную нару
І мышы насенне з’еўшы

Выздыхаюць на месцы

Паселіцца ў пустой галаве вецер
І наплодзіць стракатых ветранятак

## ПАХОДЖАННЕ МІЛІЧА АД МАЧВЫ

Можна пачуць пра яго шмат чаго

Нібыта выскачыў ён з распаленай кулі маланкавай
якая перад святам аднойчы ў час паўночны
дах прабіла бацькоўскай хаціны

Нібыта шчыруючы на ніве бацька руплівы
неяк выкапаў яго ў збане
поўным нэманіцкага золата старадаўняга

Нібыта бацька і маці здолелі зваяці
яго з пылу таго які асыпаўся патрошку
з фрэсак манастыра Траношы

Ды хто б і што б ні казаў
пад канец д’ябал выдае як ісціну:
на свет ён з’явіўся з пэндзлем жывапісца
ў моцных воўчых зубах.

## Душан ЧОЛАВІЧ

### ЗЯМНЫ РУКАПІС

Па гэтай зямлі,
Па ўтаптаным пыле
Вецер гартае рукапісы
Неапублікаваныя.
Між радкоў застаецца
Абарваны крык
Новых вершаў.
У многіх слаях
Вякоў скарожаных
Гучаць абуджаныя
Галасы розуму.

### УСВЕДАМЛЕННЕ

Калі азірнешся,
Усведамляеш:
Гэта ж многія вякі
Матулі нашы
Слязьмі палівалі
Сады вечнасці.

## Мілерад ДЖУРЫЧ

### РУСКАЯ КАЗКА

Бярозы не белыя і не шумяць.

Нячыстая сіла
гоніць чорных коней
з жалезнымі капытамі
па бяскрайніх жытнёвых палях.

На вачах нябожчыкаў
пятакі ператвараюцца ў залатнікі.
Пад купалам Свята-Троіцкай лаўры
сонца запальвае свечкі.

Да цемры на ўсходзе
Іван-сялянскі сын
паварочвае сляпы твар
і кідае зялёны яблык.

Кашчэй Бессмяротны
засцілае чырвоным абрусам
Пятроў стол у Крамлі,
вочы яго — чорныя моры.

Памірае з голаду цар-уладар
Вялікай, Малой і Белай Русі…

Калі ўзыдзе сонца з захаду,
Прачнецца ад мёртвага сну Ілля Мурамец,
паміж Петраградам і Масквою,

каб іншую пасцель сабе выбраць.

## РАСА́

Каб вачыма святога Іаана
мог я ўбачыць Іардан пасля Хрышчэння:
вада цякла там светлая ці чорная?

Каб вачыма Хрыста
ўбачыў я благадаць,
якую з крыжа паслаў Ён свету,

то зразумеў бы тады
больш ці менш за тое,
што цяпер разумею?

Усё спакайней
ні ў што добрае
ўжо не веру.

І толькі раса імгненная
на каменнай пліце
замест мяне штосьці піша.

# Слабадан РАКІЦІЧ

## ЯШЧЭ ТОЛЬКІ СІНІЦА СПЯВАЕ

З поўначы атакуюць нас,
        што ж будзе з намі гаротнымі.
З поўдня адразаюць нас,
        што ж будзе з намі гаротнымі.

З захаду раздзяляюць нас,
што ж будзе з намі гаротнымі.
З усходу абяззбройваюць нас,
што ж будзе з намі гаротнымі.
Слухаю ўсю ноч, як шпак спявае,
што ж будзе з намі гаротнымі.
Холадна ад зямлі, яшчэ халадней ад неба,
што ж будзе з намі гаротнымі.
На моры і ў гарах, у пасцелі і за сталом
што ж будзе з намі гаротнымі.
З языкамі, але без мовы мы,
што ж будзе з намі гаротнымі.
Усю ноч яшчэ толькі сініца спявае,
што ж будзе з намі гаротнымі,
калі яшчэ толькі сініца спявае.

### ПІСЬМО

Далёкая зорка ясная!
Зара далёкая, з якой я рушыў
у цемру гэтую!

Далёкая ліпа
з крылатымі ангеламі
і пчоламі!

Далёкі сын мой
з плячыма дужымі
і светлым розумам!

Дзіцятка роднае
з пяшчотным іменем —

Дачушка любая, адсюль нябачная,
з прыгожым кошыкам
даспелых ягадак!

Далёкая краіна родная,
ад ран знямоглая!

## Нікала Цінцар ПОПАСКІ

### МІЖ ХЛЕБАМ І НЕБАМ

Свет увесь
у жалобе

Нарадзіла мне
сына вугрыха

Дзякуй ёй
што не забылася

На жабрака
перад гожай выявай

Нічога дзіўнага
што ем сябе

Між сваёй выявай
і сабою.

## Мілюрка ВУКАДЗІНАВІЧ

### СПЕЎ ПРА ПАЛЁТ І ПАДЗЕННЕ

Не магу я з гэтым крылом
суправаджаць іншых птушак
і калі паасобку яны, і калі ў чарадзе.
Крывое ў мяне крыло,
таму выкрыўляецца палёт,
крывым становіцца і хворае неба
над гэтым хворым будынкам;
а прычына ўсяму — крывое
зламанае крыло маё.

Хоць узлятаю, добра бачу,
што многае вымушана абмінаю.
І дакуль гэта
гожая птушка паперадзе
пасвістваць будзе на мяне
як на нягеглага і нямоглага?
Ды скончыцца гэта і для яе,
і для ўсіх узнёсла акрыленых,
і для мяне, які ўжо начытаўся,
напісаўся і налюбіўся,
а цяпер жыве з немаччу
пераадольнаю.

Не магу я з гэтым крылом
суправаджаць іншых птушак
і калі паасобку яны, і калі ў чарадзе.
Крывое ў мяне крыло,
таму выкрыўляецца палёт,
крывым становіцца і хворае неба
над гэтым хворым будынкам;
а прычына ўсяму — крывое
зламанае крыло маё.

## БАЛАДА ПРА ЯЗДУ НА КАНІ

Не сесці на варанога каня
Не з’явіцца на белым кані
Не ўцячы на ліхім жарабцы
А кружляць
Па горадзе
Па хворым горадзе
Не дбаючы пра тое
Куды прыбудзеш і калі
Круціць педалі
Падладжвацца ў хуткасці
Сунуцца ў радзе
З хуткасцю абмежаванай
Сэрца — спідометр
Душа ў носе пакажа сваё
і тваё: Хімія такая
што ўсё адмяняе
Не сядаць на каня
А калі сеў злезці
І далей на ровары ездзіць
Альбо спёкшыся здацца А. Л.
(Агенту Лёсу )
Ў чорным адзенні

## Момір ЛАЗІЧ

* * *

Хто ў агонь
ускочыць,
таму полымя
помнік узводзіць.

* * *

На вяршыні бярозы
ангел заснуў
і прысніў каравай,
аздоблены рукамі
акарэлымі
маці маёй.

## Ана ДУДАШ

## СЯРГЕЙ ЯСЕНІН У АКНЕ

З нязбыўнымі марамі,
бессэнсоўнасцю абцяжараны,
глядзіць ён на плошчу вялізную,
думаючы не пра жыццё.

Крок за крокам
усё бліжэй да акна,
праз шыбы якога
не відаць неба і святла.

Паэту хараство
і дабрыня патрэбны,
каб словы песняй сталі.

Ён гэта спазнаў даўно.
Якраз такія словы цяпер
на дне душы знямелай.

А пры гэтым акне
ўсё знікае — як і не было.
Толькі песні яго і з часам
Грэюць душы на раздарожжах.

## МАЛІТВА
## ЗА (НЕ)ЧАЛАВЕКА

Ліхі чалавек прастору псуе,
эпоху забруджвае.
З міласці яму б розуму дадаць,
каб душа акрыяла і захацела
ружай альбо галактыкай стаць.

Ён ілбом барозны пракладае,
словы-церні ў іх утыкаючы,
і чакае не дачакаецца,
каб яго атрутнасць
некаму перадалася.

Такі любую ўсмешку сцірае,
святло заўсёды засланяе,
дабру вароты зачыняе.
Яму б толькі заўжды і ўсюды
яд распаўсюджваць.

Але, Божа наш літасцівы, дай,
каб ён прыгадаў дзяцінства —
пры святле хоць той ласкі няхай
абудзіцца і з дна душы
закрычыць пакаянна.

# Радаван КАРАДЖЫЧ

## МАЕ ПРАВЫ

З правоў ма́ю невялічкае акенца
Ў Вялікі Белы Свет.

А праз яго бачу
Крыху Таго, крыху Гэтага,
Птушку адну, ніколі чараду,
Вяршыню дрэва, невядома дзе корань,
Усё болей здагадак,
Усё меней дадзенасці —
Нібыта ўсё на здагадкі і створана.

Крокі мае ў камеры марныя,
Бо я ўсяго блакіту не бачу,
І таму, што над безданню
Павінен схіляцца,
І таму, што ад кія турэмшчыка
Мушу захіляцца.

У мяне ёсць, хоць і не афіцыйна, права
Цябе любіць, каб гэта было нябачна.

## ЧУЖЫНЕЦ

Еду на лядашчым слове,
На трохногай каняжыне,
У час перакручаны
Па краі скручаным,
І розныя знакі бачу.

На полі мінным —
Крывавыя,
А на лузе — каляровыя.
Калі ж трапляю ў выкрыўлены свет,
Там уладарыць Не.
Ці то мыш, ці кажан, а ці здань.
Краявід нейкі натапыраны.
Паўсюль тырчыць бадылле.
І па ветры мярцвячым
Напамін пра нявыкананы запавет.

Жыццё пражывеш пад Не,
Прысягнеш яму,
Як таму, хто дбае пра святасць,

Аддасі сваё сэрца мужчынскае
І свой зямны час
На службу нямой пачвары.

Гэтак кожны, хто рушыць,
З дурной галавой, ад ніў родных
У царства пустэчы і Не,
Дзе яго аплятуць клопаты замест траў,
І дзе ўсё навокал кружыцца.

Ён доўга вяртаецца да сябе
І моліць Бога, каб паспець да смерці.

## Алек ВУКАДЗІНАВІЧ

### СЛОВА ГЛІГОРЫЯ ДЗЯКА

Усюды навокал час звера
Звер смерці не саступае

Я ў свайго дома прасторы
Колеры вызначаю
Я ў роднай славеснасці
Слова дзеля спакою

Усюды навокал час змроку
(Ахіляе Бог Дзяка)

Божа, кепска!

Залатую іскру душы сваёй
Уткаў я сюды —
Вось яна!

### КРУГ 1992

Час смерці час бяды
Нідзе Божага ладу

Кружыць кружыць
Усю ноч вецер тужны

Вецер ганіць час у круг
І паварочвае

Час і бог страху згінулі
Зло і Гора без супыну

Паўсюль ганіцелі
У круг ахвяр заганяюць
Гоняць час гоняць Бога
Да надыходу дня
Ўжо нежывога

## Адам ПУСЛАІЧ

### БУДАЎНІЦТВА СЕРБІІ

Калі Бог, даўно-даўно, ствараў Сербію,
ніхто Яму не дапамог —
апроч Сербіі!

Неспадзявана
тады святы Сава прыйшоў
і запытаўся ў Госпада свайго:
«Можа, Госпадзі, я тут магу
Нечым дапамагчы?»
Бог, нахмураны тварам,
Глыбока задумаўся, ды пасвятлеў:
«Хіба ёсць такія, хто
добраахвотна сябе прапаноўвае
пры самым стварэнні свету?!»

І так святы айцец Сава
Ўбудаваў сябе ў Сербію,
Быццам бы ўклаў сабе агонь у вусны.

З той пары Сербію часта агонь паліў
І цемра свяціла ўсімі сваімі светлымі святамі.
Дзень пры дні сцены Сербіі цудам раслі,
Хоць па начах іх злыя сілы разбуралі.

«Сцвердзіўшы цела сваё на зямлі»,
Сербія ўзвяла сябе
Ў яднанне вечнае, Ойча,
А мы, баганосцы Твае,
Зледзянелай зямлі аблічча асвятляем:
Сярод агню стаім поруч з Савам.

Сёння, у гэты святы дзень,
Мы цябе і далей аб'ядноўваем, Сербія!
Аб'ядноўваем краі ў Краіну,
Усе землі сербскія ў Сербію.

Зіхоткая дзянніца
Няхай будзе адзінай тваёй зоркай.

Сцвердзі душу сваю на зямлі
І сцяну гэтую апошнюю,
Ойча, благаславі.

Аб’яднанне Сербіі з сабою,
Аб’яднанне Сербіі з Богам,
Аб’яднанне Сербіі з народам.

*На дзень адкрыцця манастыра святога Архангела Гаўрыіла ў Земуне,28 сакавіка 1990 года.*

## Драган ЛАКІЧАВІЧ

### КОСАЎСКАЯ НОЧ

Зняменне косаўцаў не праходзіць
Вось ужо больш шэсць стагоддзяў

Галасоў не пачуеш дзіцячых
У здранцвелым тым краі нашым

Поле нібыта марна ўзарана
І трава за ноч павыдзірана

Па чорнай расе Косава поля
Не прынясуць жаніхі дзяўчатам долі

## Раша ПЭРЫЧ

### ЗАКАПАНЫЯ ЗВАНЫ

Прабач нам, Божа, за званы закапаныя,
за вяроўкі, якія
вісяць не на білах званоў, а на слупах,
за перакладзіны, якія
не спяваюць у святы, а плачуць,
і прабач за глухі час, калі душы
нашы не звіняць, а цені пакрываюць.

А што мы маглі іншае,
калі каркае варона і ззяе кінжал,
і мільгае чалма (страшная яна!),
як закопваць і засыпаць
званы і языкі іх:

у магілы — у скалы,
у калодзежы — у нетры,
у крапіву... дзе яны не сядуць,

напаўшы на нас,
змораных ад гора
і ўзрушаных ад гневу.

Ды прабач нам, Божа, за званы тыя,
ад саміх нас схаваныя,
нашымі рукамі закапаныя
і забытыя на ўвесь наш век —
нібыта яны і не нашы,
не ад нашага спеву і нашага плачу.

Хіба яны нам не трэба?

Чаму тады ў нас нямыя?
Чаму званіцы пустыя?
Няўжо, каб былі галубятнямі...
ці нават куратнікамі?

Вакол чаго зраднім дзяцей,
калі не вакол званіцы і званоў,
як вакол агню, вакол хлеба, вакол свечкі?

На чым у нас будуць гайдацца вучні
і манахі,
калі не на вяроўках і языках звона?

Божа, уратай!
Уратуй, Божа, званы! І вярні ім языкі,
вярні голас,
бо калі не ўратуеш іх, нашто нам выратаванне?

## Дане СТОІЛЬКАВІЧ

### ЗНЯНАДЖАНЫЯ НАДЗЕІ

Ці то сонца падманула
ці вецер перавярнуў
ці захілілі ўсё хмары
з многімі памагатымі
якіх ніхто не заўважыў
калі яны прычапіліся
да нашых жыццяў
і пакуль усе хто жадае
можа лёс вызначаць нам
нібыта мы дзеці малыя
ніводная хата
не можа быць збудавана

інакш як быццам бы
паводле плана
закончанага вар’ята

## ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА

Перад
тысячагадовым дубам
нават сякера ў замаху
пачынае думаць
і ў полі
і ў жыцці
і ў XXI стагоддзі
Я і дуб
цалкам падобныя
стаім
на гарызонце
бясконцасці
Сербіі

# Драган БАРЫСАЎЛЕВІЧ

## КВЕТКА

Спадзяюся
Баюся
З’явіцца
Высветліцца
Заўтра
Ўсё

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

Валянціна ТКАЧУК

# ПРАБЛЕМА ПСІХАЛАГІЗМУ І МАСТАЦКАГА ХАРАКТАРУ Ў СУЧАСНЫМ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВЕ

Псіхалагізм і мастацкі характар у літаратуразнаўстве 2-й паловы XX ст. знаходзіліся ў полі зроку айчынных і замежных даследчыкаў як важныя навуковыя катэгорыі.

Іх значнасць і запатрабаванасць абумоўлены непасрэднай сувяззю амаль з усімі кардынальнымі пытаннямі літаратуразнаўства, паколькі ў цэнтры ўвагі стварэння вобраза (апісання) быў і застаецца чалавек у цэлым, у тым ліку з невычарпальнай разнастайнасцю праяў яго ўнутранага свету.

Даследчыкі пацвярджаюць бясспрэчны факт — узрастаючая цікавасць пісьменнікаў да заканамернасцей паводзін чалавека, асаблівасцей яго ўнутранага жыцця з'яўляецца агульнай і даволі важнай тэндэнцыяй XX—XXI стст. Псіхалагізм як творча-выяўленчую асаблівасць прозы дакладна ахарактарызаваў Б. Сучкоў, які пісаў, што многія лепшыя мастакі слова «ўсё болей увагі надаюць псіхалогіі герояў, засяроджваючыся на глыбінным адлюстраванні ўнутранага свету чалавека, удасканальваючы інструментарый даследавання патаемных куточкаў душы сваіх герояў» [1, с. 401].

Псіхалагізм непасрэдным чынам звязаны з уменнем мастака слова ствараць тыпы і матывы паводзін, духоўныя і душэўныя працэсы ў адпаведнасці з рэальнымі законамі псіхалогіі. Узаемасувязь герояў (персанажаў) з акаляючым асяроддзем паказваецца пісьменнікамі як складаны і шматгранны працэс, у выніку якога фарміруецца характар героя. Але пры гэтым мастак слова выдатна індывідуалізуе псіхічныя асаблівасці кантактаў герояў са знешнім светам, вылучае найбольш характэрныя для іх паводзін псіхічныя дамінанты.

Мастацкая літаратура даволі часта мае выкрывальны змест, у сувязі з гэтым пісьменнікі ўсё часцей заглядваюць у твар і душу чалавека, яны імкнуцца зразумець, што адбываецца з чалавекам, яго ўнутраным светам, з яго душой і душэўнымі хваляваннямі, калі парушаецца стары лад, асновы, нормы і традыцыі. У мастацкіх творах дэталёва апісваюцца сітуацыі, у якіх раскрываюцца характары.

Выявіць ідэйна-эстэтычны пафас твора можна аналізуючы маральна-псіхалагічны змест вобразаў героя, асаблівасці раскрыцця іх характараў і асэнсоўваючы той ці іншы твор у кантэксце з іншымі творамі таго ж перыяду.

Дзякуючы дасягненням мастацкай думкі XIX ст. сфарміравалася паняцце мастацкага характару: «Гэта вобраз чалавека, абмаляваны з вядомай паўнатой і індывідуальнай акрэсленасцю, праз які раскрываецца як абумоўлены дадзенай грамадска-гістарычнай сітуацыяй тып паводзін, так і характэрная аўтару маральна-эстэтычная канцэпцыя людскога існавання. Мастацкі характар — арганічнае адзінства паўтаральнага і індывідуальнага непаўторнага, аб'ектыўнага і суб'ектыўнага» [2, с. 215].

Тэорыя літаратурнага характару мае сваю даўнюю гісторыю. Гэтым пытаннем цікавіліся Арыстоцель у знакамітай «Паэтыцы», Гегель у «Эстэтыцы». Напісана многа даследаванняў, у якіх мастацкі характар займае значнае месца. Гэта

найперш працы вядомых навукоўцаў — С. Аврынцава, М. Бахціна, С. Бачарава, Д. Ліхачова, Л. Гінзбург, — ярка сведчаць аб цікавасці даследчыкаў да пытання мастацкага характару ў літаратуразнаўстве 2-й паловы XX ст. Варта адзначыць, што многія літаратуразнаўцы адносяць характар да катэгорыі, якая належыць прозе, будуецца такі характар на аснове сюжэтнай лініі (якая адсутнічае ў паэзіі), на асаблівасцях моўных характарыстык. Напрыклад, Л. Гінзбург лічыць, што тэрмін «характар» *«едва ли нужно применять»* [3, с. 334], паколькі асоба аўтара выражаецца ў творы ў формах аўтарскай свядомасці. Важным момантам пры вывучэнні пытання мастацкага характару як формы ўзаемадзеяння аўтара і героя з’яўляецца той факт, што на працягу некаторага часу структура паняцця «мастацкі характар» змяняецца на аснове аўтарскай канцэпцыі чалавека, аўтарскага разумення і ўспрыняцця ўчынкаў, думак чалавека-героя.

Праблему псіхалагізму ў літаратуразнаўстве асвятляюць наступныя даследчыкі ў сваіх працах і навуковых артыкулах: А. Іезуітаў «Праблемы псіхалагізму ў эстэтыцы і літаратуры», В. Кампанеец «Мастацкі псіхалагізм у савецкай літаратуры (1920-я гады)». Адным з вядомых даследчыкаў, працы якога стаяць на мяжы літаратуразнаўства і псіхалогіі, з’яўляецца прафесар Саратаўскага ўніверсітэта І. Страхаў. Ён выказаў меркаванне: «Асноўныя формы псіхалагічнага аналізу можна падзяліць на адлюстраванне характараў «знутры», гэта значыць шляхам мастацкага пазнання ўнутранага свету дзеючых асоб, які выражаецца сродкамі ўнутранай мовы, вобразаў памяці і ўяўлення; на псіхалагічны аналіз «звонку», які выражаецца ў псіхалагічнай інтэрпрэтацыі пісьменнікам сродкаў моўнай выразнасці, моўных паводзін, мімічнага і іншых сродкаў знешняга праяўлення псіхікі» [4, с. 4]. У якасці крыніц вывучэння псіхалагічнага аналізу ў літаратурнай творчасці прафесар І. Страхаў абраў творчасць Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, А. Чэхава. Даследчык вынікова займаўся аналізам унутраных маналогаў, характарыстычных рухаў, партрэтаў і г. д.

Аналізуючы псіхалагізм у беларускай літаратуры ў працэсе яе развіцця, мы ўзгадваем празаікаў, а разам з тым герояў і найбольш яскравыя эпізоды з іх твораў. У першую чаргу называем К. Чорнага і яго псіхалагічна-філасофскія раманы «Пошукі будучыні», «Сястра», інш. У 20-я гады XX ст. К. Чорны, як адзначае М. Тычына, выбірае новы напрамак развіцця творчасці — захапляецца псіхалагічным аналізам, які быў папулярны ў той час у рускай і еўрапейскіх літаратурах і літаратуразнаўстве. З кожным творам беларускага пісьменніка ўзмацняецца імкненне даследаваць унутраны свет чалавека, ісці ў глыбіню яго пачуццяў і думак.

Ад твора да твора ўдакладняецца і ўскладняецца псіхалагічная і сацыяльная характарыстыка героя. Паступова ён вырастае ў вобраз, які ўвасабляе лепшыя рысы беларускага народа, яго гістарычны лёс. Творчыя пошукі і спробы прывялі пісьменніка да вялікай прозы. Раман «Сястра» — не толькі вынік псіхалагічнай прозы, але і яе працяг. Дэталёва вывучаючы тое, як нараджаюцца і развіваюцца ў душы герояў часта няўлоўныя пачуцці, думкі і іх адценні, вострыя настроі і перажыванні, малады аўтар імкнецца зразумець сэнс чалавека, вызначыць яго месца і ролю ў агульным руху грамадства, усвядоміць характар, зірнуць у будучае.

Урокі псіхалагічнага майстэрства К. Чорнага атрымалі плённае развіццё ў творах І. Мележа, В. Быкава, В. Адамчыка, І. Пташнікава, А. Жука, Г. Марчука… Стварэнне яскравых і паўнакроўных характараў магчыма толькі пры ўзнаўленні сутнасных унутраных якасцей асобы. Класікі сусветнай і айчыннай літаратуры за вельмі рэдкім выключэннем з’яўляюцца тонкімі псіхолагамі, даследчыкамі душы чалавека. К. Чорны на пачатку мінулага стагоддзя сцвярджаў, што чалавек — гэта цэлы свет, адна істота — неахопны прастор, і разглядаць яго трэба толькі тады, калі ўмееш. Гэтае меркаванне раскрыла не толькі сэнс творчасці пісьменніка, але і вялікай часткі літаратуры XIX і XX стст.

У вялікім эпічным творы пісьменнік, звычайна стварае цэлы шэраг непаўторных асоб, характараў, узнаўляе іх жэсты, толькі для іх характэрныя словы, паводзіны, апісвае ўчынкі. Чым глыбей мастак слова разумее, успрымае рэчаіснасць, тым больш дакладна, шматгранна малюе ён вобразы і характары ў сваіх творах. У якасці прыкладу варта ўзгадаць трылогію Я. Коласа «На ростанях», у якой аўтар стварае героя, які думае, разважае, перажывае, спрачаецца, імкнецца зразумець і заняць сваё месца ў грамадстве.

Мастацкі характар лічыцца цэласным, удалым і сэнсава закончаным у тым выпадку, калі аўтар не проста фіксіруе псіхалагічныя станы героя твора, а паказвае эвалюцыю яго ўнутранага свету.

Даволі часта рух мастацкіх характараў у літаратуры адлюстроўвае рух часу. Сродкамі мастацтва пісьменнік апісвае рэальнасць, яе паступовы рух. Аснова многіх твораў — рух характараў. Час не проста ўвасабляецца ў асобах, а рэалізуе сябе ў мастацкіх вобразах. Мастак слова ўдыхае ў іх душу, робіць іх бачнымі, прыкметнымі, значнымі. Некаторыя пісьменнікі даследуюць, абмалёўваюць пэўную эпоху, яе ўплыў на стан і настроі грамадства. Літаратура характарызуецца тым, што час урываецца ў кнігі, вучыць нас, падказвае, у якім накірунку неабходна пісьменніку раскрываць тэму.

Запамінальны характар можна стварыць толькі сродкамі, прыёмамі псіхалагізму, якія падкрэсліваюць індывідуальнасць, своеасаблівасць унутранага свету чалавека.

Паняцце «псіхалагізм» трывала ўвайшло ў літаратуразнаўства і прызнаецца асноўным прынцыпам мастацтва. Пра псіхалагізм было вядома яшчэ ў часы Антычнасці і Сярэднявечча. Пачуцці чалавека, яго ўспрыняцце і разуменне навакольнага асяроддзя сталі аб’ектам творчых набыткаў пісьменнікаў-сентыменталістаў. Псіхалагізм як спосаб індывідуалізацыі мастацкага вобраза на шляху свайго развіцця змяняўся, пераасэнсоўваўся, набываў некаторыя новыя прыёмы і сродкі стварэння характараў. Асаблівае развіццё ён набыў у рэалістычнай літаратуры, дзе жыццё чалавека, яго духоўныя шуканні звязаны з існаваннем грамадства, у такім выпадку можна гаварыць пра сувязь унутранага свету са светам знешнім.

Напрыклад, А. Есін у кнізе «Псіхалагізм рускай класічнай літаратуры» выкладае тэарэтычны аспект дадзенай праблемы. Яго выказванні па гэтай праблеме застаюцца і сёння слушнымі, аўтарытэтнымі і грунтоўнымі. Даследчык адзначае, што найбольшыя магчымасці для адлюстравання ўнутранага свету чалавека мае эпічны род літаратуры, называе асноўныя формы псіхалагічнага адлюстравання (простая, ускосная, сумарна-абазначальная), а таксама падае кароткія дэфініцыі прыёмаў псіхалагічнага адлюстравання: псіхалагічны аналіз і самааналіз, унутраны маналог, «дыялектыка душы», мастацкая дэталь. Літаратуразнаўца адзначае: «Адлюстраванне ўнутранага свету чалавека — псіхалагізм у прамым сэнсе слова — уяўляе сабой спосаб стварэння вобраза, спосаб узнаўлення і асэнсавання таго ці іншага жыццёвага характару; такі псіхалагізм належыць да вобласці формы, характарызуе стыль, стылёвую своеасаблівасць твора» [5, с. 10].

А. Есін вызначае шырокае і вузкае значэнне слова «псіхалагізм»: «У шырокім сэнсе пад псіхалагізмам разумеецца ўсеагульная ўласцівасць мастацтва, якая заключаецца ва ўзнаўленні жыцця чалавека, у адлюстраванні характараў людзей» [5, с. 4]. А ў літаратуразнаўстве пад тэрмінам «псіхалагізм» замацавалася больш вузкае паняцце, згодна якому «псіхалагізм з’яўляецца ўласцівасцю, якая характэрна не для ўсяго мастацтва і не толькі для ўсёй літаратуры, а толькі для пэўнай яе часткі. Пры гэтым падкрэсліваецца, што «пісьменнікі-псіхолагі» адлюстроўваюць унутраны свет чалавека асабліва ярка, ажыўлена і падрабязна, дасягаюць асаблівай глыбіні ў яго мастацкім асваенні» [5, с. 5].

Варта адзначыць, што псіхалагізм як асаблівая эстэтычная якасць узнікае не заўсёды. Пра псіхалагізм можна гаварыць толькі ў тым выпадку, калі псіхалагічнае адлюстраванне з’яўляецца важным сродкам, пры дапамозе якога ствараецца

характар, калі яно выконвае значную, сэнсавую нагрузку, раскрывае асаблівасці тэматыкі і праблематыкі твора. Такое псіхалагічнае адлюстраванне звычайна становіцца даволі глыбінным, выразным, яскравым, не абмяжоўваецца схематычнай абмалёўкай характару і ўнутранага стану дзеючай асобы.

Улічваючы некаторыя вынікі даследаванняў І. Страхава, А. Есін, вылучае асноўныя формы псіхалагізму: прамая — «знутры», ускосная — «звонку» і сумарна-абазначальная — спосаб расказаць чытачу пра думкі і пачуцці персанажа з дапамогай назвы, даволі кароткай характарыстыкі тых працэсаў, якія адбываюцца ва ўнутраным свеце.

Натуральна, што кожная форма псіхалагічнага адлюстравання валодае рознымі пазнавальнымі, выяўленчымі магчымасцямі. У пісьменнікаў, якіх можна назваць тонкімі псіхолагамі, звычайна для ўзнаўлення душэўных хваляванняў выкарыстоўваюцца ўсе тры формы.

Прыцягальным пытанне псіхалагізму застаецца і на сучасным этапе развіцця беларускага літаратуразнаўства. Неабходна ўзгадаць працу А. Андрэева «Цэласны аналіз літаратурнага твора» (1995), якая змяшчае параграф «Псіхалагізм у літаратуры», навуковае выданне В. Залатухінай «Псіхалагізм у літаратуры» (2009) і артыкул В. Козіч «Псіхалагізм як праблема ў вывучэнні сучаснай беларускай прозы».

В. Козіч прасачыла этапы развіцця і гісторыю вывучэння псіхалагізму ў беларускай прозе. Першай самай грунтоўнай працай, якая паклала пачатак у вывучэнні, тэарэтычным асэнсаванні псіхалагізму з'яўляецца манаграфія А. Матрунёнка «Псіхалагічны аналіз і станаўленне беларускага рамана». Аўтар даследавання, прасачыўшы сувязь развіцця псіхалагічнага аналізу са станаўленнем беларускага рамана, прыйшоў да вываду, што існуе ўзаемасувязь аб'ектыўных умоў развіцця літаратуры з індывідуальным характарам і талентам мастака слова. Аднак інструментарый псіхалагізму — спосабы, прыёмы, сродкі псіхалагічнага аналізу распрацоўваліся даволі інертна. Гэтая праблема вельмі складаная і, нават, на сучасным этапе развіцця нацыянальнага літаратуразнаўства патрабуе грунтоўнага, навукова-карэктнага асэнсавання.

На наш погляд, цікавай і грунтоўнай пры вывучэнні мастацкага псіхалагізму, сістэматызацыі інструментарыю, шляхоў, прыёмаў і сродкаў псіхалагізму ў мастацкім творы з'яўляецца праца В. Залатухінай «Псіхалагізм у літаратуры». Даследчыца асаблівую ўвагу надае тэорыі псіхалагізму, абгрунтаванню разнастайных сучасных падыходаў пры даследаванні мастацкага псіхалагізму ў літаратуры XX ст. В. Залатухіна ўлічыла вопыт многіх айчынных і замежных даследчыкаў літаратуры, псіхалогіі, філасофіі, якія працавалі над пытаннем псіхалагізму ў мастацкай літаратуры.

Паводле В. Залатухінай можна зрабіць некаторыя вывады аб тэарэтычным асэнсаванні праблемы псіхалагізму ў мастацкай літаратуры. Сучаснае айчыннае літаратуразнаўства ў параўнанні з замежнымі даследаваннямі па праблеме спасціжэння, асэнсавання, раскрыцця і тэарэтычнага абгрунтавання псіхалагізму яшчэ не набыло належнай ступені распрацоўкі. Гэта абумоўлена тым, што яшчэ з часоў савецкай літаратуры тэарэтычная база псіхалагізму складвалася на аснове рэалістычнай канцэпцыі асобы. Айчынныя даследчыкі арыентаваліся на традыцыйныя спосабы ўзнаўлення паводзін і ўнутранага жыцця героя. Замежныя літаратуразнаўцы аддавалі перавагу скрупулёзнай, дэталёвай увазе да патаемнай, «унутранай» сферы чалавека, праяўлялі цікавасць да псіхааналітычных тэорый З. Фрэйда, К. Юнга. У заходнім літаратуразнаўстве псіхалагічны змест мастацкага твора стаў прадметам некаторых тэорый літаратуразнаўчага псіхааналізу (М. Банапарт), «псіхакрытыкі» (Ш. Марон) і атрымала асэнсаванне ў сістэме «тэкст — аўтар». Да тэарэтычнага асэнсавання гэтай праблемы звяртаўся В. Кампанеец. Ён разглядаў псіхалагізм не як прыём, а як якасць мастацкай літаратуры, якая змяшчае ў сабе і псіхалогію аўтара.

Пад псіхалагізмам ён прапануе разумець: псіхалагізм як уласцівасць мастацкай літаратуры; псіхалагізм як увасабленне псіхалогіі аўтара; псіхалагізм у характары і паводзінах героя.

Шматлікія трактоўкі праблемы псіхалагізму служаць доказам таго, што існавала і існуе неадназначнасць у асэнсаванні праблемы псіхалагізму ў мастацкай літаратуры. Напрыклад, А. Іезуітаў разумеў пад псіхалагізмам спецыяльную, мэтанакіраваную распрацоўку спосабаў і форм увасаблення і раскрыцця псіхалогіі чалавека, героя мастацкага твора. Даследчыкі прапаноўвалі размяжоўваць псіхалогію аўтара, чытача і героя. Складанасць катэгарыяльнага вызначэння ўзаемазвязана і фармальна-змястоўнымі якасцямі псіхалагізму. Большасць літаратуразнаўцаў бачылі ў ім спосаб мастацкага адлюстравання ўнутранага свету герояў. Цяжкасці ўзнікалі пры вызначэнні месца псіхалагізму ў сістэме тэарэтыка-літаратурных паняццяў.

Паколькі ў гэту сферу былі ўключаны кампаненты прадметнай выразнасці (партрэты, пейзажы, дэталі) і таксама тое, чаму не характэрны прадметнасць, нагляднасць (узнаўленне псіхалогіі герояў), то такі слой мастацкага твора адносілі да стылю (А. Есін), вобразнаму зместу (І. Вінаградаў), да змястоўна-фармальных якасцей (С. Кармілаў і А. Андрэеў).

Якасна новы этап у вывучэнні і даследаванні псіхалагізму звязаны з развіццём псіхалагічнага рамана XIX ст., які абавязаны сентыменталізму. Галоўныя прыкметы такога рамана: характар кіруе сюжэтам, мімічныя і іншыя сродкі знешняй і ўнутранай псіхалагічнай выразнасці, лірыка-філасофскія адступленні.

Л. Гінзбург адзначае, што тэрмін псіхалагізм варта ўжываць толькі ў дачыненні да літаратуры XIX ст.: «Літаратурны псіхалагізм пачынаецца … з несупадзенняў, з непрадбачанасці паводзін герояў» [3, с. 300]. Такая непрадбачанасць была ўласціва для рэалістычнага характару героя.

Такім чынам была вызначана структура характару: індывідуальныя рэакцыі; складанасць і шматпланавасць унутранага свету; featurenabaковая абумоўленасць паводзін і ўнутранага свету.

На аснове пералічаных якасцей характару вылучаюць наступныя тыпы псіхалагізму: індывідуалізуючы і тыпізуючы, абумоўлены і абстрактны, дэдуктыўны і індуктыўны. Думаецца, што меркаванне Л. Гінзбург аб псіхалагізме ў дачыненні толькі да літаратуры XIX ст. спрэчнае.

У літаратурным працэсе XX ст., як у першай, а ў беларускай літаратуры так і ў другой палове XX ст. назіраецца павышэнне цікавасці да ўнутранага свету і духоўнага жыцця герояў мастацкіх твораў. Характар літаратурнага героя змяняецца, канцэптуальна паглыбляецца менавіта за кошт сродкаў псіхалагічнай выразнасці, выражаецца ў разнастайных формах, набывае новыя філасофска-светапоглядныя якасці. Беларуская літаратура, асабліва проза, праяўляе цікавасць як да стыхіі ўнутранага хаосу, так і цялеснасці, што абумовіла ўзнікненне і функцыянаванне новых варыянтаў псіхалагізму.

Калі гаварыць пра літаратурную рэальнасць, можна сцвярджаць, што паняцце «мастацкі характар» значна шырэйшае за свайго носьбіта-героя, ён раскіданы па ўсім творы, таму героя неабходна разглядаць як персанажны цэнтр, да якога скіраваны яго матыўныя, тэматычныя і іншыя структуры. Пра наяўнасць характару ў творы паводле меркаванняў А. Фаўстава некаторыя сучасныя даследчыкі прапануюць гаварыць нават у тым выпадку, калі «асобаснае» яго ўяўленне ўвогуле адсутнічае, а ёсць толькі сігнальны матыў, які прадстаўляе характар.

Аналіз тэарэтычных прац, прысвечаных тэарэтычнаму асэнсаванню праблемы псіхалагізму ў мастацкай літаратуры і вызначэнню месца псіхалагізму ў сістэме тэарэтыка-літаратурных паняццяў, дае магчымасць канстатаваць наступнае: у айчынным літаратуразнаўстве адсутнічае адзінства ў тэарэтычных падыходах да праблемы псіхалагізму; перавага надаецца распрацоўцы пытанняў індывідуальна-аўтарскага псіхалагізму (псіхалагізм К. Чорнага, М. Гарэцкага, В. Быкава); вытокі распрацоўкі праблем псіхалагізму знаходзяцца ў мастацка-літаратурным

працэсе XIX ст.; па сённяшні дзень адсутнічаюць фундаментальныя тэарэтычныя навуковыя працы, якія б асвятлялі псіхалагізм у літаратуры XX ст. і адлюстроўвалі б дынаміку развіцця псіхалагізму ў сусветным літаратурным працэсе.

Псіхалагізм пры стварэнні характару — гэта сістэма мастацка-выяўленчых сродкаў, якія скіраваны на тое, каб чытач мог самастойна ўявіць поўную карціну падзей, думак і матываў героя. Выкарыстанне такога прыёму дае аўтару магчымасць уключыць чытача ў эмацыйны свет твора, падвесці да разважанняў і аналізу пэўнай сітуацыі. Калі рэцыпіент усё разумее сам, то эмацыйнае ўздзеянне ў некалькі разоў мацнейшае, чым калі б аўтар падрабязна апісаў усе нюансы, не пакідаючы таямніц.

Апошняе дзесяцігоддзе XX ст. і пачатак XXI ст. — гэта новы віток адраджэння цікавасці да дадзенай праблемы. У гэты час дыскутуецца пытанне «псіхалагізм і антыпсіхалагізм у культуры». Найбольш значнай лініяй супрацьстаяння псіхалагізму і антыпсіхалагізму з’яўляюцца адносіны да суб’екта, вылучэнне яго месца і ролі ў даследуемых працэсах або поўнае адмаўленне яго значэння ў пэўнай сферы.

У гісторыка-культуралагічнай крытычнай літаратуры псіхалагізм і антыпсіхалагізм заўсёды разглядаюцца як супрацьлеглыя паняцці.

У еўрапейскім літаратуразнаўстве новага часу псіхалагізм разглядаецца наступным чынам: вылучаецца суб’ект, які характарызуецца на аснове пэўных крытэрыяў: узрост, месца вучобы або працы, любімы занятак, схільнасці, знешні выгляд, сацыяльная роля, грамадская пазіцыя, побыт, эмацыйны настрой, міміка і жэсты, манера гаварыць, узаемаадносіны з іншымі і г. д.

Большасць даследчыкаў пагаджаюцца, што найбольш яскравае адлюстраванне псіхалагізм знайшоў у такім родзе літаратуры, як рэалізм. Тыповы рэалістычны характар — гэта спалучэнне аналізу і сінтэзу, асобасны феномен і сацыяльнадэтэрмінаваны характар.

Як вядома, галоўную асаблівасць рэалістычнай літаратуры складае імкненне аўтара да асэнсавання надзённых праблем чалавека. Арыгінальнымі празаікамі-рэалістамі ў другой палове XX ст. сталі: І. Пташнікаў, А. Жук, Г. Марчук, В. Карамазаў, В. Казько і інш. Для іх твораў характэрна заглыбленая аўтарская ўвага да ўнутранага свету чалавека, які абумоўлены нацыянальным псіхатыпам, культурнымі традыцыямі і асабістым светапоглядам. Большасць твораў названых аўтараў пранізаны аналізам пачуццяў, унутранага аблічча герояў, праз якія найперш выяўляецца мастацкі характар.

Мастацкая літаратура ствараецца для таго, каб прааналізваць рэальнасць, якую людзі вельмі часта не заўважаюць, не задумваюцца над праблемамі, якія маюць як грамадскі, так і глыбока асобасны характар. Важкае слова пісьменнікаў прымушае рэцыпіента пранікаць у свет твора, хвалявацца разам з літаратурнымі героямі. У такім выпадку літаратура і вучыць, і адкрывае тое, што самастойна, часам, можна і не заўважыць.

Літаратуразнаўца М. Жлукценка адзначае, што «генеральная ідэя літаратуры як чалавеказнаўства заключаецца ў звароце да ўнутранага свету асобы, да яе пачуццяў і душэўных рухаў» [9, с. 3]. Псіхалагізм, на думку даследчыка, прысутнічае заўсёды і ўсюды. Псіхалагізм развіваўся і развіваецца разам з мастацтвам слова, па-рознаму праяўляе сябе ў разнастайных жанрах і ў творчасці розных пісьменнікаў.

## Вывады

На працягу свайго развіцця мастацкая літаратура ўдасканальвала спосабы і прыёмы даследавання і адлюстравання душэўнага жыцця героя. Зварот да псіхалагізацыі мастацкай беларускай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў абумоўлены непакоем за стан гуманістычных і маральных каштоўнасцей чалавецтва, імкненнем вырашаць праблемы сучаснасці.

Вопыт беларускіх літаратараў ХХ ст. заслугоўвае пільнай увагі з боку даследчыкаў мастацкага слова. Развіццё псіхалагічнай прозы навукова абгрунтавана ў манаграфіі А. Матрунёнка. Аднак спецыяльнае даследаванне сучаснай беларускай псіхалагічнай прозы адсутнічае ў айчынным літаратуразнаўстве.

Мы цалкам пагаджаемся з беларускім літаратуразнаўцам А. Андрэевым, які адзначае, што «Проза, аналітычная, псіхалагічная проза — найбольш перспектыўная галіна выкарыстання псіхалагізму ў літаратуры. Прычым, проза апошніх двух стагоддзяў, XIX і ХХ, у асноўным рэалістычнага накірунку. Псіхалагізм стаў спосабам прадставіць новую структуру персанажа — характар. Характар у літаратуры становіцца праявай асобы. Позні рэалізм немагчымы без псіхалагізму, што сведчыць пра гуманістычную накіраванасць рэалізму як найбольш дасканалай з засвоеных чалавецтвам мастацка-інфармацыйных сістэм» [ 6, с. 215].

Апсіхалагізм большасцю сучасных літаратуразнаўцаў разумеецца як «адсутнасць аналізу ўнутраных перажыванняў чалавека, адсутнасць унутранай матывіроўкі яго ўчынкаў і замена іх тым ці іншым фізічным малюнкам, той ці іншай вонкавай матывіроўкай» 7[lit45.chat.ru/antiguity/08.html].

І нават пры такіх падыходах не адмаўляецца прысутнасць псіхалагізму як унутранай якасці мастацкага твора, менавіта як дасканалай «мастацка-інфарматыўнай сістэмы», аб чым слушна піша А. Андрэеў.

Так пра гэта яскрава сведчаць многія мастацкія творы беларускіх празаікаў 2-й паловы ХХ ст., насычаныя разнастайнымі прыёмамі псіхалагічнага адлюстравання. Беларускія майстры слова ўмела выкарыстоўваюць інфармацыйна-выяўленчую сістэму псіхалагізму, што робіць іх творы не толькі цікавымі, змястоўнымі, але і канцэптуальна глыбокімі, дзейснымі пры стварэнні мастацкага характару. Напрыклад, у рамане І. Пташнікава «Алімпіяда» толькі манера герояў гаварыць апісваецца надзвычай разнастайна, што выразна характарызуе героя, ёміста ўдакладняючы і дапаўняючы той ці іншы тып мастацкага характару. У творы чытаем: закрычаў на ўсё горла (с. 21), гаварыў ціха (с. 22), гаварыў цішэй, расцягваючы словы: стыдзіў (с. 22), падцінаў (с. 23), ласкава загаварыў (с. 35), сказала скоранька, як спяшалася апраўдацца (с. 36), гаворыць рэзка і кораценька, брэхам (с. 37, с. 40), загамзаў ён у нос, смеючыся (с. 59), засвістала ў шчэрбу (с. 68), выдыхнула з сябе (с. 87), хмыкнула (с. 87), зашаптала (с. 89).

Пісьменнік надае пільную ўвагу апісанню вачэй, позіркаў, жэстаў, знешняга выгляду. З пералічаных характарыстык ствараецца мастацкі характар, напоўнены псіхалагізмам. Сустракаецца ў названым творы мноства ўнутраных маналогаў: *«Чаму ён не выйшаў на вуліцу? Машыны не пачуў? Чаму ён не прыехаў у бальніцу?»* [8, с. 591]. Дадзены ўнутраны маналог перадае непакой, хваляванне галоўнай гераіні, якая душой і сэрцам адчувае, што з яе блізкімі людзьмі адбываецца нешта дрэннае.

Ёсць у рамане і выразная мастацкая дэталь — жоўтыя юргіні — гэта кветкі, якія вельмі падабаліся Фірагу, іх прынесла Таццяна на могілкі. Пасля гібелі Фірагі ўвесь свет для Таццяны стаў жоўтым — сонца, маяк, стрэхі хат, брук, платы, частакол, *«і рука, і чорная сумачка палыскаліся жоўтым юргіневым цветам»* [8, с. 520], зямля, канцылярыя, паперы. Наваколле для Таццяны напоўнілася болем, пакутамі, стратай, жахам. Толькі абыякавы да людскога гора чытач не пранікнецца тымі пачуццямі і перажываннямі, якімі поўнілася душа Таццяны ў цяжкі перыяд жыцця.

Такім чынам, мы прыйшлі да высновы, што для беларускай літаратуры 80—90-х гадоў уласцівы псіхалагізм як агульная важная якасць. Беларускія празаікі другой паловы ХХ ст. актыўна выкарыстоўваюць у сваёй творчай дзейнасці разнастайныя сродкі псіхалагічнага адлюстравання для стварэння запамінальных, каларытных, канцэптуальных мастацкіх характараў, якія хораша прэзентуюць беларускі ментальны тып у псіхакультурнай парадыгме сучаснасці.

## Спіс літаратуры:

1. Лики времени. Статьи о писателях и литературном процессе. / Б. Л. Сучков. — М. 1976. — Т. 1. — С. 401.
2. Краткая литературная энциклопедия. Т. 8. — М.: «Советская энциклопедия», 1975, с. 215.
3. О психологической прозе. / Л. Я. Гинзбург. — М.: Intrada, 1999. — С. 334.
4. Психологический анализ в литературном творчестве. / И. В. Страхов. — Саратов: Полиграфист, 1973. — Ч. 1. — 57 с.
5. Есин, А. Б. Психологизм русской классической литературы / А. Б. Есин. — 2-е изд., перераб. — М.: Флинта: Моск. психолог.-соц. ин-т, 2003. — 173 с.
6. Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай / [рэдкалегія Г. М. Бутырчык (адказны рэдактар) і інш.]. Т. 3. — 2010. — 386 с.
7. Інтэрнэт-рэсурсы.
8. Пташнікаў, І. Алімпіяда (Воблакі шасцідзесятых): Раман. / Аўт. паслясл. Г. Шупенькі. — Мн.: Маст. літ., 1985. — 623 с., 12 л. іл.
9. Жлуктенко, Н. Ю. Английский психологический роман ХХ века. — Киев: Выща шк., Изд-во при Киев. гос. ун-те, 1988. — 157 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 1 лістапада 2013 г.

### Рэзюмэ

**Валянціна ТКАЧУК**

### Праблема псіхалагізму і мастацкага характару ў сучасным літаратуразнаўстве

Артыкул прысвечаны тэарэтычнаму асэнсаванню праблемы псіхалагізму і мастацкага характару ў сучасным літаратуразнаўстве. Прааналізаваны канцэпцыі вядомых даследчыкаў: Б. Сучкова, І. Страхава, Л. Гінзбург, А. Іезуітава, А. Есіна, В. Залатухінай. На прыкладзе творчасці беларускіх празаікаў ХХ ст. К. Чорнага, І. Мележа, В. Быкава, І. Пташнікава, А. Жука і інш. прасочана станаўленне псіхалагізму ў беларускім літаратурным працэсе. Вылучаны асноўныя спосабы рэалізацыі псіхалагізму пры стварэнні мастацкіх характараў — псіхалагічны аналіз, унутраны маналог, прыёмы сну, успамінаў, «дыялектыкі душы», мастацкай дэталі, пейзажа і інш.

### Summary

**Valiantsina TKACHUK**

### Problem of Psychologism and Artistic Character in Modern Literary Studies

The article is focused on the theoretical conceptualization of the artistic character in modern literary studies. The concepts of the famous researches: B. Suchkou, I. Strakhau, L. Iezuitau, A. Yesin, V. Zalatukhin have been analysed in the work. The psychologism formation process has been traced in the works of some Belarusian novelists of the XXth century: K. Chorny, I. Melezh, V. Bykau, I. Ptashnikau, A. Zhuk and others. Basic means and methods of the psychology reflection of the characters have been distinguished here: an inner monologue, reminiscence, dream, landscape, «soul dialectic», artistic detail, etc.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# «ШЧЫРУЕ НАД СВЕТАМ ДУША, ЯК ПЧАЛА...»*

## *(нататкі пра сучасную паэзію)*

### Артыкул другі

Гэткі вобраз сустракаем у паэзіі Міколы Мятліцкага. Такое параўнанне, прыпадабненне душы да пчалы, думаецца, прыйшло ад вялікага нашага асветніка Францішка Скарыны — і не толькі як сімвал працалюбства, руплівасці, але і як адзнака рэнесанснага рамантызму з яго высокім духоўным узлётам, імкненнем да неспазнанага, незвычайнага, таямнічага. Цяпер усё гэта прызнаецца неабходным элементам паэзіі, найперш паэзіі рамантычнай, скіраванай на ўнутраны свет чалавечай душы.

Антыпод прыземленага лірыка-апавядальнага кірунку — паэзія рамантычнага ўзлёту радка. Паэты-рамантыкі востра адчуваюць свой духоўны канфлікт з навакольным светам, балюча перажываюць яго недасканаласць, перадаюць адпаведныя настроі сучаснай эпохі, фарміруюць светаўспрыманне чалавека нашых дзён.

Калі лірыка-апавядальная плынь вытокамі сваімі звязана з коласаўска-багдановічаўскім пачаткам, то рамантычная мае сваіх папярэднікаў у асобе Я. Купалы і ўсяго беларускага «неарамантызму» першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. У сучаснай беларускай паэзіі адным з вядучых прадстаўнікоў гэтага стылявога пласта з'яўляўся Уладзімір Караткевіч (1930—1984), творчасць якога апладняла вострае пачуццё духоўнай сувязі з Бацькаўшчынай, адчуванне адказнасці за спадчыну, за пераемнасць і развіццё традыцый. Галоўнае месца займала тут гісторыя, рамантычна-ідэалізаваны вобраз «вечнай Радзімы», які бачыўся яму і ў беларускім пейзажы, і ў помніках мастацтва і архітэктуры, і ў жывым абліччы народа. Страсны, зацікаўлены погляд у гісторыю рабіў яго творы жывою з'явою сучаснасці.

Балады У. Караткевіча — адзін з улюбёных яго жанраў — захоўваюць сувязь з традыцыямі эпохі Адраджэння, яны сцвярджаюць чалавека як характар, як індывідуальнасць, якая пакідае след у гісторыі.

Трэба мець на ўвазе, што асоба паводле свайго сацыяльна-грамадскага, маральнага напаўнення шырэй індывідуальнасці. Гэта асаблівая ўласцівая рамантызму. У. Караткевіч ставіў перад сабой каласальныя творчыя задачы — «заданне неба», як казаў у такіх выпадках Л. Лявонаў. Яго даводзіцца выконваць напружаннем усіх душэўных сіл, на якія толькі і можа быць здольны сапраўдны мастак. Паэт імкнуўся ўвасобіць у слове тытанічны змест. Ён быццам спецыяльна адбіраў найбольш важкія, выпукленыя, як бы аб'ёмныя словы.

> Дзе мой край?
> Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
> Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме.
> Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
> А мужчыны як скалы — ударыш, і зломіцца меч.

---

* Працяг. Пачатак у № 12, 2013 г.

У параўнанні з лірыка-апавядальнай плынню тут назіраем значна вышэйшую ступень інтэнсіўнасці перажывання. Паэт-рамантык пераўзнаўляе рэчаіснасць у адпаведнасці з узвышана-рамантычным ідэалам, і гэта ў многім вызначыла спецыфіку вобразнасці і характар моўных сродкаў, якія выражаюць драматызм і экспрэсію паэтычнай мовы. Яго вершу характэрны востры метафарызм, па-прамоўніцку напружаная інтанацыя. У той жа час ён дакладны і выразны.

Паэзія праяўляецца тут не проста як частка душы чалавека — у ёй знаходзяць выражэнне ўсё яго жыццё і лёс, уяўленні пра дабро і зло, зразумелыя ў іх сацыяльна-духоўным, анталагічным змесце. З гэтага пункту гледжання рамантычны герой У. Караткевіча — збіральна-абагульнены вобраз, даволі свабодна, апасродкавана звязаны з асабістай біяграфіяй паэта, канкрэтнымі падрабязнасцямі яго жыцця. У той жа час яго рамантызм, уласцівая яму чысціня маральнага пачуцця, маштаб асобы не процістаяць рэальнаму свету радасцей і трывог сучаснага чалавека. Хутчэй наадварот, яго паэзія жывая гэтымі радасцямі і трывогамі.

Нікога, напэўна, не пакінуў раўнадушным яго зборнік — «Быў. Ёсць. Буду», які сведчыць, паэт заўсёды думаў пра вялікае, духоўна значнае. «Радзіма. Народ. Мова. Жыццё. Справядлівасць. Любоў. Вайна і мір. Якія яшчэ тэмы могуць быць больш вострымі і больш важнымі для паэзі?», — гэтак пісаў Я. Сіпакоў якраз у дачыненні да зборніка «Быў. Ёсць. Буду». Не кожны, вядома, здольны падняць гэтую праблему. Патрэбен адпаведны маштаб асобы. У Караткевіча такі маштаб быў, і паэт пісаў свой лёс. Таму яго верш гучыць гранічна шчыра і праўдзіва.

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог, —
Яе разам з матчынай цыцкаю
Даў табе ў твае вусны Бог.
Пі і ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе.
І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.

*(«Мова»)*

Рамантычная плынь у беларускай паэзіі прадстаўлена не адным У. Караткевічам. У многім яна жывіць таксама творчасць Ніла Гілевіча, нягледзячы на агульны эпічна-апавядальны грунт яго паэзіі. Вельмі часта ў гэтай паэзіі бяруць слова гісторыя, паданне, памяць. Паэту, відаць, добра вядома, што там, дзе забываецца гісторыя, ствараецца вакуум — чалавеку ў ім цяжка, як у пустыні. Інтарэсы сённяшняга дня ён імкнецца звязаць з мінулым і будучыняй — адсюль мэтанакіраванасць памяці.

Рамантызм Н. Гілевіча асабліва плённы тады, калі ён грунтуецца на рэальнай аснове чалавечых перажыванняў. У гэтым, відаць, заключаецца прывабнасць верша пад назвай «Жыта, сосны і валуны», у якім ёсць неабходныя ў паэзіі шырокі погляд на свет, арганічнасць думкі і эмоцыі, здольнасць да глыбокага лірычнага перажывання.

Дзе па роднай зямлі ні крочыў —
Скрозь — ад Прыпяці да Дзвіны —
Перш за ўсё мне ласкалі вочы
Жыта, сосны і валуны.

Дзе ў далёкіх маіх вандроўках
Я ні сніў аб Радзіме сны —

Паўставалі ў іх зноў і зноўку:
Жыта, сосны і валуны...

О, сябры! Калі нешта значыць
Мой усім вам паклон зямны —
Хай і цень мой з пагорка бачыць
Жыта, сосны і валуны.

Знешняе, «прыроднае» добра суадносіцца з унутраным, «душэўным». Такія вершы, здаецца, здольныя разарваць заганнае кола нашага звычнага штодзённага жыцця-быцця, прымусіць па-іншаму, больш свежа і непасрэдна ўспрымаць навакольны свет. Лірычныя вобразы Н. Гілевіча наталяюць патрэбу чалавека ў кантакце з прыродай, якая, у сваю чаргу, патрабуе ад кожнага высокай маральнасці, непадманных чалавечых якасцей. Гэты верш, помніцца, вельмі падабаўся П. Панчанку, які лічыў яго выдатным дасягненнем аўтара.

Ментальныя ўстаноўкі — гэта значыць уяўленні чалавека пра свет, пра лёс, жыццё і смерць, наканаванасць, абавязак, адчуванне сваёй вартасці, правы і г. д. — засвайваюцца ім па меры таго, як ён удзельнічае ў сацыяльным жыцці грамадства і непрыкметна для сябе ўбірае яго калектыўны вопыт, нормы паводзін, духоўныя і маральныя архетыпы і вобразы. Усё гэта застаецца ў гістарычнай памяці, якая ўяўляе сабой своеасаблівы хранатоп перажытага — адзінства і звязанасць прасторавых і тэмпаральных аспектаў светаўспрымання, якое ў паэзіі атрымлівае свой духоўна-эстэтычны эквівалент. Гэта добра відаць, напрыклад, у наступным вершы Н. Гальпяровіча:

Веі замружу, і ўбачыцца вечар —
Белая цэркаўка тоненькай свечкай.
Гнёзды шпачыныя пад Палатой.
Цені дубоў над халоднай вадой.

А за стагоддзямі ў прыцемку сінім
Вочы зямлячкі маёй, Ефрасінні.
Цьмяна бялее на кнізе рука,
Б’ецца аб шыбу агонь матылька.

Сучасная канкрэтыка і прадметнасць ва ўспрыманні паэта пранікнёна спалучаецца з даўнім, гістарычным, архетыповым.

Навум Гальпяровіч — паэт з паслядоўна выяўляемым канструктыўным характарам, яго рамантызм не канфліктуе са светам, а шукае з ім згоды, суладдзя, абапіраецца на традыцыйныя жыццёвыя каштоўнасці.

У садах ізноў паспелі слівы,
Павуцінне легла на траве.
Я падумаў: толькі той шчаслівы,
Хто ў суладдзі з восенню жыве.

Бо жыццё заўжды адказу просіць
За гадоў юнацкіх жарсць і шал.
Пройдзе лета... На парозе — восень,
І самотай поўніцца душа.

І яснее мудрасць у паглядзе,
Аціхае застарэлы боль,
І прыходзіць ціхае суладдзе
З цэлым светам і самім сабой.

Мудры Н. Гальпяровіч імкнецца да ідэалу, гармоніі, цэласнасці ў спасціжэнні свету. Яго паэзія сагрэта лірычнай непасрэднасцю ў выяўленні пачуццяў, гуманістычным пафасам.

Слабасць многіх твораў паэзіі апошніх гадоў у тым, што аўтары іх толькі сузіраюць і апісваюць жыццё, а не ацэньваюць яго на аснове вышэйшых чалавечых каштоўнасцей. Вынік усяго гэтага — упадак этычнай актыўнасці паэзіі, адсутнасць этычнага моманту як састаўной часткі эстэтычнага перажывання. Паэзія, ігнаруючы патрабаванні формы, працягвае блудзіць у зарасніках знешняй, цураючыся прадуманай прастаты, упарадкаванасці. Н. Гальпяровіч не імкнецца быць складаным і незразумелым, ён камунікабельны. Пра свае вершы ён кажа: «Гэта голас і рэха маёй душы, якая і памыляецца, і верыць, і любіць, і пакутуе...» У гэтых словах няма перабольшвання. Шмат што паэт пакідае ў падтэксце, напаўняючы радок стыхійнай сілай жыцця, тым, чаго патрабуе сама прырода рэчаў, свядома ці несвядома, ён ставіць перад сабой складаныя задачы светапогляднага, экзістэнцыяльнага характару, не можа прымірыцца з тым, што, кажучы словамі У. Б. Йетса, «не нясе ў сабе радасці». Як бы цяжка ні было, беларускі паэт, як і ірландзец У. Б. Йетс, верыць у жыццё, у будучыню, супрацьстаіць энтрапіі і бяспамяцтву.

Прыхільнікам рамантычнага жанру балады з'яўляецца В. Шніп. Зрэшты, у жанравым плане яго паэзія разнастайная. Выходзілі зборнікі: «Горад-Утопія», «Шляхам ветру» (1990). Крытыкі знаходзілі ў іх шчырасць і натуральнасць паэтычнага радка, і з гэтым поўнасцю можна было згадзіцца. Шчырасць заўсёды кранае.

Адна з кніг, якая ўбачыла свет у 1994-м, называлася — «На рэштках Храма». У ёй шмат мінору і рэфлексіі, нават трагізму ў паглядзе на тыя беды, што абрынуліся на сучаснікаў, на народ. Крызіс духоўнасці бачыцца аўтару ў здрабненні чалавека, у паглынанні яго натоўпам, у нігілістычных адносінах да мінулага і ўнутраным разладзе. Паэт з прыкрасцю адзначае, што Беларусь знаходзіцца ў апазіцыі да самой сябе, што згублена дарога да Храма, гэта значыць, да мэты і нацыянальнай ідэі, якая для некаторых уяўляе чамусьці нават немалую небяспеку.

І сцежкі ля Храма травой зарастаюць,
Маўчыць без'языкі патрэсканы звон.
Над Храмам забытым анёлы лятаюць,
З абпаленых скрыдлаў страсаючы сон.

У паэзіі В. Шніпа можна заўважыць рысы барока — спалучэнне высокага і нізкага, натуральнасці і гратэскавасці, гераічнага і трагічнага, што вельмі пераканальна выявілася ў яго любімым жанры — баладзе, у баладных вобразах старажытных замкаў і гістарычных асоб. Але галоўнай асаблівасцю і адметнасцю яго паэзіі з'яўляецца яе лірычны герой з яго вельмі сімпатычным імкненнем бачыць свет прыгожым і не прымаць хаосу, якога і ў перабудовачныя гады хапала, ды і сёння не бракуе. Паэт шукае, працуе са словам, шукае слова вобразнае, найбольш ёмістае. Нехта з філосафаў сказаў, што чалавек — гэта істота, якая ўмее тварыць сімвалы. Асабліва ўласціва здольнасць сімвалатварэння паэтам — вобразны свет В. Шніпа наскрозь сімвалічны. Дзеля духоўнага і эстэтычнага ўпарадкавання жыцця ён часта выкарыстоўвае збіральныя ўніверсальна-метафарычныя вобразы — сімвалы храма, рабіны, ружы, крыжа, неба, зоркі, мора і інш., якія азначаюць для яго духоўную рэальнасць быцця.

Ён аднолькава добра валодае як свабодным, без косак-кропак, вершам, так і традыцыйным.

Пад тваімі вокнамі рабіна
Сумная, як нашая Айчына,
Сумная, бо хутка ўжо зіма.

І глядзіш ты на рабіну ветла,
Ад рабіны ў панадворку светла,
Ды чамусьці радасці няма...

Выразна гучыць у В. Шніпа багдановічаўскі радаводны матыў нацыянальнай памяці. Героі яго вершаў і балад — беларускія гістарычныя дзеячы, паэты, пісьменнікі, мастакі, якія з’яўляюцца носьбітамі духу і руху гісторыі. Ён хоча верыць услед за М. Багдановічам, які не траціў надзеі, што «яшчэ адзін народ не знікне з твару зямлі, што не змарнатравіцца бясследна велізарная псіхічная праца многіх пакаленняў і беларуская культура — стварэнне гэтай працы — устаіць супраць напору іншых сіл і плыняў». Як і М. Багдановіч, ён паслядоўна і настойліва змагаецца супраць пачуцця нацыянальнай непаўнацэннасці, комплекс якой сёння замінае многім з нас.

Калі ты паэт, ты павінен не толькі мець талент, але і быць асобаю, сцвярджаць свае прынцыпы і пазіцыю. У лірыцы В. Шніпа выяўляецца яго душэўны лад, сумленнасць і непакой, здольнасць да душэўнага судакранання з навакольным светам, з радзімай, яе лёсам. У яго ёсць і лепшыя, і горшыя вершы, а ёсць проста выдатныя. Паэт сустрэў XXI стагоддзе цудоўным вершам «Беларускае мора»:

Залатымі манетамі зорак
Зноўку свеціцца неба над намі.
Неба ў нас — беларускае мора
З белакрылымі ў ім караблямі.

Адабраць у нас мора хацелі,
Наша мора адзінае ў свеце,
Каб на мора мы больш не глядзелі
І жылі па лясах, як мядзведзі.

Мы ў вяках зберaглі сваё мора,
І нас мора ад бед зберагае,
Залатымі манетамі зорак
Уначы яно нас абсыпае.

У гэтым вершы ўвесь Віктар Шніп з яго ідэальнасцю, мройнасцю, паэтычнай сімволікай, сумам па гарманічным уладкаванні свету... Удалай уяўляецца мне яго кніга «Балада камянёў» (2006), неардынарна складзеная і скампанаваная. У яе ўвайшла аповесць у празаічных мініяцюрах і вершах пад назвай «Дарога да Храма», у якой вершы чаргуюцца з празаічнымі эцюдамі, адно надсвечвае другое і наадварот. Высокая праўда паэтычнага радка ўраўнаважваецца прыцягненнем зямным, праўдай непрыдуманай, часта нават натуралістычнай. В. Шніп-празаік апісвае і светлыя, жыццярадасныя бакі нашага існавання і не закрывае вочы на змрочнае, непрыгляднае. У празаічных замалёўках усё вельмі канкрэтнае, нічога адцягненага. Паэт шчыры як у вершах, так і ў прозе.

Рамантызм сведчыць пра душэўную актыўнасць нашых паэтаў і паэтэс, незадаволенасць нарматыўнасцю, недавер да прапісных ісцін і веру ў магчымасці паэзіі. Чым больш сталай, багатай, разгалінаванай становіцца паэзія, тым разнастайней тыпы яе творчай самасвядомасці. Паэты набліжаюцца да спасціжэння ўсеагульных каштоўнасцей праз крызісы светапогляду, цераз канфлікты пакаленняў, цераз свае ўласныя супярэчнасці і свой бунт супраць абавязковасці каштоўнасцей, якія стандартызуюць паводзіны і мысленне чалавека. Таму шлях паэта да агульнаабавязковых (у рамках пэўнай эпохі) значэнняў дабра, справядлівасці, свабоды, хараства, як правіла, вельмі індывідуальны. Гэта натуральны закон развіцця мастацтва ў эпохі вострых ідэалагічных канфрантацый і дынамічных перамен, тым больш што з часоў рамантызму непаўторнасць творчай індывідуальнасці прызнаецца важнейшым паказчыкам яе каштоўнасці.

На падобныя думкі мяне натхніла творчая эвалюцыя Таццяны Сівец, гэтай, безумоўна, таленавітай, шматабяцаючай аўтаркі. Пра гэта сведчылі ўжо раннія яе вершы. Напрыклад, «У навальніцу»:

Маланкі — нібы рэбры
З валокнамі дажджу.
На іх блішчастым срэбры
Зацята вараджу.

У твар шпурляе вецер
Каменьчыкі вады.
Грымоты, яго дзеці,
З'явіліся сюды.

Кудлачыць вецер думкі
Мае і валасы.
А хмары, быццам кумкі,
Крычаць на ўсе лясы.

Вярба малебен шчыры
Узносіць да вышынь.
Спакою просіць, міру
Для нашае душы.

Адчуваецца малады чалавек, дзяўчына, якая ўспрымае, перажывае навальніцу ў юную пару жыцця. Галоўная адметная рыса Т. Сівец — здзіўляючая шчырасць, уменне не хаваць праўду пра сябе, сказаць пра ўсё ці амаль пра ўсё, што творыцца на душы. Гэта нягледзячы на тое, што па прыродзе сваёй яна сарамлівая, і ёй не проста пераадолець гэтую сваю ментальнасць.

Крытык Н. Сенатарава ў змястоўнай рэцэнзіі на кнігу Т. Сівец «Таму, хто знойдзе...» адзначае, што «большасць яе вершаў насычаны вельмі пякучымі эмоцыямі, пачуцці перададзены з неверагодным уздымам, прапушчаны праз сэрца з нервовым надрывам, на краі магчымасці вытрымаць усё пасланае звыш...»

Крытык, думаецца, правільна адчула індывідуальнасць паэтэсы, пазіцыю і душэўны лад, прынамсі, на сучасным этапе яе развіцця. Гэтая асаблівасць, як нейкі душэўны дыскамфорт, праявілася і ў нядаўніх публікацыях, у гэтым, напрыклад, вершы (цытуем фрагментарна):

Доктар, мне штосьці перашкаджае дыхаць і гаварыць!
Доктар, вы можаце гэта з горла майго ўзяць і выразаць назаўсёды?
Не, спачатку было нічога... Нават пэўная асалода...
Быццам бы там жылі два заўзятыя дудары...
Ды пасварыліся, вырашылі завастрыць
Свае гукі, парэзаць рукі, усёю мной завалодаць...
І разбурыць...
Я вышуквала лекі па Гугле і лемантары,
Але ў выніку ўсё ўнутры мяне абярнулася дагары!..
Доктар, у вас пальцы такія халодныя...
А адчуванне такое, што нешта ўва мне гарыць!..

Ёсць тут, магчыма, і некаторы «перабор» эмацыянальных жарсцяў, але верш цікавы, яго сэнс напоўнены мноствам значэнняў і адценняў, глыбока спавядальных па тых дэталях і падрабязнасцях, якія напоўнілі гэты твор.

Мне штохвілінна коле, драпае ды ірве...
На змаганне, доктар, наогул не засталося змогі!
Забываюся, адрываюся ад падлогі,
Каб упасці долу і зноўку — уніз-уверх!..
Як гэта называецца, доктар? Магчыма, звер,
Што аніяк не вырвецца з цёплай сваёй аблогі?..
Можа, там нехта хаваецца ад завей?..
Хто там няспынна, нястомна мяне заве?!.
Доктар мне кажа, што ўсё да раніцы зажыве,
З горла майго выцягвае зорачку з помніка Перамогі,
Глядзіць убок і гладзіць па галаве...

На прыкладзе лірычнай гераіні відаць, як даймае нашага маладога сучасніка рэфлексія, мучыць пачуццё віны за тое, у чым ён, ягонае пакаленне, уласна кажучы, не вінаватыя. Але памяць, носьбітам якой з’яўляецца народ, сацыяльная супольнасць, не дае сумленню супакоіцца. Надта дарагі, часам неапраўдана дарагі, аказаўся кошт зорачкі Перамогі. Пачуццё віны, такім чынам, выступае ў Т. Сівец як каштоўная чалавечая якасць, якая развіваецца праз рэфлектуючую свядомасць, празператварэнне калектыўнай памяці ў памяць асабовую, якая пастаянна разгортваецца, трансфармуецца, відазмяняецца.

Паэт гаворыць ад імя свайго «я». А што такое «я»? Гэта мой погляд на свет, мая душа, маё сумленне. Такім чынам паэт творыць свой уласны свет. «Мае вершы, — прызнаецца паэтэса Т. Барысюк, — гэта сведчанне майго існавання на свеце, апраўданне майго лёсу, адлюстраванне майго жыццёвага і творчага крэда, летапіс пачуццяў, біяграфія болю...» Вось як гэта выглядае ў вершах:

Не сэрца — разбітае шкло,
на ім — твае ініцыялы.
Мінулае не адышло,
а будучае — не настала.
Адна... Бо мой кніжны свет
ад явы такі далёкі!
Расою блішчыць на траве
адчай прасвятлёных аблокаў.

Пра многае Т. Барысюк хоча сказаць, раскрываючы свет сучаснай жанчыны, шчыра і даверліва расказваючы пра сябе, але нейкіх інфармацыйных паведамленняў у яе не знойдзеце. Шчырасць, спавядальнасць, страснасць, рамантызм — гэта звычайна ўласціва менавіта паэтэсам — пясняркам жаночай долі, хаця ў кожнай з іх праяўляецца індывідуальна своеасаблівa.

Абрысы свайго паэтычнага свету прыкметны ў творчасці В. Куставай. У яе, мне думаецца, ёсць лірычны герой (ці гераіня). Яго аблічча, маральнае і эстэтычнае, адлюстравалася ў такіх, напрыклад, радках:

Здранцвеюць вусны —
буду вачыма гаварыць.
Выкажу вочы —
буду рукамі
глядзець.
Прагледжу рукі —
буду сэрцам вітацца.
Развітаю сэрца —
буду душою біцца.
Разаб’ю душу —
буду...
Буду.

Думка і пачуццё спалучыліся тут у сучасным адчуванні свету і чалавека, яго магчымасцей, глыбокім, неадольным парыве да жыцця, любові да свету і да людзей. Яе вершы пра каханне прасякнуты нейкай стоенай, але безагляднай жарсцю, часам нават нібы безразважнай, але захапляюць сваёй чысцінёю і бескарыслівасцю. У іх адлюстравалася складанасць і загадкавасць жаночай душы, якая намагаецца жыць у паэзіі ўсёй сваёй істотаю. Разам з тым у вершах Куставай адчувальны і некаторы рацыяналізм, нешта «галаўное», што ўтаймоўвае «страсці» і ўсё ставіць на сваё месца.

Няпростая рэч — жыць у паэзіі ды яшчэ ўсёй сваёй істотаю. Асабліва складана гэта для паэта-рамантыка, інтраверта па сваім псіхічным складзе, чалавека, які не часта знаходзіцца ў згодзе з сучаснасцю. Такія думкі можна прачытаць у наступным вершы Х. Чумаковай:

Гэты вечар — анахранізм:
Палім свечкі ў кандэлябрах,
Грэем сэрцы ў абсэнце азяблыя,
Хаваем вочы —
галовы ніц.

Асобна, разам — усё адно,
Нам не лепш,
Ды й не горш з другімі.
Дык навошта ў вазе вяргіні,
Вочы ў вочы,
Віно...

Гэты вечар — анахранізм...
За дзвярыма пільнуе сучаснасць.
На абсэнце варожым на шчасце,
Хаваем вочы —
галовы ніц.

Нягледзячы на некаторую сціпласць і стрыманасць, у Х. Чумаковай адчуваюцца прыкметы характару, хай сабе і жаночага. У вершы адбіваецца драматызм унутранага стану гераіні, псіхалагічная напружанасць, імкненне паўней раскрыць сваю асабістасць...

Такім чынам, рамантычная плынь у беларускай паэзіі выжывае нават у неспрыяльных умовах сучаснасці.

* * *

Наша паэзія спрадвеку маральна і сацыяльна ангажаваная — без гэтага яна не ўяўляе свайго прызвання. Людзі з болем задумваюцца над станам сучаснага свету, над узаемасувяззю вынікаў і прычын, складанасцю і шматмернасцю чалавечага вопыту. На «мяжы» часоў, сёння гэта асабліва адчуваецца, незвычайна востра паўстае пытанне аб захаванні і ўмацаванні духоўных і маральных каштоўнасцей чалавека — чалавечай годнасці, дабраты, сумленнасці, павагі і г. д. Сучаснасць ускладнілася ў самой сваёй жыццёвай сутнасці, чалавецтва апынулася перад праблемай захавання навакольнага асяроддзя, зберажэння гістарычнай памяці і ўсіх каштоўнасцей, створаных народамі.

Даволі шырокага розгаласу ў гэтай сувязі набыла сёння паэзія публіцыстычнага кшталту. «Публіцыстыка ў паэтычным аркестры жанраў, — на думку ўжо ўспомненага Ю. Сапажкова, — нагадвае ролю ўдарных інструментаў. І на барабане можна рассыпаць такі пошчак, што салавей пазайздросціць. У публіцыстыку не напусціш туману пяшчотных уздыханняў і суму, што абвалаквае душу. Ей хочацца адкрытасці, абагульненняў, лірыка ёй зацесная, ёй хочацца пакрычаць на плошчы».

Паэты адчулі свой абавязак па-новаму расказваць пра сучасны свет, пра свайго сучасніка, даць яму жыццёвую апору. Чалавек сёння асабліва імкнецца рэалізаваць сябе ў справе, стаць больш значным ва ўласных вачах, адважваецца на ўчынак, на самастойную ініцыятыву і прыняцце рашэння. Гэта — чалавек дзелавы і думаючы, які востра адчувае і гаркоту, і слодыч часу, па-новаму яго вымярае. Мы не ўпэўнены, што ў сучаснай беларускай паэзіі маецца падобны лірычны герой, у якім можна было б адзначыць штосьці пэўнае, назваць выразныя рысы характару, звязаныя з сучаснасцю. Такога лірычнага героя, які прысутнічаў, напрыклад, у паэзіі маладога Р. Барадуліна, ні ў аднаго з цяперашніх маладых няма.

Паэтам публіцыстычнага тэмпераменту, як ужо адзначалася, быў П. Панчанка. Кажуць, што гаворыць той, хто гаворыць «я». Публіцыстычнае маўленне П. Панчанкі грунтавалася на вельмі асабістай, спавядальнай, бязлітаснай танальнасці.

Я цэрквы закрываў,
Я абразы паліў,
Сялянскую маёмасць перапісваў.
І нюхалі нішчымныя палі
Кароў галодных
Родныя мне пысы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ссек сады,
Прынёс бяду лясам,
Я сеяў кукурузу на балотах,
Абкрадзены народ
Пачаў цягнуць і сам,
І п’яніцы валяліся пад плотам.

У гэтай споведзі ёсць усё: і сорам, і гнеў, і абурэнне. І усё гэта было б падобна на плён буйной фантазіі аўтара, калі б не праўдзівыя, неабвержныя факты.

То я ўзрасціў няўмек і гультаёў.
Застой. Крадзёж.
На складах — горы дрэні.
Зямлі і праўды,
Мовы і гаёў
Ірвалі мы спрадвечныя карэнні.

Нарэшце герой панчанкаўскай паэзіі зразумеў тое, пра што здагадваўся даўно: рэвалюцыя яму здрадзіла. Памянялася ўлада, а чалавек як быў, так і застаўся ўбаку, за бортам, хоць гаварыць пра яго і ўслаўляць сталі больш, чым калі. Цяпер ён як бы здагадваецца, што тое, што выдавалася за камуністычную ідэю, у сапраўднасці з’яўлялася адчужэннем чалавека ад уласнасці і ўлады, ад права распараджацца прадуктамі сваёй працы, вяло да насілля і беззаконня. У паэце нібыта прачнуўся прарок — своеасаблівы біблейскі Іерэмія, які пранікнёным сваім розумам, валодаючы дарам уяўлення і прадбачання, пільна углядаецца ў звівы і павароты нацыянальнага лёсу, імкнецца ўбачыць скрытыя яго абрысы.

Публіцыстычны кірунак думкі не чужы быў і М. Танку, асабліва ў перыяд перабудовы, калі да ўлады прарвалася новае пакаленне чыноўнікаў. Калісьці пры ўладзе апорай сацыялізму быў чыноўнік, ахоўнік рэжыму, бюракрат. Але такім жа ён, «анёл» у мінулым, выглядае і пры новым рэжыме:

Ледзь пазнаў
Былога знаёмага анёла,
Які, дарваўшыся да ўлады,
Перш за ўсё:
Адрасціў рогі,
На нагах — капыты,
А на руках —
Учэпістыя клюшні рака.
Развіталіся.
А я і сёння адчуваю
Іх калючы дотык.

*(«Ледзь пазнаў...»)*

Паэзія, пазначаная рысамі публічнага выказвання, уступае ў дыялог з тым, што знаходзіцца па-за яе межамі, з тым, у прыватнасці, што ў савецкі час называлася «чарнухай». Чарнуха — гэта быў паказ змрочных бакоў сацыялістычнай рэчаіснасці. У постсавецкі час, у першыя гады галоснасці гэты ярлык быў наклеены на шырокі фронт неанатуралістычнай прозы, якая раскрыла чытачу вочы на існаванне бамжоў, прастытутак, армейскай дзедаўшчыны, турэмных жахаў і многіх іншых сацыяльных з’яў. Сучасныя мас-медыя спрабуюць перахапіць,

адняць у паэтаў-публіцыстаў права на падзейна-фактаграфічны пераказ таго, што адбываецца вакол нас і што называюць «чарнухай», але фактаграфічнасць з вершаў пакуль што не знікла і наўрад ці калі знікне.

З'явілася нямала самадзейных паэтаў, якіх, зрэшты, на Беларусі заўсёды было шмат. З іх ліку — Аляксандр Манулік, заслужаны ўрач Беларусі, адзін з арганізатараў аховы здароўя ў краіне. Ён піша вершы, пра тое, што яго турбуе. Вось верш пад назвай «Маці — вёска мая», які хвалюе непрыдуманай праўдай чалавечага дакумента.

Ой, вёска мая, з нараджэння карміліца,
Гляджу на цябе з-пад дрыжачай рукі:
Ты, быццам калека знямоглы на мыліцах,
Стаіш у маркоцці ля ссохлай ракі.
З крывіцкіх часоў прырастала ты хатамі,
Хоць зведала панскі ды царскі прыгнёт.
Памкненні да волі, што гнілі за кратамі,
Надзею быў даў васемнаццаты год.
А потым, ў трыццатых, ты стала калгасніцай,
Калі пустадомкі да ўлады прыйшлі.
Рупліўцаў тваіх са спраўнейшай уласнасцю
«Скулачылі» ўсіх, пазжывалі з зямлі.
Ты хутка ўдавою няўцешнай засталася,
Спазнаўшы «хапун», а за ім дзве вайны.
Штогод немаўлят усё менш нараджалася,
Шмат дзе паляглі твае дочкі, сыны.
Міналі гады цяжкай працы без продыху,
За хлеб ды надоі ты «бітвы» вяла,
Ды толькі не ведала плёну з тых поспехаў,
Бо ўсё за грашы забіралі з сяла.
На «фэстах» тваіх не пяецца — галосіцца,
Трываць тыя мукі ўжо сіл нестае.
Самотныя песні, бы стогны, разносяцца,
Співаюцца, мруць хлебаробы твае...
Зрынь п'яны кураж, груз дурману спрадвечнага,
Пакліч талаку, каб табе памаглі
Жыццё збудаваць сапраўды чалавечае,
Самой гаспадарыць на роднай зямлі.

Аляксандр Манулік ладзіць свой верш на песеннай аснове, не звяртаючыся да «ўдарных інструментаў» (Ю. Сапажкоў), але «песня» ад гэтага нічога не губляе, гучыць вельмі пераканаўча, бо публіцыстычная паэзія сябруе з праўдай, у лепшых сваіх узорах выступае як функцыя сумлення. Гэта зноў-такі яшчэ адзін доказ таго, што ў паэзію вярнуўся Бог.

Публіцыстычную плынь жывяць токі, якія ідуць ад палемічнай літаратуры XVI — 1-й паловы XVII стагоддзя, ад Ф. Багушэвіча і Я. Купалы. Ручаіна публіцыстычнай паэзіі, хоць часам і ляцела, не перасыхала на працягу ўсяго XX стагоддзя. Сучасная беларуская паэзія знаходзіць розныя формы, звязаныя з уласцівым ёй разнастайным выяўленнем асобаснага пачатку, узмацненнем інтэлектуальнай энергіі і экспрэсіі думкі. Інтэнсіўнасць успрыняцця жыцця, заглыбленасць у гісторыю, імкненне да самасцвярджэння на аснове пашырэння духоўных і грамадзянскіх інтарэсаў абвастрылі ў паэтаў пачуццё формы, стылю, узбагацілі саму паэтыку, адкрылі ўмоўна-асацыятыўныя перспектывы верша. Паэтычная карціна свету павінна адпавядаць рэальным маштабам navaкольнай рэчаіснасці.

Лагічна, што літаратура, у тым ліку паэзія, скіроўвае ўвагу на выкрыццё адмоўных з'яў і бакоў сучаснай рэчаіснасці, але, відаць, і тут трэба ведаць меру.

Націск на крытычны пафас, акцэнтаванне на ім увагі пагражае тым, што чалавек увогуле можа страціць веру ў якія б там ні было ідэалы. Пісьменніку, з другога боку, неразумна станавіцца ў пазіцыю чалавека, які ўсё бачыць і ўсё ведае, і пазірае на падзеі з вышыні, каменціруючы і апісваючы іх на свой лад. Лірычна-публіцыстычная паэзія вымагае ад паэта маральнага высакародства і чысціні, высокіх грамадзянскіх якасцей. На гэтым полі шчыруе цэлы шэраг паэтаў.

Да дасціпнага, незакілзанага слова мае густ Мікола Захаранка. У яго свая праўда, і выказвае ён яе не толькі таму, што яна правільная, але і асабіста праверавая і засвоеная. «З яго пачалося» — гэтак называецца верш, у якім адлюстравалася не фантомная, а жывая свядомасць сучасніка.

Людзі хочуць дабра.
Ды забілі бабра,
Ды застрэлілі ў лесе вавёрку.
Перабілі ваўкоў,
Патруцілі жучкоў,
Разбурылі лісіную норку.

Каб палепшыць прагрэс,
Людзі высеклі лес,
А затым асушылі балоты.
Кветкі ў лузе завялі,
Пчолы марна прапалі,
Апусцелі пчаліныя соты.

Зніклі выдра і собаль,
Узарваўся Чарнобыль,
Сумна стала
Ў людскім наваколлі.
А хацелі ж дабра!
Ды забілі бабра,
І не будзе дабра ўжо ніколі.

Які ты, хто ты, мой сучаснік? — такое пытанне ставіць У. Мазго ў публіцыстычна-роздумным вершы «Віртуальныя людзі». Яго лірыка напаўняецца складанымі духоўнымі і маральнымі калізіямі.

Новы дзень,
Новы час
Таямніцу абудзяць,
Што жывуць
Паміж нас
Віртуальныя людзі.

Радасць хлыне ракой,
Калі сесці ў зацішку
І адчуць
Пад рукой
Ад камп'ютара мышку.

Увайсці ў інтэрнэт —
І забыць
Шлях вяртальны,
Калі трапілі ў свет,
Ці ў сусвет,
Віртуальны...

У плённым грамадска-філасофскім накірунку развіваецца творчасць М. Мятліцкага. Глыбокім, трагічным трэнам азвалася яго паэзія на Чарнобыльскую катастрофу. У 1996 годзе ўбачыла свет адна з самых моцных яго кніг зборнік вершаў «Бабчын», які аўтар назваў «кнігай жыцця». Кніга мае эпіграф:

Глыток чысціні.
Суцемак гладыша.
Безгалосыя дні.
Параненая душа.

Чатыры радкі — чатыры вобразы. Яны, надзвычай глыбокія сваім зместам, сталі назвамі чатырох раздзелаў зборніка, у якім — я гэта кажу з адказнасцю — з незвычайнай паўнатой адлюстраваўся народны вопыт адносін да жыцця. Кніга пісалася на незвычайным эмацыянальным напале. Многія вершы нагадваюць трэны (трэн па-лацінску — плач, плач па страчаным). Гэта асабліва адносіцца да цыклаў «Безгалосыя дні» і «Параненая душа». У іх выяўлены экзістэнцыялы перажытага і выпакутаванага людзьмі, пастаянна рэфлектуючая свядомасць паэта, які імкнецца ўсвядоміць, што ж гэта дзеецца ў свеце і ў яго душы. Асноўная ідэя таленавіта выяўлена ў вершы «Бяссмертнік», з якога пачынаецца кніга:

Бяссмертнік, атручаны лекі твае.
Жыцця тут пагаслага мёртвая стынь.
А шчасце былое жаўцяна ўстае,
Мне дорыць і дорыць жывую святлынь.

О, колькі жадана ўвабрала яна
Дыхання каханай, і мрой, і цяпла.
І зараз пакутніца свету адна
Шчыруе над цветам душа, як пчала.

Паэт хоча, каб пацяплела чалавечая душа — нават пасля такой жудаснай падзеі, як Чарнобыль, але сумныя рэаліі сялянскай хаты — стол (на якім няма хлеба), услон ля сцяны (на які ўжо ніхто не сядзе), печ (якую ўжо ніхто не запаліць) — вяртаюць да рэчаіснасці, «усланай покрывам радыяцыі» (верш «Загадкі ў хаце»).

Мікола Мятліцкі валодае рэдкім дарам стварэння народных характараў, асабліва шмат іх у раздзеле «Суцемак гладыша», у вершах «Мікалаеў дуб», «Балада пра Варын агарод», «Яблычны Спас», «Яна», «Чарадзейка» і інш. Выдатны верш — «Бібліятэка». Апусцелая вясковая бібліятэка. Толькі вецер, што прыляцеў «праз бітыя шыбы акон», гартае падшыўкі газет. Але ўнутраным зрокам паэт бачыць, як выйшлі з яе дзве невідочныя постаці колішніх заўзятых чытачоў Маланкавіча і Буквара:

Ані слядка на расе.
Удаль павядзе іх вечар.
Старонкі прачытаны —
Ўсе! —
Трагедыі чалавечай.

У свеце паэта гаспадарыць памяць, узнаўляе свае карціны і вобразы, пацвярджае неадменныя чалавечыя каштоўнасці. Аднак было б несправядліва абмяжоўваць паэта тэматычна, ён — шматгранны. Умее быць інтымна лагодным, пяшчотным і ўмее ўзяць на сябе місію суддзі, узняцца да публіцыстычнага ўзроўню, крануць набалелае, сказаць грамадству без утойвання, што ў ім дрэнна, якім павінен быць, на яго думку, чалавек і якім павінен быць свет. М. Мятліцкі выступае як летапісец чарнобыльскай трагедыі, якой прысвяціў нямала глыбокіх, прачулых кніг і асобных твораў, вядомых далёка за межамі Беларусі, напоўненых гаркатой і журбой, вернасцю і крыўдай. Іх героі — аднавяскоўцы і землякі паэта — на сабе зведалі цану неабачлівага і абесчалавечанага прагрэсу, які забыў пра мараль, духоўнасць і чалавечыя каштоўнасці. Але галоўнае ў гэтых вершах не тое, што страчана, а тое, што навекі засталося з ім, у чулай паэтавай душы. Вершы М. Мятліцкага часта вырастаюць на ўспамінах пра сваякоў, суседзяў, пра вёску і вясковы побыт. За радком стаіць праўда перажывання.

Прачытаўшы «Бабчын», я міжвольна падумаў, што па сутнасці гэта лірычны раман. Хранатопам гэтага рамана ў вершах стала выселеная родная вёска, у якой спыніўся час, стаў толькі цыклічным, але насельнікі засталіся — цені яе жыхароў. Іх шмат, і ўсе яны тут: Кацюша, Яніха, Антося, Макрэна, Баварыха, Аксінчык, Зоя, Манька, Нюра... І асобныя вершы з гэтага рамана ўяўляюцца мне кавалкамі бурштыну, у якіх навечна захоўваюцца карціны перажытага паэтам, вобразы памяці, палескія краявіды, постаці землякоў, побытавыя сітуацыі. Аўтар спасцігае свет знутры, знаходзячыся ў гушчыні жыцця, яму блізкая народная прастата погляду, якую ён спалучае, аднак, з вышэйшай рэфлексіяй.

Асноўным, базавым вобразам у «Бабчыне» з'яўляецца вобраз маўчання, цішыні: «Хаты пустыя... Яблынь сям'я. / Воблікі гаспадароў. / Ходзіць нясходна памяць мая / Быльнягамі двароў...» Маўчанне — гэта немы крык, пантаміма душы паэта, жэсты гэтай душы...

Кніга «Цяпло буслінага крыла» (2010) таксама нясе адчуванне трывогі, тых вялікіх выпрабаванняў, разломаў жыцця і чалавечай свядомасці, што выпалі на наш лёс. Але тэматычна М. Мятліцкі не абмежаваны, яго вабіць і сённяшняе, і мінулае, ён хоча адчуць сувязь часоў. Паэзія не можа не гаварыць пра адвечнае: радзіма, зямля, хлеб, праўда, вернасць, сумленне — усё яе цікавіць. Усё гэта цікавіць і М. Мятліцкага. Выдатны верш «Радавод» прысвечаны няўрымсліваму гісторыку А. В. Статкевічу-Чабаганаву. Гэта — своеасаблівы партрэт нястомнага даследчыка:

На славу бацькаваму краю
Нястомна, рупна, з году ў год,
Паўсюд па зернейку збірае
Свой скарб — уласны радавод.
Душа не ўчуе чэзлай стомы,
Бо скарб не мае той цаны.
Нашчадкам скажа годна, хто мы,
Пергамент скутай даўніны.
Адтуль, дзе досвітак славянаў,
Дзе гул эпох, як гул грымот,
Вядзе Статкевіч-Чабаганаў
Маёй Айчыны радавод.

Каштоўная рыса характару — вера ў лепшае. У паэзіі М. Мятліцкага — летапісца роднага Бабчына, — нягледзячы на ўвесь яе драматызм і напружанасць, няма адчування жыццёвага тупіка, безвыходнасці ці адчаю. Мужнасць, воля, стойкасць — вось аснова светаадчування лірычнага героя «Бабчына».

Сапраўдная паэзія — гэта слова, звернутае да чалавека-сучасніка, якое адкрывае яму новае бачанне свету і самога сябе. Паэта цікавіць новае, тое, чым жывуць людзі, чым жыве ён сам. Магчыма, класічна аголеная публіцыстыка засталася ў мінулым. Затое ёсць па-баявому настроеныя паэты, ёсць цікавыя творы. Паэтычнае слова ў многіх выпадках не страціла ў сваім публіцыстычным запале.

***Працяг у наступным нумары.***

Генадзь ЛЯВОНЕНКА

# СПАСЦІЖЭННЕ РАДЗІМЫ

Магчыма, і памыляюся, ды толькі ўсё адно мне здаецца, што тыя, хто цікавіцца нацыянальнай гісторыяй, каму блізкая беларуская даўніна, хто хоча болей ведаць пра знакамітых людзей, якім у розныя часы дала жыццё наша зямля, альбо пра тых, хто нарадзіўся ў іншых мясцінах ды шмат зрабіў дзеля росквіту Беларусі, гэтаксама, як і многія ўраджэнцы Беларусі праславіліся ў іншых краях, міжволі прыгадваюць тое, што некалі было сказана неўміручым Пушкіным: «Клянусь честью, ни за что на свете я не хотел бы переменить отечество или иметь другую историю, кроме истории наших предков». Тым больш, гэтае выказванне Аляксандра Сяргеевіча блізкае пісьменнікам, якія ў сваёй творчасці паспяхова асвойваюць гісторыка-краязнаўчую дзялянку.

У шэрагу тых, хто апошнім часам асабліва плённа працуе ў гэтым накірунку і лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» і прэміі «Залаты Купідон» Алесь Карлюкевіч. На ягоным мастакоўскім рахунку кнігі — «Вяртанне да … Беларусі» (1994), «За Цітаўкаю — Слабада» (1997), «Далёкія і блізкія суродзічы» (1999), «І векавечны толькі край», «Літаратурная карта Пухаўшчыны», «Ігуменскі блакнот» (усе 2000), «Ад зямлі, якая нарадзіла ці натхняла» (2001), «Былое маё ажыло» (2002), «Зацітава Слабада» (2007), «Блонь» (2007, у суаўтарстве з Браніславам Зубкоўскім), «Сцежкамі Ігуменшчыны» (2008), «Радзімазнаўства» (2010), «І марам волю дам» (2011) і іншыя.

Атрымліваецца, што цэлая краязнаўчая бібліятэчка напісана адным аўтарам. Рэдка хто працуе так плённа і мэтанакіравана. Істотна тое, што ў сваіх кнігах А. Карлюкевіч немалую ўвагу ўдзяляе тым падзеям, што адбываліся на Ігуменшчыне, а таксама людзям, якія нарадзіліся ў гэтым кутку Бацькаўшчыны, ці звязалі з ім свой лёс, а Ігуменшчына — гэта, як вядома, колішні Ігуменскі павет, тэрыторыя цяперашніх Чэрвеньскага, Пухавіцкага і некаторых іншых раёнаў. Пухавіччына — асабліва дарагая А. Карлюкевічу, бо нарадзіўся ён 6 студзеня 1964 года ў вёсцы Зацітава Слабада гэтага раёна. Аднак адметна і тое, што, расказваючы пра Пухавіччыну, дый, калі глядзець шырэй, пра Ігуменшчыну, ён гэта робіць так, што…

## З Пухавіччыны відаць Беларусь

Адна з найбольш значных кніг А. Карлюкевіча «І марам волю дам» мае падзагаловак «Літаратурная карта Пухавіччыны». Як з’явілася яна, Алесь Мікалаевіч разважае ў слове «Ад аўтара»: «Літаратурная гісторыя аднаго раёна — ці можа гэтая тэма быць прадметам асобнай, няхай нават і краязнаўчай, кнігі? Пытанне, якое я задаю сабе на працягу многіх гадоў, застаецца для мяне ўсё ж такі яшчэ пытаннем. Па-першае, і таму, што нельга разглядаць гісторыю развіцця літаратуры, мастацтва на прыкладзе пэўнага геаграфічнага ці адміністрацыйнага рэгіёна, адарвана ад усеагульнага працэсу. Па-другое, у большасці сваёй персанажы,

творчасць якіх стала здабыткам усёй Беларусі, толькі нарадзіліся альбо пэўны час жылі ў межах горада, раёна. Многія з іх пісалі ўжо ў Мінску, пісалі ў іншых гарадах і нават краінах. І разам з тым мае сумненні вагаюцца ў іншы бок...»

Дзякуючы такім сумненням і нарадзілася кніга «І марам волю дам», акурат і напісаная з упэўненасцю, «што мастацкая літаратура становіцца тады болей прыцягальнай, калі да яе знаёмства падыходзіш з уласнымі адкрыццямі і твора, і аўтара як нечакага блізкага, роднага, у пэўнай ступені знаёмага. І гэтую задачу якраз і здольна вырашаць [...] літаратурнае краязнаўства, веданне літаратуры агульнанацыянальнай з вышыні сваёй роднай і блізкай старонкі».

Літаратурнага краязнаўства ў беларускай практыцы ў такім аб'ёме па сутнасці яшчэ не было. Канечне, апошнім часам з'яўляецца ўсё болей аўтараў, якія, расказваючы пра блізкія ім мясціны — часцей пра тыя, дзе яны нарадзіліся, згадваюць і пісьменнікаў, якія адтуль родам, ці звязаны з гэтым кутком як у жыцці, так і ў творчасці. Адметнасць кнігі «І марам волю дам» — яшчэ і ў тым, што пад адной вокладкай змешчаны як бы дзве міні-энцыклапедыі Пухавіччыны: літаратурная і краязнаўчая. Ды не традыцыйныя, калі прыводзіцца пэўны тэрмін, назва і даецца да іх кароткае тлумачэнне, а кшталту «Православной энциклопедии», альбо тамоў «Русские писатели», у якіх змешчаны разгорнутыя артыкулы.

Дарэчы, творчасць А. Карлюкевіча — не такі ўжо і часты ў літаратуры выпадак, калі пісьменнік, знайшоўны сваю тэму, увесь час трымаецца яе, ствараючы творы ўнутрана блізкія адзін аднаму, пастаянна заглыбляючыся ў сутнасць праблемы, на новым матэрыяле вырашаючы тое, што ўспрымае для сябе галоўным. Адносна дакументалістыкі, тым больш той, у аснове якой краязнаўства, — гэта рэдкасць. Але паколькі ў яго, як прызнаецца сам А. Карлюкевіч, «характар літаратурнага натхнення пухавіцкі», то ён пастаянна і знаходзіцца ў полі прыцягнення таго, што ніколі не выкрасліць з сэрца, пацвярджэнне чаму і кніга «І марам волю дам».

Пачатак ёй быў пакладзены невялікай кніжачкай, назва якой была амаль такая ж, як падзагаловак гэтай — «Літаратурная карта Пухаўшчыны». Разыходжанне, як няцяжка заўважыць, толькі ў назве раёна. Сам жа А. Карлюкевіч у слове «Ад аўтара», змешчаным у новай кнізе, пытаецца: «Чаму адбылася змена: Пухавіччына замест Пухаўшчыны?» Сам жа і тлумачыць: «У 2003 годзе пабачыла свет гісторыка-дакументальная хроніка Пухавіцкага раёна «Памяць». Навукоўцы, мовазнаўцы прыйшлі да высновы, што граматна, правільна пісаць менавіта так: «Пухавіччына».

Пачынаецца кніга раздзелам «Мар'іна Горка. Пасёлак Мар'іна». Чытач, адкрываючы для сябе малавядомае, а то і зусім невядомае яму, з цікавасцю перагорне старонку за старонкай, кожным разам знаходзячы для сябе штосьці новае. Узяць хоць бы сведчанні пра тое, што ў 1930 годзе на Пухавіччыне пабывала англійская пісьменніца міс Сесіль Чэстэртон. Дый далёка не ўсе ведаюць аб пухавіцкай старонцы ў жыцці драматурга, кінасцэнарыста Рыгора Кобеца, які стаяў ля вытокаў беларускага кіно. Тым больш цікава даведацца пра гэта ад А. Карлюкевіча. У свайго роду памочніка ён узяў самога Р. Кобеца. Менавіта ўспаміны Рыгора Якаўлевіча сталі тым зыходным пунктам, ад якога ён і развіў тэму Кобец і Пухавіччына.

Дарэчы, і ў далейшым А. Карлюкевіч гэтаксама ўдала ўводзіць у сюжэтную канву аповеду сведчанні відавочцаў тых ці іншых падзей, спасылаецца на розныя публікацыі, дапаўняючы ўсё гэта ўласнымі росшукамі, што з'яўляюцца вынікам ягоных сустрэч з тымі, хто можа даць цікавую інфармацыю. Гэтаксама падмогай для яго з'яўляюцца архіўныя знаходкі.

Міжволі напрошваецца параўнанне з кнігай Алега Лойкі «Займальнае літаратуразнаўства». У А. Карлюкевіча займальнасць таксама стаіць далёка не на апошнім месцы, таму ягоную кнігу, бадай, можна назваць «Займальным краязнаўствам». Як у светлай памяці Алега Антонавіча, у А. Карлюкевіча прысутні-

чае ўспрыманне кожнага факта як бы на смак. І гэтаксама, як у А. Лойка, ён, «смакуючы» той ці іншы факт, стараецца падаць яго так, каб і чытач адчуў, наколькі прадмет гаворкі, здавалася б, у чымсьці і «сухой», можа быць захапляльным. Асабліва, калі ён насычаны цікавымі звесткамі. Часам нават з'яўляецца адчуванне, што перад табой свайго роду краязнаўчая энцыклапедыя Пухавіччыны — нішто не прапушчана, нішто не абыдзена ўвагай.

Кніга «І марам волю дам», якая дазваляе на прыкладзе аднаго раёна пераканацца ў тым, наколькі багатая на творчыя таленты наша зямля і наколькі моцныя ўзаемасувязі. На малой карце Пухавіччыны відаць вялікая літаратура. Калі ж прыводзіць больш шырокую паралель, то атрымліваецца, што з Пухавіччыны відаць уся Беларусь.

## З краязнаўства «вырастае» радзімазнаўства

Знакавай у творчай біяграфіі А. Карлюкевіча стала кніга «Краязнаўства», што мае падзагаловак «Мясціны. Асобы». Адпаведна ў ёй прадстаўлены і два раздзелы, якія адпавядаюць гэтым назвам. Хоць, калі разабрацца, у асобных выпадках падзел на раздзелы чыста ўмоўны, бо часам атрымліваецца так, што пэўны пісьменнік, краязнаўца, гаворка пра якога ідзе ў другім раздзеле, акурат найлепшым чынам праявіў сябе пры вывучэнні, даследаванні, асэнсаванні менавіта таго кутка Бацькаўшчыны, які ў той ці іншай ступені прапісаўся ў ягоным жыццяпісе, а таму не мог не адлюстравацца і ў яго творчасці. Тым самым падобны матэрыял можна змяшчаць і ў раздзеле «Мясціны». Кніга гэтая можа стаць свайго роду падручнікам для ўсіх, хто хоча лепш ведаць сваю краіну — Рэспубліку Беларусь.

Сцісла, але надзвычай змястоўна, пераканаўча і з абавязковым адкрыццём для шырокага чытача новага імя — ідзе А. Карлюкевіч і ў сваіх нарысах. Для прыкладу, возьмем «Браслаў». Прызнайцеся шчыра, ці ведаеце вы, што ў Відзах, якія ўваходзяць цяпер у склад Браслаўскага раёна, нарадзіўся вядомы пісьменнік Яўген Фёдараў, які ў сваёй творчасці быў моцна прывязаны да гістарычнай тэматыкі? Той самы Я. Фёдараў, які напісаў добра вядомую аматарам даўніны трылогію «Каменны пояс», у якой расказваецца пра зараджэнне прамысловасці на Урале, у тым ліку і пра знакамітую дынастыю Дзямідавых.

Прызнаюся шчыра, і я не ведаў, што Я. Фёдараў — наш зямляк. Несумненна, знайшла б сваіх чытачоў і, калі б была выдадзена ў перакладзе на беларускую мову, і даследчыцкая праца Ота Хедэмана «Гісторыя Браслаўскага павета». Карысць для краязнаўцаў, для ўсіх, хто неабыякавы да нацыянальнай мінуўшчыны, была б відавочная.

Дарэчы, зноў пра краязнаўства. Аказваецца, «у 1930-я гады ў Браславе было арганізавана павятовае аддзяленне краязнаўчага таварыства. Браслаўскія краязнаўцы ініцыіравалі выданне серыі паштовак з відамі роднага горада, яго ваколіц. Асновай паслужылі фотаздымкі мясцовага майстра Адольфа Бейнаровіча. Да нашага часу дайшлі 16 паштовак. Вядомы іх агульны наклад — 2500 экзэмпляраў».

Згаданая ж кніга О. Хедэмана належыць да гісторыка-краязнаўчай літаратуры. У аўтара яе не беларускае прозвішча, бо ягоны бацька Магнус Ян паходзіў з дацкіх немцаў, прыехаў на Палессе займацца меліярацыяй. Сам жа О. Магнус працаваў настаўнікам, выкладаў гісторыю. Адсюль і ягоная цікавасць да мінуўшчыны гэтага краю. «Гісторыя Браслаўскага павета» — не адзіная ягоная праца. На краязнаўчай ніве О. Хедэман працаваў плённа, выдаўшы такія кнігі: «Дзісна і Друя — магдэбургскія гарады», «Граф Мануцы», «Даўнія пушчы і воды», «Школа Валяр'янаўская Лужкоўскіх піяраў», «Завяшчанні браслаўска-дзісенскія XVII—XVIII стст. як гістарычныя дакументы». Незавершанай, на

жаль, засталася двухтомная праца О. Хедэмана «Белавежская пушча», бо ў 1937 годзе краязнаўцы не стала.

У сувязі з гэтым, безумоўна, не можа не зацікавіць нарыс А. Карлюкевіча «Белавежская пушча. Каракумскі след». Як вядома, шмат якія мастакі, у тым ліку і знакаміты Іван Шышкін, у розны час прыязджалі сюды, каб занатаваць непаўторнасць краявідаў гэтага запаведнага кутка. Быў сярод іх і Назар Ёмудскі. Праўда, гэтае імя беларускаму чытачу невядома. Правільней, было невядомым, пакуль А. Карлюкевіч не ўстанавіў, што пачынальнік туркменскага прафесійнага выяўленчага мастацта блізу канца пазамінулага стагоддзя быў на Беларусі. І, як відаць з нарыса «Белавежская пушча: Каракумскі след» — небезвынікова. Да нашага часу дайшлі жывапісныя палотны Н. Ёмудскага «Зіма ў Беларусі» і «Белавежская пушча». А. Карлюкевіч слушна мяркуе, што хутчэй за ўсё былі ў гэтага туркменскага мастака і іншыя «беларускія» творы.

Нямала звестак можна пачарпнуць і з нарыса «У ваколіцах Белавежскай пушчы». Маецца на ўвазе Пружаншчына — таксама куток багаты на падзеі даўнія, на людзей слаўных. Апроч усяго, у самім райцэнтры захаваўся помнік архітэктуры XIX стагоддзя. Гэта легендарны Пружанскі палацык — колішняя рэзідэнцыя маршалка мясцовага павета Валенція Швыкоўскага. Ён быў чалавекам неабыякавым да культуры: «У горадзе праводзіліся музычныя вечарыны, ладзіліся тэатральныя пастаноўкі. Маршалак сябраваў з пісьменнікам і гісторыкам Юзафам Крашэўскім, якому Пружаны былі вядомы з дзяцінства». Не прамінае А. Карлюкевіч магчымасці падрабязней сказаць і пра самога Ю. Крашэўскага, які жыў у вёсцы Доўгае. У ёй жа нарадзіўся і брат Ю. Крашэўскага — будучы мастак, астраном-аматар Каятан Крашэўскі. Абедзве постаці знакавыя.

Што ні куточак Беларусі, то багаты на таленты. Валожыншчына, для прыкладу, не тое што не выключэнне, а, наадварот, шмат у чым іншым раёнам можа даць фору. Пры тым аднолькава шмат адсюль родам як тых, хто ўжо ўвашоў у гісторыю, так і нашых сучаснікаў.

Валожынскі ж след у гісторыі, напрыклад, — гэта былы прэм’ер-міністр, міністр абароны Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Шымон Перэс, які нарадзіўся ў Вішневе. З гэтага ж мястэчка родам і Нахум Гольдман, які ў дваццаць чатыры гады абараніў дысертацыю на ступень доктара права, а праз год — яшчэ адну дысертацыю, гэтым разам на ступень доктара філасофіі. Амаль трыццаць гадоў узначальваў Сусветны яўрэйскі кангрэс. Дый вішнеўская Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — жонка і паплечніца Янкі Купалы.

Сёння ж годна працуюць ураджэнцы валожынскай зямлі — літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша, паэты Віктар Шніп і Валянціна Гіруць-Русакевіч, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, знакаміты матэматык Якаў Радына.... Далёка не ўсе ведаюць, што ў Валожыне нарадзілася спявачка Дзіяна Арбеніна, якая стварыла вядомую групу «Начныя снайперы». Сапраўднае прозвішча Арбенінай — Кулачэнка.

З задавальнннем даведваешся, што на валожынскай зямлі ёсць чалавек, які «шмат што ведае з гісторыі горада, з гісторыі роднай старонкі. І знакамітыя землякі, а таксама тыя, хто крыніцамі валожынскімі сілкаваўся, — усе ў яго на ліку». Гэта пры тым, што ў Алега Бобрыка, а менавіта яго мае на ўвазе А. Карлюкевіч, зусім не філалагічная адукацыя. Ён па прафесіі эканаміст, доўгі час працаваў у Валожынскім райвыканкаме, а цяпер узначальвае мясцовы райспажыўсаюз. У дадзеным выпадку не ў прафесіі справа.

Алег Бобрык — з тых людзей (на шчасце, як пераконвае кніга «Радзімазнаўства», падобныя апантаныя любоўю да Бацькаўшчыны, да беларускай гісторыі, падзвіжнікі ёсць і ў іншых раёнах), якія разумеюць, што, толькі пазбавіўшыся нацыянальнага бяспамяцтва, можна ўпэўнена ўзірацца ў дзень заўтрашні. Нічога на пустым месцы не ўзнікае, а ўсё, што адбываецца, з’яўляецца лагічным працягам таго несупыннага ланцуга, у якім цесна паяднаны ўчарашняе, сённяшняе

і будучае. Спасцігуць гэтае трыадзінства ва ўсёй паўнаце можна не толькі праз значныя падзеі, а і праз асэнсаванне жыцця слынных людзей, праз вызначэнне таго ўкладу, які яны зрабілі (ці робяць) у агульную скарбонку добрых спраў беларусаў і Беларусі.

Ведаючы пра тое, наколькі А. Бобрык захоплены краязнаўствам, А. Карлюкевіч пры чарговай сустрэчы з ім выказаў пажаданне: «...А што, калі выдаць такі адмысловы даведнік, як «Людзі культуры Валожыншчыны»? Пры гэтым выказаў упэўненасць, «што карыстаўся б ён попытам — і ў школьнікаў, і ў настаўнікаў, ды і проста ў чуйных і да айчыннай гісторыі ўважлівых людзей». З падобнай прапановай А. Бобрык «пагадзіўся, толькі ўдакладніў, што і хроніка «Памяць», і важкі том-хрэстаматыя валожынскіх пісьменнікаў у серыі «Літаратурная Беларусь» — гэта ўжо ёсць». Бадай, лепей «пайсці шырэй — зрабіць працу, напрыклад, кшталту «Людзі навукі і культуры Валожыншчыны».

Шмат душы і розуму даюць падарожжы ў Гомель і Давыд-Гарадок, на Мазыршчыну і Нясвіжчыну, Ляхаўшчыну і Мядзельшчыну, Вілейшчыну, Іванаўшчыну і Драгічыншчыну... Дарэчы, апошняй прысвечаны ажно тры матэрыялы: «Драгічыншчына — куток салаўіны», «У Мікіцк па фальклор» і «З палескай вёскі Бездзеж». Кожны з іх па-свойму цікавы і змястоўны. Больш за тое, яны як бы дапаўняюць адзін аднаго, у выніку вымалёўваецца цэласная карціна гэтага адметнага палескага кутка.

Аднак, калі мець на ўвазе краязнаўчыя росшукі А. Карлюкевіча, то я ўсё ж вылучыў бы з іх нарыс «З палескай вёскі Бездзеж». Па той прычыне, што менавіта гэтая публікацыя дэталёва прасочвае жыццёвы і творчых шлях рускага празаіка, нашага земляка Дзмітрыя Стонава, пра якога ён мімаходзь згадаў ужо ў нарысе «Драгічыншчына — куток салаўіны». Менавіта А. Карлюкевіч першым назваў дакладнае месца нараджэння Дз. Стонава. Меркавалася, што Дз. Стонаў родам з горада Кобрына, на самай справе Дзмітрый Стонаў (сапраўднае прозвішча — Уладаўскі) паходзіў з вёскі Бездзеж Кобрынскага павета, а цяпер Бездзеж знаходзіцца ў Драгічынскім раёне.

Творчасць Дз. Стонава вартая таго, каб яе ведаць. Красамоўны такі факт, пра што нагадвае аўтар «Радзімазнаўства»: «Ужо з вышыні сённяшняга часу адзін з літаратурных крытыкаў параўноўваў «Сям'ю Раскіных» з раманам Міхаіла Булгакава «Белая гвардыя». «Сям'я Раскіных» — бадай, галоўны твор нашага земляка. Якое месца ў гісторыі рускай літаратуры займае «Белая гвардыя» М. Булгакава, думаецца, чытачу дасведчанаму няма неабходнасці нагадваць. І раптам паралель: Дз. Стонаў — М. Булгакаў. Такія супастаўленні выпадкова не з'яўляюцца. Гэта пацвярджэнне таго, што Дз. Стонаў сапраўды быў пісьменнікам яркага таленту. Сам жа А. Карлюкевіч, у прыватнасці, дае высокую ацэнку ягоным «лагерным» апавяданням.

Гэтыя творы Дз. Стонавым былі напісаны невыпадкова. У 1949 годзе ён быў арыштаваны. Ад Дз. Стонава патрабавалі, каб ён данёс на такіх знакамітых пісьменнікаў, як Юрый Алеша, Васілій Гросман, Ілья Эрэнбург. На такі крок, каб абылгаць ні ў чым не вінаватых літаратараў, якіх ён добра ведаў, наш зямляк не пайшоў. Гэтая нязгода яму каштавала дорага: Дз. Стонава пазбавілі волі на 10 гадоў. Наколькі ўсё было сур'ёзна, сведчыць тое, што сам міністр дзяржбяспекі Абакумаў трымаў гэтую справу пад асабістым кантролем і рабіў па ёй заключэнне. Разам з Аляксандрам Фадзеевым. Што ж, і кіраўнік саюзнай пісьменніцкай арганізацыі, хоць і дапамог многім літаратарам, часам быў бяссільны.

Выйшаў на свабоду Дз. Стонаў толькі пасля смерці Сталіна. Тады і расказаў у сваіх творах аб перажытым. «Тыя апавяданні, — сведчыць аўтар нарыса «З палескай вёскі Бездзеж», — (дарэчы, надрукаваць іх удалося толькі праз шмат гадоў пасля смерці літаратара — у гады перабудовы) — «Пасля смерці», «Васіль Васільевіч», «Суседка», «Правільны чалавек», «На волі» — як на мой

прыватны погляд, ніколькі не саступаюць прозе Варлама Шаламава і Аляксандра Салжаніцына».

Кніга «Радзімазнаўства» ўдала аформлена. Канечне, пры жаданні можна было б знайсці мастака, які б праілюстраваў яе. Ды выдавецтва пайшло іншым шляхам і, думаецца, у дадзеным выпадку найбольш аптымальным. Тэкст аздабляюць шматлікія паштоўкі, выпушчаныя ў пачатку мінулага стагоддзя, а то і бліжэй да сярэдзіны яго. Узяты яны з багатай калекцыі лаўрэата прэміі «За духоўнае адраджэнне», вядомага беларускага філакартыста Уладзіміра Ліхадзедава.

Між іншым, ён не толькі калекцыяніруе старыя паштоўкі. Да ўсяго і заўзяты «кнігалюб, які не прапусціць ніводную новую і старую кнігу па гісторыі Айчыны. А яшчэ мае пэўны досвед у мінуўшчыне...» Філакартычная калекцыя У. Ліхадзедава складаецца з ажно больш як 15 тысяч паштовак і фотаздымкаў, на якіх адлюстраваны выявы гарадоў, мястэчак, вёсак Беларусі, а таксама краявіды, сюжэтна звязаныя з іхнімі ваколіцамі. Пры тым каля шасцісот гэтых сведкаў мінуўшчыны маюць дачыненне да Полацка і Полаччыны. Дарэчы, полацкая тэма ў зборы У. Ліхадзедава невыпадкова займае такое важнае месца: калекцыянер нарадзіўся ў гэтым старажытным беларускім горадзе.

Пра У. Ліхадзедава, апантанага беларускасцю, захопленага мінуўшчынай і, безумоўна, той справай, якая па сутнасці стала справай ягонага жыцця, можна даведацца з нарыса «Руплівы збіральнік памятак зямлі беларускай». Гэта аповед пра аднаго з тых, хто шмат робіць дзеля зберажэння нацыянальнай памяці. Праз тыя ж даўнія паштоўкі, праз адлюстраванае на іх. Заслугоўвае ўвагі такое прызнанне У. Ліхадзедава: «Я, магчыма, губляюся ў тым, як, дзе павінна быць маё месца па назве — сярод краязнаўцаў альбо недыпламаваных гісторыкаў (У. Ліхадзедаў скончыў інстытут фізічнай культуры. — **Г. Л.**) ці толькі ў асяродку калекцыянераў. Але ж у прынцыпе мяне не цікавіць гэткае вызначэнне, няма ў тым неабходнасці. Будучы заняты як быццам справай сваёй прыватнай калекцыі, я выходжу на дастаткова шырокія прасторы. А яны — і з краязнаўствам звязаны, і да гісторыі маюць дачыненне. Калекцыяніраванне на сур'ёзным узроўні патрабуе валодання апаратам гісторыка-краязнаўчых методык, пастаянна штурхае да самаадукацыі, разваг над спрэчнымі гістарычнымі «формуламі».

Аб тым, што У. Ліхадзедаў, кажучы ягонымі словамі, «выходзіць на дастаткова шырокія прасторы», сведчаць яго развагі наконт таго, што тычыцца пэўных момантаў гісторыі Полацкай зямлі і, у прыватнасці, самога Полацка. Прынамсі, года ўзнікнення гэтага аднаго з самых старажытных беларускіх гарадоў: «Я пераканаНы, што Полацк з'яўляецца равеснікам Кіева». Пачуўшы падобнае сцвярджэнне з вуснаў свайго субяседніка, А. Карлюкевіч зазначае: «Прызнацца, такое меркаванне крыху шакіруе, з разраду сенсацый, якія патрабуюць падмацавання, на мой погляд». Адно відавочна: такія смелыя выказванні, нават калі яны не заўсёды дастаткова аргументаваныя, заслугоўваюць увагі, бо самі па сабе падштурхоўваюць гістарычную думку, выводзяць яе на шлях даследаванняў, далейшых росшукаў. Бо тое, што падаецца сёння нечаканым, цягам часу можа стаць ісцінай, сумнявацца ў якой жадаючых ужо не знойдзецца, гэта будзе ўспрымацца фактам.

Па сутнасці, арганічна ўпісваецца ў тое ж «Радзімазнаўства» і кніга А. Карлюкевіча «Мы — вместе!», што выйшла шмат гадоў назад. У ёй расказваецца пра ўзаемасувязі паміж беларускім і рускім народамі, пра тое, што дружба, сцэментаваная вякамі, па-ранейшаму дае дружныя ўсходы духоўнасці. Пра гэта сведчыць і гутарка А. Карлюкевіча з вядомым паэтам-песеннікам Барысам Дубровіным «Мир спасет красоту…», якой кніга і адкрываецца. Гутарка гэтая адначасова з'яўляецца і свайго роду запеўкай да першага раздзела «Провозглашение красоты». Ёсць у кнізе яшчэ і другі — «Душа Отечества». У цэлым жа кніга ўспрымаецца свайго роду духоўным, маральным партрэтам часу. Важна тое, што

час прапушчаны не толькі праз сэрца герояў публікацый, а і праз душу самога аўтара, здатнага быць не толькі захапляльным апавядальнікам і прывабным субяседнікам, але і, калі ў гэтым з'яўляецца неабходнасць, і дапытлівым даследчыкам. Пры гэтым А. Карлюкевіч часта выступае першаадкрывальнікам, тым самым спрыяючы змяншэнню белых плям на карце ўзаемаадносін братніх народаў. І не толькі беларускага і рускага.

Узяць хоць бы нарыс «Витебский след в Ашгабате». Вядомы цюрколаг Аляксандр Пацалуеўскі, перш чым прыехаць у тагачасную сталіцу Закаспійскага краю Палтарацк, вучыўся ў маскоўскім Лазараўскім інстытуце ўсходніх моў. А па нацыянальнасці ён — беларус, нарадзіўся ў Віцебскай губерні.

На жаль, прозвішча Пацалуеўскага не знойдзеш у «Беларускай Энцыклапедыі». Дый ведаюць у нас пра яго нямногія. А гэта недаравальна, бо Аляксандр Пятровіч, нягледзячы на тое, што нават не дажыў да свайго 55-годдзя (загінуў у час землятрусу 1948 года), паспеў выдаць амаль 20 кніг, што зместам сваім тычыліся розных аспектаў развіцця туркменскай мовы. А колькі з напісанага ім засталося ў асабістым архіве, што таксама загінуў. А. Карлюкевічу ўдалося выйсці на след сына вучонага Яўгенія Пацалуеўскага, які жыве ў Маскве, яго былой студэнткі, цяпер доктара філалалагічных навук Яўгеніі Яршовай з Ашгабата. Гэта і дазволіла яму стварыць партрэт аднаго з нашых выдатных землякоў, які ў сілу розных абставін выпаў з «памяці Беларусі». Між іншым, аўтар кнігі «Мы — вместе!» і самакрытычны, калі заўважае: «Писал в Ашгабат, где и сам жил, работал во 2-й половине 1980-х… Писал знакомым литераторам, ученым, а в душе корил себя, что тогда «пропустил» Поцелуевского … Искал ашхабадские следы других земляков… Но из всех белорусов фигура Поцелуевского для Туркмении масштаба самого великого».

Субяседнікамі А. Карлюкевіча ў кнізе «Мы — вместе!» сталі шмат якія нашы выдатныя сучаснікі, як, напрыклад, патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II («Сохранить духовный облик...» Чынгіз Айтматаў («Я являюсь космополитом…»), Мікалай Чаргінец («Приоритеты добрососедства»), Леў Тамакоў («Художник рисует иероглифами»), Юрый Рытхэу (Время таяния душ»).

## Можна знайсці і… страчанае

Алесь Карлюкевіч мае непасрэдае дачыненне і да аднаго з самых важных выдавецкіх праектаў у нашай краіне — «У пошуках страчанага», ля вытокаў якога стаяў галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» Павел Якубовіч. Гэты праект не проста паспяхова ажыццяўляецца, а і паступова раскрываецца сваімі ўсё новымі і новымі гранямі. Таму следам за публікацыямі ў самой «СБ» (за іх Павел Якубовіч, Уладзімір Ліхадзедаў і Алесь Карлюкевіч сталі лаўрэатамі прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне»), выйшла аднайменная кніга, а затым пачалі з'яўляцца спецыяльныя тэматычныя старонкі «Знічкі Айчыны» ў газеце «Голас Радзімы», заснавальнікам якой з'яўляецца рэдакцыя газеты «СБ. Беларусь сегодня». А потым выйшла і кніга «Знічкі Айчыны», цяпер ужо ў серыі «У пошуках страчанага».

Аўтары матэрыялаў, прадстаўленых у ёй, — тыя ж два слынныя аўтары, да самазабыцця ўлюбёныя ў нацыянальную даўніну — калекцыянер У. Ліхадзедаў і пісьменнік А. Карлюкевіч. Гэты творчы тэндэм, які добра зарэкамендаваў сябе ў перыёдыцы і ў кнізе «У пошуках страчанага», і гэтым разам дае мажлівасць чытачу, неабыякаваму да айчыннай гісторыі і прагавітаму ў жаданні спасцігнуць яе як мага лепш, зноў далучыцца да малавядомых старонак мінуўшчыны.

Як і кніга «У пошуках страчанага», новая — «Знічкі Айчыны» ўвабрала ў сябе багаты ілюстрацыйны матэрыялх (змешчана каля 250 рэдкіх паштовак і здымкаў з калекцыі У. Ліхадзедава, што адносяцца да канца XIX — пачатку

XX ст., а таксама перыяду нямецкай акупацыі заходнебеларускіх тэрыторый у Першую сусветную вайну і 1920 — 1939 гг., калі Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе буржуазнай Польшчы), а таксама міні-эсэ, нарысы, а то і проста замалёўкі А. Карлюкевіча, якія настолькі багатыя на фактычны матэрыял, што некаторыя з іх маюць энцыклапедычны характар, а звесткі пра асобных выдатных людзей, прыведзеныя ў іх, нават могуць прэтэндаваць на ўключэнне ў новыя выданні даведнікаў энцыклапедычнага характару.

І не трэба здзіўляцца такому сумяшчэнню, здавалася б, несумяшчальнага. А. Карлюкевіч не проста запрашае зрабіць падарожжа ў больш за 30 куткоў Бацькаўшчыны. Ён расказвае не толькі пра сённяшнія абласныя цэнтры Рэспублікі Беларусь, а і пра шмат якія іншыя гарады. Не можа не прываблiваць і тое, наколькі ўмела падае пісьменнік той ці іншы матэрыял. Звычайна ў пачатку яго ідзе свайго роду запеўка, што становіцца як бы запрашэннем наведаць менавіта гэты горад.

Як, для прыкладу, падчас знаёмства са Стоўбцамі і Стаўбцоўскім раёнам: «Штогод завітваючы на стаўбцоўскія «Каласавіны», не перастаю здзіўляцца руплівасці і энергічнасці мясцовых культасветработнікаў. На чале са сваім «міністрам» Анатолем Васільевічам Грэкавым (яго яшчэ жартам называюць «Луначарскім») клубныя работнікі, бібліятэкары, выкладчыкі мастацкіх школ вядуць на Стаўбцоўшчыне сваю «генеральную лінію», дзе на першым месцы — Яе Вялікасць культура. Дапамагае гэтай рабоце і тое, што на Стаўбцоўшчыне раскідана некалькі філіялаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа». А пасля ўжо згадваюцца пісьменнікі, якія нарадзіліся на гэтай шчодрай на таленты зямлі — пачынаючы ад класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа і завяршаючы цікавым паэтам, які, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця, Іванам Рубіным. Няма ўжо ў жывых і А. Грэкава, год з нечым прайшло, як не стала яго. Таму атрымліваецца, што напісанае А. Карлюкевічам, гэта і памяць пра гэтага выдатнага чалавека. Ілюстрацыйныя ж матэрыялы, прапанаваныя У. Ліхадзедавым, дазваляюць перанесціся ў 1930-я гады, пабачыць, як выглядалі Стоўбцы на той час.

Нездарма Адам Мальдзіс свой уступ да кнігі назваў «Знічкі радзімазнаўства». Тое, што робяць аўтары выдавецкага праекта «У пошуках страчанага», спрыяе таму, каб на нацыянальным небасхіле ўсё меней заставалася зорак і сузор'яў, святло якіх загубілася ў стагоддзях ці пачынае губляцца. Вяртанне іх — гэта і вяртанне гістарычнай памяці, гэта яшчэ больш глыбокае ўсведамленне, наколькі мы багатыя на выдатных людзей, на яркія падзеі, як шмат у нас усяго таго, чым проста недаравальна, грэшна не ганарыцца.

## Пінгвін Грэнландкін і калабок Шубуршун

Значныя набыткі А. Карлюкевіча і ў галіне дзіцячай літаратуры. Само па сабе ўжо важна тое, што ён, пішучы для хлопчыкаў і дзяўчынак, ідзе менавіта сваім шляхам. У яго казках, а гэта ягоны любімы жанр, удала спалучаюцца два сюжэтна-тэматычныя пласты — краязнаўчы і казачны. Тым самым і з'явіліся творы, дзякуючы якім юныя чытачы праз нечаканыя прыгоды, неверагодныя сітуацыі атрымліваюць і неабходныя веды па геаграфіі, гісторыі, фальклоры, а тым самым па сутнасці адкрываюць для сябе Радзіму. Гэта добра відаць, прынамсі, па кнізе «Зорны шлях белых гарлачыкаў». Між іншым, у першай ужо казцы «Вавёрка піша сачыненне» жыхары лесу вывучаюць прадмет, які называецца радзімазнаўства, а галоўная гераіня атрымала заданне напісаць сачыненне на тэму «Мой родны кут».

Усяго ж у кнізе сем казак, што дазваляюць зрабіць свайго роду займальнае падарожжа туды, дзе магчыма ўсё. Нават тое, што, як быццам, немагчыма.

У гэтым свеце незвычайнага казачныя гісторыі самым цесным чынам звязаны з рэчаіснасцю. Дый як жа іначай, калі гэта не проста казкі, а казкі новага XXI стагоддзя, а таму і сучасныя. Як, скажам, «Памылка першакласніцы Святланкі».

Галоўная гераіня гэтага твора, як і іншыя першакласнікі, на заканчэнне навучальнага года атрымала заданне напісаць сачыненне «Што я ведаю пра Туркменістан?» Па праўдзе сказаць, пра гэтую краіну яна ведала мала. Гэтым і пакарыстаўся Святланчын брат Сяргейка, вырашыўшы з яе пажартаваць. Знайшоў у інтэрнэце такія звесткі, што за галаву схопішся. Святланка, не адчуўшы падвоху, усё прыняла за чыстую манету. Таму і пачала пісаць, што ў Туркменістане і белыя мядзведзі водзяцца, і зубры. Дый і іншыя насельнікі, якіх у гэтай цёплай краіне проста не можа быць. Вось тут і адбылося незвычайнае: «Як толькі дзяўчынка дапісала слова «пінгвіны, на сшытак капнула з ручкі клякса». Гэтая клякса неўзабаве ператварылася ў пінгвіна, які назваўся Грэнландкіным. Вось ён і расказаў Святланцы, што брат яе падмануў. А сапраўдныя звесткі пра Туркменістан дзяўчынка атрымала, калі, ператварыўшыся ў малюсенькую Дзюймовачку-кнопачку, разам са сваім новым знаёмым ноччу зрабіла падарожжа ў галоўную бібліятэку краіны, дзе Бібліяфіл Бібліяфілыч прынёс даведнікі, энцыклапедыі, якія і дапамаглі ёй напісаць сачыненне.

Не толькі займальныя, а і пазнавальныя і іншыя казкі А. Карлюкевіча. У большасці з іх пісьменнік вучыць юных чытачоў любві да прыроды, да яе раслiннага і жывёльнага свету, напамінаючы, што на зямлі ўсё ўзаемазвязана і кожны від расліны ці жывёлы неабходны, іначай у прыродзе парушыцца раўнавага. Нават калі знікнуць матылькі. Таму адзін з іх Мар'ян Прытычанскі («Пісьмо сям'і панадцітавак» ) і кіруецца ў Бярэзінскі запаведнік з пасланнем ад сваіх суродзічаў, каб у Энтамолага знайсці параду, як уратавацца ад кажаноў. Яшчэ ў адной казцы «Як Сяргейка з Жыжалем ядловец ратавалі» хлапук турбуецца, як захаваць гэты рэдкі кустарнік.

Гэтаксама А. Карлюкевіч вучыць маленькіх дабрыні, спагадзе, чуласці. Сведчанне таму — казка «Як зайка Бяляк мядзведзя Таптыгіна выратаваў». Некалі трапіў зайка ў кіпцюры злой лісы. Не жыць бы яму на белым свеце, калі б гэта не ўбачыў мядзведзь, які і заступіўся за яго. Цяпер жа бяда навісла над самім Таптыгіным. Жорсткі пан Ошпарт «убіў сабе ў галаву, што хваробы свае можа вылечыць, калі з'есць сэрца мядзведзя». Пачуўшы такое, Бяляк, не задумваючыся, спяшаецца ўратаваць таго, хто калісь яму самому прыйшоў на выручку.

Казкі А. Карлюкевіча — той дзівосны свет, у якім утульна адчуваюць сябе нават дарослыя. Што ж у такім разе казаць пра дзяцей. Кніжка «Зорны шлях белых гарлачыкаў», назву якой дала яшчэ адна казка, — для дзятвы добры падарунак. Гэта асабліва відавочна цяпер, калі, на жаль, з'яўляецца нямала кніжнай прадукцыі, на старонках якой жорсткасць, насілле, а ў А. Карлюкевіча нязменна прысутнічае добры свет добрай казкі. Ім напоўнена і новая кніга А. Карлюкевіча «Прыгоды Шубуршуна», пры знаёмстве з якой адразу кідаецца ў вочы, наколькі дзіўнае імя ў героя, які нязменна прысутнічае ва ўсіх казках.

Шубуршун — удалая мастакоўская знаходка А. Карлюкевіча. Не сакрэт, што аўтарам, якія пішуць для дзяцей, асаблівы поспех спадарожнічае тады, калі яны здатныя не толькі займальна расказаць пра таго ці іншага персанажа, але да ўсяго і робяць героем твора (ці твораў) такога з іх, якога больш нідзе не напаткаеш. Дастаткова таму прыкладаў і ў беларускай дзіцячай літаратуры. Прыгадайма хоць бы «Незвычайныя прыгоды хлопчыка Бульбінкі» Леаніда Прокшы. Ці возьмем «Прыгоды Бульбобаў» Паўла Місько, у якіх расказваецца пра непаседлівых шчанят Бульку і Боба, якія да таго неразлучныя што і ў розныя неверагодныя гісторыі трапляюць. Ці ўжо зусім сучасныя «Прыгоды Віруса Шкодзі» Анатоля Бутэвіча. Спіс гэты можна доўжыць. Годнае папаўненне і «Прыгоды Шубуршуна» А. Карлюкевіча.

Праўда, персанаж А. Карлюкевіча, у адрозненне ад таго ж Віруса Шкодзі А. Бутэвіча, можна сказаць, традыцыйныя. Хоць, калі разабрацца, дык і хлопчык Бульбінка Л. Прокшы — традыцыйны яшчэ ў большай ступені. Ва ўсякім разе з бульбай дзеці штодня сустракаюцца. Але хлопчык Бульбінка — гэта ўжо гучыць! Так і ў А. Карлюкевіча. Хто з хлопчыкаў і дзяўчынак не чуў пра калабка?! Ён жа герой шмат якіх народных казак. Але то калабок — традыцыйны, а ў А. Карлюкевіча — самы што ні ёсць сучасны. Так, Шубуршун — ніхто іншы, а менавіта калабок. Толькі не з тых калабкоў, якія ад дзеда і бабы ўцякалі, лісы не баяліся. Праўда, ён, безумоўна, сваяком усім ранейшым калабкам даводзіцца. А вось жыццё ў яго такое, што гэтаму Шубуршуну могуць пазайздросціць калабкі ўсіх часоў. Дастаткова пазнаёміцца з ягонымі прыгодамі, каб упэўніцца ў тым, што гэтая малеча ўсё можа. Дакладней, нават немагчымае магчыма. Ды ў гэтым нічога дзіўнага. Тым больш, калі гэта не проста некалькі казак, аб'яднаных адным арыгінальным персанажам, а аповесць-казка «Прыгоды Шубуршуна».

Усё пачалося пасля таго, як ён пасябраваў з дзяўчынкай-пяцікласніцай. Шубуршун узяўся складаць самаробны атлас, захапіўся маляваннем. А яшчэ «малеча перажываў з-за таго, што ўслых і сказаць баяўся. Малюючы са слоў Веранікі і яе настаўнікаў Афрыку, Азію, Каракумы, Сахару, Ціхі акіян і шмат яшчэ што, ён марыў, што некалі па сваіх малюнках здзейсніць сапраўднае падарожжа».

Ды пакуль кіравацца ў краі дальнія, да земляў заморскіх, магчыма, спачатку трэба лепей спазнаць старонку сваю родную. Прынамсі, Шубуршун так і зрабіў, а як гэта адбывалася, дзеці даведаюцца, пазнаёміўшыся з казкамі «Шубуршын становіцца веласіпедыстам» і «Як Шубуршун па Свіслачы падарожнічаў». Удакладняць змест другой казкі няма неабходнасці. У першай жа калабок, а разам з ім, зразумела, хлопчыкі і дзяўчынкі бліжэй пазнаёмяцца з запаведнымі мясцінамі сталіцы нашай краіны, упэўняцца, наколькі прыгожы і непаўторны горад Мінск.

Толькі аднаго веласіпеда для падарожжаў мала. Разумеючы гэта, дапытлівы Шубуршун пачаў думаць, як жа знайсці выйсце. А той, хто думае, абавязкова да нейкай высновы прыходзіць. Калабок не стаў выключэннем. На дапамогу яму прыйшоў павучок («Шубуршун збіраецца стаць парашутыстам»), а гэта дазволіла нястомнаму падарожніку з вышыні палёту ўбачыць сваю малую радзіму, а яна ў калабка на Пухавіччыне, там, дзе працякае рачулка Балацянка.

Гэта ўсё, несумненна, цікава, пазнавальна, але куды цікавей і пазнавальней тое, што адбываецца ў краінах экзатычных, куды таксама трапляе Шубуршун. Як? Не будзем забываць, што дзеянне адбываецца ў казках, а ў казках нічога немагчымага няма, асабліва, калі прыняць пад увагу тое, што ў калабка гэта адбываецца праз сон, калі ён гойдаецца ў лодцы на хвалях Свіслачы. Так і знаёміцца з жыццём народаў, якія насяляюць Грэцыю, Егіпет, Індыю, пасля якой Шубуршун трапіў у Канаду, дзе нават сустрэўся з гіганцкім, даўжынёй шэсць метраў, асятром. Пражыў гэты асяцёр на свеце нямнога-нямала, а 150 гадоў. Шмат на сваім веку пабачыў, але такога адважнага падарожніка, як калабок Шубуршун, напаткаў упершыню, таму вельмі здзівіўся.

Неаднойчы даводзілася здзіўляцца і самому Шубуршуну. Як, вядома, шмат чаму здзівяцца і юныя чытачы, пазнаёміўшыся з гэтай кніжкай А. Карлюкевіча. У прыватнасці, нямала радасці прынясе ім тое, што герой, якога яны паспелі палюбіць, размаўляе з самім дэльфінам. Дый да сустрэчы Шубуршуна з дзядулем Фенолагам яны не застануцца абыякавымі. Гэта ж таксама магчымасць пашырыць свой кругагляд. А яшчэ да краязнаўства далучыцца, каб, пазней ужо, усур'ёз зацікавіцца ім.

* * *

З агледзін сённяшняга дня сімвалічнае значэнне набывае назва першай кнігі А. Карлюкевіча «Вяртанне да… Беларусі». Малады на той час журналіст, краязнаўца і даследчык, і сам, па сутнасці, толькі падступаўся да асэнсавання і вывучэння таго агромністага мацерыка, назва якому Беларусь. Канечне, маецца на ўвазе не тэрыторыя нашай краіны, хоць яна сама па сабе не такая ўжо малая. Гаворка ідзе пра мацярык іншага кшталту, але разам з тым не менш значны, назваў якому можна падшукаць шмат: духоўны, краязнаўчы, гістарычны. Гэтае вяртанне для А. Карлюкевіча і стала вяртаннем да самой Беларусі. Вяртаннем да яе і ў той жа час адкрыццём яе. Найперш для самога сябе, але разам з тым і для ўсіх тых, каму менавіта такога адкрыцця неставала. Першая кніга А. Карлюкевіча і падштурхнула ягоных чытачоў быць уважлівымі і больш дапытлівымі ў дачыненні да ўсяго таго, што, калі гаварыць адным словам, з'яўляецца РАДЗІМАЗНАЎСТВАМ, а тым самым стала пачаткам сапраўднага спасціжэння Беларусі.

Гэтае спасціжэнне працягваецца ўжо дваццаць гадоў. Малавядомыя, а то і зусім невядомыя старонкі нацыянальнай гісторыі адкрывае сам А. Карлюкевіч, пры гэтым уносячы сваё бачанне, разуменне і тых з'яў, працэсаў, а таксама гістарычных асоб, пра якіх і да яго пісалася нямала, абавязкова дадаючы штосьці сваё, але абавязкова нешта новае, таму і значнае. А ўжо мы, чытачы, гэтаксама, як і ён, улюбёныя ў нацыянальную даўніну, напоўненыя прагавітым жаданнем лепш і глыбей спасцігаць яе, не без ягонай дапамогі і самі, таксама набліжаемся да Беларусі. Гэта ў аднолькавай ступені карыснае для абодвух бакоў, бо наўрад ці можа быць нешта больш значнае, чым спасціжэнне сваёй краіны, свайго народа. Сваёй Беларусі.

**Аляксандр КАВАЛЕНЯ,**
**акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук;**

**Васіль ЛЯЎКОВІЧ,**
**намеснік акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, кандыдат філасофскіх навук**

# ГУМАНІТАРНАЯ НАВУКА НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ
## (да 85-годдзя Нацыянальнай акадэміі навук)

Цяжка, нават немагчыма ўявіць этнатворчы працэс і развіццё асветніцтва на ўсходнеславянскіх землях без вялікай плеяды айчынных гуманістаў-асветнікаў. Менавіта дзякуючы іх дзейнасці назапашваліся і пашыраліся веды, развівалася асвета, што арганічна ўзбагачала духоўнае і матэрыяльнае жыццё народа, аказвала станоўчы ўплыў на кансалідацыю грамадства, садзейнічала выспяванню ідэі дзяржаўнасці і сацыяльнаму руху грамадства. Ва ўсе часы важнейшай умовай устойлівага развіцця грамадства з’яўлялася апора на гуманітарныя веды. Далучэнне чалавека да нацыянальнага вопыту і ўсяго таго, што назапасіў сусветны прагрэс, адкрывае магчымасці для забеспячэння стабільнасці сучаснага грамадства, каб упэўнена рухацца наперад. Без навукова-гуманітарнага позірку на мінулы вопыт, на стан дасягненняў і крытычнага асэнсавання праблем, якія маюцца ў жыцці сучаснага грамадства, немагчыма паспяхова будаваць дзяржаўную незалежнасць. Вядома, зло нясуць не толькі атамныя бомбы, прамысловае забруджванне і навукова-тэхнічны прагрэс, а і эгаізм, невуцтва, бяздумная сквапнасць і іншыя ўнутраныя грахі і заганы чалавека, калі вузкія інтарэсы ставяцца вышэй за інтарэсы развіцця грамадства. Небяспека вынікае ад задавальнення прымітыўных жаданняў бяздумнага спажывання, якія засланяюць здаровы сэнс абмежавання і цвярозы голас розуму, каб прадухіліць чалавецтва ад катастрофы.

Пачатак XXI стагоддзя можна ахарактарызаваць як якасна новы этап у развіцці навукі, тэхналогій і іх узаемадзеяння з грамадствам. Адбываюцца радыкальныя змяненні не толькі тэмпаў навукова-тэхнічнага прагрэсу, але і яго накіраванасць, характар уздзеяння на чалавека і грамадства. На шчасце, сёння мы больш востра разумеем тое, чаго яшчэ не маглі асэнсоўваць лепшая прадстаўнікі навукі нават у мінулым стагоддзі: гістарычную зменлівасць чалавека, яго духоўную сутнасць і непарыўную сувязь з прыродай, грамадствам і культурай. Усвядомлена адказваць на выклікі часу павінны дапамагчы навуковыя рэкамендацыі сацыяльна-гуманітарных навук, каб з найменшымі стратамі пераадольваць негатыўныя наступствы.

Развіццё беларускай гуманітарнай навукі непарыўна звязана з дзейнасцю Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, адкрытай 1 студзеня 1929 г., у дзясятую гадавіну ўтварэння БССР, на базе навукова-даследчай і культурна-грамадскай установы рэспублікі — Інстытута беларускай культуры.

Нараджэнне, станаўленне і развіццё НАН Беларусі супалі з вялікімі, сапраўды вызначальнымі падзеямі айчыннай гісторыі. За 85-гадовую гісторыю Нацыянальная акадэмія ішла разам з усім беларускім грамадствам — і ў мірны час, і ў час цяжкіх выпрабаванняў. Разам з краінай, з яе народам яна вытрымала выпрабаванне часам, стала галоўным даследчым цэнтрам, які ўплывае на эканамічнае, тэхналагічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё краіны, аб’ядноўвае

высокакваліфікаваных вучоных розных спецыяльнасцей і дзясяткі навуковых арганізацый. Сфарміраваліся аўтарытэтныя навуковыя школы, выраслі сусветна вядомыя вучоныя.

З цягам часу пад уплывам змен у структуры народнай гаспадаркі, патрабаванняў да развіцця навукі мяняліся напрамкі і характар дзейнасці Акадэміі навук, пашыралася кола праблем даследаванняў, умацоўваўся яе кадравы патэнцыял. Буйнейшыя прадстаўнікі беларускай навукі былі абраны акадэмікамі і членамі-карэспандэнтамі Акадэміі навук.

Гістарычны вопыт сведчыць, што традыцыі, выпрацаваныя ў працэсе развіцця грамадства, садзейнічаюць будаўніцтву новага. Яшчэ нікому не ўдалося аспрэчыць ісціну, што паспяховае развіццё краіны немагчыма без апоры на нацыянальныя традыцыі, гісторыю і духоўна-культурны вопыт продкаў. Гісторыка-культурная спадчына з’яўляецца самым каштоўным нацыянальным і агульначалавечым набыткам і адыгрывае рашаючую ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці і духоўным жыцці кожнага. Менавіта таму яе неабходна вывучаць, захоўваць і перадаваць з пакалення ў пакаленне.

Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў НАН арганізуе і каардынуе комплекс даследаванняў па прыярытэтных навуковых напрамках у галіне сацыяльна-гуманітарных навук. У склад яго ўваходзяць пяць дзяржаўных навуковых устаноў: Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, які складаецца з двух філіялаў: Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы і Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы, Інстытут гісторыі, Інстытут філасофіі, Інстытут эканомікі, Інстытут сацыялогіі. Важнымі структурнымі адзінкамі з’яўляюцца Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа і Выдавецкі дом «Беларуская навука». У навуковых установах працуюць 850 чалавек, у тым ліку 533 даследчыкі, 64 дактары і 206 кандыдатаў навук. Гонарам аддзялення з’яўляецца творчая дзейнасць 8 акадэмікаў і 16 членаў-карэспандэнтаў.

Даследаванні ажыццяўляюцца ў межах дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2011—2015 гг. «Гісторыя, культура, грамадства, дзяржава», якая каардынуецца навуковым саветам.

Лепшыя творчыя дасягненні многіх прадстаўнікоў гуманітарнай навукі навечна ўпісаны ў скарбонку айчыннай і сусветнай культуры, з’яўляюцца яркім і пераканаўчым сведчаннем бязмежнага таленту беларускага народа, яго невычэрпнай духоўнай сілы. Працы Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Паўла Горына, Зміцера Жылуновіча, Сцяпана Некрашэвіча, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Цімафея Гарбунова, Казіміра Буслава, Міхася Лынькова, Мікалая Нікольскага, Уладзіміра Перцава, Петруся Броўкі, Заіра Азгура, Пятра Глебкі, Максіма Танка, Івана Краўчанкі, Васіля Барысенкі, Віктара Каваленкі, Алеся Адамовіча, Мікалая Бірылы, Міхася Лазарука, Іларыёна Ігнаценкі, Івана Шамякіна, Аляксандра Падлужнага, Альфрэда Майхровіча, Івана Навуменкі, Міхаіла Савіцкага аказалі велізарны ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі, сфарміравалі нацыянальнае і духоўна-культурнае аблічча XX стагоддзя, шырокавядомы ў нашай краіне і за мяжой.

Творчая праца гуманітарыяў высока ўшанавана дзяржавай. Лаўрэатамі Ленінскай прэміі сталі акадэмікі П. Броўка і М. Танк, 13 членам аддзялення (К. Атрахович (К. Крапіва), М. Бірыла, Н. Вайтовіч, Ю. Мацкевіч, А. Арашонкава і інш.) прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР, больш за 50 чалавек лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі БССР і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі, акадэміку М. Савіцкаму было прысвоена званне «Герой Беларусі».

Вучоныя аддзялення і сёння працягваюць памнажаць лепшыя традыцыі папярэднікаў. Штогод рыхтуецца і выдаецца каля 150 кніжак, многія з іх атрымалі міжнароднае прызнанне. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 студзеня 2009 г. № 6 аўтарскі калектыў супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаў-

ства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы ўдастоены прэміі «За духоўнае адраджэнне» за фундаментальную шматтомную працу «Беларусы».

Шэраг навуковых, навукова-папулярных і вучэбна-метадычных выданняў, падрыхтаваных навукоўцамі аддзялення і выпушчаных выдавецтвам «Беларуская навука», атрымалі прызнанне шырокай айчыннай і замежнай грамадскасці, не маюць аналагаў. Гэта калектыўная манаграфія «Беларусь: Народ. Государство. Время», якая стала пераможцам у намінацыі «Лепшае масава-палітычнае выданне» нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2010», а таксама атрымала Гран-пры Міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2010» у Маскве; калектыўная праца «Архітэктура Беларусі» ў 4-х тамах, адзначаная дыпломам пераможцы ў намінацыі «Культура, навука, адукацыя» Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц СНД (2011 г.); выданне «Этнокультурные процессы Восточного Полесья в прошлом и настоящем», якое атрымала Гран-пры Міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2011» у Маскве; унікальны альбом «Археологическое наследие Беларуси — Archaeological Heritage of Belarus», які атрымаў Гран-пры Міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2012» у Маскве; узнагароджаная дыпломам І ступені Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2012» у намінацыі «Арт-Кніга» першая кніга з цыкла «Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі. Каталог выданняў з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (XV—XVI стст.)»; калектыўная манаграфія «История Белорусской железной дороги. Из века XIX в век XXI», якая атрымала Гран-пры Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2013».

У шматлікіх рэгіёнах краіны намаганнямі навукоўцаў-гуманітарыяў НАН Беларусі сумесна з вучэбнымі ўстановамі і мясцовымі органамі ўлады рэгулярна праводзяцца на высокім навукова-арганізацыйным узроўні рэспубліканскія і міжнародныя навуковыя канферэнцыі, семінары і «круглыя сталы», якія атрымалі шырокі грамадскі рэзананс і высокую ацэнку з боку навуковай супольнасці.

Праца акадэмічных вучоных-гуманітарыяў мае важнае практычнае значэнне для фарміравання стабільнага палітычнага, ідэйна ўстойлівага ў духоўным плане сацыяльнага асяроддзя. Навуковыя даследаванні накіраваны на захаванне духоўна-маральных і культурна-гістарычных асноў нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў ва ўмовах глабалізацыі. Увогуле гуманітарная навука — носьбіт, выразнік і рухаючая сіла тытульнай нацыі, эканомікі, культуры, удасканалення ўсяго ладу жыцця беларускага народа.

У апошнія гады дзейнасць акадэмічных калектываў набыла ўстойлівую практычную накіраванасць і характарызуецца высокай дынамічнасцю. Прэзідыум НАН Беларусі, навуковыя арганізацыі, вучоныя і спецыялісты канцэнтруюць свае намаганні на рэалізацыі прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага і інавацыйнага развіцця краіны. Робіцца ўсё магчымае для таго, каб забяспечыць выкананне статутных функцый, патрабаванняў Кіраўніка дзяржавы і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пашырэнні тэматыкі работ у інтарэсах народнай гаспадаркі, культурнай і сацыяльнай сферы краіны, актывізацыі інавацыйнай дзейнасці.

Рэспубліка Беларусь, якая абрала шлях незалежнага развіцця, востра мае патрэбу ў адукаваных, прадпрымальных, духоўна багатых людзях, якія адрозніваюцца мабільнасцю, дынамізмам, канструктыўнасцю, валодаюць абвостраным пачуццём адказнасці за лёс краіны, якія здольны самастойна прымаць адказныя рашэнні. Гэта галоўны імператыў паспяховага інавацыйнага развіцця сучаснага беларускага грамадства, які абавязана вырашаць і сацыяльна-гуманітарная навука.

Гуманітарныя навукі павінны забяспечваць прырашчэнне новых ведаў у галіне гісторыі, філасофіі, культуры, мовы, літаратуры, сацыялогіі і эканомікі, каб паспяхова фарміраваць светапогляд беларускага народа, матывацыю асобы да стваральнай творчай дзейнасці, захоўваць гісторыка-культурную і духоўную спадчыну, удасканальваць ідэалагічную працу і грамадзянска-патрыятычнае

выхаванне падрастаючага пакалення, ажыццяўляць экспертна-аналітычную дзейнасць у мэтах вырашэння важнейшых задач сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага развіцця незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Мадэрнізацыя сацыяльна-эканамічнага механізма, накіраванага на інавацыйнае развіццё Беларусі, будзе паспяховай, калі ў грамадстве зацвердзіцца патрэба не толькі на найноўшыя тэхналагічныя ўклады, якія вызначаюць сутнасць постіндустрыяльнага, інфармацыйнага грамадства, але і на развіццё гуманітарнага рэсурсу — адукацыйнага, ідэалагічнага, маральнага. Менавіта гуманітарныя веды вызначаюць прагрэс грамадскага развіцця, яны не толькі не павінны знаходзіцца «на ўзбочыне» мадэрнізацыйных працэсаў, а, наадварот, з'яўляцца іх ключавым фактарам, іх рухаючай сілай.

Навуковыя даследаванні, якія ажыццяўляюць навукоўцы аддзялення з'яўляюцца арыгінальнымі і выконваюць інстытуцыйную функцыю — захаванне і ўмацаванне асноў беларускай дзяржаўнасці, гарантыю духоўнай бяспекі і цэласнасці краіны. Роля і функцыі гуманітарнай навукі ва ўсебаковым навукова-экспертным забеспячэнні сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі абгрунтоўваецца па наступных напрамках:

1) стварэнне комплексу сучасных сродкаў гуманітарнага навуковага пазнання, якія раскрывалі б прыроду такой шматузроўневай, дынамічнай сацыяльнай рэальнасці, як сучаснае беларускае грамадства;

2) даследаванне характэрных рыс беларускай нацыянальнай культуры не толькі як матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, але і як сістэмы светапоглядных прынцыпаў, культуры мыслення, норм паводзін, якія складаюць ідэалогію беларускага народа;

3) даследаванне і актуалізацыя старонак айчыннай інтэлектуальна-культурнай спадчыны, стварэнне ўмоў для таго, каб памяць пра нашых вялікіх продкаў жыла з пакалення ў пакаленне і выклікала гонар суайчыннікаў шматвяковымі традыцыямі;

4) фарміраванне інавацыйнай культуры мыслення, ініцыятыўнага і творчага падыходу да працы ў кіраўнікоў, спецыялістаў, інжынерна-тэхнічных кадраў, выкладчыкаў, работнікаў, якія задзейнічаны ва ўсіх сферах айчыннай эканомікі;

5) раскрыццё асаблівасцей функцыянавання і прыярытэтаў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь ва ўмовах глабалізацыі, міждзяржаўнага супрацоўніцтва і інтэграцыйных праектаў рознага ўзроўню;

6) кансалідацыя беларускай гуманітарнай супольнасці вакол пошуку выхаду на новыя рубяжы сацыяльна-эканамічнага развіцця, пераадолення крызісу традыцыйных каштоўнасцей і маральных асноў, стварэння свайго роду «духоўнага імунітэту» да разбуральнага ўздзеяння масавай культуры.

Менавіта ў рамках гуманітарных ведаў — філасофіі, сацыялогіі, псіхалогіі, гісторыі і культуры — магчыма весці канструктыўную, лагічна абгрунтаваную, гістарычна выверaную размову аб грамадскай свядомасці, яе актуальных формах і шляхах развіцця, аб патрыятычным выхаванні і сацыяльнай кансалідацыі, аб ролі рэлігіі ў адукацыйна-выхаваўчым працэсе і многіх сумежных праблемах.

Прынцыпова важны той факт, што вынікі даследаванняў вучоных гуманітарыяў — гэта адметны нацыянальны прадукт, які немагчыма набыць як прамысловую тэхналогію або «ноў-хаў» за мяжой. Выкананне сацыяльна-гуманітарных даследаванняў з'яўляецца справай нацыянальна-дзяржаўнай важнасці і патрабуе значнай дзяржаўнай падтрымкі. У апошнія гады навукова-даследчая праца акадэмічных гуманітарыяў прыкметна актывізавалася, набыла не толькі навукова-фундаментальную значнасць, але і ўсё больш практыка-арыентаваную накіраванасць.

Вядома, што паспяховае вырашэнне задач мадэрнізацыі патрабуе фарміравання новага класа спецыялістаў: прадпрымальных, добра адукаваных, якія творча адносяцца да сваёй працы і маюць навыкі кіравання ведамі і рызыкамі.

Кампетэнцыі, пра якія ідзе гаворка, з'яўляюцца міждысцыплінарнымі і перш за ўсё гуманітарнымі. Гэта методыкі і тэхнікі збору і асваення новай інфармацыі, прыёмы пастаноўкі і рашэння творчых задач, навыкі вядзення перамоў, пошуку новых рынкаў збыту і новых сфер дзейнасці. У працэсе падрыхтоўкі кадраў новага пакалення сацыяльна-гуманітарныя веды выконваюць выключна важную ролю. Іх значэнне неацэнна не толькі ў фарміраванні грамадзянскіх, патрыятычных і духоўных якасцей будучых спецыялістаў, але, што надзвычай важна, толькі гуманітарныя веды здольныя вырашаць задачу развіцця творчых здольнасцей будучых спецыялістаў: медыкаў, настаўнікаў, навукоўцаў, інжынераў, тэхнолагаў, канструктараў, кіраўнікоў. Менавіта гуманітарныя веды дазваляюць будучаму спецыялісту ўбачыць незвычайнае ў звычайных з'явах і фактах і зрабіць адкрыццё.

Сістэма падрыхтоўкі такіх спецыялістаў, фарміравання іх кампетэнцый у нас толькі пачынае стварацца, тады як на захадзе прадстаўлена досыць шырока. Напрыклад, у Інстытуце філасофіі арганізавана звыш 30 навукова-метадычных семінараў на прадпрыемствах для кіраўнікоў, інжынераў, работнікаў збытавых падраздзяленняў, аддзелаў кадраў. Семінары прайшлі ў Мінску і ў рэгіёнах Беларусі, у прыватнасці, у Баранавічах. Падрыхтавана спецыяльная праграма семінараў-трэнінгаў для прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

У Інстытуце эканомікі распрацаваны буйныя дзяржаўныя праграмы, праграмы развіцця галін і сфер дзейнасці, навукова-тэхнічныя і інвестыцыйныя праекты. У іх ліку: Праграма развіцця ў Рэспубліцы Беларусь лагістычнай сістэмы на перыяд да 2015 года; нацыянальныя праграмы развіцця экспарту Рэспублікі Беларусь на 2006—2010 і 2011—2015 гады; Комплексны прагноз навукова-тэхнічнага прагрэсу Рэспублікі Беларусь на 2011—2030 гады з больш падрабязным яго абгрунтаваннем на 2011—2015 гады; праект Праграмы развіцця аптовага гандлю спажывецкімі таварамі і прадукцыяй вытворча-тэхнічнага прызначэння ў Рэспубліцы Беларусь на 2008—2010 гады; праект Праграмы развіцця ўнутранага гандлю Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 гады; праект Праграмы развіцця бытавога абслугоўвання насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 гады. Вынікі даследаванняў выкарыстоўваліся пры распрацоўцы Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Канцэпцыі рэгіянальнага развіцця да 2015 года, Нацыянальнай праграмы дэмаграфічнай бяспекі краіны на 2011—2015 гады.

Вядзецца работа па адкрыцці сеткі філіялаў Інстытута эканомікі, якія будуць працаваць на гаспадарчаразліковых прынцыпах: Цэнтра фарсайт-даследаванняў для выканання пілотных і поўнамаштабных праектаў нацыянальнага і наднацыянальнага ўзроўню (у чым выказана зацікаўленасць кіраўніцтва Саюзнай дзяржавы); Цэнтра бізнес-праектавання; Цэнтра эканоміка-прававых даследаванняў. Новыя структуры дазволяць прадастаўляць рэкамендацыі ў фармаце сцэнарыяў і дарожных карт: вызначаць верагодныя вектары развіцця сітуацыі, выбіраць найбольш прымальныя варыянты, фармуляваць прапановы па іх дасягненні з указаннем паслядоўнасці рэалізацыі, патрэбных рэсурсаў (кадравых, матэрыяльных і фінансавых) па кожным этапе, адказных выканаўцаў, кантрольных кропак, дзеянняў па мінімізацыі рызык і г. д.

Калектыў навукоўцаў Інстытута сацыялогіі ўпершыню распрацаваў сацыякультурныя партрэты рэгіёнаў, якія з'яўляюцца эфектыўным сродкам выпрацоўкі органамі ўлады адэкватнай стратэгіі развіцця. А такіх праблем досыць шмат, у прыватнасці: нераўнамернасць сацыякультурнага развіцця розных рэгіёнаў; існаванне адрозненняў ва ўзроўні развіцця сацыяльнай інфраструктуры ў сельскай мясцовасці і ў гарадской; адрозненні ва ўзроўні чалавечага патэнцыялу ў горадзе і вёсцы; працягваецца арыентацыя сельскага насельніцтва на гарадское жыццё (у 2005 г. 45 % рэспандэнтаў хацелі б, каб іх дзеці з'ехалі ў горад, а ў 2012 г. 72 %); нежаданне не толькі сельскай, але і гарадской моладзі працаваць у сферы вытворчасці; арыентацыя на невытворчыя прафесіі (рост працоўных вакансій);

праблемы з сістэмай адукацыі аграрыяў (толькі 22% выпускнікоў аграрных ВНУ збіраюцца звязаць свой лёс з сельскай гаспадаркай) і многія іншыя.

Веданне сацыякультурнага партрэта рэгіёна, які ўключае пэўную сукупнасць уяўленняў аб яго праблемах, аб комплексе параметраў і ўзаемасувязях, а таксама пра спецыфіку яго з пункту погляду культуры, эканомікі, сацыяльнай структуры і сацыяльнага кіравання з'яўляецца важнай дапамогай у рэалізацыі буйных Нацыянальных праграм і праектаў. Мэтазгодна правесці ў рэгіёнах семінары, каб выпрацаваць канкрэтныя навуковыя рэкамендацыі, якія будуць садзейнічаць вырашэнню праблем сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага развіцця.

Шэраг праектаў, што маюць важнае сацыяльна-эканамічнае значэнне, выканана ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Сярод іх: «Народная архітэктура Беларусі: традыцыі і роля ў развіцці сельскіх ландшафтаў і адраджэнні вёскі», «Гісторыка-культурная спадчына горада: гісторыка-горадабудаўнічы (архітэктурны) апорны план» да карэкціроўкі Генеральнага плана г. Мінска, «Канцэпцыя экспазіцыйных комплексаў «Сядзіба і жыллё г. Мінска XII—XVI стст.», «Сядзіба і жыллё г. Мінска XI—XIV стст.», «Традыцыі і інавацыі ў сучаснай архітэктуры і дызайне», «Духоўныя традыцыі ў народным жыллі як фактар развіцця экатурызму».

Даследаванні этнолагаў знайшлі адлюстраванне ў буйных манаграфіях «Сучасныя этнакультурныя працэсы», «Хто жыве ў Беларусі», «Этнакультурныя працэсы Усходняга Палесся ў мінулым і сучаснасці». Створаны шэраг падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, слоўнікаў і даведнікаў, якія шырока выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў: «Слоўнік беларускай мовы», «Арфаграфічны слоўнік», «Беларуска-рускі слоўнік» (Т. 1—3), «Руска-беларускі слоўнік» (Т. 1—3).

Навукоўцы Інстытута гісторыі правялі шэраг паспяховых навукова-даследчых работ на тэрыторыі замкавага комплексу ў г. п. Мір, палацава-паркавага комплексу ў в. Свяцк Гродзенскага раёна, Малога Замка і Замкавай гары ў Навагрудку, замкавага комплексу ў в. Любча Навагрудскага раёна, Шклоўскага, Гальшанскага і Крэўскага замкаў. Выкананы сотні экспертыз розных будаўнічых праектаў.

Безумоўна, духоўнае жыццё грамадства — гэта аб'ектыўная з'ява, якая складваецца ў працэсе гістарычнага развіцця і з цяжкасцю паддаецца кіраванню. Ніколі ў гісторыі ніводнай навукі ніводнаму геніяльнаму навукоўцу не ўдавалася сваімі сіламі зрабіць грамадства «шчаслівым». І разам з тым, сучасная гуманітарная навука валодае цэлым арсеналам сродкаў, каб прагназаваць працэсы ў духоўнай сферы, мець магчымасць накіроўваць іх у патрэбнае рэчышча. Інстытуты Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў вядуць шырокую даследчую, маніторынгавую і экспертна-аналітычную работу для павышэння якасці духоўнага асяроддзя беларускага грамадства ў такіх напрамках, як ідэалагічная сфера, міжкультурны дыялог, захаванне і развіццё нацыянальнай культуры і культур этнічных меншасцей, традыцыі і навацыі ў духоўным жыцці, маральныя асновы грамадскага жыцця, дэмаграфічная бяспека грамадства ў кантэксце захавання традыцыйнай сям'і і сямейных каштоўнасцей, гуманітарная бяспека грамадства і процідзеянне дэструктыўным культам.

Даследаванні, праведзеныя Інстытутам сацыялогіі ў 2012 годзе, сведчаць, што сучасны стан культуры ў Беларусі жыхары краіны ацэньваюць у большай ступені як стабільны, з добрымі перспектывамі развіцця.

Аднак зафіксаваны і некаторыя праблемы: агульны нізкі ўзровень культуры насельніцтва (32,8 %); нізкі ўзровень паўсядзённай (бытавой) культуры насельніцтва (31,2 %); недастатковая вядомасць твораў беларускіх аўтараў (25,8 %); нізкі ўзровень захавання беларускіх традыцый у сям'і (22,4 %); ігнараванне ці недастатковае выкарыстанне беларускай культурна-гістарычнай спадчыны (18,6 %); слабая ўцягнутасць у сусветныя культурныя працэсы (16,3 %); невыкананне беларускіх традыцый і абрадаў насельніцтвам (15,7 %); адсутнасць прадуманай

доўгатэрміновай культурнай палітыкі (14,5 %); засілле «масавай» рускамоўнай культуры (12,4 %); адсутнасць практыкі шырокага выкарыстання беларускай мовы (11,0 %); адсутнасць культурных узораў высокага (сусветнага) узроўню (10,7 %).

З мэтай даследавання прыроды і дынамікі духоўных праблем сучаснага грамадства, а таксама абгрунтавання канкрэтных механізмаў для іх вырашэння спецыялісты Інстытута філасофіі апублікавалі шэраг манаграфічных прац: «Бяспека Беларусі ў гуманітарнай сферы: сацыякультурныя і духоўна-маральныя праблемы», «Духоўна-маральныя каштоўнасці ў фарміраванні сучаснага чалавека», «Свабода сумлення як маральны і прававы імператыў жыццядзейнасці сучаснага чалавека», «Глабальны свет і геапалітыка: культурна-цывілізацыйнае вымярэнне», «Духоўныя ідэалы ў сучаснай культуры Беларусі і каштоўнасці глабалізму».

Супрацоўнікі Інстытута гісторыі наладзілі пастаяннае супрацоўніцтва з музеямі краіны. Праводзіцца мэтанакіраваная работа па атрыбуцыі артэфактаў музейных фондаў і падрыхтоўцы новых экспазіцый. Плённае супрацоўніцтва ажыццяўляецца з Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь, Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным, Віцебскім абласным краязнаўчым, Мотальскім музеем народнай творчасці, музеямі прыроды ў нацыянальных парках «Белавежская пушча» і «Прыпяцкі». Распрацаваны навуковыя прапановы па пашырэнні гісторыка-культурнага зместу развіцця турызму ў Нацыянальным парку «Прыпяцкі».

Значную ўвагу даследаванням развіцця культуры, турызму, аховы гісторыка-культурнай спадчыны надаюць навукоўцы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Да сённяшняга дня не страціў актуальнасці «Збор помнікаў гісторыі і культуры» ў 8-і тамах, які з’яўляецца асноўнай крыніцай фарміравання дзяржаўнага спісу нацыянальных гісторыка-культурных каштоўнасцей. Значным укладам у захаванне нематэрыяльнай культурнай спадчыны стала шматтомная серыя «Беларуская народная творчасць», якая дазваляе знаёміцца са скарбамі народнай духоўнай культуры Беларусі як у нас у краіне, так і за яе межамі. Пастаянна вядзецца работа па пошуку, навуковым выданні і перакладзе на сучасную беларускую мову помнікаў старажытнабеларускай літаратуры, у тым ліку і тых, якія захоўваюцца за межамі нашай краіны. У апошнія гады выйшаў шэраг прац, накіраваных на навуковае забеспячэнне турызму ў Беларусі. Гэта калектыўная манаграфія «Турыстычная мазаіка Беларусі» (на рускай і англійскай мовах), манаграфіі «Гісторыка-культурныя ландшафты Беларусі», «Падарожжа па Беларусі: гарады і гарадскія пасёлкі». Пачалася праца над праектам электроннага атласа гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, зборы рухомых помнікаў гісторыі і культуры. Выходзіць у свет першы том шматтомнай серыі «Нарысы гісторыі культуры Беларусі».

Інстытуты Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў сістэматычна выступаюць «пляцоўкай» для ўдасканалення сістэмы адукацыі і выхавання. Напрыклад, навукоўцы Інстытута філасофіі практычна штогод арганізуюць форумы па праблематыцы адукацыі і выхавання. Выдадзены шэраг зборнікаў навуковых работ: «Інфармацыйна-адукацыйныя і выхаваўчыя стратэгіі ў сучасным грамадстве: нацыянальны і глабальны кантэкст», «філасофскія асновы інавацыйнага развіцця адукацыі і выхавання», «Духоўна-маральнае выхаванне на аснове айчынных культурна-гістарычных і рэлігійных традыцый і каштоўнасцей». Апублікаваны манаграфіі «Гуманітарна-культуралагічная мадэль адукацыі для ўсіх», «Сістэма маральнага выхавання ва ўмовах станаўлення інфармацыйнага грамадства ў Беларусі».

З 2012 года заснаваны новы, вельмі запатрабаваны напрамак дзейнасці — стварэнне сумесных вучэбна-даследчых падраздзяленняў з ВНУ Рэспублікі Беларусь. Гэта забяспечвае не толькі больш цесную каардынацыю акадэмічнага сектара і сектара вышэйшай адукацыі, але і дазваляе студэнтам універсітэтаў на

працягу свайго навучання знаёміцца са спецыфікай работы навуковых устаноў гуманітарнага профілю, актуальнымі задачамі, якія стаяць перад беларускай гуманітарыстыкай, далучацца да працы над заданнямі дзяржаўных праграм навуковых даследаванняў і ўдзельнічаць у камерцыялізацыі навуковых вынікаў праз выкананне гаспадарчых дагавораў. У 2012—2013 гг. пры Інстытуце філасофіі адкрыты філіялы кафедры філасофіі і метадалогіі навукі БДУ, кафедры паліталогіі БДУ, а таксама сумесная кафедра-лабараторыя сацыягуманітарнай экспертызы ў сферы навукі і адукацыі пры ўдзеле Інстытута сацыяльна-гуманітарнай адукацыі БДЭУ.

Актыўна ўдзельнічаюць у адукацыйным працэсе навукоўцы Інстытута эканомікі. На базе яго створана сумесна з БДУ кафедра міжнародных эканамічных адносін. Многія навукоўцы супрацоўнічаюць з ВНУ краіны, чытаючы курсы лекцый па эканамічных дысцыплінах. Мэтанакіравана ўкараняюць вынікі даследаванняў у навучальны працэс супрацоўнікі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры і Інстытута гісторыі. За апошнія гады наладжана творчае супрацоўніцтва з 20 вышэйшымі навучальнымі ўстановамі краіны.

Творча працуе калектыў Інстытута гісторыі, які стаў арганізатарам знакавых навукова-патрыятычных мерапрыемстваў. Сумесна з рэдакцыяй газеты «Звязда» 14 лютага 2012 г. праведзены «круглы стол» «Гісторыя Перамогі: недапушчэнне фальсіфікацый Вялікай Айчыннай вайны, ўшанаванне подзвігу партызан і падпольшчыкаў». Сумесна з камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, упраўленнем адукацыі адміністрацыі Маскоўскага раёна г. Мінска, Прадстаўніцтвам Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя М. Танка ў 2011—2013 гг. у гімназіі № 174 г. Мінска прайшлі IV, V і VI Міжнародныя маладзёжныя навукова-практычныя канферэнцыі «Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гадоў у гістарычнай памяці народа».

Важным кампанентам захавання гісторыка-культурнай спадчыны і гістарычнай памяці народа з’яўляецца работа па вывучэнні і прапагандзе гісторыі філасофскай, грамадска-палітычнай і рэлігійнай думкі Беларусі. Менавіта на старонках філасофскіх і рэлігійных трактатаў, палемічных работ у канцэнтраванай форме выказваецца «дух» нашага народа, асновы яго светапогляду і базісныя каштоўнасці. Работа па папулярызацыі гісторыка-філасофскай спадчыны Беларусі нясе значны «іміджавы» патэнцыял, дэманструе, што на працягу стагоддзяў наша краіна была важным інтэлектуальным цэнтрам на еўрапейскім кантыненце, па многіх параметрах не саступала філасофскім школам Германіі, Англіі, Францыі, Расіі. Прынцыпова важна, што рэканструкцыя інтэлектуальнай гісторыі народа — гэта тая даследчая праца, якой ніхто і ніколі не стане займацца за межамі Беларусі, а яе вынікі — асаблівы нацыянальны прадукт, які немагчыма набыць як прамысловую тэхналогію або ноў-хаў за мяжой.

Навукоўцы Інстытута філасофіі падрыхтавалі і выдалі тры тамы 6-томнай «Гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі», а таксама першы том 3-томнай «Гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі».

Вялікая работа вядзецца па вывучэнні беларускай мовы і літаратуры. У апублікаваных выпусках «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» ўпершыню лексікаграфічную апрацоўку атрымалі каля 40000 новых лексічных адзінак. «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» — першы і адзіны ў айчыннай гуманітарыстыцы даведнік, які з максімальнай паўнатой адлюстроўвае багацце слоўнікавага фонду беларускай мовы ў перыяд XIV—XVIII стст., з’яўляецца надзейнай крыніцай пазнання мінулага Беларусі, дае багатую інфармацыю аб сацыяльна-эканамічным жыцці, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Супрацоўнікі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры прымаюць актыўны ўдзел у распрацоўцы доўгачасовага праекта «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас». Гэта найбуйнейшы праект у гісторыі сусветнай лінгвагеаграфіі, над якім працуюць мовазнаўцы ўсіх славянскіх краін і Германіі. У папулярызацыі ведаў

пра паходжанне беларускага народа, аб яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, сучасных этнакультурных працэсах вялікую ролю выконвае шматтомнае выданне «Беларусы». Шматтомныя выданні «Гарады і вёскі Беларусі», «Беларусы», «Гісторыя беларускай літаратуры» карыстаюцца шырокай вядомасцю ў краіне і за мяжой. Манаграфіі «Мужчынскі касцюм Беларусі» і «Жаночы касцюм Беларусі» выклікалі вялікую цікавасць, у тым ліку з боку мастакоў, мадэльераў, сцэнографаў і былі ўдастоены прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Вялікая работа ажыццяўляецца на базе створанай у Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры музейнай калекцыі. Штогод музей наведваюць каля 5 тыс. чалавек, працуе вучэбна-метадычны цэнтр, штогод праходзяць практыку звыш 120 студэнтаў ВНУ. Шырока пазіцыруецца мастацтва Беларусі дзякуючы выставам за мяжой. Пашыраецца праца навукоўцаў з рэгіёнамі і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, накіраваная на папулярызацыю гісторыка-культурнай спадчыны і аказанне неабходнай метадычнай дапамогі ўстановам культуры на месцах.

У справе папулярызацыі архітэктурнай спадчыны Беларусі важнае месца займаюць новыя шматтомныя працы «Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце», «Праваслаўныя храмы Беларусі», «Каталіцкія храмы Беларусі», манаграфія «Беларусь у малюнках Напалеона Орды».

У Інстытуце гісторыі паспяхова функцыянуе ўнікальная Археалагічная навукова-музейная экспазіцыя, якая не толькі яскрава адлюстроўвае самую багатую гісторыка-культурную спадчыну нашых продкаў, але і выразна сведчыць аб глыбокай гісторыі фарміравання беларускага этнасу і дзяржаўнасці, з’яўляецца асновай навукова-інфармацыйнага і адукацыйнага цэнтра. Шэраг выданняў, падрыхтаваных навукоўцамі, атрымалі прызнанне шырокай айчыннай і замежнай грамадскасці. Многія з іх не маюць аналагаў у свеце. Сярод іх: першыя два тамы чатырохтомнага «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі» (Т. 1. Мн., 2009; Т. 2. Мн., 2013); калектыўная манаграфія, а таксама зборнік дакументаў і матэрыялаў «1941: Страна в огне»: кн. 1. «Очерки» (М., 2011) ; кн. 2. «Дакументы и материалы» (М., 2011), гэта першая пасля распаду СССР буйная міжнародная гістарычная работа аб пачатковым этапе Вялікай Айчыннай вайны стала сапраўдным прарывам у справе збліжэння навуковых ацэнак у ваеннай гістарыяграфіі Беларусі, Расіі і Украіны; выдадзеная ў ініцыяванай Інстытутам гісторыі серыі «Старажытныя гарады Беларусі» калектыўная манаграфія «Полацк» (Мн., 2012); унікальнае фундаментальнае выданне «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.» у 2-х кнігах (Мн., 2011—2012), у якім абгрунтавана новая канцэпцыя генезісу і фарміравання беларускай дзяржаўнасці; унікальнае выданне «Археалагічная спадчына Беларусі — Archaeological Heritageof Belarus» (Мн., 2012), якое атрымала Дыплом лаўрэата ў намінацыі «Гран-пры» Міжнароднага конкурсу «Навуковая кніга-2012» у Маскве; калектыўная манаграфія «Гісторыя Пінска. Ад старажытнасці да сучаснасці» (Мн., 2012); калектыўная манаграфія «Гісторыя Беларускай чыгункі. З стагоддзя XIX у стагоддзе XXI» (Мн., 2012), якая атрымала Гран-пры ў намінацыі «Залатыя скрыжалі» Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2013».

Інстытут гісторыі ажыццяўляе навуковае суправаджэнне будаўнічых работ, якія праводзяцца на тэрыторыі Беларусі. Важна, што ахоўныя мерапрыемствы непасрэдна звязаны з тэматыкай фундаментальных даследаванняў, іх выкананне ў значнай ступені садзейнічае развіццю археалагічнай навукі. Яскравым прыкладам гэтага — маштабныя комплексныя навуковыя даследаванні на тэрыторыі будаўніцтва Нежынскага горна-абагачальнага камбіната калійных соляў і аб’ектаў яго інфраструктуры ў Любанскім раёне Мінскай вобласці. Выкананне гэтага праекта дазволіла ўпершыню ў археалагічнай навуцы да пачатку будаўніцтва цалкам раскапаць гарадзішча жалезнага веку Обчын на плошчы каля 20 тыс. кв. м.

Актыўна вядзецца работа па супраўніцтве ў духоўна-маральнай сферы з Беларускай Праваслаўнай Царквой. У 2004 годзе была падпісана «Праграма супрацоўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Беларускай Праваслаўнай Царквы» , якая актыўна рэалізуецца ў мностве сумесных праектаў. Велізарны рэзананс меў праведзены ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 23 кастрычніка 2008 г. Міжнародны «круглы стол» «Хрышчэнне Русі ў лёсах народаў Расіі, Беларусі і Украіны», прысвечаны 1020-годдзю Хрышчэння Русі. У рабоце «круглага стала» прынялі ўдзел Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхаіл Мясніковіч, шматлікія навукоўцы і грамадскія дзеячы. За апошнія гады праведзены дзясяткі навукова-грамадскіх і духоўна-культурных мерапрыемстваў, якія выклікалі вялікую цікавасць і станоўчы грамадскі рэзананс. Значнымі падзеямі ў навуковым і духоўным жыцці сталі міжнародныя навуковыя канферэнцыі «Куцеінскія чытанні» (2006), «Беларусь: дзяржава, рэлігія, грамадства» (2007), «Духоўна-маральнае выхаванне на аснове айчынных культурна-гістарычных і рэлігійных традыцый і каштоўнасцей» (2010), «Святыя зямлі Беларускай: Сафія Слуцкая» (2012), «круглы стол» «Рэлігійны фактар нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь» (2012), грамадскі форум «Духоўна-маральны фактар нацыянальнай бяспекі» (2012). У рабоце гэтых прадстаўнічых форумаў бралі ўдзел дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, кіраўніцтва Беларускай Праваслаўнай Царквы, супрацоўнікі Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, выкладчыкі Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі ў Жыровічах, супрацоўнікі Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям'я — Яднанне — Айчына», шматлікія навукоўцы, прадстаўнікі культуры, духавенства і шырокай грамадскасці Беларусі і замежжа.

У гэтай сувязі неабходна адзначыць правядзенне Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Хрышчэнне Русі ў лёсах народаў Беларусі, Расіі і Украіны: выбар цывілізацыйнага шляху», якая адбылася 6—7 чэрвеня 2013 г. У ёй прынялі ўдзел больш за 450 удзельнікаў і гасцей — прадстаўнікі акадэмічнай і вузаўскай навукі Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы; тэолагі, прадстаўнікі Рускай, Беларускай, Украінскай і Польскай праваслаўных цэркваў; журналісты; дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і Сейма Польскай Рэспублікі, грамадскія дзеячы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі.

Правядзенне падобных мерапрыемстваў з'яўляецца непасрэднай, практычнай ідэалагічнай працай, накіраванай на кансалідацыю беларускай нацыі, забеспячэнне гарманізацыі грамадскіх адносін, фарміраванне патрыятызму, грамадзянскай актыўнасці і адказнасці, захаванне культурна-гістарычнай пераемнасці і грамадзянскай свядомасці. Гэта неабходна для ўмацавання духоўна-маральных і ідэалагічных асноў беларускага грамадства. Канструктыўны дыялог навукоўцаў, прадстаўнікоў Царквы і грамадскасці па актуальных надзённых пытаннях канфесійнага жыцця, развіцця дзяржавы і грамадства нязменна выклікае зацікаўленую дыскусію і адпаведны грамадскі рэзананс.

Навуковыя ўстановы аддзялення актыўна супрацоўнічаюць з многімі замежнымі ўстановамі і арганізацыямі. Многія навукова-даследчыя праекты накіраваны на фарміраванне і ўмацаванне іміджу Беларусі як значнага інтэлектуальна-культурнага цэнтра на еўрапейскай прасторы, пазіцыянаванне нашай краіны як дзяржавы з высокім патэнцыялам для супрацоўніцтва ў навукова-тэхнічнай, адукацыйнай, культурнай, турыстычнай сферах.

Яркім прыкладам такога міжнароднага супрацоўніцтва з'яўляецца XV Міжнародны з'езд славістаў, праведзены 20—27 жніўня 2013 года ў г. Мінску. Міжнародныя з'езды славістаў — гэта буйнейшыя навуковыя форумы, на якіх абмяркоўваюцца праблемы развіцця славянскіх моў, літаратур, культур і фальклору ў іх узаемадзеянні. Яны праходзяць кожныя пяць гадоў па чарзе ў славянскіх краінах, пачынаючы з 1929 года, і маюць вялікае значэнне для

ўмацавання славянскага адзінства і пашырэння ролі славянскіх культур, моў і літаратур у сучасным свеце.

У Рэспубліцы Беларусь такі з'езд праводзіўся ўпершыню і адыграў важную ролю для ўмацавання прэстыжу нашай краіны ў міжнароднай супольнасці, перш за ўсё ў славянскіх краінах. У рабоце яго прынялі ўдзел больш за 500 вучоных з 34 краін свету. Навуковая праграма і ўзровень арганізацыі атрымалі высокую ацэнку замежных удзельнікаў, што, безумоўна, будзе садзейнічаць умацаванню станоўчага іміджу нашай краіны ў вачах міжнароднай супольнасці, а таксама пашырэнню ведаў пра нашу краіну, пра беларускую мову, літаратуру і культуру ў свеце.

Адказваючы на выклікі часу сацыяльна-гуманітарныя навукі разгортваюць сістэмную работу па вырашэнні праблем метадалогіі дзяржаўнага будаўніцтва, сацыяльнага кіравання, адукацыі і выхавання, камунікацыі, міжкультурнага ўзаемадзеяння і інтэграцыі. Важнейшымі задачамі вучоных Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў на бліжэйшую перспектыву з'яўляецца выкананне шэрагу цікавых праектаў.

Вучоныя-філосафы працягнуць творчую работу над падрыхтоўкай і выданнем 4-га, 5-га, 6-га тамоў «Гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі», 2-га і 3-га тамоў «Гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» як інфармацыйна-метадычнай асновы дзейнасці ў сферы адукацыі і грамадзянска-патрыятычнага выхавання, прапаганды нацыянальнай філасофскай і культурнай спадчыны, удасканалення іміджу Беларусі як дзяржавы з багатымі духоўнымі традыцыямі. Каштоўнай працай з'явіцца стварэнне вучэбна-метадычнага комплексу па фарміраванні прафесійных кампетэнцый у галіне міжкультурнага супрацоўніцтва, выкарыстанні інструментаў рэгіянальнай і еўразійскай інтэграцыі ў інтарэсах сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Разгорнута работа па распрацоўцы і апрабацыі сістэмы ўдасканалення арганізацыйна-кіраўнічых працэсаў на прадпрыемствах (у арганізацыях) на аснове сучасных інфакагнетыўных тэхналогій і менеджменту ведаў, сацыяльна-гуманітарных тэхналогій фарміравання культуры асобы як сродку процідзеяння асацыяльным формам паводзін, вучэбна-метадычнага забеспячэння і механізмаў функцыянавання сеткі кластараў (груп) ідэалагічнай і палітыка-асветніцкай дзейнасці.

Гісторыкі будуць актыўна працаваць над навуковым суправаджэннем будаўнічых работ, каб забяспечыць вывучэнне і захаванне гісторыка-культурнай спадчыны краіны. Вядзецца актыўная работа па падрыхтоўцы і выданню 3-га і 4-га тамоў «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі», картаграфічны матэрыял якога стане асновай для падрыхтоўкі фундаментальных работ па гісторыі Беларусі, вучэбна-метадычнай літаратуры для ўстаноў адукацыі Рэспублікі Беларусь. Запланаваны цікавы праект па вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», каб выпрацаваць канкрэтныя рэкамендацыі па яе практычным выкарыстанні. Сумесна з гарадскім выканаўчым камітэтам Брэста будзе ажыццяўляцца праект «Брэсцкая крэпасць-2019», які прадугледжвае аднаўленне элементаў архітэктурнага ландшафту сярэдневяковага Бярэсця з мэтай павелічэння турыстычнай прывабнасці сучаснага Брэста.

Цікавыя задумы ў галіне вывучэння і развіцця культуры і архітэктуры. Навукоўцы актывізуюць работу па распрацоўцы рэкамендацый, накіраваных на выкарыстанне нацыянальных і рэгіянальных рыс у сучаснай архітэктуры горада і вёскі. Будзе прадоўжана работа па падрыхтоўцы фундаментальнага шматтомнага выдання «Гісторыя культуры Беларусі». Працягнуцца даследаванні, накіраваныя на развіццё турызму, захаванне гістарычных паркаў, а таксама на рэалізацыю дзяржаўнай праграмы «Замкі Беларусі». Важнай дзяржаўнай справай з'явіцца падрыхтоўка навуковых рэкамендацый па распрацоўцы тэхналогіі рэстаўрацыі слуцкіх паясоў.

Шмат задум і творчых праектаў маюць літаратары і мовазнаўцы, якія ў бліжэйшай перспектыве займуцца стварэннем нарматыўнага даведніка і нацыяналь-

нага корпуса гідронімаў Беларусі, што будзе садзейнічаць уніфікацыі выкарыстання гідронімаў у нарматыўных прававых актах, сродках масавай інфармацыі, навучальных выданнях, у картаграфічнай прадукцыі, пры правядзенні дэлімітацыі і дэмаркацыі дзяржаўных межаў. Рыхтуецца новае выданне аднатомнага Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы з улікам новых правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Прадоўжыцца работа над каментаванымі выданнямі твораў класікаў беларускай літаратуры і помнікаў нацыянальнай пісьменнасці з мэтай актуалізацыі ў сучасным грамадстве высокіх маральных каштоўнасцей, выпрацаваных беларускім народам на працягу яго шматвяковай гісторыі. Актуальным з’яўляецца маніторынг літаратурнага працэсу ў краіне і свеце, актывізацыя літаратурнай крытыкі ў мэтах фарміравання актыўнай грамадзянскай пазіцыі айчынных пісьменнікаў, выпрацоўкі і ўмацавання ў насельніцтва, асабліва ў моладзі, ідэалагічных прынцыпаў, якія адпавядаюць задачам дзяржаўнага будаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь.

Вялікія задумы ў айчынных сацыёлагаў, якія працягнуць сацыялагічны маніторынг сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне. Важнай задачай з’явіцца распрацоўка мадэлі прагназавання развіцця кадравага патэнцыялу беларускай навукі і сістэмы ўзнаўлення навуковых кадраў па прыярытэтных навуковатэхнічных напрамках.

Творчыя планы акадэмічнай эканамічнай навукі будуць падпарадкаваны навукова-экспертнаму забеспячэнню рашэнняў, якія прымаюцца органамі дзяржаўнага кіравання ў сацыяльна-эканамічнай сферы. Прадоўжыцца маніторынг і навуковае суправаджэнне рэалізацыі Нацыянальнай праграмы развіцця экспарту Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 гады. Важнай задачай з’яўляецца маніторынг і аналіз сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і падрыхтоўка серыі інфармацыйна-аналітычных запісак па асноўных напрамках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і навуковае забеспячэнне дзейнасці Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Агульнавядома, навуковы прагрэс значна апярэджвае духоўнае развіццё чалавека і грамадства ў цэлым. Гэты працэс значна ўзмацняецца ў перыяд трансфармацыйнага пераходу ад адной мадэлі грамадства да другой. Грамадскае жыццё заўсёды суправаджаецца бурнымі працэсамі ў духоўным жыцці, прыводзіць да істотных змен у свядомасці людзей. У гэты перыяд чалавеку надзвычай патрэбна духоўная апора. Духоўнасць перашкаджае распаўсюджванню бяздумнага ў жыцці чалавецтва. Духоўнае асэнсаванне ўласнага быцця дазволіць чалавецтву, у тым ліку і нам, беларусам, разумець нас сённяшніх і нас заўтрашніх, адпавядаць патрабаванням нацыянальнай ідэалогіі, духоўнай прыродзе і традыцыям беларускага народа.

Без сумненняў можна сцвярджаць, што беларускі народ не толькі можа, але і павінен ганарыцца дасягненнямі айчынных навукоўцаў, якія ўносяць вызначальны ўклад у навукова-тэхнічны прагрэс і сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь.

Серафім АНДРАЮК

# СЛУЖЭННЕ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Знаёмства з гісторыяй літаратуры наогул, з гісторыка-літаратурным працэсам пэўнага перыяду пераканаўча выяўляе значную ролю тут літаратурнай крытыкі. І гэта натуральна. Па-першае, яна сведчыць, што літаратура як з'ява духоўная, як з'ява мастацкая ёсць. Па-другое, напэўна, галоўная праблема крытыкі — служба сувязі з чытачом. Менавіта крытыка дапамагае (зразумела, вызначыўшы яго) данесці да чытача сапраўдны сэнс літаратуры як мастацтва, творчасці таго ці іншага пісьменніка. Разам з тым крытыка павінна прываблiваць самога чытача ў літаратуру, выхоўваць яго. Ва ўзаемаадносінах літаратуры і чытача крытыка змагаецца як за высокамастацкую, праўдзівую літаратуру, так і за адукаванага, з добрым мастацкім густам чытача, выхоўвае яго. Па-трэцяе, крытыка вызначае характар узаемаадносін літаратуры, творчасці таго ці іншага пісьменніка з жыццём, з гісторыяй, з часам. І нарэшце, якраз крытыка ў значнай ступені дапамагае спасцігнуць сутнасць і рух літаратурнага працэсу, пазначыць яго адпаведныя этапы і перыяды, знайсці тут сваё месца кожнай творчай асобе.

Такой, як від літаратурнай дзейнасці, наша крытыка ў поўнай меры стала, думаецца, толькі ў 2-й палове XX стагоддзя. Па сваім прызначэнні, змесце, па месцы ў літаратурным працэсе. Яе праявы, праўда, бачны ўжо ў літаратуры пачатку XX стагоддзя, у 20-я гады. Па-сапраўднаму крытыка такога кшталту ў літаратурным працэсе пачала займаць пастунова сваё належнае месца дзесьці з пасляваенных гадоў. Поспех прыйшоў пазней крыху — дзесьці з 60-х гадоў. Спачатку гэта былі асобныя постаці гэтага зместу і характару — Рыгор Бярозкін, Рыгор Шкраба, Уладзімір Юрэвіч. Крыху пазней на гэтую крытычную дзялянку ў жывым тагачасным актыўным працэсе ўсё больш пачалі прыходзіць навукоўцы. Яны вылучаліся: у іх была грунтоўная навуковая літаратуразнаўчая база. А гэта дазваляла, вымагала іх крытычны падыход (рэцэнзаванне, водгук, агляд) рабіць больш гістарычна-аналітычным, больш праблемным і глыбокім. Канкрэтны літаратурны факт, літаратурная з'ява разглядаліся не толькі ў суаднесенасці з жыццём сучасным, але і ў грунтоўным гісторыка-літаратурным кантэксце. Больш за тое, у дачыненні да пэўнай грамадска-палітычнай, духоўнай ці то агульнаэстэтычнай або больш вузкай якойсьці літаратурнай праблемы. Тут бывала па-рознаму. Здаралася, што праблема прасталінейна навязвала і адбор канкрэтных твораў, і сам прынцып іх разгляду. Але найбольш каштоўны падыход іншы — той, калі ідэі, праблемы (больш ці менш значныя) нараджаюцца з канкрэтнага аналізу твора або творчасці, у аснове якога дасканалае веданне мастацкай літаратуры, яе ўнутраных заканамернасцей, адчуванне індывідуальнай адметнасці творчасці пісьменніка.

Найбольш характэрнымі, яркімі прадстаўнікамі такога навукова-крытычнага падыходу да літаратуры для мяне асабіста бачацца найперш Алесь Адамовіч, Віктар Каваленка, Варлен Бечык, Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Тычына...

Творчасць і асоба Дзмітрыя Бугаёва ў гэтым шэрагу. 12 студзеня вядомы крытык і літаратуразнавец адзначыў чарговую юбілейную дату — 85 гадоў. Жыццёвы шлях пройдзены немалы. І нялёгкі. Але ў каго з тых, каму прыйшлося перажыць жахлівыя гады Айчыннай вайны і першыя галодныя і халодныя пасляваенныя гады ён быў лёгкі? Пытанне, напэўна, рытарычнае. Бо быў то лёс не

чыйсьці асабісты, а агульнанародны — лёс усіх. Ён увайшоў у душу, у свядомасць кожнага, хто прычыніўся да яго. Па сутнасці, вызначыў унутраны свет чалавека. Зразумела ж, і творцы.

Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў нарадзіўся ў вёсцы Сычык Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У сялянскай сям'і. Вучыўся ў мясцовай няпоўнай сярэдняй школе. Да вайны скончыў пяць класаў. Пасля вызвалення мясцовасці — шосты і сёмы. У аўтабіяграфіі далей піша: «Урэшце атрымаў за сямігодку атэстат выдатніка і паступіў у Магілёўскае педвучылішча. Там спасцігаў асновы педагагічнай прафесіі на працягу 1945—1948 гадоў. Потым быў год настаўніцкай працы ў пачатковых класах... Гэты ж год вучыўся на завочным аддзяленні філфака ў Магілёўскім педінстытуце, а затым перавёўся на стацыянар і ў 1952 годзе закончыў педінстытут. Атрымаў дыплом з адзнакай і накіраванне ў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. Аспіранцкую мудрасць засвойваў у 1952—1955 гадах.

З Мінска паехаў у Мазыр. Там быў старшым выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ў педінстытуце.

З лета 1959 года да верасня 1964-га працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы ў якасці спачатку малодшага, а потым (з лютага 1961 года) старшага навуковага супрацоўніка. З верасня 1964 — на філфаку БДУ. Працяглы час быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры (цяпер кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя). Са студзеня 1987 — прафесар гэтай кафедры».

Цытата велікаватая. Але мне яна падаецца цікавай, характэрнай. У ёй жыццё чалавека, а напісана яна лёгка, унутрана свабодна. Значыць, усё пражытае сёння ўзгадваецца светла, унутрана свабодна. Зноў жа, напісана незвычайна для іх аўтара (ведаючы, як ён піша пра іншых) сцісла і сціпла. Але паглядзім творцаў-літаратараў яго пакалення (ды і папярэднікаў) — жыццё іх прывучыла, выхавала больш бачыць свет вакол сябе, а не ў сабе. Бо што казаць, іх унутраны свет на ўсе сто працэнтаў сфармаваны светам знешнім, жыццём пражытым, багатым на падзеі агульназначныя, запамінальныя назаўсёды. І яшчэ варта звярнуць увагу, як рана пачалося самастойнае жыццё і якое месца ў ім займае выкладчыцкая праца. Па часе — асноўнае. Але ж гэта далёка не ўсё. І хто ведае, ці гэта галоўнае. Застаецца ж напісанае. А напісанага (створанага) нямала. Як сведчыць сам Дзмітрый Бугаёў (сведчанне датавана 2003 годам), напісана ім і надрукавана больш як тры сотні артыкулаў. І ў беларускіх, і ў замежных выданнях.

Асобныя літаратуразнаўчыя манаграфіі і зборнікі крытычных артыкулаў: «Шчодрае сэрца пісьменніка» (1963), «Паэзія Максіма Танка» (1964, другое выданне, папраўленае і дапоўненае — 2003), «Уладзімір Дубоўка» (1965, другое выданне — 2005), «Максім Гарэцкі» (1968, другое выданне, дапоўненае — 2003), «Шматграннасць» (1970), «Зброяй сатыры, зброяй праўды» (1971, другое выданне — 2004), «Вернасць прызванню» (1977), «Талент і праца» (1979, кніга адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа — 1984), «Чалавечнасць» (1985), «Васіль Быкаў» (1987), «Арганічнасць таленту» (1989), «Праўда і мужнасць таленту» (1995), «Спавядальнае слова» (2001), «Служэнне Беларусі» (2003), «Вывучэнне творчасці Васіля Быкава ў школе» (2005, у суаўтарстве), «Жыццём ідучы» («Зборнік артыкулаў з гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі XX—XXI стст.», выходзіць у 2014).

А яшчэ ён адзін з аўтараў 2-томнай акадэмічнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1964, 1966), зноў жа адзін з аўтараў і рэдактараў вучэбнага дапаможніка «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (ч. I—1981, ч. II—1982), працаваў над праграмамі па літаратуры для студэнтаў, «над падручнікамі для школы, а яшчэ складаў розныя зборнікі, хрэстаматыі, удзельнічаў у выданні твораў некаторых нашых класікаў, рэдагаваў артыкулы і кнігі для настаўнікаў».

Створана, напісана нямала. І гэта, нягледзячы на шматгадовую працу выкладчыцкую, пастаянную працу грамадскую ў пісьменніцкім саюзе, таксама па лініі міністэрстваў асветы, вышэйшай і спецыяльнай сярэдняй адукацыі. Нельга не здзіўляцца, не захапляцца шырынёй яго творчай дзейнасці (пры яе падпарадка-

ванасці адзінай мэце — літаратуры), колькасці, аб'ёму зробленага. Але здзіўляцца, напэўна, можна толькі тады, калі не знаеш гэтага чалавека і творцу — Дзмітрыя Якаўлевіча Бугаёва. Бліжэй пазнаёміўшыся з ім, не раз пагутарыўшы, прачытаўшы амаль усё напісанае ім, пачынаеш разумець, што ўсё тут так, як тое мае быць. Ён такі — неспакойны, неўтаймоўны, задзірысты, нястрымны, перапоўнены энергіяй. Такім я яго бачу. Такім і сёння ўяўляецца. А пазнаёміліся мы даўно: з часу, калі я паступіў у Інстытут літаратуры АН БССР. А было гэта дзесьці ў канцы 1962 года. А можа, і раней: мне казалі (праўда, я чамусьці гэта не ўдакладняў), што водгук на мой рэферат, які пры паступленні трэба было прад'яўляць, рабіў Бугаёў. Вядома, я як аспірант, назіраў за ўсім як бы збоку. Жыццё тады ў інстытуце было творча актыўнае, неспакойнае. І заўсёды: на пасяджэннях вучонага савета, пасяджэннях сектара, на розных сходах — можна было пачуць яго голас. Задзірысты, востры, усхваляваны. Розныя калідорныя гутаркі-спрэчкі таксама без Бугаёва не абыходзіліся. Праўда, у 1964 г. ён перайшоў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Шкада было, не зразумела тады было — чаму? Пазней стала зразумела: тут, у навуковым інстытуце, ён не знаходзіў выхаду сваёй энергіі, найперш творчай, якая яго перапаўняла. І калі сёння паглядзець на напісанае і надрукаванае за час працы ва ўніверсітэце, то хоць малога змяншэння яе інтэнсіўнасці нельга заўважыць. Кнігі, артыкулы выходзяць, друкуюцца пастаянна. І ўсё гэта напісана зацікаўлена, усхвалявана, крытычна, востра. Яго чыталі і чытаюць. Я таксама чытаў і чытаю практычна ўсё, напісанае выдатным крытыкам і навукоўцам. Пісаў пра яго, ён пра мяне. Таварыскія чалавечыя і творчыя ўзаемаадносіны захоўваліся ўвесь час.

І сёння мне прыемна і ганарова пісаць пра Дзмітрыя Якаўлевіча Бугаёва, грунтоўнага навукоўца, выдатнага крытыка. Менавіта так, навукоўца і крытыка. Бо ў яго творчасці гэтыя дзве складаныя падыходу да літаратурнага працэсу, аналізу літаратурных з'яў і фактаў, іх ацэнкі знайшлі сапраўднае арганічнае ўвасабленне. Гэта добра відаць, калі ўважліва паглядзець з вышыні гадоў на ўсё зробленае творцам, асабліва калі супаставіць з сучаснай крытыкай.

У апошнія гады пастаянна на старонках літаратурных выданняў узнікае пытанне: ці ёсць сучасная літаратурная крытыка? Пэўных сцвярджальных адказаў няма. Ёсць адказы якіясьці няўпэўненыя, з агаворкамі. Ды, напэўна, у сённяшняй сітуацыі пэўнага адказу чакаць цяжка. Давайце паглядзім. Аб'ект крытыкі — пісьменнік, твор. Мэта — іх ацэнка, ідэйная, эстэтычная. А гэта магчыма толькі ў выніку аналізу — ідэйнага зместу ў суаднесенасці з жыццём і часам і мастацкай адметнасці зноў жа ў суаднесенасці з традыцыяй і сённяшнім станам. Крытыкі такога характару сёння, па сутнасці, няма. Тое, што сёння друкуецца пад рубрыкай крытыкі, мала мае адносін да крытыкі па сутнасці. Па сваёй жанравай прыродзе гэта хутчэй за ўсё эсэістыка. Яе якасць — гэта ўжо пытанне іншае. І пытанне тут не ў самой крытыцы, нават не ў літаратуры наогул. Тут пытанне адносін творцы, чалавека да жыцця, да навакольнага свету. Пытанне светапогляду. Сёння ў цэнтры ўсяго і ва ўсім — я. Часта ў прыхарошаным, а то і дэфармаваным выглядзе.

У гэтым сэнсе за літаратурнай творчасцю Дзмітрыя Бугаёва бачыцца творчы працяг лепшых нацыянальных крытычных традыцый, класічных. Выхаваны сваім часам, увабраўшы ў сябе гэты час, ён па-свойму паказаў гэты час, увасобіў у сваёй крытычнай творчасці. Зноў жа яго крытычная творчасць ахоплівае значны прамежак часу. Бо як крытык і літаратуразнавец друкуецца з 1957 года. Хаця першыя публікацыі з'явіліся ўжо ў 1951 годзе. І зразумела, што супастаўляючы творчасць, напрыклад, 60—70-х гадоў з творчасцю пачатку XXI стагоддзя, нельга не заўважыць і пэўных унутраных змен. Так, у творчасці сучаснай моцна адчуваецца, з аднаго боку, элемент эсэістычны, з другога — значная ўвага ўдзяляецца пісьменніку не толькі як творцу, але і як чалавеку. Пры ўсім пры тым вызначальныя моманты крытычнага падыходу да літаратуры застаюцца нязменнымі. Гэта — увага да творчасці канкрэтнага аўтара, здольнасць бачыць яе ў кантэксце літаратуры свайго часу, у суаднесенасці з жыццём і рэчаіснасцю. Нікольկі не зменшыўся ўнутраны дынамізм аўтаравага аповеду. На гэта асабліва хочацца звярнуць увагу, бо тут аўтарава зацікаўленасць, любоў.

Увогуле, знаёмячыся з тым, што напісана крытыкам за гады творчасці, нельга не здзівіцца багаццю і разнастайнасці літаратуразнаўчага матэрыялу — жанравай, індывідуальнай творчай, родавай. Але няма тут ні ў малой ступені ўсёеднасці, непераборлівасці. Усё гэта — творчасць, творы, пісьменнікі — было тое, што вызначала змест і характар літаратуры пэўнага часу, у той ці іншай ступені ўваходзіла арганічна ў літаратурны працэс. Не будзе перабольшаннем сцвярджаць, што Бугаёў жыў у літаратуры і літаратурай. Мне сёння цяжка назваць іншага крытыка, чыя б творчасць мела такі шырокі літаратурны абсяг і вылучалася выверанасцю мастацкага густу.

У гэтым няцяжка пераканацца, пазнаёміўшыся ў бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (т. 1) у артыкуле «Бугаёў Дзмітрый» з назвамі публікацый крытыка. Тут напачатку прыкметная асаблівая ўвага да творчасці Міхася Лынькова: дзесьці «вінавата» дысертацыя Бугаёва, тэма якой: «Проза Міхася Лынькова 20-х — пачатку 30-х гадоў». Першая манаграфія крытыка таксама прысвечана гэтай тэме. Але і ў пазнейшыя гады, па сутнасці да канца XX стагоддзя, творчасць і асоба таленавітага пісьменніка не знікалі з крытычнага літаратурнага абсягу даследчыка. Ён даследуе прозу пазнейшых гадоў, раман «Векапомныя дні», піша пра публіцыстыку пісьменніка, пра кнігі, прысвечаныя творчасці пісьменніка, пра Лынькова як чалавека.

Вось вялікі артыкул «Сэрца ў яго сапраўды было шчодрае (Міхась Лынькоў: пісьменнік і час)», пазначаны 1999 годам. Цікавы ён не толькі канкрэтнымі жыццёвымі фактамі, назіраннямі, але высновамі агульназначнага зместу і характару, датычнымі і творчасці мастацкай, і крытычнай. Перачытваючы ўласную кнігу, прысвечаную творчасці Лынькова, зазначае: «Перагортваючы яе (кнігу. — **С. А.**) цяпер, зноў і зноў пераконваўся, як моцна залежыць крытыка і літаратуразнаўства ад часу. Як многа вызначае ён у нашых пазіцыях». Пазней, больш катэгарычна: «...Менавіта час уладарна дыктуе новыя падыходы, неабходныя, нават абавязковыя для даследчыкаў, калі яны не жадаюць заставацца палоннікамі ўчарашняга і пазаўчарашняга дня». І яшчэ адзін вывад, датычны не так, можа, крытыкі, як разумення, ацэнкі непасрэдна самой сутнасці мастацкай літаратуры: «У сапраўды мастацкіх творах ідэалагічная арыентаванасць увогуле ўсё ж не самае галоўнае. Ва ўсякім разе яны, тыя творы, здольныя хваляваць і тады, калі нас не задавальняюць ідэалагічная пазіцыі іх стваральнікаў. Ці так ужо шмат у народным і прафесійным мастацтве мінулых стагоддзяў знойдзецца твораў, сугучных нам, сённяшнім, ідэалагічна, светапоглядна-палітычна? А нас хвалююць і «Рамаяна», і «Калевала», і «Манас», і гамераўскія «Іліяда» з «Адысеяй»... Можа падацца, што ў дадзеным выпадку крытык нібыта апраўдваецца. Зусім не. Ён вытлумачвае, як бы абагульняе раней зробленае. Бо рабілася ўсё якраз у гэтым кірунку, такія задачы вырашаліся. Можа нават і не свядома, так рэалізоўваўся крытычны талент. У творчасці Бугаёва (гэта асаблівасць сапраўднай крытыкі) заўсёды моцна адчуваецца прысутнасць часу. І часу непасрэдна крытычнага аналізу, і часу напісання самога мастацкага твора. Такое зусім натуральна і зразумела, калі ісці не ад якіхсьці больш ці менш агульназначных праблем, а ад канкрэтнага твора канкрэтнага пісьменніка. У Бугаёва гэта заўсёды так.

Што тут яшчэ істотна і характэрна? Крытык надоўга ўбірае ў сябе канкрэтны літаратурны матэрыял. Ён не адкідае яго як адпрацаваны, нават тады, калі па ім напісана кніга. Той літаратурны матэрыял (найчасцей творчасць пісьменніка) працягвае ў ім жыць, турбаваць. Змены ў нацыянальным літаратурным працэсе, змены ў духоўнай сітуацыі грамадства, а то і лёс народа і краю могуць па-іншаму ці то паказаць усю творчасць, ці то вылучыць якіясьці моманты раней незаўважныя, прыхаваныя. І яшчэ істотны момант: працяглае знаёмства з творчасцю пісьменніка, з ім самім паглыбляе сапраўднае разуменне творчасці, выразней робіць яго творчае і чалавечае аблічча. Найбольш відаць гэта ў манаграфіях пра творчасць Максіма Гарэцкага, Кандрата Крапівы, Максіма Танка, у папраўленых і дапоўненых ім іншых выданнях. Тое ж добра адчуваецца і ў манаграфічных артыкулах, прысвечаных творчасці вядомых пісьменнікаў — Уладзіміра Дубоўкі,

Міхася Лынькова, Івана Мележа, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча... Вось гэты дадатковы змястоўны і эмацыянальны эфект асабліва адчувальны тады, калі Бугаёў піша пра тых, з кім у яго аказваліся добрыя чыста чалавечыя стасункі. А складваліся яны, па сутнасці, заўсёды на літаратурнай глебе. І былі тут, так бы мовіць, прадстаўлены пісьменнікі самых розных пакаленняў, пачынаючы Дубоўкам, Крапівой, Лыньковым і да Янішчыц, Семашкевіча. Такі характар узаемадачыненняў з пісьменнікамі вызначыў і адпаведны тон — шчыры, паважлівы, пазбаўлены пэўнай вастрыні і рэзкасці, хаця Бугаёў і тут усё роўна сваё гаворыць. Так напісана адна з апошніх кніг «Служэнне Беларусі».

Кніга гэтая для крытыка дзесьці выніковая — па літаратурных праблемах, постацях, падзеях. Выніковая па праблемах, якія крытыка цікавілі ў яго творчасці за ўсе гады, выніковая сваім эмацыянальным ладам, вытлумачэннем асабістых чалавечых і пісьменніцкіх адносін да творцаў, людзей, літаратуры. Кніга выключнага драматычнага зместу. Здаецца, нідзе раней не ўзнаўлялася столькі і такіх драматычных падзей і фактаў з жыцця творцаў, як тут. Разам з тым нідзе раней не было такой уважлівасці, усебаковасці, добразычлівасці ў высвятленні, вытлумачэнні складаных творчых і чалавечых лёсаў.

Таго ж Уладзіміра Дубоўкі. Згадваюцца яго вершы, дзе праслаўлялася савецкая ўлада, камуністычныя ідэалы. То была плата за магчымасць нармальна дажыць свае дні, працаваць. Згадваюцца нялепшыя дні ў жыцці паэта, калі яго абвінавачвалі як злоснага ворага савецкай улады і вульгарызатар Бэндэ, і сур'ёзны даследчык літаратуры Піятуховіч, і Ю. Бярозка, які лічыўся сябрам. Ды што гэты... Яго малодшы брат, які быў закатаваны, публікаваў супраць паэта-брата вершы. Старэйшы брат, які вучыўся ў Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, выступіў з заявай, дзе гаварыў, што гатовы адмовіцца ад брата, калі абвінавачванні ў варожых адносінах таго да савецкай улады пацвердзяцца. Крытык заўважае, што «крыўду на брата ён (Дубоўка. — **С. А.**) захаваў і пасля вызвалення, блізкіх адносін з ім ужо не падтрымліваў».

Яшчэ адна заўвага: «Можна згадаць і тое, як адхрышчваліся ад Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі і іншых арыштаваных узвышаўцаў іхнія былыя сябры: Крапіва і Чорны, Бядуля і Глебка, Дарожны і Кляшторны, Мрый, Калюга і Лужанін. Вядома, так яны зноў жа ратаваліся самі, хоць не ўсім гэта ўдалося, бо бальшавіцкая машына знішчэння працавала бязлітасна».

Усё гэта сказана тут датычна творчасці і чалавечых паводзін аднаго пісьменніка. Але які драматычны, трагічны час у гісторыі ўсёй нацыянальнай літаратуры бачыцца, колькі пакалечаных творчых лёсаў. Зразумела, што трагізм часу «расстралянай літаратуры», драматызм часу рэабілітаванай і вернутай літаратуры, найбольш эмацыянальна глыбока, фактычна насычана, з пазіцый новага ўжо часу ўдалося Дзмітрыю Бугаёву паказаць і перадаць у манаграфіях, прысвечаных жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага і Уладзіміра Дубоўкі. Ды не толькі. У розныя гады пісаў ён пра В. Ластоўскага і Ц. Гартнага, М. Зарэцкага і П. Галавача, А. Мрыя і Я. Нёманскага, Р. Мурашку і В. Каваля, С. Грахоўскага і А. Чарнышэвіча. Крытык не проста знаёміў чытача 2-й паловы XX стагоддзя з балючай спадчынай, ён яе ўводзіў у нацыянальную гісторыю літаратуры. Больш за тое, далучаў гэтую балючую дзялянку нашай літаратуры да тагачаснага (а гэта — сучаснага) літаратурнага працэсу, духоўнага жыцця. Бо народжана была тая літаратура, творчасць іншым часам, шмат у чым несла змест ужо мінулы. Трэба было выявіць змест непераходны, злучыць з нацыянальнымі адвечнымі асновамі. Трэба было вылучыць, акрэсліць і адкінуць тое адмоўнае, што пакінуў той час. Так, завяршаючы надзвычай змястоўны і балюча шчыры артыкул пра таго ж Дубоўку, крытык падкрэслівае, што ў яго «гутарка толькі пра тое, што робіць несвабода з людзьмі, з самымі таленавітымі ў першую чаргу, як яна калі і не знішчае іх зусім, дык абкрадвае і праз прамое зняволенне, і праз немагчымасць на поўную сілу выявіць сябе. А ў канчатковым выніку гэта — і абкраданне цэлага народа, усяго чалавецтва».

І Бугаёў як крытык вельмі чулы да эстэтычных зрухаў і духоўных паневаў новага часу, з выключнай увагай падыходзіць да вывучэння, даследавання, асэн-

савання багацейшага і складанейшага жыццёвага і літаратурнага матэрыялу такіх няпростых мінулых гадоў. Якраз ва ўзнаўленні, інтэрпрэтацыі таго матэрыялу выявіліся высокія якасці даследчыка-навукоўца. Сучасная крытычная пазіцыя ніколькі не перашкаджае яму быць уважлівым пры падачы і ацэнцы творчасці, твораў, асобных літаратурных з'яў і фактаў у шырокіх сувязях з грамадска-палітычнай атмасферай часу, з жыццём таго ці іншага пісьменніка, улічваць думкі і меркаванні іншых. Увогуле такі «крытычны кантэкст» (і гістарычны, і сучасны) — адна з вельмі важных якасцей крытыка-даследчыка. Ён яго вывадам і ацэнкам надае дадатковую пераканаўчасць, робіць іх больш гістарычна аб'ектыўнымі. З іншага боку, такая аб'ектыўнасць ніколькі не выключае аўтаравай заангажаванасці нават у самім выбары тых ці іншых асоб, падзей, твораў. Не кажучы ўжо пра эмацыянальную насычанасць самога тэксту, якая ў пэўных выпадках, пры нармальным чалавечым стаўленні да іх, іншай і быць не можа.

Як вось тут — пра апошнія дні Вацлава Ластоўскага. Згадваюцца словы выгнанніка, адрасаваныя А. Багдановічу: «С меня примера не берите, я человек выбитый из колеи».

І далей: «Выбівалі яго з жыццёвай каляіны, адбіраючы Радзіму, любімы занятак, веру ў людское высакародства, жорстка, дзіка, з садысцкай вынаходлівасцю».

Такі тон, такі эмацыянальны лад пануе ва ўсім, што напісана Бугаёвым пра тую літаратуру. Лад болю, неўразумення, захаплення, шкадавання, здзіўлення. Ён быў прадыктаваны сучаснасцю, звязаны з адкрыццём гэтага змрочна-таямнічага, высокага і балючага мацерыка і нашай літаратуры, і нашага нацыянальнага жыцця. На вялікі жаль, і сёння да канца неасвоенага, неяк быццам занядбанага.

Абсяг крытычна-даследчай дзейнасці Д. Бугаёва агромністы. Літаратура 20—30-х гадоў, пасляхрушчоўскай адлігі, літаратура гадоў перабудовы і сучасная; літаратура розных відаў і жанраў — проза, паэзія, драматургія, крытыка; раман, аповесць, п'еса, паэма, эсэ, мемуарыстыка; творчасць пісьменніка і жыццё народа, час, гісторыя, творчасць пісьменніка і гісторыка-літаратурны працэс... Усе гэтыя пытанні, якія дзесьці могуць падацца ў адносінах да зробленага гэтым аўтарам занадта агульнымі, на самай справе заўсёды маюць канкрэтны адказ. Бо яго, аўтара, крытыка заўсёды перш за ўсё галоўным чынам цікавіць канкрэтны літаратурны твор, аўтар. А ўжо іх канкрэтны поўны і глыбокі аналіз, абавязкова прывядзе да разгляду, асэнсавання той ці іншай як бы тэарэтычнай агульнай праблемы. І не толькі. Настроіць на пэўны эмацыянальны лад крытыка, прадыктуе ў адпаведным эмацыянальным ключы падаць гэты матэрыял. Ужо гаварылася, у якім эмацыянальным ключы напісаны кнігі і артыкулы пра літаратуру рэпрэсаваную. Зусім па-іншаму пра творцаў таго ж пакалення, але тых, хто застаўся жыць і пісаў у пазнейшыя гады. Тут відаць жаданне паглядзець на творчасць больш шырока, дзесьці ацаніць нешта і крытычна. Уласціва такое ў найбольшай ступені ўсяму, што звязана з творчасцю Кандрата Крапівы і Міхася Лынькова. Творчасць іх шмат у чым разглядаецца і ацэньваецца з улікам іх чыста чалавечых якасцей, уведаных крытыкам асабіста.

Ва ўсім, што напісана пра творчасць Івана Мележа і Васіля Быкава (а гэта асобныя манаграфіі і мноства артыкулаў), пануе тон бясспрэчнага захаплення іх талентам, іх высокімі чалавечымі якасцямі. А такое, так сказанае слова, яно патрэбнае чытачу, яно дарагое для пісьменніка.

Цікавае ў гэтым сэнсе сведчанне Івана Чыгрынава. У сваёй невялікай прадмове да кнігі Дзмітрыя Бугаёва «Праўда і мужнасць таленту» ён згадвае: «Помню, як добра ставіўся Мележ. З пісьменнікаў я апошні размаўляў з Іванам Паўлавічам, калі той паміраў у бальніцы на Чырвонаармейскай. Мы тады шмат гаварылі з ім пра жыццё, пра літаратуру. Яму цяжка гэта давалася. Аднак мяне ён не хацеў адпускаць ад сябе. Адпачне, а пасля зноў пачне... Дык Мележ той часта згадваў Бугаёва. У дзявятым томе Збору твораў у яго ёсць такі запіс на 334-й старонцы: «За апошнія дні парадавала па-сапраўднаму адно: артыкулы (цэлых тры) — вялікая работа пра маю творчасць Д. Бугаёва. Даўно не чытаў пра творчасць такога добрага і, галоўнае, тал-

ковага слова. Здаецца, я недарэмна жыў і пакутаваў у літаратуры». Запіс зроблены ў «Дзённіку» 29.І.1976 года. Памёр пісьменнік 9.8.1976 г.

Тон душэўна-таварыскі прываблівае, выклікае давер у артыкуле пра Алеся Адамовіча. Тут арганічна спалучаецца аналітызм з багатай фактычнай насычанасцю мемуарнага і літаратурнага зместу, што дазваляе Адамовіча бачыць і як пісьменніка, і як даследчыка-крытыка, і як чалавека ў надзвычайна дынамічным грамадскім і літаратурным тагачасным жыцці. Без прасталінейных, катэгарычных ацэнак і высновaў, з аднаго боку. З другога — цёпла, але стрымана, з асабістай годнасцю і належнай павагай да таго, пра каго піша.

«Сапраўдны маштаб чалавека высвечваецца паступова, звычайна пасмяротна, калі ўжо ёсць магчымасць для сумарнай ацэнкі ўсяго, што ён паспеў зрабіць». Так заяўляе Бугаёў у самым пачатку артыкула «Пра Алеся Адамовіча». Якраз у такім плане і паспрабаваў крытык паглядзець на творчасць і асобу пісьменніка і крытыка, захаваўшы ўсю непасрэднасць уласных адносін да творчасці і чалавечнасць узаемадачыненняў. Артыкул быў напісаны ў канцы XX стагоддзя. Відавочна, што для крытыка меў ён прынцыповае значэнне. Ва ўсякім разе яго захапляючыя радкі такое падказваюць. Вось яны: «Ягоная ж (Адамовічава. — **С. А.**) духоўная прысутнасць грэе душу і цяпер, служыць напамінам пра тое, як неабходна, не зважаючы ні на што, не паддавацца паніцы і палахлівасці, а сумленна рабіць сваю справу пры любых варунках».

Словы гэтыя не проста вызначэнне, акрэсленне сваёй крытычнай пазіцыі пры ацэнцы творчасці і грамадскіх і чалавечых паводзін іншых, але і напамінак яшчэ раз пра сабе. Так думаецца, калі ўважліва знаёмішся ў пазнейшыя гады — у XXI стагоддзі. Пра гэта сведчаць падкрэсленая праблемнасць, філасафічнасць, эсэістычна-публіцыстычная стылістыка артыкулаў, прысвечаных асобным пісьменнікам.

«Рамантычны рыцар чалавечнасці» — артыкул пра творчасць і асобу Уладзіміра Караткевіча. Змест, праблематыка артыкула вызначаны ўжо ў самой назве. Сама па сабе праблема рамантызму ў дачыненні да творчасці гэтага пісьменніка не новая: Бугаёў шырока выкарыстоўвае матэрыял іншых даследчыкаў — і замежных (украінец Леанід Навічэнка, чэх Вацлаў Жыдліцкі), і беларускіх (Уладзімір Калеснік, Адам Мальдзіс, Анатоль Верабей).

Дарэчы, варта адзначыць, што, па сутнасці, ва ўсіх працах Бугаёва заўсёды відаць «крытычны кантэкст». Сваю думку, сваё меркаванне ён абавязкова суадносіць з тым, як пра гэта і што пішуць іншыя. І гэта не дзіўна, бо паглядзеўшы на напісанае ім пра крытыкаў і крытыку, лёгка пераканацца, што якраз ім зроблена, відаць, найбольш. Адсюль і абгрунтаванасць высноваў, шырыня падыходу.

Але вернемся да Караткевіча. Крытычныя выказванні іншых даследчыкаў патрэбны для выразнага вызначэння сваёй думкі, свайго разумення сутнасці творчасці Караткевіча, сцвярджэння гэтага.

«...Караткевіч і там, дзе ён у нечым ішоў ад рэальнай жыццёвай фактуры, пераствараў яе па законах рамантычнай паэтыкі...» Або: «...Караткевіч у адпаведнасці з характарам свайго таленту рамантызаваў нашу рэальную гісторыю. Агульны дух той ці іншай гістарычнай эпохі ён увогуле захоўваў, але ў рамантызаваным абліччы і ў той меры, якая не пярэчыла ягонай устаноўцы на выпрацоўку ў новых пакаленняў цікавасці, павагі і любасці да беларускай мінуўшчыны».

Гэтыя выказванні не спантанныя. Яны грунтуюцца найперш на ўважлівым аналізе творчасці пісьменніка, яго выказваннях, дзённікавых сведчаннях, на ўспамінах сяброў, паплечнікаў, вытлумачэнні некаторых яго характэрных жыццёвых учынкаў. Рамантыкам Караткевіч быў і ў жыцці, і ў літаратуры.

У гэтым артыкуле выключна моцна гучыць нацыянальная тэма. Прадыктавана, зразумела ж, найперш гэта зместам самога аб’екта даследавання. Але не толькі. Сама сучаснасць, літаратурная атмасфера вымагалі такога падыходу да асвятлення гісторыі. Невыпадкова, напэўна, і тое, што, як падкрэслівае даследчык, Караткевіч «стаў знакавай фігурай у нашай гістарычнай прозе». Называюцца імёны.

«І ў сваёй тэмпераментнай грамадзянскай паэзіі з адкрытай публіцыстычнасцю, і ў пяшчотнай інтымнай лірыцы, якая здзіўляе пачуццёвай глыбінёй, — гэта два крылы, што забяспечваюць натхнёны палёт паэта. Бураўкін дасягнуў самых высокіх вяршынь. Дай яму, Божа, як казаў мой стары настаўнік, здароўя і шчасця, яшчэ паберажы яго для Беларусі, бо ягонае мужнае і прачулае слова для адраджэнцаў асабліва патрэбна. Каб выжыць». Так прачула, узнёсла-драматычна канчаецца артыкул пра Генадзя Бураўкіна «Матчына слова дапамагала мне...» І зместам, і тонам такая канцоўка не выпадковая. Яна вынік усёй папярэдняй размовы пра творчасць, грамадскую дзейнасць слыннага паэта, яркага прадстаўніка свайго пакалення, пакалення шасцідзясятнікаў. Да гэтага пакалення адносіцца і сам крытык. Думаецца, што пабачанае, перажытае паэтам жыццёва, духоўна блізкае, зразумелае крытыку. Адсюль тон артыкула — шчыры, даверлівы, унутрана драматычны. Як і заўсёды ў Бугаёва, творчасць пісьменніка, яе аналіз і ацэнка даецца ў суаднесенасці з жыццём, з часам, вывяраецца сучаснасцю. А час быў няпросты. Усё гэта так ці інакш уплывала на творчасць, адбілася ў ёй. Зробленае ж паэтам крытыкам ацэньваецца з духоўных запатрабаванняў сучаснасці. А не ўсё сёння падаецца актуальным, прымальным, нават калі яно зроблена ў мастацкіх адносінах дасканала. Бураўкін жа паэт. І Дзмітрый Бугаёў у артыкуле выдатна выкарыстоўвае асабістыя паэтавы выказванні, разважанні пра час, пра творчасць. Гэты матэрыял дзесьці вельмі дапамагае (такое адчуванне) крытыку правільна і разам з тым тактоўна расставіць акцэнты пры ацэнцы зробленага паэтам.

Можа якраз тут, у гэтым даследаванні, выдатна паказана, у якой ступені творца залежыць ад часу, яму падуладны. І тут пазіцыя даследчыка і паэта супадаюць. Залежнасць творцы ад часу, падпарадкаванасць яго сучаснасці найбольш адчуваецца пры аналізе творчасці паэта пачатку новага веку. Відаць гэта ў паэта, моцна адчуваецца і ў крытыка. Галасы іх нярэдка гучаць ва ўнісон.

Бугаёў падкрэслівае: «Для яго (Бураўкіна. — **С. А.**) адданасць Беларусі і яе народу, нацыянальнаму адраджэнню — галоўны сэнс жыцця і ўсёй працы». А праца сёння — гэта творчасць, паэзія. Абарона дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, складанае мінулае народа і яго няпростая сучаснасць, драматычны лёс роднай мовы, без якой народ згіне, — галоўныя, асабліва балючыя праблемы паэзіі Бураўкіна нашых дзён. Іх падкрэслівае крытык, цытуючы паэта:

Перажыла наша родная мова
І Бенкендорфа, і Мураўёва,
Панскія здзекі,
Чэкісцкія чысткі,
Рогат імперскі,
Вырак фашысцкі...
Тых,
Што з трасянкаю ў галаве,
Перажыве!..

Верыць паэт, верыць крытык. Дай божа, каб так сталася!

Ужо адзначалася, што абсягі крытычнай увагі Бугаёва даволі шырокія, крытычнае чуццё вострае. Ён абавязкова заўважаў таленавітую творчую асобу, арыгінальны талент, глыбокі арыгінальны твор. У розныя гады ўвагу крытыка звярталі на сябе творы маладзейшых пакаленняў. Так з’явіліся ў ранейшыя гады артыкулы пра Рыгора Семашкевіча, Яўгенію Янішчыц, пазней пра Алеся Жука, Людмілу Рублеўскую, Алеся Наварыча і іншых. Тон гэтых артыкулаў іншы, чым у тых, дзе пісаў пра сваіх папярэднікаў. Ён больш добразычлівы, памяркоўны, больш сардэчны. Асбліва гэта адчуваецца ў выдатным манаграфічным артыкуле пра Яўгенію Янішчыц — «Летуценніца на скразняках эпохі».

Сама назва рамантычна-драматычная, паэтычна-ўзнёслая, шчырая, прачулая. Творчасць паэтычная і жыццё грамадскае, лёс асабісты і лёс роднага краю, родны кут і вялікі свет, змест артыкула і яго тон — усё гэта ўнутрана паяднана, арганічна цэласна Бугаёў даследуе паэзію, прасочвае, раскрывае яе вытокі («…не горад, а вёска была галоўнай крыніцай паэтычнага натхнення Яўгеніі Янішчыц»), выяў-

ляе супярэчлівасць і складанасць узаемадачыненняў жыцця прыватнага чалавека і лёсу творчага. Рабіць усё гэта тонка, глыбока, прачула. Настолькі пранікаецца творчасцю паэта, лёсам, што сам пачынае пісаць паэтычна.

«Палеская летуценніца імкнулася быць гранічна шчырай і сумленнай ва ўсім. У часы вялікага фарысейства гэта надзвычай складана, калі ўвогуле магчыма». І далей праз некалькі радкоў: «На жорсткіх скразняках бесчалавечнасці эпохі першымі гінуць летуценнікі з чулай душой і трапяткім сэрцам. Таму загінула і Яўгенія Янішчыц».

Такі лёс не аднаго сапраўднага паэта. Пра гэта напісана глыбока, праўдзіва, шчымліва, шчыра. Асабіста для мяне ўнутрана найбольш блізкія, цікавыя манаграфіі «Вернасць прызванню. Творчая індывідуальнасць Івана Мележа» (1977) і «Праўда і мужнасць таленту» (пра Васіля Быкава, 1995). Пісьменнікі, жыццю і творчасці якіх прысвечаны гэтыя манаграфіі, сталі знакавымі фігурамі ў нацыянальным літаратурным працэсе, у духоўным жыцці нацыі 2-й паловы XX стагоддзя. Розныя талентам, жанравымі і моўна-стылёвымі схільнасцямі, яны моцна былі павязаны з жыццём і часам, тонка адчувалі рух літаратуры, яе запатрабаванні. Імкнуліся ўвасобіць, спасцігнуць усё гэта ў сваіх творах, сваёй творчасцю. Кожны адметна, непаўторна — і па-свойму. Для Бугаёва-даследчыка якраз і важна было вызначыць, даследаваць гэтую адметнасць таленту, прасачыць шляхі яе фарміравання і жыцця, суадносячы ўсё з жыццём краіны, з павевамі часу. А дакладнае адчуванне подыху, пульсу часу найчасцей і вызначае галоўны праблемны напрамак, сам аб’ект даследавання.

Патрэба ўвагі да звычайнага чалавека, пошук каранёў нацыянальнай самабытнасці, асаблівая ўвага да народнага жыцця, увага да новага мастацкага асэнсавання мінулага свайго краю, уласцівыя літаратуры тых гадоў, якраз і выклікалі павышаную ўвагу крытыка да творчасці славутага майстра нацыянальнай прозы Івана Мележа. Заўчасная смерць таго шмат у чым абумовіла характар даследавання.

Як і ў іншых сваіх значных манаграфічных даследаваннях, творчасць пісьменніка, яе характар, даследчык звязвае з яго жыццёвай біяграфіяй, падае на шырокім літаратурным фоне, у кантэксце не толькі нацыянальнай літаратуры мінулых гадоў, але і сучаснай. Зноў жа ў гэтай працы, як і ў іншых, ён сумленна і даволі поўна выкарыстоўвае зробленае яго папярэднікамі на крытычнай дзялянцы, звязанай з творчасцю пэўнага пісьменніка. Дзе пагаджаючыся, а дзе і аспрэчваючы. А спрачацца Бугаёў умее.

Назва кнігі пра Івана Мележа і яе падзагаловак даволі пэўна акрэсліваюць яе змест і характар, нават логіку развіцця крытычнай думкі, размеркаванне матэрыялу. Вядома, што творчая індывідуальнасць пісьменніка выявілася асабліва арганічна, глыбока і поўна ў раманах «Палескай хронікі». Але здарылася гэта не раптоўна, не адразу. «Няпроста, няроўна ішла дарога», — прызнаваўся Іван Мележ у сваёй аўтабіяграфіі. Пазней, у артыкуле з характэрнай назвай «Знайсці сябе», гаворыць пра тое, што самае важнае ў жыцці пісьменніка — «гэта спазнаць, у чым ты моцны, у чым слабы, як ты можаш выказаць лепш сябе, што ты зможаш даць людзям. Самае важнае — знайсці сваё месца ў жыцці, сваю дарогу, знайсці сябе…»

Цытуючы гэтыя прызнанні, даследчык прасочвае, паказвае складанасць творчага шляху пісьменніка, маючы на ўвазе, што «ён набываў сталасць разам з самім часам, настойліва ўдасканальваў і ўзбагачаў сваё пісьменніцкае майстэрства». Якраз у гэтым аспекце разглядаецца творчасць Мележа, якая папярэднічала «Палескай хроніцы».

Даследаванне шляху пісьменніка ў літаратуру, высвятленне жыццёвых асноў, вытокаў творчасці — усё гэта грунтуецца на багатых асабістых сведчаннях Мележа. Слушна гаворыцца пра нязгасную Мележаву любоў да мастацкай літаратуры, нястомную вучобу ў папярэднікаў. І ўсё ж, робіць вывад крытык, Мележ прызнаючы неабходнасць літаратурнай школы, вернасць традыцыі, неаднаразова падкрэслівае вызначальнасць уласнага жыццёвага вопыту, вялікай школы жыцця.

Рашуча сцвярджае: «Самым каштоўным для пісьменніка лічу асабісты вопыт. Вялікі ці малы, салодкі ці горкі, але асабісты. Вопыт жыцця».

У манаграфіі адзначаны і акрэслены асноўныя вехі набыцця пісьменніцкага вопыту. Асаблівая ўвага звернута на вопыт ваенных гадоў. Цяжкі, пакутлівы, але такі важны і неабходны. Жыццё ўласнае, жыццё народа і літаратура — крыніцы, якія пастаянна жывілі талент Мележа.

Разглядаючы творы, напісаныя да «Палескай хронікі» (а гэта апавяданні, п'есы, раман «Мінскі напрамак»), Бугаёў імкнецца засяродзіць увагу на самым характэрным у іх, вызначальным. Так, у першых апавяданнях першых зборнікаў крытык адзначае ўвагу пісьменніка да жыцця звычайнага, штодзённага, добрую псіхалагічную дакладнасць у раскрыцці чалавечых характараў.

Аналіз рамана «Мінскі напрамак» скіраваны перш за ўсё на тое, каб прасачыць фарміраванне эпічнага майстэрства пісьменніка і паказаць унутранае самасцвярджэнне Мележа як мастака. Аналізуючы неаднаразовую перапрацоўку гэтага рамана, крытык адзначае паляпшэнне моўна-стылёвай фактуры, паглыбленне эмацыянальна-псіхалагічнай адпаведнасці «паміж учынкамі, ладам думак, спосабам іх выказвання і характарам персанажаў». А гэта якраз тое, што так бліскуча выявілася ў «Палескай хроніцы».

Сам жа аналіз, разгляд гэтага твора цікавы і каштоўны тым, што «Хроніка» ўключана арганічна ў «сістэму» пісьменніцкай творчай індывідуальнасці, суаднесена з творчасцю папярэдняй і наступнай (планы, накіды). Прачытанне «Людзей на балоце» і «Подыху навальніцы» ў кантэксце ўсёй творчасці дазволіла выявіць, паказаць тыя ці іншыя моманты, якасці, на якія раней увага не была звернута, дазволіла ўбачыць усе ідэйныя і мастацкія кампаненты ў адзінстве — як мастацкі свет. Бугаёву ўдалося (да гэтага ён імкнуўся) вылучыць у раманах тыя мастацкія і маральныя аспекты, якія тады асабліва прываблівалі літаратуру ці выкрышталізаваліся як пэўны мастацкі прынцып.

Адну з самых істотных прыкмет сапраўднай эпічнасці раманаў даследчык бачыць у тым, што Іван Мележ «праз нялёгкія лёсы сваіх герояў і іх напружаныя сутыкненні ў абвостранай класавай барацьбе… глыбока адлюстраваў лёс народа ў пераломны перыяд гісторыі». Развіваючы гэтую думку, Бугаёў даводзіць: «…Вялікі эпас, думаецца, і ў наш час немагчымы без шматгранных, шырока абагульненых характараў, якія сваімі карэннямі сягаюць у глыбіні народнага жыцця і таму дазваляюць мастаку прасвечваць гэтыя глыбіні, даследаваць значныя пласты народнай гісторыі».

Гэтыя думкі ўяўляюцца своеасаблівым фундаментам, на якім будуецца разгляд вобразнай сістэмы, мастацкіх асаблівасцей дылогіі. Усебакова аналізуючы вобразы Васіля, Міканора, Апейкі, Ганны, даследчык галоўную ўвагу скіроўвае на выяўленне ў іх сацыяльна-гістарычнага зместу, агульнанароднай сутнасці. Такі падыход дазволіў у індывідуальна непаўторным (а яно вылучаецца), гістарычна абумоўленым убачыць агульнанароднае, агульназначнае.

Такім агульназначным момантам у жыццёвым лёсе, напрыклад, Васіля з'яўляецца праца. Праца «не толькі гартуе хлопцаву ўпартасць, яго надзвычай моцны сваёй жыццёвай учэпістасцю характар, з'яўляючыся для зацятага палешука адзіным сродкам заняць трывалае месца пад сонцам, але з гадамі становіцца яго душэўнай патрэбай, вызначае галоўныя асновы яго ўнутранага свету». Праз працу і ў працы ў найбольшай ступені ён сцвярджае сябе і як чалавек і як асоба. Раскрываючы характары, Бугаёў суадносіць жыццё чалавека з жыццём народа — як гэта і паказана ў раманах. Добра такі падыход відаць пры аналізе вобразаў Васіля, Апейкі, Міканора, Ганны, у якіх моцна і глыбока адчуваецца народная аснова. Такі аналіз вобразнай сістэмы дае магчымасць паказаць усю складанасць, глыбіню і шматграннасць той рэчаіснасці, якая ўзноўлена талентам выдатнага мастака.

Аналізуючы прозу Мележа, яе суб'ектыўныя і аб'ектыўныя вытокі, раскрываючы яе ідэйны змест, сутнасць вобразнай сістэмы, даследчык заўсёды мае на ўвазе яе мастацкае аблічча, яе мастацкі характар. Ён уважліва разглядае моўнае

майстэрства «Хронікі», псіхалагізм, публіцыстычнасць і лірызм. У адных выпадках ён як бы падагульняе тое, што сказана яго папярэднікамі, пагаджаючыся ці спрачаючыся з імі, у іншых ідзе далей, кажа сваё слова.

Вось разважанні пра такі Мележаў прыём даследавання характараў і паказу рэчаіснасці, як асвятленне пэўнага эпізоду з пункту гледжання некалькіх персанажаў або паказ падзей праз успрыманне тых персанажаў, якія ў гэты момант цікавяць пісьменніка і самі зацікаўлены ў гэтых падзеях. Вывад Бугаёва: «Адным словам, у “Палескай хроніцы” ствараецца мнагамерная карціна жыцця з жывымі галасамі розных герояў, з глыбока адлюстраваным светам іх думак і пачуццяў, бо тут кожны значны для ўвасаблення задумы персанаж калі не ў адным, то ў другім раздзеле або эпізодзе атрымлівае магчымасць сваім бачаннем вызначаць аснову аўтарскага апавядання і тым самым разглядаецца набліжана да нас, буйным планам, праз яго душу. Таму мы і бачым знутры, глыбока разумеем Васіля і Ганну, Міканора і Апейку, старога Глушака і яго сына Яўхіма».

Раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» ў кнізе «Вернасць прызванню» разгледжаны, праанялізаваны ўсебакова. Поўна. Жыццё і клопаты мастака, жыццё народа, гісторыя і сучаснасць, нацыянальная празаічная традыцыя і лепшыя дасягненні савецкага і сусветнага рамана — усё гэта ў той ці іншай ступені ўвасоблена ў «Палескай хроніцы», усё гэта ўлічвае даследчык.

Вялікую цікавасць выклікае апошні раздзел кнігі — «Працяг “Палескай хронікі”». Прысвечаны ён аналізу рамана «Завеі, снежань», а таксама накідаў наступных двух раманаў, якія павінны былі ўвайсці ў «Палескую хроніку» — «За асакою бераг», «Праўда вясны». Гэты аналіз даў магчымасць даследчыку па-новаму глянуць і на раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», на ўсю творчасць майстра слова. Пісьменніка турбавалі вялікія, вартыя яго таленту, задумы. Як мастак, як грамадзянін і чалавек Мележ у апошнія гады жыцця асабліва востра ўспрымаў сучаснасць, быццё сучаснага чалавека, бачыў іх у глыбокіх гістарычных сувязях, у гістарычнай абумоўленасці, з асаблівай патрабавальнасцю, сумленнасцю і прынцыповасцю ставіўся да літаратуры, да мастацкай творчасці.

Манаграфія пра Івана Мележа выйшла ў 1977 годзе. Мележа ўжо не было. Але творчасць выдатнейшага нацыянальнага празаіка, яго чалавечая постаць не знікаюць з-пад увагі даследчыка Д. Бугаёва. Ужо ў пачатку новага тысячагоддзя, у 2001 годзе, піша артыкул «Некалькі згадак пра Івана Мележа». Артыкул мемуарнага зместу. У самым пачатку крытык зазначае: «Сярод найбольшых шанцаванняў у сваім жыцці лічу тое, што ў мяне складваліся прыязныя адносіны з многімі добрымі беларускімі пісьменнікамі, у прыватнасці з Іванам Мележам». І далей: «Суб’ектыўнасць проста непазбежная ў любых успамінах. Мележа розныя людзі таксама ўспрымалі па-рознаму. Для мяне ж ён назаўсёды застаўся ўзорам пісьменніцкай апантанасці, чалавекам вялікай добразычлівасці». Усё, напісанае Бугаёвым пра Мележа, пранікнута нязменнай павагай, глыбокай чалавечай прыязнасцю.

У мяне асабістая ўвага і цікавасць да гэтага артыкула. Бугаёў піша: «Шмат гаварылася пры той сустрэчы пра Серафіма Андраюка». Чаму? У артыкуле расказваецца. Сутнасць уся ў маёй крытычнай ацэнцы творчасці Мележа да з’яўлення «Людзей на балоце». У прынцыпе я і праз гады ад гэтай ацэнкі не адмаўляюся. Але выказана яна, напэўна, была рэзка. У той час хацелася быць прынцыповым у адносінах да ўсіх. Сёння разумееш — і ўважлівым, чулым. Бо згадваецца такое — і ўзнікае нейкая няёмкасць, шкадаванне.

Творчасць і асоба Васіля Быкава вось ужо больш як паўстагоддзе знаходзіцца ў полі зроку крытыка, даследчыка Дзмітрыя Бугаёва. Рэцэнзія на кнігу «Жураўліны крык» з’явілася на старонках часопіса «Маладосць» (№ 12) у 1960 годзе. У 1987 годзе выходзіць у серыі «Народныя пісьменнікі БССР» нарыс жыцця і творчасці «Васіль Быкаў». Але і ў пазнейшыя гады крытык пастаянна звяртаецца да жыцця і творчасці славутага пісьменніка. Працуе і над манаграфіяй. У кнізе выбранага ў 1995 годзе назва манаграфіі «Праўда і мужнасць таленту» (дарэчы, гэта ўсёй кнігі), жанр вызначае як «Кніга пра Васіля Быкава». Першае выдан-

не тут пашыранае, дапоўненае новымі матэрыяламі. Асноўны тэкст пазначаны гадамі: 1985—1986, 1993; перадапошні раздзел, прысвечаны разгляду рамана «Кар'ер» — 1986, 1988; апошні раздзел «Ахвяры "вялікага пералому"» — 1989, 1993. У такой уважлівасці да датавання тэкстаў выявілася па-сапраўднаму даследчыцкая натура аўтара. У назве ж і вызначэнні жанру — галоўная, скразная ідэя. І пасля гэтага выдання Бугаёў не раз звяртаўся да творчасці пісьменніка.

«Праўда і мужнасць таленту» — назва, якая вельмі дакладна вызначае сутнасць творчасці і самой асобы Васіля Быкава. На першай жа старонцы крытык дае яе тлумачэнне, выказвае сутнасць: «Усе поспехі пісьменніка забяспечаны самаадданай, гранічна сумленнай працай вялікага таленту, адметнага і сваёй магутнай стваральнай сілаю, і надзіва паслядоўнай мэтанакіраванасцю. Гэта праца, вядома ж, заўсёды вызначалася, а часта патрабавала і вялікай грамадзянскай мужнасці ў адстойванні глыбіннай праўды пра чалавека XX стагоддзя, праўды, выпакутаванай не толькі напружаным мастакоўскім пошукам, але і ўласным жыццём». Праз некалькі радкоў: «Ды без вялікай мужнасці і пастаяннай гатоўнасці на самаахвярнасць глыбінная праўда і не здабываецца».

Трэба адзначыць, што думка гэтая, скразная ідэя не ўзнікла адразу, сама сабою. Зусім не. Яна выспелілася паступова — як вынік доўгага мэтанакіраванага даследавання і вывучэння творчасці выдатнага нашага пісьменніка. Бугаёў паслядоўна, адзін за другім, уважліва разглядае яго творы, прасочваючы рух аўтаравай думкі, характар мастацкіх змен. Робіцца гэта грунтоўна, шырока, па-філасофску заглыблена. Багата выкарыстоўваецца крытычны матэрыял, звязаны так ці інакш з ацэнкай твораў Васіля Быкава, з іх кніжным лёсам, найперш матэрыял рускай крытыкі, усесаюзнай. І ў гэтым добра адчуваецца, як творчасць набывае ўсё большы рэзананс: нацыянальны — саюзны — усенародны. Дакладны ж, паслядоўны ў часе аналіз твораў (ніводзін не прапушчаны) добра падае ўнутраную дынаміку творчасці, рух яе вобразнай сістэмы, змены ў тэматыцы, праблематыцы. Ад канкрэтнага паказу вайны ў першых творах праз вылучэнне і вырашэнне тэматыкі экзістэнцыйнага зместу да эпічнага спасціжэння жыцця нацыянальнага. Здавалася б, у творах апошніх гадоў выкарыстаны жыццёвы матэрыял непасрэдна ў падзейным, сацыяльна-бытавым змесце менш знаёмы Быкаву, асабіста не перажыты. Але энергетыка пісьменніцкага пачуцця, ідэі, падпарадкоўвае матэрыял, напаўняе сучаснасцю, робіць яго жывым. Такім падаецца творчы шлях славутага пісьменніка.

Увогуле трэба адзначыць, што Дзмітрый Бугаёў і ў кнігах-манаграфіях, і ў манаграфічнага характару артыкулах выдатна ўмее стварыць, падаць літаратурны партрэт пісьменніка. Багата насычаны жыццёвымі і літаратурнымі фактамі, напоўнены духоўнай атмасферай свайго часу, ярка выяўленымі асабістымі адносінамі самога крытыка.

Адна з апошніх кніг Бугаёва называецца «Служэнне Беларусі». У ёй змешчаны яго сямнаццаць артыкулаў мемуарна-манаграфічнага зместу. У кожным з іх падаецца творчасць і чалавечае аблічча сямнаццаці аўтараў. Усе, пра каго напісана гэтая кніга, творцы рознага часу, розных чалавечых якасцей, асабістых і грамадскіх лёсаў, працавалі на розных літаратурных дзялянках… Але ўсіх іх яднае іх творчасць, іх жыццё, адна высокая мэта — служэнне Беларусі.

Упэўнены, што і жыццё, і творчасць выдатнага крытыка, даследчыка таксама падпарадкаваны гэтай высокай мэце.

Віктар ГАРДЗЕЙ

# «КРЫШТАЛЬНАЕ ДНО САМЫХ ВЫСОКІХ НЯБЁСАЎ...»

Спачатку, стралой вылецеўшы з дрымучага і не менш знакамітага Машукоўскага лесу, сучасная асфальтаваная шаша, да мільгацення ў вачах расквечаная ахоўнымі дарожнымі знакамі і белымі палосамі, тут, акурат на мяжы Клецкага і Ганцавіцкага раёнаў, заўважна, у адно імгненне, замаруджвае імклівы бег, нібыта палохаецца, што леваруч з таго ж самага лесу не вынырнула яе адвечная спадарожніца — ціхаплынная, казачнай прыгажосці рэчка Нача. Але гэта не містычны падман: проста адразу за верставымі слупамі раптоўна памяняліся звыклыя воку малюнкі палескай прыроды. Пасля мімалётнага ўтрапення шаша зноў набірае разгон і, не ўтаймаваная няспынным грукатам аўтатранспарту, кіруецца на Ганцавічы праз бярозавыя пералескі і задумлівыя разлогі, дзе не часта цяпер трапляюцца людныя сялібы і абжытыя хутары.

Насупраць, адразу за шэрай стужкай асфальту, позірку адкрываецца шырокі палявы абсяг з роўнай і прамой, як пад шнур, селавой дарогай. Па ёй можна дайсці і даехаць хоць на край свету, але іншых дарог паблізу няма, і зацятаму вандроўніку трэба рашацца на нейкі, для сябе найбольш зручны, варыянт: ці чакаць якой аказіі, ці тэпаць да патрэбнай вёскі пяшком не меней як пяць вёрст, нават з гакам. Інакш кажучы, глытаць дарожны пыл у кузаве выпадковага грузавіка або даць волю маладым, яшчэ не стомленым нагам нацянькі па лубінавым полі, любуючыся незвычайна ўражлівымі тутэйшымі краявідамі. Ужо праз некалькі хвілін няспешнай хадзьбы добра наезджаны і ўтаптаны прасёлак спусціцца ў балоцістую лагчыну, і наперадзе запярэсцяць яшчэ не блізкія дахі сялянскіх хат, а што да нашай бяглянкі-прыгажуні Начы, якая ад самай Сіняўкі, віхляючы змейкай, бегла амаль упобачкі з шашой, то рэчка-гарэза як знікла неўпрыкмет дзесьці ў ваколіцах вёскі Машукі, так неўпрыкмет і знойдзецца на водшыбе вёскі Крышылавічы, але ўжо з іншага боку ляснога перашыйку. Ну, якога рамантыка не забавіць такая перспектыва прагуляцца на свежым паветры без асаблівых турбот пра нейкія хмарныя дні і згрызоты жыцця!

Мінула ўжо амаль паўвека, калі мне, карэспандэнту тагачаснай ляхавіцкай раённай газеты, ці не ўпершыню собіла прайсціся наўсцяж квітучай абалоны прыгажуні Начы, якую так хораша і вобразна апявалі ў сваіх вершах усе без выключэння паэты-землякі: Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, а пазней і маладзейшы Уладзімір Марук. Навакольныя пейзажы не адзін раз мянялі сваё аблічча, абнаўляліся бальшакі і прасёлкі, але з памяці чамусьці выплываюць не сённяшнія, самыя свежыя, і таму дужа ўражлівыя і пераканаўчыя, а тыя, даўнія, яшчэ незабытыя, малюнкі і з'явы прыроды, цёплыя сустрэчы і сумныя ростані. Не ведаю, як хто, а я ў маладыя гады любіў хадзіць пяшком: на самоце хоць галёкай, хоць складай уголас куплеты — ніхто не пачуе, не пасмяецца. Але, азірнуўшыся цераз плячо, здзіўлены раптоўным шоргатам ветру, адразу прыбавіў кроку. З-за Машукоўскага лесу, увачавідкі запаўняючы абсяг, выплывала шэра-попельная хмара, і нават чуваць было, як дзесьці блізка, над жоўтым лубінавым полем, глуха буркнуў гром. Давялося ўцякаць ад навальніцы ледзь не ўподбег, бо важкія кроплі ўжо запляскалі па мокрым пяску прасёлка. Заспетаму сярод насупленай раўніны бурай і дажджом, мне цяпер не да разгляду сустрэчных людскіх сяліб, хаця не да месца падумалася: якія прыгожыя назвы! Кукаў-Бор, Востраў, Гута — тут адно і нараджацца таленавітым паэтам!

Такому «алімпійскаму» спрынтару, як я, уцячы ад раззлаванай хмары, вядома, не ўдалося: праліўны дождж і вецер дагналі ўжо за Востравам — у суседняй Гуце, дзе галоўнай вуліцай служыць усё тая ж селавая дарога: справа — прыціхлыя сялянскія хаты, злева — заваложаная дажджавою смугой абалона рэчкі Нача. За нейкі год рэдакцыйнай працы я добра засвоіў навуку: у непагадзь вандроўніка або раённага газетчыка прытуліць любая вясковая ўстанова — ці то пошта, ці быткамбінат, ці яшчэ якая кантора. У Гуце порсткі дождж загнаў акурат пад дах сельскай крамы, якая стаяла пры самай дарозе, і трэба было толькі радавацца, што вымак не вельмі, і можна было ў зацішку трохі прасушыцца, адпачыць. Але ў той жа момант у закрачанае акно хтосьці выглянуў, дзверы шырока і гасцінна расчыніліся. «Не стой, хлопец, пад грымотамі»,— сказаў невысокі, з лагодным тварам мужчына. «Але, заходзьце ўсярэдзіну»,— гэтак жа ветліва запрасіла жанчына, таксама па ўзросце яшчэ даволі маладога веку. Як я ўцяміў з размовы, гэта былі муж і жонка Антон Васільевіч і Надзея Уладзіміраўна, з распаўсюджаным у Гуце прозвішчам — Марук. Даведаўшыся, што я прыехаў сюды з газеты, сардэчныя людзі запрасілі мяне ў сваю хату — зусім побач з крамай, накармілі, сагрэлі чаем і пасля прыемнай гутаркі нават правялі на прыпынак, дзе можна «прагаласаваць» спадарожнай машыне, якіх яшчэ і ў сярэдзіне шасцідзясятых тут траплялася няшмат. Пра тое, што я выпадкова гасцяваў у бацькоўскай хаце будучага выдатнага паэта Уладзіміра Марука, я, канечне, не мог ведаць, ды і самога Валодзю ў той дзень не пабачыў — дзесьці, мабыць, гойсаў з сябрамі па вуліцы ці лавіў на рэчцы акунёў і плотак — любімы летні занятак падлеткаў. Толькі намнога пазней, калі я працаваў ужо ў Ганцавічах, мне стаў вядомы гэты дзівосны факт, а тады, пасля шчырай бяседы, мы выйшлі з Маруковай хаты, і нас здзівіла цішыня на дварэ і святлынь у наваколлі. Неба ўжо распагодзілася, хмары гуртаваліся далёка над Лактышамі, а ў прасветлінах паміж белымі аблокамі, вымыты ліўнем блакіт казачна свяціўся. Я разумеў, што гэтае свячэнне ад яркай вясёлкі, а яна вольна раскінулася за прырэчнымі лугамі, і цяпер, нават праз дзесяцігоддзі, калі бачу нешта падобнае ў высокіх нябёсах, мне кожны раз згадваецца пазнейшы цудоўны Валодзеў верш пра сваю родную Гуту:

Гута — крыштальнае дно
Самых высокіх нябёсаў.
Хаты бацькоўскай акно
З дзедавым полем зжылося.

Не глядзяцца яны,
Як выпраўляемся ў людзі…
Гута. Крышталю званы
Песняй напоўнілі грудзі.

І немагчыма ступіць
Нам на мяжу адчужэння:
Цяжка, як цяжка любіць
Гуту майго пакалення.

Дзе ад яго і відно
Тое, што нам засталося —
Гэта крыштальнае дно
Самых высокіх нябёсаў.

Эпіграфам цудоўнага верша Уладзімір Марук невыпадкова паставіў радок свайго любімага паэта з Магілёўшчыны Анатоля Сербантовіча: «Вёска Гута, скажы мне, Гута…» Як бачна, тая ж самая назва вёскі, і амаль такая ж здагадка, што бацькоўскія хаты не глядзяцца, як дзеці выпраўляюцца ў людзі. Мабыць, таму тут дужа высокія нябёсы, асабліва, калі пасля дажджу воблакі падсвечаны яркай вясёлкай, і «крышталю званы песняй напоўнілі грудзі». Вёска Гута прытулілася на ўзбярэжжы рэчкі Нача, сама па сабе не дужа і вялікая, але старажытная, хаця ніякіх звестак пра саматужны выраб крышталю і шкла да нашых дзён

не захавалася. Пройдзе яшчэ шмат гадоў, калі я сустрэнуся з Валодзем Маруком, яшчэ не ведаючы, што ён гадаваўся акурат у той хаце, дзе мяне аднойчы захапіла навальніца.

Шкада, што ў мяне няма ніякіх біяграфічных звестак паэта, напісаных рукою самога аўтара. Таму, узнаўляючы ягоны жыццяпіс, даводзіцца карыстацца галоўным чынам матэрыяламі, сабранымі супрацоўнікамі Ганцавіцкай раённай бібліятэкі ці апублікаванымі ў газетах і часопісах, а таксама ў зборніках, якіх у яго не так і многа. Але і тут здараюцца недакладнасці, бо нідзе ў друку не гаворыцца пра першыя літаратурныя крокі Уладзіміра Марука на ганцавіцкай зямлі, пра ягоны даволі актыўны ўдзел у рабоце літаб'яднання «Рунь», а таксама пра паэтычныя падборкі адоранага юнака з вёскі Гута. Да сённяшняга часу з тых даўніх лірычных вершаў, надрукаваных у раённай газеце, помніцца гэты, прысвечаны бацькоўскаму краю, палескай зямлі, і якім паэт засведчыў сябе як арыгінальны і таленавіты творца:

Край вытокаў. У лясах палескіх,
Ля крыніц, ля векавых імшар
Выраслі дзяўчаты, як пралескі,
Здзейснілася столькі нашых мар.

Тут для нас становіцца падзеяй
Кожная драбнічынка жыцця,
Ад якой і на душы чысцее,
Ад якой — і крок да адкрыцця.

Гэта, як бачна, шчырае юначае прызнанне ў любові да песеннага Палесся і да роднай Гуты, над якою такое высокае неба з чараўнічым крышталёвым ззяннем блакіту. Тут у дружнай сялянскай сям'і, відаць, наканавана было нарадзіцца 6 студзеня 1954 года Уладзіміру Антонавічу Маруку, хаця далейшы ягоны лёс складваўся не заўсёды ўдала, а то і зусім гаркотна. Вучыўся ў Гуцянскай і Нацкай сярэдніх школах, потым — у Моўчадскай санаторнай школе-інтэрнаце ў суседнім Баранавіцкім раёне. У 1970 годзе закончыў школу і паступіў на вучобу ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, дзе і адбылося творчае станаўленне будучага паэта. Менавіта ў гэты перыяд у газеце «Магілёўская праўда» былі апублікаваны вершы У. Марука «Беларусі», «Пазаслалі хмары ўсе шляхі» і іншыя. Адарваны, здавалася б, ад родных каранёў, ад тае прасторы, што знітоўвае душу з паэтычным светабачаннем, Уладзімір усё ж умацаваўся ў сваіх паэтычных перакананнях. Поруч быў і настаўнік — вядомы паэт Аляксей Пысін, які ўмеў заўважыць і падтрымаць талент.

Пасля заканчэння вучобы ў тэхнікуме Уладзімір Марук прыехаў на Ганцаўшчыну. Працаваў у цэнтральнай раённай і раённай дзіцячай бібліятэках, Шашкоўскай сельскай бібліятэцы, у аўтаклубе. Забягаючы наперад, варта адзначыць, што за час сваёй творчай дзейнасці Уладзімір выдаў кнігі паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам», «Ехаў Чыж у Парыж», «Чыж вярнуўся з Парыжа» і іншыя, займаўся перакладамі з рускай, армянскай, узбекскай, туркменскай моў на беларускую, аўтар шматлікіх нарысаў, публікацый. Зямны шлях таленавітага паэта пасля цяжкай хваробы абарваўся ў самым росквіце жыццёвых і творчых сіл 23 студзеня 2010 года. Пахаваны на могілках у Калодзішчах. Шмат задуманага ім так і засталося нерэалізаваным, многія вершы засталіся ў рукапісах. Ганцавіцкія аматары паэзіі, смуткуючы па незваротнай страце, у газеце «Савецкае Палессе» выказалі пажаданне: «Хочацца спадзявацца, што сябры паэта зберагуць літаратурную спадчыну Уладзіміра Марука і ўвасобяць яе яшчэ ў адну кнігу паэта».

І гэтае пажаданне землякоў, вымаўленае ад шчырай душы, збылося. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва» (цяпер — «Звязда») выпусціла ў свет паэтычны зборнік «Кудмень», падрыхтаваны ў рукапісе самім аўтарам, яшчэ пры жыцці, і не яго віна, што кніга трапіла да чытачоў занадта позна, аднак у тым выглядзе, якім і задумаў яе таленавіты паэт. У анатацыі зборніка, як бы ахвярна падараванага нам з той далечы, куды ўжо не дайсці, ні даехаць,

справядліва гаворыцца, што, шукаючы суладдзя паміж ранімай душой і жорсткім рэальным светам, «паэт часта адыходзіць ад звычайных быційных праблем і скіроўвае сваю думку да тэм вызначальных, паняццяў абстрактных: жыццё і смерць, дабро і зло…» Цёплую прадмову «Слова чыстае, як першы снег» напісаў вядомы крытык і літаратуразнавец Алесь Марціновіч і нават патлумачыў сэнс слова «кудмень» — як амулет, засцярога ад розных бед і напасцяў. Сапраўды, у нашай мясцовасці кудмень у значэнні абярэга вядомы спрадвеку, аднак слова чамусьці не замацавана ў тлумачальных слоўніках, хаця не пагрэбавалі ім складальнікі кнігі «Беларуская міфалогія».

У апошнія гады жыцця Уладзімір Марук надрукаваў шэраг вершаваных падборак у часопісе «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва». У перакладзе на рускую мову — у «Литературной газете», часопісах «Нёман», «Вологодский лад». І гэта былі вершы, што пранізвалі душу, адкрывалі многія і многія таямніцы, вялі паэта да вечнасці… Ён вельмі любіў сваю Бацькаўшчыну — і малую, і вялікую. Прайшоў і аб'ездзіў родны край уздоўж і ўпоперак, аддаў яму цяпло свайго сэрца і ясны жаль сваёй чалавечай душы, пра што сказаў яшчэ ў юнацтве:

Я з тых, хто не вякуе,
Хто сее і хто жне.
Прашу, пакуль жыву я,
Не дбайце пра мяне.

Вятрыска ранкам будзіць,
Мне ластаўкі пяюць.
Я рад, што побач людзі
Шчаслівыя жывуць.

Што небакрай палае
Пад стрэшкай навальніц
І раніца чакае
Багатых касавіц.

Сенакоснай парою так і бывае. Прашуміць яшчэ не адна летняя навальніца з грымотамі і ветраломам, над маленькай Гутай зноў будзе свяціцца «крыштальнае дно самых высокіх нябёсаў», пакуль на берагах рэчкі Начы сталеў, набіраўся моцы паэтычны талент Уладзіміра Марука. Тады ж, у школьныя гады, ён пісаў цудоўныя вершы, і адзін з іх нават патрапіў у ягоную першую кнігу. Лірычная замалёўка называецца ледзь не па-школьнаму «У паходзе», хаця юнага творцу хвалююць сур'ёзныя, не вясковыя і не мясцовыя, а ледзь не глабальныя тэмы: «Брадамі выйдзем за Арэшніцу» // Паўз лес да межавых разор. // І гарадскую песню весніцы // Праводзяць з радасцю на двор». Бачна, у падарожжа за рэчку Нача выбраліся дзеці, а то і падлеткі, у вёсцы Арэшніца іх сустрэне чужая ветлівая гаспадыня, у хаце яе «на шастку каўбас паменшае», і ніхто ў гэты вечар не засне. Юныя падарожнікі, вярнуўшыся дамоў, будуць доўга ўспамінаць цудоўнае зорнае неба, і салодкія і горкія слёзы, гора і беды людзей, пра што ім апавядала незнаёмая сялянка, аж пакуль «ноч не прамчыцца над узгоркамі». Мне асабіста ў гэтым вершы падабаецца яркая метафара, даволі нечаканая для падлетка, няхай і дужа таленавітага: «Чырванагрывы ранак гоніцца за чарнабровай ноччу ўслед». Ці не адсюль пачынаецца прыхільнасць Уладзіміра Марука да мастацкай вобразнасці, хаця і не дзіўна: гадаваўся ён у працавітай сялянскай сям'і, заўсёды быў на прыродзе, таму і вобразы, алітарацыі, трапныя назіранні не пакідалі яго. Свежасць і маляўнічасць — галоўныя крытэрыі творцы. Вось некаторыя метафары і алітарацыі, можа, яшчэ з дзён маленства: «Шумлівы, як падлетак, узлесак б'е ў далоні», «Яшчэ на грывах коні туман за рэчку носяць», «Выплыў туман за ваколіцы, туліць да вёскі шчаку» — такімі яркімі знаходкамі напоўнены літаральна ўсе лірычныя зборнікі паэта, што зрабіла б гонар любому, нават і вельмі масцітаму, «раскручанаму» творцу.

Сам Уладзімір Марук, як я добра ведаю, ніколі не забываў свае вытокі і карані, а першыя вершы друкаваў у ганцавіцкай раённай газеце «Савецкае Палессе».

Здаецца, гэта было нядаўна, як быццам учора: на парозе рэдакцыі стаіць невысокі і светлавалосы, з раннімі залысінамі, хлопец, да таго ж на дзіва засяроджаны ў сабе, сціплы і не дужа гаваркі: наш ужо вядомы аўтар, які пасля заканчэння Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума ці не ўпершыню сам прынёс свае творы ў газету, а яшчэ раней ягоныя таленавітыя вершы, перапісаныя ў вучнёўскі сшытак, з вёскі Гута да нас патрапілі ледзь не выпадкова, з аказіяй, і неўзабаве былі надрукаваны асобнай падборкай, дзякуючы кідкай свежасці і метафарычнасці, пачуццёвай вобразнасці. Тады, на пачатку сямідзясятых гадоў, у Ганцавічах, як я ўжо казаў, даволі плённа працавала літаб’яднанне «Рунь», не адпрэчваючы ніводнага здольнага паэта, а што да нашага сціплага госця, то ён з цягам часу стаў актыўным сябрам «Руні», і без ягонага ўдзелу не абыходзіліся ні літаратурныя старонкі, ні творчыя вечарыны. Надрукаваныя ў газеце вершы Марука, як згадваецца сёння, апантана любіў супрацоўнік рэдакцыі Віктар Каўко, захапляўся знаходкамі маладога паэта, і ці не ўсе яго вершы мог чытаць на памяць, асабліва, вылучаючы інтанацыяй і добра пастаўленым артыстычным голасам, адзін з іх:

Вось і сонейка запала
У пажухлую траву.
Птушка юркая схавала
У гняздзечка галаву.

Цемры вусце. Сліў аскома.
І нічога акрамя…
Толькі нехта кліча: «Тома» —
А яе нідзе няма.

Далёка не кожнаму паэту-пачаткоўцу спрыяюць і павага сяброў, і першыя праблескі сапраўднай літаратурнай славы. Нам, супрацоўнікам ганцавіцкай рэдакцыі, было ўсцешна, што творы выхаванцаў раённага аб’яднання ахвотна прымаюць да друку рэспубліканскія выданні і, асабліва, часопіс «Маладосць». У верасні 1974 года ў гэтым часопісе была змешчана даволі вялікая дэбютная падборка Уладзіміра Марука, складзеная амаль цалкам з вершаў, якія яшчэ раней друкаваліся на паэтычных старонках нашага літаб’яднання «Рунь». Бываюць, напэўна, супадзенні: акурат у тым месяцы мяне запрасілі ў Брэст на чарговы семінар творчай моладзі, і сюды ў якасці настаўніка-кансультанта, як цяпер сказалі б, правесці «майстар-клас», прыязджаў сам Мікола Аўрамчык, на той час загадчык аддзела паэзіі «Маладосці». Як толькі ён ступіў за трыбуну, дык адразу, з гонарам і захапленнем, звярнуў увагу маладых на паэзію Уладзіміра Марука, асабліва, на тую, з верасьнёўскай кніжкі, яго дэбютную падборку. Слухаючы цудоўную характарыстыку сябра з вуснаў старэйшага нашага паэта, мне асабліва было прыемна, што таленавіты малады хлопец родам з маіх мясцін, дзе кагорта самых розных творцаў няспынна папаўняецца.

Роўна праз год пасля гэтай гучнай паэтычнай заяўкі, адпрацаваўшы належны час у бібліятэках раёна, дзе меў і павагу, і прызнанне, Уладзімір Марук паехаў вучыцца ў Мінск — паступіў на першы курс філфака Белдзяржуніверсітэта і, трэба зазначыць, сталіца вельмі прыхільна сустрэла хлопца з Палесся. Малады паэт пачаў «асвойваць» новыя літаратурныя выданні, актыўна працаваў у літаб’яднанні «Узлёт», стаў адным з ужо вядомых аўтараў паэтычнага зборніка «Вёсны». Тут на здольнага студэнта асаблівую ўвагу звярнуў доктар філалогіі і вялікі сябар маладых творцаў Алег Антонавіч Лойка. Пад яго непасрэдным уплывам паэты з філфака бралі ўсё новыя і новыя паэтычныя вяршыні. Калі ўжо нават пасля заканчэння вучобы Марук выдаў свой першы зборнік «Зоркі ў кронах», то зычлівую і грунтоўную рэцэнзію «Яшчэ не зведана Палессе…» напісаў усё той жа прынцыповы і патрабавальны Алег Лойка. «Вершы Уладзіміра Марука, сабраныя пад адной вокладкай у серыі «Першая кніга паэта», я чытаў, а некаторыя перачытваў,— пісаў знакаміты паэт і літаратуразнаўца ў газеце «Літаратура і мастацтва»,— бо памятаў дагэтуль па першапублікацыях, з нейкім вельмі асаблівым пачуццём. Было на

душы то неяк добра-добра, то сумна-сумна — да шчымлівасці ў грудзях...» Нельга абмінуць той факт, што дэбют па гадах маладога і ўжо даволі сталага паэта цёпла ўспрынялі чытачы як у горадзе, так і ў вёсцы, тым болей — у тых мясцінах, дзе ён жыў, вучыўся ці працаваў. На першы зборнік цёплыя водгукі надрукавалі І. Клімко ў «Маладосці», А. Кірылава ў «Чырвонай змене», дый многія іншыя, бо тыя «Зоркі ў кронах» нават і цяпер свецяцца ярка і непагасна.

У 1987 годзе пабачыла свет яшчэ адна паэтычная кніга Уладзіміра Марука — «Ліст рабіне», і гэты зборнік выявіў чытацкай публіцы сталага і майстравітага паэта. Але найбольш уражлівай сталася апошняя прыжыццёвая кніжка яго паэтычнай лірыкі «Інкрустацыя голасам» (1991 г.), вершамі з якой захапляліся самыя прыдзірлівыя чытачы. І ўсё ж яго паэзія, як, дарэчы, і сама «непублічная постаць аўтара», як нехта заўважыў, так і не была своечасова і ўдумна прачытаная, патлумачаная і вызначаная нашай крытыкай. Шмат якія публікацыі Уладзіміра Марука апошніх гадоў даюць падставу для высокага завяршэння яго творчага плёну. У двух апошніх зборніках ярка выявіўся як паэт прыроды. Лірыка вельмі зямная, багатая на чалавечыя пачуцці. Паэт імкнецца, каб у аснове яго верша ляжаў душэўны рух радка, шчырасць слова, жывы розум. Пра апошнюю, на жаль, пажыццёвую кнігу паэта, як было абяцана вышэй, як і ў цэлым пра творчасць Уладзіміра Марука, трапна і ёмка сказаў Алесь Марціновіч: «Зборнік вершаў «Кудмень» выходзіць ужо без яго, але ў тым выглядзе, у якім ён мог пабачыць свет пры жыцці аўтара. Таму яе ні ў якім разе нельга ўспрымаць як лебядзіную песню паэта. Да гэтай кнігі трэба ставіцца як да чарговага зборніка, бо пасля «Кудменя» У. Маруком было напісана нямала новых вершаў, аб чым, у прыватнасці, засведчылі ягоныя прыжыццёвыя падборкі ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Маладосць», а ў перакладзе на рускую мову — у «Нёмане». Дый пасмяротныя публікацыі шмат у якіх выданнях таксама гавораць на карысць таго, наколькі гэта быў цікавы, самабытны паэт. Не проста таленавіты, а на дзіва патрабавальны да слова».

Паэтычная праца сумяшчалася з настаўніцкімі і журналісцкімі клопатамі. Пасля «пяцігодкі» ў «Звяздзе» было рэдактарства ў выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс». Акурат тады выйшла кніга вершаў для дзяцей «Ехаў Чыж у Парыж», а потым «Чыж вярнуўся з Парыжа». Ствараліся яны ў першую чаргу для малодшага школьнага ўзросту, хоць, безумоўна, з цікавасцю пазнаёмяцца з імі і дашкольнікі. Сам творца не прымаў фальшу, асабліва ў дзіцячай паэзіі, таму і гэтыя двзе кнігі юныя чытачы ўспрынялі з вялікай радасцю. Апошнім часам Марук працаваў у часопісе «Полымя» — намеснікам галоўнага рэдактара, поруч з іншымі таленавітымі творцамі рупіўся над збіраннем і публікацыяй у часопісе ўсяго лепшага з сучаснай беларускай літаратуры. На ўсё меў свой прынцыповы погляд, які ўмеў выкласці ясна, прамалінейна і разам з тым тактоўна любому з аўтараў, калег па творчасці.

Родную Гуту ў міжрэччы Начы і Лані Уладзімір Марук вельмі любіў, не забываў сялянскую хату, дзе нарадзіўся і вырас, дзе пачуў ад дзеда Васіля суровыя быліны пра мінулую вайну. Цудоўныя вершы паэт прысвяціў маці Надзеі Уладзіміраўне і бацьку Антону Васільевічу, многім сваім аднавяскоўцам, увогуле людзям, якіх паважаў. Як сёння бачна нават з першых вершаў, любіў ён і летнія імклівыя навальніцы. Над вёскай яны свяціліся дзіўным ззяннем крышталю, а цёплаю ноччу блакітным водсветам мігцелі ў высокіх нябёсах таямнічыя зоркі. Не часта ў апошнія гады творца выбіраўся ў дарогу. Здаецца, толькі двойчы мы ездзілі з ім разам: у вёску Люсіна, на юбілей Якуба Коласа, і на сустрэчу ў раённую цэнтральную бібліятэку, дзе праходзіла прэзентацыя кнігі «Паміж Бобрыкам і Ланню», прысвечаная пісьменнікам ганцавіцкай зямлі. Ведаю, што Уладзімір Марук хацеў патрапіць на свята пісьменства, сталіцай якога ў 2011 годзе сталі Ганцавічы. Замест гэтага — патрапіў у бальніцу, адкуль не выйшаў. Жорсткі лёс, ці што? Цяпер імя ганцавіцкага цудоўнага творцы ўшанавана на Алеі пісьменнікаў, а каля бацькоўскай хаты ў Гуце спыняюцца час ад часу экскурсіі Літаратурнага маршруту, арганізаванага раённым цэнтрам па турызме.

Мікола ТАМАШЭВІЧ

# СВК «АЗЁРЫ»: ХТО ДБАЕ — ТОЙ І МАЕ

*Прыгожая назва Азёры, ці не праўда? Дый не з тых назваў яна, якія надта часта сустракаюцца на беларускай зямлі. Гэтая ж, па сутнасці, адзіная ў сваім родзе. Праўда, ёсць па гучанні блізкія да яе. Для прыкладу: Возера і нават Азер'е, Чырвонае Возера, Азярэцк, Азярышча, Азёркі, Азярок, Азяранкі... Аднак, пагадзіцеся, гэта зусім не тое, што Азёры. Знакаміты знаўца паходжання тых ці іншых геаграфічных назваў Вадзім Жучкевіч у сваім «Кратком топонимическом словаре Белоруссии» даў гэткае вытлумачэнне з'яўленню як гэтага наймення, так блізкіх яму па сваім гучанні: «В основе всех названий — слово озеро: поселения у озер».*

*Вёска ж Азёры Гродзенскага раёна (сустракаецца і варыянт Возеры) знаходзіцца на паўднёвым беразе возера Белае. Гэта ў дваццаці пяці кіламетрах ад абласнога цэнтра. Увогуле ж у тамашніх мясцінах знаходзіцца некалькі азёраў — як вялікіх, так і малых. Усе яны па-свойму прыгожыя, па сутнасці, нерушавыя і ўсе ўзяты дзяржавай пад ахову. Адбылося гэта ў 1990 годзе. Трэба аддаць належнае тагачасным уладам, якія, хоць на той час хапала шмат якіх праблем, зразумелі, наколькі важная гэтая тэрыторыя для захавання раўнавагі экалагічнай сістэмы, таму і арганізавалі на ёй Рэспубліканскі ландшафтны заказнік, які так і назвалі — Азёры.*

*Пад ахову, што таксама не менш істотна, былі ўзяты не толькі прыродныя вадаёмы, а і мясцовыя балоты, якія таксама ўнікальныя. Асабліва гэта тычыцца балота, назва якога ўспрымаецца сімвалічна — Святое. Яно — адно з апошніх верхавых балотаў у Гродзенскай вобласці. Такія балоты ў асноўным жывуць дзякуючы дажджам, а дажджавая вада, як вядома, на дзіва чыстая, таму яна і спрыяльная для існавання ўсяго жывога. З-за гэтага возера Святое можа пахваліцца разнастайнасцю сваёй фаўны і флоры. На ім расце нават архідэя — трапічная расліна дзівоснай формы і незвычайнай афарбоўкі з прыемным пахам.*

*Дый іншыя рэдкія расліны ўпадабалі гэтае возера, а ваколіцы яго насяляюць розныя жывёлы. Пераважная большасць іх, а таксама раслін занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. А яшчэ возера Святое з'яўляецца свайго роду ... донарам. Яно жывіць сваёй вадой два іншыя возеры — Глінец і Шчучынае. Іхні ўзрост вымяраецца не адным дзясяткам тысяч гадоў, бо з'явіліся яны яшчэ ў ледавіковы перыяд, але трымаюцца, безумоўна, і дзякуючы такому дабрадзею, якім для іх і стала возера Святое.*

*Першыя ж людзі прыйшлі сюды, зразумела, куды пазней, чым узніклі азёры, балоты. Ды ўсё адно нашы продкі пачалі сяліцца ў гэтых мясцінах даўным-даўно, у самай-самай сівой даўніне. Пра гэта сведчаць іхнія «сляды», што былі знойдзены стараннямі археолагаў. Яны ўстанавілі, што каля Азёраў знаходзіліся стаянкі эпохі мезаліту, неаліту (так званая нёманская культура) і бронзавага веку. Гэтыя мясціны нашым далёкім продкам спадабаліся, і яны пачалі засяляць іх. Некаторыя пасяліліся і на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца пасёлак Азёры.*

*Аднак, думаецца, не лішне даведацца, як мяркуе аб паходжанні назвы Азёры сам народ. Наконт гэтага ёсць цікавае паданне, што запісаў і апрацаваў доктар філалагічных навук Аляксей Ненадавец, дзякуючы якому ў свой час у выда-*

*вецтве «Беларусь» выйшла серыя «Мой родны кут» з шасці кніг. Чаму менавіта шэсць, а не пяць ці сем, усё тлумачыцца проста. Аляксей Міхайлавіч сабраў легенды і паданні, што тычацца назваў населеных пунктаў кожнай вобласці нашай краіны. У Рэспубліцы ж Беларусь, як вядома, шэсць абласцей, адпаведна і столькі кніг у згаданай серыі. Паколькі Азёры адносяцца да Гродзенскай вобласці, дык разгорнем том «Гродзеншчына ў легендах і паданнях». У ім ёсць і паданне пра паходжанне назвы Азёры ці Возеры.*

## Народ мяркуе так…

Адбывалася ўсё ў вельмі даўнія часы. Там, дзе цяпер знаходзяцца Азёры, як сведчыць паданне, «даўней нічога не было. Проста лес ды балоты. А паселішча знаходзілася значна далей». У гэтым паселішчы жыла дзяўчына, якую звалі Люся: «Так ужо здарылася, што была яна ў бацькоў адна. Яны нарадавацца дачкою не маглі. Усім узяла: і прыгожая, што той макаў цвет, і вясёлая, што тая рачулка, якая ніколі не сумуе, а ўсё гамоніць аб нечым, і непаседлівая вырасла, на дзіва ўсім». А яшчэ Люся ніколі стомы не ведала. Пасля работы часам нават мужчыны ледзь ногі валаклі, а ёй хоць бы што. Быццам і не працавала: заставалася гэткай жа вясёлай, жыццярадаснай.

Зразумела, што пра такую нястомную дзяўчыну, а да ўсяго яшчэ і прыгажуню, па наваколлі не магла не пайсці пагалоска. Больш за тое, і ў краях далёкіх пра Люсю даведаліся. Як і трэба было чакаць, з’явілася нямала жадаючых узяць яе сабе ў жонкі. Ды не сярод простых юнакоў, а сярод паноў багатых, такіх, якія цану сабе ведалі, дый не супраць таго былі, каб жонку годную мець. Пры гэтым кожны з іх разлічваў, што дзяўчына адразу яму на шыю кінецца, зразумее, якое заможнае жыццё чакае яе.

Толькі зусім не такой аказалася Люся, каб, не задумваючыся, замуж выходзіць. Усім, хто ні прыязджаў да яе бацькоў сватацца, яна давала ад варот паварот. Аднаму ж панічу дык прама заявіла: «Сама я сабе мужа падбяру. За каго захачу, за таго і замуж пайду. Не трэба мне багатых ды ганарлівых, бо не ў багацці шчасце…» Давялося і гэтаму жаніху вяртацца ні з чым. Дый тым, якія прыязджалі пасля яго.

Праз год жа-другі Люся яшчэ больш папрыгажэла, а гэта прывяло да яе новых жаніхоў. Яны і пачулі такое, што не толькі ім ніякага спадзявання не давала на тое, што яна можа пайсці за каго-небудзь з іх замуж, а і ўвогуле ставіла крыж на сватанні ў далейшым: «Спазніліся, сваточкі, спазніліся… Вось каб крыху раней прыспелі, дык і справа іншая была б. А так спазніліся… У мяне ўжо ёсць жаніх, і замуж пайду я толькі за яго».

Пасля гэтага яна і бацькам прызналася, што пакахала аднавяскоўца Петруся, які, у чым яна ўпэўнілася, таксама жыцця свайго без яе не ўяўляе. Паколькі ж пачуцці былі ўзаемныя, то Люся з Петрусём неўзабаве і вяселле згулялі. Стварыўшы ж сям’ю, пасяліліся асобна ад бацькоў. Жылі дружна і шчасліва: «Усяго ў іх хапала. Дзе бацькі парадай падказвалі, а дзе іхнія рукі шчыравалі, таму поўна было і ў хаце, і ў клеці, і на стале. Нарадавацца не маглі старыя, на дзяцей сваіх пазіраючы. Каму ж не радасна, калі ўсё добра атрымліваецца?»

Толькі аказалася, што не ўсё ў маладой сям’і так і добра: «Пару гадоў ужо пражылі, але дзяцей нешта ў іх не было». Занепакоіліся бацькі, а Пятрусь сабе месца не знаходзіў. Праўда, Люся неяк супакоіла яго: «Пачакай, Петрачок, пачакай, міленькі, яшчэ адзін год, а потым і ў нас будуць дзеткі».

Здавалася б, пасля такога запэўнівання Пятрусь мусіў супакоіцца, але ў яго, наадварот, нейкая насцярога з’явілася, бо не толькі гэта жонка сказала, а і папрасіла: «Ты толькі не хвалюйся і не сачы за мной, бо можаш нашкодзіць. Адзін год усяго — гэта ж не так і многа…»

«Чаго ж гэта яна так апасаецца?» — падумалася Пятрусю. У яго ніколі і ў думках не было, каб сачыць за жонкай. Ад папярэджання, якое прагучала з яе вус-

наў, яму адразу не па сабе стала. А тут яшчэ «неяк прыгадаў, што Люся раз у год на цэлы тыдзень некуды прападала. Прыходзіла толькі позна вечарам, стомленая, здарожаная і адразу засынала». Значыць, штосьці не так. Таму, калі жонка зноў паведаміла яму, што сыдзе на цэлы дзень, вырашыў незаўважна прасачыць, куды ж гэта яна кіруецца.

Люся ж дайшла «да высокага каменя, а там была шырачэнная і глыбокая нара, дык яна туды ўступіла і пачала распранацца». Пасля гэтага адбылося неверагоднае. Калі Петрусёва жонка стала зусім голая, да яе папаўзлі вужы і гадзюкі. Убачыўшы іх, Пятрусь спалохаўся, закрычаў: «Ратуйце! Дапамажыце!». Пачуўшы ягоны крык, Люся ціха войкнула: «Ой, мужу, мужу, што ж ты нарабіў, ты ж мяне зараз назаўсёды забіў…»

Толькі сказала так яна, як аднекуль з'явілася вада і заліла ўсё наваколле разам з Люсяй і Петраком. Потым «на месцы, дзе раней быў лес, балота ды палі, стала шырачэннае возера. З яго дна доўга быў відаць шэры камень, у які ператварыўся Пятрок, але потым і яго разбілі перуны».

Праз шмат-шмат гадоў на беразе гэтага возера пачалі сяліцца людзі. Потым і новая вёска з'явілася, «яе так і назвалі — Возеры, бо там некалькі азёраў стала».

## Мінулае: даўняе і блізкае

Цікавае паданне, ці не праўда? А гэта ўжо дакументальнае сведчанне. Упершыню Азёры згадваюцца ў летапісе пад 1398 годам. Тады гэта быў «двор Вітаўта», які шасцю гадамі раней прыжыццёва стаў вялікім князем літоўскім, а падчас Грунвальдскай бітвы праславіўся ў ёй. Дый пазней, у XV—XVII стагоддзях Азёры з'яўляліся вялікакняжацкім уладаннем. Пры гэтым пашыраліся. Пад 1518 годам яны ўпамінаюцца ўжо як мястэчка, якое стала цэнтрам воласці Гродзенскага павета.

Бліжэй да нашых дзён, у пачатку XIX стагоддзя, яны яшчэ больш імкліва развіваліся. Нават з'явілася свая прамысловасць. Да 1809 года была заснавана Азёрская папярова-кардонная фабрыка (дакладны год яе адкрыцця не ўстаноўлены). На гэтым прадпрыемстве выраблялася друкарская папера розных гатункаў. Простую атрымлівалі з рыззя, абгортачную і кардон — са здробленай драўлянай масы. Для свайго часу гэта было не такое і малое прадпрыемства. У 1876 годзе на фабрыцы працавала 108 чалавек. Праўда, год на год не прыходзіўся. У 1881 годзе быў усяго 21 рабочы. Памяншэнне колькасці працаўнікоў тлумачылася, аднак, не столькі зніжэннем аб'ёмаў вытворчасці, колькі павышэннем механізацыі. У 1884—1890 гадах фабрыка мела дзве паравыя машыны, ў 1890-м устанавілі і папяровую машыну.

Калі гэтая фабрыка спыніла сваю работу, таксама не ўстаноўлена, а вось калі працавала Азёрская суконная мануфактура ўстаноўлена дакладна: яна выраблялa запатрабаваныя высакаякасныя тканіны ў 1808—1870 гадах. Колькасць тых, хто працаваў на гэтым прадпрыемстве, пастаянна павялічвалася. Для прыкладу, у 1858 годзе было 55 рабочых, а ў 1864-м — 124 чалавекі.

У канцы таго ж XIX стагоддзя, у 1895 годзе ў Азёрах з'явілася і гарбарнае прадпрыемства. На жаль, пра яго, па сутнасці, няма ніякіх звестак. Ды ўжо тое, што ў адным стагоддзі ў вёсцы было тры прадпрыемствы, сведчыць на карысць таго, што Азёры належалі да паселішчаў, якія развіваліся.

Яркае старонка ў гісторыі гэтага населенага пункта звязана з паўстаннем 1863 года. 22 красавіка каля Азёраў адбыўся бой, у якім прыняў удзел сам Кастусь Каліноўскі. Пра тое, як праходзіў гэты бой, захаваўся рапарт камандзіра царскіх войск палкоўніка Цімафеева. Паўстанцы разабралі мост праз раку Котру, таму войскам давялося ісці ўброд. Калі ж яны падняліся на ўзвышша, то былі сустрэты моцным аружэйным агнём. Паўстанцы затрымалі праціўніка, але разумелі, што колькасная перавага не на іх карысць, таму пачалі адступаць. Аднак пры гэтым зброю не склалі, а працягвалі адстрэльвацца. Многія загінулі. Пазней яны былі пахаваны на могілках у Азёрах.

Свая гісторыя і ў СВК «Азёры». Праўда, яна вымяраецца некалькімі дзесяцігоддзямі. Першая калектыўная гаспадарка, утвораная ў вёсцы Азёры ў сакавіку 1949 годзе, з'яўлялася селькагаспадарчай арцеллю і насіла імя Чарняхоўскага. Такую назву далі ў духу таго часу. Нядаўна ж скончылася Вялікая Айчынная вайна, а Чарняхоўскі належаў да тых военачальнікаў, чый талент ярка праявіўся ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пазней да гэтай гаспадаркі далучылі некалькі меншых, утвораных у суседніх населеных пунктах. Чарговае ўзбуйненне адбылося ў 1975 годзе, калі ў склад яе ўвайшоў калгас «Савецкая Беларусь», а яшчэ праз чатырнаццаць гадоў — дзве трэці зямель, што належалі калгасу «Перамога».

Гэта ўсё тое, што «раньш было», а гэта ўжо сённяшні дзень Азёраў. Сама вёска дый навакольныя населеныя пункты ўваходзяць у склад сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Азёры». У Азёрах знаходзяцца і акцыянернае таварыства «Гродзенская зверагаспадарка», і санаторый «Азёрны». Ёсць цудоўны Дом культуры, у якім працуюць розныя калектывы мастацкай самадзейнасці, бібліятэка, музычная школа, аддзяленне сувязі, камбінат бытавога абслугоўвання.

Важнае месца ў духоўным жыцці азёрцаў займае царква Святога Духа. Знешне простая, сціплых памераў, але мае немалую гісторыю: была закладзена 26 красавіка 1865 года, а ўжо праз год прыняла мясцовых вернікаў, стаўшы для іх сапраўдным храмам, які адкрывае дарогу да Бога. Шмат нягод перажыла гэтая царква, але з гонарам пераадолела ўсе цяжкасці. Пастаянна заставалася дзеючай, нават у часы ваяўнічага атэізму. Захавала свой першапачатковы выгляд, і сёння з'яўляецца помнікам архітэктуры.

Разумеючы, наколькі вялікая роля храма ў духоўным жыцці насельніцтва, кіраўніцтва СВК «Азёры» выдзеліла сродкі для набыцця для царквы звона вагой 800 кілаграмаў. Праз некаторы час ён быў устаноўлены на адрэстаўрыраванай званіцы XVII стагоддзя. На ўрачыстай літургіі з гэтай нагоды епіскап Арцемій уручыў старшыні СВК А. Шышко ордэн святіцеля Кірылы Тураўскага II ступені. Гэтая высокая ўзнагарода набывае вялікі сэнс. Аляксандр Мікалаевіч невыпадкова падтрымлівае царкву. Ён разумее, што жыццё духоўнае неаддзельна ад спраў гаспадарскіх, бо чалавек, які жыве з Богам у сэрцы, куды больш самааддана працуе, а сваімі паводзінамі паказвае прыклад іншым.

Нямала робіцца ў СВК «Азёры» і дзеля таго, каб працаўнікі гаспадаркі былі фізічна моцнымі, каб іх абыходзілі розныя хваробы. Гэтаму спрыяе мэтанакіраваная прапаганда здаровага ладу жыцця. У «Азёрах» паспяхова развіваецца спорт, аб чым сведчаць і выступленні мясцовых спартсменаў у розных спаборніцтвах. Яны пастаянна праводзяцца і ў самой гаспадарцы. Аднак прыемна, калі цябе заўважаюць і за межамі яе. Так у 2008 годзе каманда СВК «Азёры» заняла трэцяе месца ў спартакіядзе «Здароўе», якая праходзіла ў час трохдзённага турыстычнага злёту Гродзенскага раёна.

## Каму — вёска, каму — горад

Дык што ж уяўляе сабой СВК «Азёры», калі пазнаёміцца з ім бліжэй. Пры гэтым, канечне, не абысціся і без пэўных лічбаў, бо яны, пры ўсёй сваёй «сухасці», калі разабрацца, нямала могуць сказаць аб тым, у значнасці чаго хочаш упэўніцца. Між іншым, гэта цудоўна разумеў… Не здагадваецеся хто? Тады падкажу… Сам Ёган Вольфганг Гётэ! Аўтар «Фаўста» і іншых знакамітых твораў, пры ўсім іншым, з'яўляўся і цвярозым рэалістам. Гэта яму належаць словы, якія самі па сабе гавораць шмат. А таму і шмат гавораць, што ў іх і заключаецца ўсведамленне значнасці лічбаў. Дык вось, адносна лічбаў Гётэ сказаў: «Лічбы не кіруюць светам, але дазваляюць лепш зразумець яго». Таму, калі адштурхоўвацца ад Гётэ, дык і ўсе … Не, не карты ў рукі, а лічбы.

За кааператывам замацавана 10617 гектараў зямлі, у тым ліку сельскагаспадарчыя ўгоддзі складаюць 8669 гектараў, а з іх 5149 — ворыва. Адметна тое, што

ад усёй плошчы кааператыва амаль 40 працэнтаў займаюць меліяраваныя землі. На тэрыторыі СВК знаходзіцца 30 населеных пунктаў, у якіх пражывае каля 4,5 тысячы чалавек. Зразумела, што далёка не ўсе з іх працуюць у гаспадарцы, а толькі больш як 600 чалавек. Прычына ў тым, што работу знайсці за межамі СВК не так і складана: у нейкіх дваццаці пяці кіламетрах знаходзіцца абласны цэнтр. У Гродне ж, несумненна, таксама неабходны рабочыя рукі, таму многія і ўладкоўваюцца на працу ў абласным цэнтры, а жывуць у Азёрах і іншых вёсках, якія ўваходзяць у склад СВК «Азёры». Да месца прывесці і такую лічбу: некалі на тэрыторыі, якую займае гэтая гаспадарка, знаходзілася ажно 17 калгасаў. Узбуйненне адбылося вялікае: 17 калгасаў і адзін СВК.

Ужо гэтага параўнання дастаткова, каб пераканацца ў тым, наколькі ўпэўненымі тэмпамі адбываецца ўзбуйненне сельскагаспадарчай вытворчасці. Праўда, гэта, як кажуць, палка з двума канцамі. Вялікі плюс у тым, што ёсць дзе разгарнуцца сучаснай сельскагаспадарчай тэхніцы. Але гэты плюс «выклікае» і мінус. На тэхніку патрабуюцца механізатары, якіх у «Азёрах» нестае. Дый не толькі ў «Азёрах». На жаль, па-ранейшаму для многіх праца ў вёсцы лічыцца не прэстыжнай, у першую чаргу так яе ўспрымае пэўная частка моладзі. А на сучасны трактар ці камбайн акурат і патрабуюцца ў першую чаргу маладыя людзі. Адукаваныя, з гарачым жаданнем працаваць. Але ж працаваць у час важнейшых сельскагаспадарчых кампаній даводзіцца з ранку да позняга вечара. Далёка ж не ўсе гатовы вытрымліваць такі напружаны рытм. Сказваецца пры выбары месца працы і тое, што заробкі на вёсцы ў параўнанні з горадам меншыя. А. Шышко заўважае:

— Бытуе думка, што селянін сам сябе пракорміць за кошт уласнай гаспадаркі. Як быццам, рэзон у гэтым ёсць. А калі ва ўсім лепш разабрацца? Часу ж на вядзенне ўласнай гаспадаркі застаецца вельмі мала, яго забірае работа ў СВК.

Таму ў «Азёрах» многае робіцца для таго, каб заахвоціць моладзь працаваць на зямлі. Дый тых, хто ўжо набыў прафесію, таксама. Ствараюцца спрыяльныя ўмовы для работы, будуецца жыллё. Гэта, як правіла, двухпавярховыя дамы, у якіх камфортна, утульна. Яны пафарбаваны яркай фарбай, абнесены акуратнымі платамі. Глядзіш — і вока радуецца. Не горш, чым у горадзе, але, разам з тым, ёсць істотная розніца. Гэта — свежае паветра, побач маляўнічая прырода.

Нямала робіцца і для вырашэння сацыяльных пытанняў. Кіраўніцтва гаспадаркі стараецца павышаць зарплату. З разуменнем ставіцца і да падрыхтоўкі маладых кадраў. А каб хутчэй адбываўся іх прафесійны рост, за імі замацоўваюцца тыя, хто ўжо набыў немалы вопыт. Праўда, у час гарачай пары, для прыкладу, таго ж жніва, калі неабходны аб'ём работ трэба выканаць як мага хутчэй, даводзіцца звяртацца па дапамогу да гараджан. Яны ахвотна адгукаюцца, бо атрымліваюць у гэты час добрую зарплату, дый на работу іх падвозяць, а вечарам — дамоў. Са спецыялістамі ж становішча добрае. Дый тыя, хто нядаўна атрымаў дыплом аб вышэйшай адукацыі, з задавальненнем гатовы працаваць у «Азёрах». Балазе разгарнуцца ёсць дзе.

## Як дагледзіш, так і атрымаеш

У СВК «Азёры», як і ў большасці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, два асноўныя віды вытворчай дзейнасці, якія, як няцяжка здагадацца, узаемазвязаныя між сабой: раслінаводства і жывёлагадоўля. У сектар раслінаводства ўваходзяць 4 вытворчыя ўчасткі па вырошчванні розных сельскагаспадарчых культур, а таксама адна садаводчая брыгада. Сектар жа жывёлагадоўлі складаецца з 4 жывёлагадоўчых ферм, на якіх гадуецца буйная рагатая жывёла і атрымліваецца малако: гэта «Галавачы», «Бандары», «Стрыеўка», «Губінка».

Ёсць і свой свінаводчы комплекс «Лозы», для лепшай, больш прадуктыўнай работы якога шмат дае рэканструкцыя. Узведзена дадатковае памяшканне па адкорме на 1920 галоў. Праведзены рамонт цэха апаросаў. У ім старыя станкі

заменены на новыя, што адпавядаюць запатрабаванням сучаснай свінагадоўлі. Дый пароды свіней падбіраюцца такія, якія даюць пры вырошчванні вялікія прывагі, дазваляюць атрымліваць высакаякасную свініну. Перавага гэтым пародам даецца невыпадкова, бо яны прызнаны лепшымі ў свеце: буйная белая, дзюрок, ландрас. Яны добра гадуюцца ў СВК не ў апошнюю чаргу таму, што жывёле прапануецца збалансаванае харчаванне, у якое ўваходзяць спецыяльныя дабаўкі.

Каб менш закупляць камбікармоў, у кааператыве створаны ўласны цэх па вытворчасці іх. Ёсць і свой цэх механізацыі, у задачу якога ўваходзіць тэхнічнае абслугоўванне ўсёй вытворчасці. А спецыялізавная сістэма і сучаснае абсталяванне значна зніжаюць затраты пры гадаванні жывёлы, а таксама спрыяюць павялічэнню яе захаванасці і павышэнню прадуктыўнасці. На гэта дабратворна ўплывае і тое, што пры вырошчванні свіней выкарыстоўваецца малдаўская тэхналогія размяшчэння іх. Паводле яе жывёлы знаходзяцца на рашоткавых падлогах з сістэмай гідраўлічнага змыву, што, несумненна, паляпшае ўтрыманне іх, а таксама паляпшае догляд, робячы яго менш складаным. Самае ж галоўнае ў тым, што гэта таксама ўплывае на выніковасць работы.

Няцяжка здагадацца, што жывёлагадоўля — асноўная галіна ў дзейнасці кааператыва. СВК «Азёры» спецыялізуецца на вытворчасці мяса-малочнай прадукцыі. Да ўсяго ў 2004 годзе гаспадарка атрымала статус племяннога сельскагаспадарчага прадпрыемства па развядзенні чорна-пярэстай пароды буйнай рагатай жывёлы. Генетычны патэнцыял кароў чорна-пярэстай пароды, як вядома, па малочнай прадуктыўнасці складае 8—8, 5 тысячы кілаграмаў малака за лактацыю, а сярэднясутачны прырост малака на адкорме — 1200—1300 грамаў. Для таго, каб удасканальваць пароду, спецыялістамі гаспадаркі вядзецца індывідуальны ўлік кожнай цёлкі. Апроч таго, для развядзення падбіраюцца высокапрадукцыйныя каровы, якіх пакрываюць пародзістымі быкамі. Для штучнага ж асемянення выкарыстоўваецца сперма гальштынафрызскіх быкоў, а гэта таксама гарантыя таго, што з цёлак, якія народзяцца, будуць высокапрадукцыйныя каровы.

Безумоўна, яшчэ і пры належным забеспячэнні іх высакаякаснымі кармамі, а ў гэтым накірунку ў кааператыве таксама робіцца вельмі шмат, бо спецыялісты добра разумеюць тое, пра што народ сказаў дакладна: у каровы малако на языку. Яго ж яшчэ болей, калі, як у СВК «Азёры», кармленне ажыццяўляць камбініраванымі кармамі, пры гэтым прымаць пад увагу фізіялагічны стан жывёлы. А які падыход — такі і вынік. Больш як 90 працэнтаў малака рэалізавана на перапрацоўчыя прадпрыемствы вышэйшым гатункам і гатункам «Экстра».

## Выручае раслінаводства

Кармы ж, пры тым высакаякасныя, якія, пры ўсім іншым, дазваляюць атрымліваць малако высокіх гатункаў, зразумела, дае раслінаводства. І не толькі кармы. Дзякуючы ўмеламу гаспадаранню на зямлі «азёрцы» за апошнія дзесяць гадоў у два разы павялічылі валавы збор зерня. Для сяўбы бярэцца высокагатунковае насенне, прымяняюцца навейшыя тэхналогіі догляду за пасевамі. Дый стараюцца сабраны ўраджай як мага лепш захаваць. Паколькі старыя зернесушылкі не спраўляліся з узрослай на іх нагрузкай, не хапала складскіх памяшканняў, узвялі новы зернесушыльны комплекс, што працуе ў аўтаматычным рэжыме з умяшчальнымі бункерамі захоўвання зерня.

Ураджай жа ўбіраецца ў аптымальныя тэрміны і без страт. Спрыяе гэтаму тое, што ў гаспадарцы ёсць 11 высокапрадуктыўных нямецкіх і амерыканскіх зернеўборачных камбайнаў. Не падводзяць і два КЗС-218 вытворчасці «Гомсельмаша», набытыя па лізінгу. Яны таксама добрая падмога на жніве.

Значны даход азёрцы атрымліваюць ад вытворчасці і продажу цукровых буракоў. Што ж, па працы і вынікі. Увесь працэс вырошчвання гэтай каштоўнай і, несумненна, стратэгічна важнай сельскагаспадарчай культуры поўнасцю механізаваны. Гэта тычыцца як пасеву буракоў, так і догляду за імі, уключаючы

хімічную апрацоўку і ўборку вырашчанага ўраджаю. Важна і тое, што пры сяўбе выкарыстоўваюцца дражыраваныя аднарастковыя гатункі замежнай селекцыі ў капсулах. Менавіта гэта і дазволіла ў час догляду пасеваў цалкам адмовіцца ад ручной працы.

Шмат дае і хімічная абарона пасеваў ад хвароб раслін і пустазелля, што вельмі важна пры вырошчванні зерневых. Прэпараты ж для гэтага выкарыстоўваюцца такія, якія да мінімуму зводзяць негатыўнае ўздзеянне на фарміраванне зерня. Дый сяўба праводзіцца такім чынам, каб загадзя забяспечыць высокую ўраджайнасць. Для гэтага гушчыню пасеваў разлічваюць так, каб на адзін гектар прыпадала не менш чым 80 тысяч раслін. Выкарыстоўваюць аптымальныя тэрміны сяўбы, каб перачакаць пясчаныя буры, што з глебы выдзімаюць насенне. Гэта тычыцца і выбару аптымальнага тэрміну падкормкі мінеральнымі ўгаеннямі. Не трэба ж забываць, СВК «Азёры» размешчаны на глебах нізкай урадлівасці, якія ў большай ступені падвяргаюцца ветравой эрозіі.

## Свой сад, свая паляўніча-рыбалоўная гаспадарка

Сад па вырошчванні яблык, сліў, парэчак быў закладзены яшчэ ў 1992 годзе на плошчы 118 гектараў. Гэтым, аднак, не абмежаваліся, бо за кароткі час змаглі пераканацца ў тым, наколькі такая справа выгадная. Дый з-за вялікай запатрабаванасці садавіны праблем са збытам яе няма. У выніку кааператыў зарабіў нямала грошай. Таму ў 2008 — 2009 гадах пад сад адвялі яшчэ 20 гектараў. На гэтай плошчы заняліся вырошчваннем толькі яблыкаў, але па сучаснай шпалернай сістэме, што эканамічна вельмі выгадна. Увогуле, садаводства аказалася самай прыбытковай галіной у СВК. Прынамсі, у 2012 годзе рэнтабельнасць склала 140,5 працэнта, а ўраджайнасць пладоў — 162 цэнтнеры. Пачалі таксама вырошчваць слівы, грушы. Набываць пасадачны матэрыял няма неабходнасці. Каб задаволіць у ім уласныя патрэбы, стварылі ўласны гадавальнік. Рэшткі пасадачнага матэрыялу можна прадаваць. Што і робіцца не без поспеху.

Асаблівы гонар «азёрцаў» — паляўніча-рыбалоўная гаспадарка. Дарэчы, гэты кааператыў — адно з нямногіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Беларусі, якія маюць уласную паляўнічую гаспадарку. Для таго, каб яна функцыянавала паспяхова, СВК арандуе паляўнічыя ўгоддзі плошчай 11 тысяч гектараў. Лес з іх складае 6, 4 гектара, астатняя тэрыторыя — поле. Такая нямалая плошча — сапраўднае раздолле для ласёў, аленяў, дзікоў, касуль еўрапейскіх і нават зуброў.

Спачатку, у 1997 — 1998 гадах гадах, з Белавежскай пушчы завезлі 18 асобін гэтых рэдкіх, унікальных жывёлін. Цяпер жа статак зуброў налічвае ўжо больш як 150 галоў. Падобнай паляўнічай гаспадаркі з такой вялікай колькасцю зуброў няма больш нідзе ў свеце. За імі наладжаны асаблівы догляд. Зубры не толькі адчуваюць сябе вольна на гэтых землях, але і дбаюць аб папаўненні свайго сямейства. І, як вынік, у 2011 годзе нарадзілася 20 зубранят.

Дый увогуле паляўніча-рыбалоўнай гаспадарцы надаецца вялікая ўвага. Для гэтага ў «Азёрах» створана спецыяльная служба, якая займаецца доглядам, аховай, а таксама арганізацыяй палявання.

У раёне вёскі Новая Руда, у лясным масіве на беразе маляўнічага возера Ант для аматараў актыўнага адпачынаку ёсць Дом паляўнічага і рыбака. Так што тыя, хто хоча паспрабаваць сваё паляўнічае шчасце ці парыбачыць, ведаюць, што для іх створаны ўсе ўмовы. Тэрыторыя, дзе знаходзіцца гэты дом, агароджана, устаноўлены навес, мангал, унутры дома ёсць саўна, кухня.

За пэўную плату можна ўпаляваць тую ці іншую дзічыну, а на сажалках, размешчаных у раёне вёскі Баброўня, злавіць шмат якія віды рыбы. Хоць бы таго самага карпа, але тамашні карп не падобны на сваіх «братоў», якія водзяцца ў іншых вадаёмах. У гэтым тыя, хто рыбачыў тут, гатовы пераканаць кожнага. Надта ж важкія тамашнія карпы. Хоць спаборніцтва наладжвай, каб даведацца, каму пашчасціла злавіць самага вялікага, бо ўсе рыбіны як на падбор. Мабыць,

надта спрыяльныя тут умовы для іх развядзення. Упэўніўшыся ў гэтым, многія з тых, хто аднойчы рыбачыў у гэтых мясцінах, стараюцца зноў наведацца сюды. Больш за тое, угаворваюць паехаць у «Азёры» і сваіх сяброў ці знаёмых.

Гэтаксама дзейнічаюць і паляўнічыя, бо рэдка хто вяртаецца адсюль без жаданага трафея. А шмат рыбакоў, ці паляўнічых, то і выручка немалая ад прададзеных пуцёвак. Ліцэнзія ж на абстрэл зуброў увогуле, як кажуць, зашкальвае, бо каштуе ажно 12 тысяч еўра. Можа ўзнікнуць пытанне, а як жа ў такім разе гэта стасуецца з аховай, зберажэннем зуброў? Ды ўсё проста. Штогод Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь праводзіць у зубрыным статку выбракоўку. Такім чынам, пад абстрэл трапляюць толькі слабыя жывёліны, або тыя, якія маюць нейкія траўмы. Здаровыя ж зубры знаходзяцца пад пільнай аховай. Да іх паважнае стаўленне яшчэ і па той прычыне, што зубр з'яўляецца геральдычным сімвалам рэгіёна.

Паляўніча-рыбалоўная гаспадарка СВК разам з яго іншымі падраздзяленнямі таксама можа пахваліцца тым, што ўносіць свой уклад у агульную касу. Прытым не такі і малы. Бываюць гады, калі прыбытак складае амаль мільярд рублёў. Што ж, гэта толькі лішні раз сведчыць на карысць вядомай прымаўкі: «Хто дбае, — той і мае».

## Шышкі не для… Шышкі

Таму і ладзяцца ў СВК справы, што ў гэтай гаспадарцы працуюць высокапрафесійныя спецыялісты. Аднак такіх поспехаў не было б, калі б СВК «Азёры» не ўзначальваў кіраўнік новай фармацыі, якім з'яўляецца Аляксандр Шышко.

Аляксандр Мікалаевіч — свой, тутэйшы. У Азёрах нарадзіўся. На той самай зямлі, на якой спакон вякоў жылі Шышкі. Сярод іх ніколі не было тых, хто, за якую работу ні возьмецца, дык, вобразна кажучы, гатовы на галаве гузак набіць, ці, як яшчэ часам кажуць, шышку. Гузакі, шышкі, наадварот, заўсёды абыходзілі іх, бо яны так працавалі, што многія ў наваколлі толькі зайздросцілі.

На жаль, не толькі па-добраму, калі і самому хочацца раўняцца на тых, хто лепей за цябе на зямлі шчыруе. Знаходзіліся і чорныя зайздроснікі, а іх, як вядома, ставала ва ўсе часы. Такія дзень пры дні лынды б'юць, але ад злосці гатовы захлынуцца, калі бачаць, што ў суседа «парадачак ідзець». Ды Шышкі на іх мала ўвагі звярталі. Як працавалі да сёмага поту, так і працавалі. Праўда, дзядам Аляксандра Мікалаевіча давялося падрыжаць, калі і ў Заходняй Беларусі пачалося ўсталяванне новага жыцця. Надта ж заможнымі яны былі. Шмат зямлі мелі, нямала коней, кароў. Усе падставы былі для таго, каб патрапіць пад раскулачванне. Ды, на шчасце, мінула бяда іх.

Не цураліся работы і бацькі А. Шышко — Мікалай Мікалаевіч і Вера Аляксандраўна. Дый сыноў сваіх Сашу і Валодзю да яе змалку прывучалі. Змалку палюбілі яны і зямлю. Не толькі як тую крыніцу, што дае чалавеку, які працуе на ёй, дастатак, а і як сам асяродак пражывання. Таму пасля заканчэння сярэдняй школы Саша Шышко і не збіраўся далёка ад'язджаць ад родных Азёраў. Аднак хацелася атрымаць і вышэйшую адукацыю. Дый чаму б і не, калі ў атэстаце аб заканчэнні сярэдняй школы меў усяго адну чацвёрку, астатнія адзнакі былі, зразумела, пяцёркі.

Выйсце знайшоў у тым, каб паступаць у ВНУ Гродна. Інстытутаў жа ў абласным цэнтры было тры: медыцынскі, педагагічны і сельскагаспадарчы. Выбраў сельскагаспадарчы, а ў ім — зааінжынерны факультэт. Пайшоў менавіта на яго для таго, каб пасля атрымання дыплома займацца тым, да чаго больш за ўсё душа ляжала. Вучылася лёгка, гаворкі аб тым, каб зубрыць той ці іншы прадмет, для яго не было. Шмат што схопліваў, як кажуць, на ляту, а часам нават і аднакурснікам дапамагаў, калі ў іх узнікалі цяжкасці з засваеннем пэўнага матэрыялу. Калі ў 1981 годзе атрымліваў дыплом аб вышэйшай адукацыі, аказаўся ў першай дваццатцы лепшых выпускнікоў.

Накіраванне атрымаў у Маладзечанскі раён, а там ужо размеркавалі ў тагачасны калгас імя Кірава. Усяго паўгода працаваў у гэтай гаспадарцы, бо прызвалі ў армію. Развітваўся без асаблівага шкадавання. Дый зусім не таму, што не паспеў стаць сваім чалавекам. Якраз з людзьмі сышоўся хутка. Знайшоў аднадумцаў, ды гэта былі тыя, хто хацеў працаваць і ўмеў працаваць. Але ў цэлым дысцыпліна ў «кіраўцаў» кульгала. Самае ж страшнае заключалася ў тым, што тых, хто проста адбываў чарговы выхад на работу, было шмат. Многія ж і зусім не выходзілі на яе. Ці то нейкія прычыны шукалі, а то і выйсці не маглі, бо п’янствавалі.

Да таго ж у жыцці краіны наступілі далёка не лепшыя часы, запанавала, па сутнасці, безуладдзе, а ў якасці «стрэлачнікаў» у такой, далёка не лепшай сітуацыі, выступалі тыя, хто працаваў у сельскай гаспадарцы. Нагледзеўся ўсяго гэта А. Шышко і, калі ішоў у армію, даў сабе слова пасля звальнення ў запас шукаць якую-небудзь іншую работу. Тым больш, што не сумняваўся: веды, набытыя ім, будуць заўсёды запатрабаваны. Дый без залішняй сціпласці змог сказаць сам сабе, што за кароткі час упэўніўся: усё ж умее знаходзіць падыход да людзей неабыякавых да працы, ініцыятыўных, гатовых заўсёды паказваць прыклад іншым.

Гэтай упэўненасці ў яго пабольшала, калі развітаўся з арміяй. Вярнуўся ў родныя Азёры, адпачываў, а заадно і разважаў, куды б пайсці працаваць. І трэба ж так здарыцца, што знакамітаму сёння СВК «Абухава» Гродзенскага раёна, а тады аднайменнаму калгасу патрэбен быў сакратар камсамольскай арганізацыі. Пасада гэтая там была вызваленая, таму абы-каго на яе не прапаноўвалі. Дарэчы, падобная практыка ў савецкія часы існавала ў шмат якіх гаспадарках не толькі Гродзеншчыны, а і Брэстчыны, бо там традыцыйна пасля заканчэння сярэдняй школы ў родных вёсках заставалася шмат моладзі, а ўсе гэтыя юнакі і дзяўчаты, за рэдкім выключэннем, з’яўляліся камсамольцамі. Іхнюю ж працу неабходна было арганізаваць, як і ўвогуле работу з імі.

Кандыдатура А. Шышко на такую пасаду якраз і падыходзіла: меў вышэйшую адукацыю, адслужыў у арміі, лейтэнант запасу. Так і стаў ён вызваленым сакратаром камсамольскай арганізацыі. З маладым запалам узяўся за гэтую справу, а паколькі энергіі было не займаць, дык усё ішло як мае быць. Камсамольскім дый партыйным работнікам з раёна не трэба было падказваць Аляксандру Мікалаевічу, калі правесці чарговы сход, арганізаваць якую-небудзь сустрэчу — А. Шышко строга прытрымліваўся статута гэтай маладзёжнай арганізацыі, дый ініцыятыву праяўляў. Адпаведна і належным чынам усю дакументацыю вёў.

На А. Шышко не маглі нарадавацца. Яго ў прыклад іншым сакратарам камсамольскай арганізацыі ставілі. А сам Аляксандр Мікалаевіч… Каму ні прыемна, калі тваю работу высока ацэньваюць? Але, разам з тым, хацелася, каб работа была бліжэйшая да таго, чаму вучылі ў інстытуце. Таму пры першай магчымасці развітаўся з пасадай сакратара камсамольскай арганізацыі, а такая магчымасць з’явілася, калі вызвалілася пасада на малочна-таварным комплексе. Як працаваў на ім А. Шышко, відаць па тым ўжо, што гэты комплекс хутка стаў адным з лепшых у рэспубліцы. Каб пазнаёміцца з вопытам ягонай работы сюды прыязджаў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Мікалай Слюнькоў, а потым наведаўся і ягоны пераемнік на гэтай адказнай пасадзе Яфрэм Сакалоў. Пабываў у «Абухаве» нават міністр сельскай гаспадаркі СССР.

## Прыгадзіўся, дзе нарадзіўся

Пяць гадоў працаваў Аляксандр Мікалаевіч у «Абухаве», пакуль не прыгадзіўся там, дзе нарадзіўся: прапанавалі пасаду галоўнага заатэхніка, ад якой, зразумела, не мог адмовіцца. І не толькі таму, што гэта было службовае павышэнне. Хоць «Абухава» знаходзіцца не так і далёка ад «Азёраў», усё ж цягнула ў родныя мясціны. Хацелася не наездам бываць у іх, а жыць пастаянна там, дзе нарадзіўся, працаваць поруч з людзьмі, якія цябе добра ведаюць, як добра ведаеш іх і ты сам.

Дый як жа іначай, калі тое, пра што так дакладна і разам з тым вобразна сказаў вядомы беларускі пісьменнік Янка Сіпакоў — «Усе мы з хат», у дадзеным выпадку набывае асабліва важкі сэнс і змест. У сваёй грамадзе лепей і больш плённа можна раскрыць уласныя патэнцыяльныя магчымасці, прымяніць набытыя веды. Безумоўна, пры ўмове, калі жыць падобным жаданнем, да гэтага імкнуцца, а праз пастаяннае імкненне ажыццяўляць. Так, як і стаў рабіць гэта А. Шышко, вярнуўшыся ў родныя мясціны.

Працаваў галоўным заатэхнікам СВК «Азёры». Потым быў намеснікам старшыні і вось ужо трынаццаты год, з 2001 года, узначальвае яго. Яшчэ па выніках 2011 года «Азёры» ўвайшлі ў лік дваццаці лепшых гаспадарак Гродзеншчыны. А тым больш відавочныя поспехі «Азёраў» на фоне сельгаспрадпрыемстваў Гродзенскага раёна.

Гаспадарка неаднаразова прызнавалася першай па ўраджайнасці на балагектар. У мясцовых працаўнікоў ёсць чаму павучыцца, таму і праходзяць тут абласныя і раённыя семінары. Жадаючых пераняць вопыт знаходзіцца нямала. У той жа час і самі «азёрцы» добра разумеюць, што і самім не лішне ў іншых павучыцца. Асабліва, калі прыняць пад увагу тое, што час не стаіць на месцы і ў сельскагаспадарчую вытворчасць пастаянна прыходзяць новыя тэхналогіі, з’яўляюцца цікавыя ідэі, якія, чым хутчэй прыменіш у сябе, тым большую карысць будзеш мець. Гэта тычыцца і замежнага вопыту.

Па гэтай прычыне «азёрцы», каб набрацца яго, і выязджаюць за мяжу. Наведваюцца, аднак, не толькі ў так званае блізкае замежжа, а і ў далёкае. Нават у самае-самае далёкае трапілі, апынуліся ажно за акіянам. У амерыканскіх фермераў вопыт пераймалі. Дый з задавальненнем даведаліся, што і самі ідуць ужо калі не наперадзе ўсёй Амерыкі, то, ва ўсякім разе, па новых тэхналогіях той жа жывёлагадоўлі ЗША ў хвасце не плятуцца. Прынамсі, гэта тычыцца складання рацыёну для жывёл. Ён даўно ўжо на вока не фарміруецца, а ўсё робіцца ўзважана. Улічваецца нават аналіз крыві той ці іншай асобіны жывёлы. Так што «азёрцам» адкрываць Амерыку не давялося. Калі ў чым лішні раз упэўніліся, дык гэта ў тым, што сялянская праца паўсюдна не з лёгкіх. Злучаныя Штаты Амерыкі ў гэтым сэнсе — не выключэнне.

— Праблем у амерыканцаў не меней, чым у нас, — прызнаецца Аляксандр Мікалаевіч. — Ім даводзіцца працаваць цэлымі сем’ямі. Моладзь таксама імкнецца ў горад, але, калі бацькі ідуць на пенсію, вяртаецца назад, каб прадоўжыць іх справу.

— А што вам асабліва спадабалася?

— Тое, што там назіраецца спецыялізацыя. Калі, скажам, нейкая гаспадарка ўтрымлівае вялікі малочны статак, дык ёй няма асаблівай неабходнасці дбаць аб кармах, бо іх абавязкова вырошчваюць суседзі. Атрымліваецца, што кожны робіць сваю справу. Аднолькава карысную і аднолькава неабходную, але няма патрэбы адцягваць сваю ўвагу ад таго, што табе больш ўдаецца. Такі накірунак вельмі перспектыўны і за ім, безумоўна, будучыня.

Сапраўды, набыткі «азёрцаў» відавочныя. На карысць таго, наколькі гэта гаспадарка дасягнула высокіх вяршынь у галіне сельскагаспадарчай вытворчасці, сведчыць тое, што СВК «Азёры» тройчы займаў першае месца ў Рэспубліканскім спаборніцтве па ўборцы зерневых і зернебабовых культур. Мясцовыя працаўнікі лідзіравалі на «Дажынках», што праходзілі ў 2003, 2004 і 2012 гадах, а ў 2013 годзе СВК «Азёры» быў занесены на Рэспубліканскую Дошку гонару. Дый паказчыкі ў розных галінах дзейнасці самі гавораць за сябе.

Зразумела, каб пацвердзіць плённасць работы калектыву, усе іх прывесці немагчыма. Апроч таго, калі пісаўся гэты матэрыял, да завяршэння года заставалася больш як месяц. Былі вядомы толькі папярэднія фінансавыя вынікі работы за 2013 год, але і па іх відаць, што «Азёры» па-ранейшаму на вышыні, бо працуюць так, што многім сельскагаспадарчым прадпрыемствам застаецца ў іх толькі павучыцца. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова такіх лічбаў…

Рэнтабельнасць вытворчасці малака ў СВК «Азёры» склала за мінулы год 32,8 працэнта. Калі ж браць адкорм буйной рагатай жывёлы, то гэты паказчык

раўняецца 7 працэнтам. На вырошчванні свіней ён большы —10,8 працэнта. Уся ж жывёлагадоўля рэнтабельная на 19,8 працэнта. У раслінаводстве ж рэнтабельнасць 23,6 працэнта. У цэлым па гаспадарцы рэнтабельнасць складае 31,7 працэнта. Чысты прыбытак па папярэдніх падліках раўняўся прыкладна 32 млрд. 610 млн. рублёў. Падзяліўшы гэтую суму на дванаццаць, лёгка даведацца, які чысты прыбытак у сярэднім у месяц.

* * *

Аляксандр Шышко — з тых людзей, размаўляць з якімі адно задавальненне. Аднак не таму, што ён у час гаворкі абавязкова адкрывае штосьці новае. Наадварот, часам слухаеш яго і быццам прапускаеш праз сябе тое, што ўжо ў нечым знаёмае табе. Толькі, калі ўдумаешся, дык паміж тым, што гучыць з вуснаў Аляксандра Мікалаевіча, і тым, пра што ведаеш, для прыкладу, са шматлікіх публікацый, пачутага па радыё ці тэлебачанні, існуе істотная розніца.

Трэба глядзець праўдзе ў вочы: сёй-той, хто любіць — скажам так — вяшчаць, звычайна ідзе ад тэорыі. Ён ведае, як і што трэба рабіць. Аднак на паверку аказваецца, што ягоныя словы толькі зрэдку падмацоўваюцца справай. Атрымліваецца тое, пра што ў падобных выпадках звычайна кажуць: ёсць амбіцыя, але няма амуніцыі. А. Шышко ж не такі і публічны ўжо чалавек.

Ва ўсякім разе ён не адносіцца да тых, для каго гаварыльня нярэдка з’яўляецца аддушынай, магчымасцю запэўніць свайго субяседніка ў тым, як шмат на што ты здатны. Аляксандр Мікалаевіч менш гаворыць, а больш робіць. Сялянскі сын, ён і ў працы па прыродзе сваёй застаецца селянінам, але селянінам новай фармацыі, бо гэта селянін ужо XXI стагоддзя. У душы ў многім селянінам застаўся. Селянінам застаўся і па ўважлівым дый паважлівым стаўленні да зямлі. Аднак у той жа час — гэта сучасны кіраўнік на зямлі, які, вырашаючы, здавалася б, у чымсьці лакальныя задачы, здатны мысліць па-дзяржаўнаму, а дзяржаўнае мышленне — гэта і вынікі дзяржаўныя, тыя набыткі, што працуюць на дабрабыт усёй краіны, усёй Беларусі.

Неўміручы Леанарда да Вінчы неяк сказаў: «Шчасце даецца таму, хто шмат працуе». Таму правільным будзе сказаць, што А. Шышко — чалавек шчаслівы, а хто працуе, як кажуць у народзе, той і мае. Тыя набыткі, якіх дасягнуў СВК «Азёры», тыя гарызонты, да якіх ён наблізіўся — яскравае пацвярджэнне таму, што калектыву гэтага сельскагаспадарчага прадпрыемства проста пашанцала, што ў яго кіраўнік такі ініцыятыўны, дзелавы… Эпітэты можна падбіраць яшчэ і яшчэ раз і ўсе яны будуць да месца, бо вельмі добра характарызуюць аднаго з правафланговых старшынёўскага корпуса не толькі Гродзенскага раёна, а і ўсёй Гродзеншчыны.

І сам А. Шышко, дый усе з ягонай каманды — а каманда Аляксандра Мікалаевіча — гэта не толькі спецыялісты, якія разам з ім складаюць тое адно маналітнае цэлае, якому па сіле вырашэнне самых складаных і адказных задач, а і ўсе працаўнікі СВК «Азёры» — з поўным на тое правам могуць паўтарыць, сказанае Львом Талстым: «Праца, праца! Як я адчуваю сябе шчаслівым, калі працую».

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# ЛЕПШ СТАЦЬ ПЯСЧЫНКАЙ РОДНАЕ ЗЯМЛІ...

***Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы. Укладальнік Т. Грахоўская. — Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.***

Серыя кніг «Выдавецкага дома «Звязда» (а распачата яна была яшчэ ў РВУ «Літаратура і Мастацтва»), прысвечаная класікам і проста вядомым пісьменнікам, за некалькі гадоў пераўтварылася ў невялікую бібліятэку. «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», «Іван Шамякін: вядомы і невядомы», «Васіль Быкаў: вядомы і невядомы», «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», «Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы»... Розныя па сваёй «унутранай» канструкцыі, усе яны скіраваны на вырашэнне адной галоўнай задачы: прыўнесці нешта новае ў творчую, жыццёвую біяграфію пісьменнікаў, пашырыць прастору чытацкай зацікаўленасці да іх лёсаў і лёсаў іх твораў.

Укладальнікам кнігі «Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы» стала дачка беларускага паэта — Таццяна Сяргееўна Грахоўская. Вось як сфармуліравана канцэпцыя зборніка ў выдавецкай анатацыі: «У кнізе — творы Сяргея Грахоўскага, якія не ўключаліся ў ніводную з яговых прыжыццёвых кніг. Да глыбіні душы ўзрушваюць артыкулы-ўспаміны пра трагічныя лёсы творцаў у 1930-я, пра асабіста перажытае паэтам у ГУЛАГаўскім пекле. Шмат новага пра гісторыю Бацькаўшчыны даведаецца чытач з элегіі «Мястэчка, мястэчка...» — пра Глуск, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва паэта. Асаблівай увагі заслугоўваюць вершы, напісаныя С. Грахоўскім за апошнія шэсць гадоў свайго жыцця...» Дарэчы, вось верш, якім завяршаецца кніга:

І праз гады, магчыма, нашы кнігі
Разгорне праўнук праўнука майго,
І слова ў слова, як выток Нямігі,
Ён разгадае ўсе да аднаго.

Адсеюцца пазаддзе і палова,
Хоць не адно стагоддзе прабяжыць.
Не будзе нас, ні ўладароў, а слова
Жыло, жыве і будзе жыць.

...Сяргей Грахоўскі пражыў у сваёй літаратурнай прафесіі няпростае жыццё. Першыя публікацыі трынаццаці-чатырнаццацігадовага вершатворцы адносяцца да 1926—1928 гадоў — у «Беларускім піянеры», бабруйскай акруговай газеце «Камуніст». І друкаваўся, лічы, да апошніх дзён свайго жыцця (памёр Сяргей Іванавіч 11 снежня 2002 года). Быў і вялікі перапынак: 19 кастрычніка 1936 года паэт быў беспадстаўна арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў лагера. Пасля вызвалення з лагера ў 1946—1949 выкладаў рускую мову і літаратуру ва Урэцкай сярэдняй школе на Міншчыне. У 1947 знялі судзімасць. У 1949 арыштавалі паўторна. І па-ранейшаму абвінавачванню выслалі на вечнае пасяленне ў сяло Бяза Новасібірскай вобласці. Рэабілітавалі поўнасцю ў кастрычніку 1955 года. У 1956 г. Сяргей Грахоўскі вярнуўся ў Беларусь. Пачалося новае ўваходжанне ў літаратуру. Першая кніга пабачыла свет у 1958 годзе — «Тры вымярэнні». Пашчасціла, што пражыў доўга. Але ж колькі выцерпеў дзеля будучых шчаслівых, працаздольных гадоў у літаратуры!.. Ды і шмат чаго няпростага, складанага давялося перанесці і пасля вяртання ў родную Беларусь.

Нават пра кнігу артыкулаў, эсэ, успамінаў «Так і было» (Мінск, 1986 год) ён напісаў у дзённіку: «Рукапіс сваёй пакалечанай будучай кнігі здаў. Назваў яе “Так і было”. На вялікі жаль, многае было зусім не так. Каб расказаў, як яно было, кніга была б вартая ўвагі...» Канечне, варта ўдакладніць: запіс у дзённіку зроблены 18.01.1985... Праз год-другі, магчыма, удалося б напісаць больш праўдзіва.

Пэўна, якраз жаданне ўзнавіць праўдзівасць і кіравала найперш Таццянай Грахоўскай пры ўкладанні кнігі. Невыпадкова аснову яе вызначае раздзел «Сяргей Грахоўскі пра...» Разам аб’яднаны артыкулы пра Хвядоса Шынклера, Міколу Лобана, Івана Ласкова, акцёраў-купалаўцаў, Яна Скрыгана, Юрку Лявоннага, Васіля Шашалевіча, Гэлену Квятак, нарыс пра адзін з эпізодаў ГУЛАГаўскага жыцця — «У кандзеі». Нельга без хвалявання чытаць нарыс «Два лёсы — дзве трагедыі», прысвечаны Васілю Шашалевічу. «Пра Васіля Шашалевіча я ў свой час апублікаваў некалькі кароткіх нататак, напісаных да пэўных юбілейных дат, — пачынае Сяргей Грахоўскі. — Але ў іх было больш нясказанага, чым сказанага. Звычайна яны заканчваліся датаю смерці драматурга, нібыта ён у свае сорак чатыры гады загінуў на Айчыннай вайне ці памёр ад невылечнай хваробы. Намёкі, недагаворкі, белыя плямы ў біяграфіі выклікалі мноства пытанняў у чытачоў, а ў больш здагадлівых — безліч прыдумак і версій. Але ніякая фантазія не зможа прыдумаць такія трагічныя развязкі, на якія здатны чалавечы лёс, непрадбачаныя і загадкавыя павароты жыцця. Зрэшты, яны адбываюцца па злой волі іншых людзей, па збегу акалічнасцей, памылак ці зламысных учынкаў нядобразычлівуцаў...» Сяргей Грахоўскі стварыў партрэт таленавітага драматурга, паказаў яго месца ў беларускай літаратуры 1930-х гадоў. Але галоўнае ў нарысе — пра трагічны лёс Васіля Шашалевіча, пра яго арышт, першы год турмы, што і было непасрэдна вядома С. Грахоўскаму, бо з аўтарам п’есы пра нямецкі фашызм «Сімфонія гневу» яны праходзілі па адной справе, разам былі асуджаны. І яшчэ — пра гібель В. Шашалевіча, гібель яго жонкі, пра што аўтар нарыса-ўспаміна даведаўся ўжо ад іншых людзей. «...Лес валяць далёка ад складу, а тут пакінуты там-сям бярозы і хвоі — семяннікі. Пройдзе час, і высечаны квартал зарасце маладняком ад насення самых магутных дрэў. І раптам, невядома хто, непадалёк ад учотчыка, падпілаваў бярозу і спусціў проста на Шашалевіча. Яна прыціснула яго да палаючага кастра. Возчыкі пачулі гул зваленага дрэва і раздзіраючы душу крык. Падбеглі да вогнішча. У ім гарэў прыціснуты бярозаю і патрушчаны ўчотчык. Падняць бярозу не падужалі. Пабеглі па пілу. Распілавалі бярозу і выцягнулі з-пад яе абгарэлага, пераламанага, з выцекшымі вачыма ўчотчыка. Толькі пад вечар яго яшчэ жывога прывезлі ў зону. Урач, медсястра і санітаркі плакалі, не саромеючыся слёз. Калі, дзе і з кім яго пахавалі, ніхто не ведае і не дазнаецца ніколі. Там цяпер шуміць паўвекавы лес...» Страшна чытаць, страшна ведаць такое, страшна ўсведамляць многія і многія страты, сведкам якіх быў С. Грахоўскі. Загінула і жонка В. Шашалевіча. Пасля рэабілітацыі мужа яна атрымала кампенсацыю. Вярнулася з горада ў калгас, дзе працавала, кватаравала ў рэдка цвярозага калгасніка. Па вёсцы пакацілася пагалоска, што Шашалевічыха за гаспадара адхапіла аж шэсць тысяч рублёў. Зайздрасць апанавала гаспадара. І ён засек кватаранку. Замест грошай знайшоў новенькую ашчадную кніжку. Працверазеўшы, спалохаўся і павесіўся ў пуні...

...У свой час у часопісе «Полымя» друкавалася напісаная ў 1989—1991 гг. элегія «Мястэчка, мястэчка...». Мне здаецца, што твор гэты па праве можна назваць дакументальнай аповесцю. Сяргей Грахоўскі расказвае пра дзяцінства і юнацтва ў мястэчку Глуск. «Сярод мноства страт, — піша пісьменнік, — знікла дарагое мне слова м я с т э ч к а, і самое мястэчка страціла свой непаўторны, вякамі складзены побыт, шчырыя адносіны сумлення і даверу, яскравы каларыт мудрых і прыгожых традыцый.

Што ж такое мястэчка?

Дакладнае і ёмістае слова замянілі калекамі абрэвіятур "гарпасёлак", "ПГТ" (пасёлак гарадскога тыпу), а найчасцей — "райцэнтр", з поўным наборам "раеў" — райком, райвыканком, райваенком, райаддзелы, райканторы, райупраўленні, райзагі, райбальніцы, райміліцыі (які там рай?).

Гэты "рай", што ўжо не вёска і яшчэ не горад, спрадвеку звалі мястэчкам. І адразу ўзнікала ўяўленне пра ціхае, невялічкае, часта далёкае ад чыгункі паселішча з дзвюма-трыма брукаванымі вуліцамі, з вялікаю рыначнаю плошчаю пасярэдзіне, з доўгім шэрагам крам і крамак, з шумнымі асеннімі кірмашамі, з адною або з дзвюма цэрквамі, некалькімі сінагогамі. У нас іх звалі "школамі".

Усё неабходнае чалавеку рабілася на месцы здатнымі майстрамі — стальмахамі, кавалямі, гарбарамі, шаўцамі, краўцамі і кажушнікамі, ткачамі і бляхарамі, мулярамі і малярамі, былі маслабойкі, млыны і ваўначоскі, а якія мастакі-ганчары жылі ў мястэчках!..»

Элегія — гэта, калі перакладаць слова з грэчаскай, сумная песня пад акампанемент флейты. У літаратуразнаўстве (зазіраю ў грунтоўны слоўнік Вячаслава Рагойшы): верш з характарам задуменнага суму. У ім: інтымнасць, матывы расчаравання, нешчаслівага кахання, адзіноты, тленнасці зямнога быцця, класічны жанр сентыменталізму і рамантызму. Вытокі беларускай літаратурнай элегіі — у народнай песні (працоўная, сямейна-абрадавай). Элегія мае характар лірычнага разважання. Усё гэта сапраўды вызначае празаічны твор Сяргея Грахоўскага. Ён праспяваў сваю шчымлівую, лірычную элегію роднаму мястэчку. Зрабіў гэта эмацыянальна, шчыра, надзвычай таленавіта сваёй элегічнай аповесцю. Тут і паэзія, мастацкая вобразнасць, і дакументальная дакладнасць, сведчанне пра эпоху. «Мястэчка, мястэчка...» — гэта яшчэ і чытанне для краязнаўчага досведу пра Глуск і ваколіцы. Заўтра следам за пісьменнікам павінны пайсці новыя збіральнікі памяці, павінны ўгледзецца, а што ж засталося з ранейшага, што можна яшчэ ўзнавіць у свядомасці наступнікаў.

Кнігу «Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы» істотна дапаўняюць успаміны пра паэта — Яна Скрыгана, Раісы Баравіковай, Таццяны Грахоўскай. Чытаючы «ўспаміны пра бацьку» «Неадкладай сустрэчу на пасля...», пачынаеш разумець, чаму Таццяна Сяргееўна ўклала, сябрала гэты зборнік. Чытаем: «Каляндар лічыць гады жыцця без яго. Для мяне ён заўсёды галоўны чалавек у жыцці. Я — бацькава дачка.

Прыгожы, асаблівы, ён вылучаўся з натоўпу не толькі ростам, хоць і лічыўся даволі высокім.

Я даўно зразумела, што бачу свет яго вачыма, хоць і не заўсёды і не ва ўсім мы супадалі...»

Уражлівая «кніга памяці» Сяргея Грахоўскага, пра Сяргея Грахоўскага нагадала: гісторыі літаратуры патрэбны такія кнігі. А ў выпадку з вызначэннем месца Сяргея Грахоўскага ў беларускім прыгожым пісьменстве працы яшчэ шмат. І для Таццяны Сяргееўны Грахоўскай, і для даследчыкаў, крытыкаў. Пройдзе час — і павінна з'явіцца манаграфія пра жыццё і творчасць Сяргея Грахоўскага. У 1973, 1984 і 1994 гадах выходзілі двухтомнікі выбраных твораў паэта. Ясна, што ўжо ў 1980-я гады мог бы быць выдадзены і трохтомны збор твораў Сяргея Грахоўскага як мінімум. А яшчэ ж і пасля 1994 года выйшла некалькі кніг пісьменніка. Шмат што па-ранейшаму раскідана толькі па перыёдыцы. Дык мо з часам можна спадзявацца на ёмісты збор твораў Сяргея Грахоўскага? І, канечне ж, будзем спадзявацца, што перш-наперш паруپіцца пра гэта якое з дзяржаўных выдавецтваў.